# ПОЛЫМЯ

КНІГА ~~ПЕРШАЯ~~ другая

№ 2



ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ
ПОЛІТЫКІ
ЭКОНОМІКІ
ГІСТОРЫІ
КРЫТЫКІ

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ
1930
ВЫДАВЕЦТВА

# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

ГОД ВЫДАНЬНЯ ДЗЕВЯТЫ



ЛЮТЫ
1930

БЕЛАРУСКАЕ ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1930

# НА НОВЫМ ЭТАПЕ*)

## Цішка Гартны

*(Працяг)*

### VI

Чатыры сьценкі маленькага пакою губілі свае абрысы ў цёмным змроку ночы. Ды ці былі то сапраўды сьценкі, ці то самы змрок адгароджваў адно ад другога чуць прыметныя стол, крэслы, ложак—цяжка было разабраццa.

Ціша, якая панавала ў будынку і па-за яго сьценамі, яшчэ болей паглыбляла на ўзьдзіў глыбокую цемень. Шасьцішыбнае вакно ледзьве прыметна адзначалася блядою шэраньню. У яго цяжка было запрымеціць досі празрыстае мірганьне зорак. Здавалася, што густы зьлепак ночы давіў на ўсё жывое. Ды яго не заўважна было нідзе ўблізу Рыгора. Ці то мо' ён мала прыслухоўваўся, будучы адданым ахапіўшым яго думкам.

Болей гадзіны нівошта не адцягнула да сябе Рыгоравай увагі. Ён ляжаў адзетым на непасланай пасьцелі, як у магіле. Чуў, мэрам-бы яго думкі ажыцьцяўляліся і шоргалі ў галаве поўзаньнем мухі. Тэю-ж зданьню падыхала і ад створаных яго выабражэньнем многалікіх вобразаў.

Раптоўны зычны трэск за сьценкаю падняў Рыгора на ногі. Ён настаражыўся.

„Няўжо хто стукае з надворку?"—усумніўся ён і тут-жа заключыў, што таго не павінна быць: „было-б так, ужо-б даўно брахаў заперты ў хляве сабака".

Рыгор ізноў прылёг. Але ўжо настрой зламаўся. Скрытная ўтома напомніла пра спаньне. З выразных думак асталіся цьмяныя, блытаныя ўрыўкі. Калі Рыгор патужыўся зьвязаць іх у адно цэлае і праверыць—не хапіла цярпеньня.

Тады ён увішна прыладзіў пасьцель, разьдзеўся і лёг. І толькі задрамаў, як узьнятыя на вуліцы крыкі яго абудзілі. На гэты раз—ня было сумненьня—штосьці здарылася. Сабака залiваўся нахабным брэхам.

Мігам адзеўшыся, Рыгор выбег з хаты. На ганку ўжо стаяў стары Крамнік.

---

*) Гл. „Полымя" № 1 за 1930 г.

— Вам ня варта выходзіць, пажар дзесьці за школішчам,—паведаміў ён Рыгора:—Во-а!—паказаў Крамнік на суседнюю страху.

Чырвоны промін разразаў чорны цалун ночы. Яркія іскры веерам нясьліся ўгару, гінучы ў камякох ружовага дыму.

На вуліцы расла гвалтоўная сумятлівасьць. Трывожна стукалі ў кожнай хаце дзьвярыма, перагукваліся людзі і беглі ў бок проміну, пакідаючы па сабе гулкі тупат.

У канцы вуліцы і за гародамі выгуквалі аднастайнае цягучае „пажа-арр! ппа-а жарр!“.

Рыгор пакінуў старога Крамніка аднаго і пабег за іншымі.

Ён не абмінуў і двух хат, калі зазванілі на гвалт. Частыя ўдары звону важка падалі ў ціхае паветра, віснучы над мястэчкам пераліўным медным гулам. Водгукі ўдараў нясьліся далёка ва ўсе канцы, не знаходзячы сабе граніцы.

Апынуўшыся на Майдане, Рыгор стрэў пажарны абоз. З грукатам і траскатнёю прамчалася між яго некалькі падвод з насосамі і бочкамі, з прыстаўленымі на іх дымнымі факеламі.

Удагон падводам гарністы выцінаў надрыўнымі тонамі трывожную мэлёдыю.

І нязмоўкны гуд звону, і трапятаньне цудоўных зданных ценяў на сьвятле факелаў, і плакучы гук пажарнага сыгналу, і разьюшаны, сумятлівы бег людзей зьліваліся ў якуюсьці таемную жудасную какафонію, у ажыцьцёўленае ведзьміна вясельля.

Роўнае, стромкае полымя пажару, сьвечкаю ўзьнятае ўгору, зусім, здавалася, не вымагала ўзьнятае трывогі.

Калі Рыгор апынуўся на пажары—гарэла старая, зусім паваленая будыніна якогасьці сьвіронка. Спакойная пагода аднімала небясьпеку пераносу агню.

Натоўп мяшчан, адсаджаны паліцыяй на сажняў дзесяць ад пажару, даваў разгарненьня дружнай працы пажарнікаў. Ад іх напору пацїху асядала прагарэўшая страха і няўстойна калыхаліся сьцены.

Полымя вочавідкі меншала, згушчаючы вакола сябе цалунны змрок.

Але разварушаныя галавешкі рассыпалі пукі тоўстых іскраў, якія не дазвалялі пакуль аставіць без дагляду бліжэйшыя будынкі. На кожным з іх сядзелі людзі з вёдрамі вады і залівалі падаўшыя іскры.

Пажар не цягнуў за сабою вялікіх страт і, мэрам-бы, быў знарок зроблены для праверу людзкое дбайнасьці.

Разбуджаныя на яго людзі вярнуліся-б па хатах бяз жаднага спачуваньня пагарэўшым, з адным лёгкім нездавальненьнем на дарэмны неспакой, каб раптам пажар не набыў іншы зварот.

Ужо Рыгор абыходзіў парадзеўшы натаўп мяшчан, мяркуючы ісьці на кватэру, як яго хтосьці тузнуў за падол жукеткі. Ён азірнуўся і ўгледзеў Сімена Галаса.

— Ты куды?

— На кватэру.

— Пачакай хвілінку, тут хлопцы гатовяць маленькі сурпрыз.

— У чым справа?—занепакоіўся Рыгор.

Сімен не пасьпеў адказаць: хлынуўшы натаўп зьбіў іх з месца і адапхнуў на некалькі крокаў назад.

Калі яны паглядзелі на пажар, то ўбачылі пук узьнятых іскраў ад бразнуўшай ў бок паліцыі здаровай галавешкі.

Напуджаны станавы кінуўся ўцякаць.

Яго адрывісты сярдзіты голас адбіваў строгія распараджэньні.

У адказ на гэта натаўпам перабеглі ажыўленая гутарка і ўкрадчывы сьмех.

— Хто гэта надумаў?—запытаў Рыгор у Сімена.

Той задаволена разрагатаўся і прашаптаў Рыгору на вуха:

— Памыйка!

— Ну, да чаго гэта было?

— Добра! Маўчы... Цяпер можна ісьці па хатах.

Рыгор разьвітаўся і павярнуў да завулка; ён не зрабіў і пяці крокаў, як нейкі зычны бразг адцягнуў да сябе агульную ўвагу. Сьледам адзін за другім пачулася некалькі стрэлаў.

Натаўп мігам расьсеяўся з поля сьвятла і дагараўшае пажарышча асталося адно...

— Хавайцеся ў цёмнае!—папярэдзіў яго прамігнуўшы побач мужчына:—стражнікі страляюць у людзей!..

— З якое прычыны?—кінуў Рыгор запытаньне ўсьлед уцякаўшаму.

Той нічога не адказваў і зьнік за высокім кастром паколатых дроў.

У завулку, што вёў на школішча, Рыгор нагнаў пару хлапчукоў. Адзін з захапленьнем расказваў другому, як з даху суседняе да пажару хаты хтось кінуў у паліцыю бляшанае вядро з вадою. Напалоханыя стражнікі ў адказ на гэта адкрылі страляніну. Хлапчукі пацяшаліся над цікавым для іх здарэньнем з паліцыяй, экспромтам складаючы анэкдот, на тэму, „як стражнікі расстралялі пажар“.

Данёсшыся ззаду іх чыйсьці прарэзьлівы крык перапыніў хлапчукову рэзвую гутарку.

— Што там гэткае?—абярнуўся адзін з іх да Рыгора.

— Ня недаю, браце.

Хлапчукі сарваліся з месца і панясьліся стралою ўбок пажару.

Рыгор паскоранай хадою пашоў усьцяж ціхае вуліцы.

Вярнуўшыся на кватэру, ён застаў яе не запёртаю. Але яго ўкрадчывы ўваход не прайшоў не заўважаным з боку старога Крамніка.

— Гэта вы, Рыгор?—праверыў ён Рыгора з бакоўкі.

— Так, я.

— Што там за страляніна была, скажэце?—пацікавіўся стары.

Рыгор расказаў карчмару пра гісторыю з галавешкаю ды вядром, і цішком прайшоў да сябе.

У вакне его пакою яшчэ сьвяціўся патухаючы промін пажару, але поўнач брала сваё. На вуліцы, як і ў карчме, аднавіўся перадпажарны спакой.

Рыгор цішком разьдзеўся і ўлёгся ў ложак. Нядаўная санлівасьць яго пакінула, і ён доўга нэрвова вярцеўся з боку на бок, ніяк ня могучы заснуць. Толькі на золку яго адолела змора.

І тых дзьве гадзіны, што асталіся да гудку, ён праспаў, як забіты.

Ён не прачнуўся, хоць-бы стралялі над ім з гармат.

Усё-ж прасыпаць працоўны дзень было залішняй роскашшу, і Ліба ўзяла на сябе сьмеласьць яго абудзіць.

Асьцярожлівы яе стук мусіў перайсьці ў гучныя ўдары, пакуль Рыгор адазваўся.

— Пара ўставаць, Рыгор Міхасевіч! Чвэртка восьмае.

— Так позна?

— Пазнавата, як бачыце.

Рыгор сьпешна адзеўся і вышаў з пакою.

Настрэчу яму Ліба несла сьнеданьне.

— Назад, назад, таварыш,—кранула яна Рыгора тацаю.

Ложка забарашчэла па шклянцы і вымусіла Рыгора пасобіць Лібе прытрымаць тацу.

— Яшчэ бяды набяруся.

— Толькі таго! Я ня гэтага баюся...

— А чаго?—зьдзіўлена запытаў Рыгор.

— Хаця-б учарашняя гісторыя не пацягнула за сабой дрэнных вынікаў.

— Вы чулі?

— Усё мястэчка, як у бубен б'е, гаворыць пра гэта... Трэба-ж было гэта дзіцячае мудрагэльства...

Яна прычыніла дзьверы і шэптам даказала:

— Я не чакала гэтага ні ад Памыйкі, ні ад Галаса. Абое сур'ёзныя хлопцы, а дзіцячае спаганяюць... Вам трэба выгаварыць ім гэта, Рыгор Міхасевіч...

— Ды ўжа позна...

У адчыненае вакно ветрык ўвагнаў густы струмень цёплага паветра. Ліба адсаплася і паглядзела ў двор.

Яна не пасьпела адысьці ад вакна, як на ім мігам апынуўся прыгожы ў рудыя яблыкі аблавухі сабака. Працягваючы на пакой сваю вострую морду з адвіслаю верхняй губой, ён умільнымі вачыма аглядаў Рыгорава жыльлё.

— Няхай ён прабяжыцца з вамі да Шульца.

— Калі ласка.

## VII

Гудок майстэрні спаткаў Рыгора пры выйсьці на вуліцы. „Няўжо я так спазьніўся?“ хапіўся ён і, каб праверыць сябе, паглядзеў на гадзіньнік: было без васьмі хвілін восем. Рыгор у падбежкі накіраваў да майстэрні.

Таварышы толькі-толькі падпяразвалі фартукі, калі ён пераступіў яе парог.

Шульца ў майстэрні ня было.

— Пачынаеш пазьніцца?—жартаўліва праказаў Памыйка.

— Як бачыш... А ты ўжо даўно тут?

— Пасьпеў фартух падперазаць.

Таварышы весела зарагаталі.

— На пажары застаяўся?

— Абавязкі пажарнага...

— Цікавыя абавязкі...

Рыгор намекліва маргнуў вачыма і паківаў галавою...

Памыйка зразумеў у чым справа, і хацеў пасупярэчыць Рыгору. Шульц перабіў яго намеры.

Хлапцы ўзяліся за працу. Застукалі малаткі, зашоргалі пілы. Шульц разьдмуў мяхі і ўправіў у агонь кавалак жалеза.

У невялікай майстэрні адчувалася поўная сур'ёзнасьць вялікага заводу. Прынамсі, Рыгору, чамусьці, асабліва прыемнымі былі рэзкія гукі малатка ў руках Памыйкі і аднастайныя ўспыхі мяхоў. Бяссонная ноч не пакінула сьледу на яго рухавасьці. Ён не адчуваў жаднае ўтомы, ніякага суму. Працаваў старанна, з упартай заўзятасьцю. Ім заваладаў некі асаблівы імпэтны настрой. Дзякуючы гэтаму настрою, кожная рэч, што прайходзіла праз яго рукі, здавалася яму блізкаю, неад'емлемаю часьцінай яго істоты.

Памыйка падмячаў стараннасьць і дзівіўся, паглядаючы на таварыша. Але маўчаў.

Чамусьці гэтай раніцай, насупярэч звычайнаму, усе маўчалі. Нават, калі з майстэрні выходзіў Шульц, ніводзін з іх не выкарыстоўваў выпадку для гутаркі. І пасьля сьнеданьня, і пасьля абеду, наогул увесь дзень амаль ніхто ня выраніў слова.

Тым ня меней ён прашоў для Рыгора хутчэй за другія.

Пакінуўшы майстэрню, Рыгор адчуў вострае жаданьне прайсьціся ў поле і запрапанаваў гэта Памыйку.

— Чаму не,—згадзіўся той.—Зойдам да Сімена, запросім Рудольфа і разам... Але-ж павячэраць трэба...

— А я-б і без вячэры, разумееш...

— Няўжо так смашна ў абедзе накармілі. Ці ты аброкся сёньня пасьціць?

— Як табе сказаць... Аброку даваць няма каму... Праўдзівей, ня хочацца чамусьці...

Усё-ж ён згадзіўся з Памыйкам і пашоў на кватэру.

Вячэра адняла болей гадзіны. Гэтым часам на дварэ пачало хмурыцца. І цяга да поля ў Рыгора аслабела. Усё-ж калі да яго зайшлі Памыйка з Сіменам, Рыгор ахвотна вышаў з імі.

— Можа Лібу запросім з сабою?—запрапанаваў ён.

Хлопцы згадзіліся.

Рыгор вярнуўся ў карчму і праз хвіліну вышаў з Лібаю. Яна йшла і аглядалася назад, чуючы нездаволеную гутарку мацеры. Гэта яе асьцярога паслужыла тэмаю для кпінаў з Лібы. Ліба здавалася і некалькі раз асякала хлопцаў востраю лаянкаю. І толькі калі намерылася вярнуцца да хаты, хлопцы суняліся.

— Досыць вам!—папікнуў Рыгор.

— Просім выбачэньня!—абярнуўся Памыйка да Лібы.

Каб зглядзіць ніякавасьць, гутарка была пераведзена на іншую тэму. Памыйка перайшоў да пагоды—якраз насувалася хмара і раз-по-разу зьмяіліся ў ёй празрыстыя маланкі.

— Нам не шанцуе,—паскардзіўся ён.

— Гэта за тое, што вы з мяне пацьвільваецеся,—пажартавала Ліба.

Каля мосту яны перайшлі да пытаньняў грамадзкага характару, якія незаўважана для іх пераключыліся ў культурныя. Абгавору падпалі зачыненая бібліотэка і забароненыя спэктаклі.

Учарашні сход паглядаў на кожнага з іх чорнаю сьцяною аддаленнага лесу... Жаўранка, абапал яе зялёныя паплавы, далей панскі маёнтак, жытняе поле, убіралі яго хараством квітнеючай вясны.

— А ведаеце, дажджу ня будзе,—раптам абарвала Ліба ажыўленыя спрэчкі пра наведваўшую Смагін беларускую трупу.

Усе паглядзелі на поўдзень. Сапраўды—хмары ня зьніжаліся, а хутка радзелі і ўздымаліся ўгору. Гнедае прасьцірадла іх раптам адкалолася ад чорнае кажуры і выпусьціла на поверх сонца.

— Можа зайсьці за Рудольфам?—запытаў Рыгор.

— А ці варта?—усумніўся Памыйка.

Рыгор не паслухаў і павярнуў да Шульцавай хаты.

— Вы не адыходзьце далёка, я зараз,—папярэдзіў ён.

І не пасьпеў падыйсьці да дваровай брамы, як Рудольф вышаў з хаты.

— Я ўгледзеў вас праз вакно. У поле?

— Надумалі. Вясна цягне...

— Я са здавальненьнем. У Пецярбурзе гэтага не атрымаеш...

Рыгор уважліва паглядзеў на Рудольфа. Сын гаспадара лашчыў мяккасьцю сваіх вачоў і ласкавасьцю свайго голасу. Калі бацька яшчэ ва многіх рысах свайго я хаваў дасканалую нямецкую сухасьць, зьмешаную з сур'ёзнаю дзелавітасьцю ды пэдантызмам, дык Рудольф далёка адышоў ад гэтага. На ім ужо выразна адбіліся краёвыя ўмовы з выразнай рахманасьцю ды спакоем беларускае натуры. У гэтай рахманасьці танулі задзёр і фанабэрыя студэнта, гонар і самаўцеха прад-

прыемцавага сына. Рыгор адмеціў гэта ўжо пры першым спатканьні з Рудольфам. Зараз ён яшчэ болей праканаўся ў сваіх заключэньнях.

Рудольфава выступленьне на сходзе і яго гутарка з Памыйкай па дарозе з лесу абудзілі ў Рыгору поўнае яму давер'е.

— Вы пра ўчарашняе чулі?—запытаў ён Рудольфа.

— Гэта пра гісторыю з станавым?—засьмяяўся Рудольф.

— Але.

— Так, хтосьці выдумаў спрытна.

— Думаеце хто?

— Ня ведаю.

— Вось яны!

— Рыгор паказаў пальцам у бок Памыйкі і Сімена, якія пры мосьце іх чакалі.

— Ласьне?

Рудольф покатам зарагатаў.

— Малайцы.

— А я ўсё-ж іх не пахвалю.

— Нічога дрэннага. Хлопцаў можна павіншаваць.

Падышлі да мосту.

Ад рэчкі нясло вільгацьцю. Асеўшы пыл ня труіў паветра. У яго нярухомасьці мігала тысячы мошак. Густы водыр жытняга красаваньня калыхаўся над руньню зялёнае травы.

Рудольф прывітаўся з Памыйкай, як са знаёмым. З Лібаю ды з Сіменам яго Рыгор пазнаёміў.

Пяршыня знаёмства не адбілася на цяплыні таварыскага збліжэньня, не паперашкодзіла яно і іх ажыўленай гутарцы.

Гуляючы ў жытніх палетках, Рудольф пераказаў кампаньні шмат эпізодаў з рэволюцыйнага жыцьця Пецярбургу. Яго ўважна слухалі, распытвалі, цікавіліся дробязямі больш важнейшых мясцоў з апавяданьня.

Незаўважна для сябе яны прагулялі каля дзьвёх гадзін, і калі вярнуліся к мосту, было ўжо цёмна. Местачковае жыцьцё глухла ў сьценах хлявоў, за сёнешнімі ды хатнімі дзьвярмі. Толькі з рынку даходзіў нечы крык. Гэтаму крыку ўторыў жабін хор у паплавох і перакрыкі перапёлкі ў жыце.

У Шульцавай хаце сьвяціўся агонь, а ў майстэрні дымела з коміна.

— Няўжо мой бацька ўсё яшчэ працуе?—падзівіўся Рудольф.

— А ён у вас руплівы,—адказаў Сімен.

Рудольф ня спыніўся каля дому, а пашоў з усіма далей.

— Цікава, як пойдуць здарэньні ў міжнародных адносінах,—мяняючы папярэднія тэмы, праказаў Рудольф.

Гэта кампаньню насторажыла.

Рыгор з цікавасьцю запытаў:

— Чаму? Вы, сапраўды, думаеце, што можа кончыцца вайною?

— Усё ідзе да таго.

Рудольф аглянуўся навакола і цішэйшым голасам дадаў:

— Мне пішуць з Нямеччыны, што там апошнімі днямі адкрыта гутараць пра вайну. Нядаўняе спатканьне Вільгэльма з Францам Язэпам цалкам было прысьвечана абгаворам пытаньняў вайны.

— Так, гэта сымптоматычна...—згадзіўся Рыгор.

Тым ня меней паведамленьне Рудольфа зрабіла і на яго, як і на іншых з кампаньні, моцнае ўражаньне.

Знак вайны выглянуў перад усімі ставокім чудзішчам з цемні надышоўшай ночы.

Нявыразнасьць наступнага зьлілося ў дыме ды агні ваенных жахаў. Дзесьці, ні то недалёка за Смагінам, ні то каля Пецярбургу вырасла сьцяна, у якую стукнуліся думкі нядаўна бясклапотнай моладзі.

Што будзе? Якім шляхам накіруецца жыцьцё краю, іхняе жыцьцё? Што чакае рэволюцыйны рух? Няўжо спраўдзіцца тэорыя тых, хто верыць у прыход рэволюцыі сьледам вайны?

І Рыгор, і Памыйка, і Сімен, і Ліба—кожны па сабе кінулі думкамі ў нетры гісторыі, якую яны праходзілі ў гуртку самаадукацыі і некалькі былі знаёмы з асабістага пытаньня. Навейшая эпоха гісторыі сьведчыла пра Парыскую Комуну і рэволюцыю дзевяцьсот пятага году. Гэтыя рэволюцыйныя выбухі яскрава выглядалі з далі мінуўшчыны, апярэджаныя ваеннымі жахамі.

Ліба дапомніла чуты ёю популярны сказ і з захапленьнем сказала:

— Вайна можа прынясьці рэволюцыю. Чым горай, тым лепей.

Падзяляючы яе настрой і веру, Сімен наводна ўсумніўся.

— Гэта твая тэорыя не заўсёды апраўдваецца жыцьцём.

Рыгор падтрымаў Лібу:

— Ліба праўду кажа. У некаторых выпадках...

— Вось-вось, толькі ў некаторых выпадках,—уставіў Памыйка.

— А голад у дзевяностых гадох? Ці ня быў штуршком рэволюцыйнага руху?—акрылілася Ліба.

— Я кажу пра вайну...

Ліба асталася непарушанай у правовасьці сказанага. Праўда, яна, не без жаданьня выслухаць думку Рудольфа, зазірнула яму ў вочы, толькі той нічога не сказаў. Ён якраз разьвітваўся. Тады Лібе зарупіла запытаць, ды Рудольф ізноў перабіў яе:

— Так, вялікія падзеі ідуць нам на стрэчу. Яны становяць перад намі, таварышы, агромністыя заданьні.

Рудольфава шапка апісала ў паветры няроўны круг, які аддзяляў яе ўласьніка ад кампаньні.

## VIII

— Я зайду да вас. Можна? Толькі на хвілінку.

Рыгор зьдзіўлена паглядзеў на Лібу.

— Чаму вы пытаеце?

На ганку сядзелі яе бацькі—было ясна. Старыя акінулі дачку недавернымі ўзоркамі і ў тахту паракіўнуліся галовамі. На іх тварах можна было прачытаць выразнае нездавальненьне паводзінамі дачкі. Заўважаючы гэта, Ліба наперакор бацьком дэманстрацыйна прайшла па калідору побач Рыгора і схавалася за дзьвярыма яго пакою.

Старыя пачулі Рыгораў сказ:

— Калі ласка! Я вельмі буду задаволены вашым наведваньнем.

І сьледам—Лібін:

— Мне здаецца, што я вам надакучаю.

Старыя не маглі спакойліва ўседзець і прайшлі ў хату.

У дзьвярох іх стрэў зычны сьмех, што далятаў з Рыгоравага пакою.

Гутарка, узьнятая сьледам за сьмехам, вялася цішэй і ўжо мінала ўвагу старых.

— Вы, я бачу, моцна зацікавіліся Рудольфавым паведамленьнем?—пытала Ліба.

— Я, прынамсі, адчуваў усё сам.

— Але дагэтуль я ад вас нічога на гэту тэму ня чула...

— Кожны дзень усё больш абвострывае становішча. І да прыезду Рудольфа пра яго можна было сказаць многа спакайней.

Ліба крыху памаўчала. Ухмылка, што бегла па яе твары, стулілася ў чуць прыметных ямках шчок.

— Так, так, Ліба Шлёмаўна, час не чакае...

— Мяне самую азадачыла. Я мелася ехаць у Вільню паступаць на акушэрскія курсы, а зараз...

— Ці-ж гэта зьвязана з сусьветнай палітыкай?..

— Нябось вашы інтарэсы вы не адлучаеце, Рыгор, ад разьвіцьця агульных падзей... Вось і зараз, Рудольф сваім паведамленьнем пра вайну зусім зьбіў вас з панталыку.

— Чорт яго ведае! Ня хочаш, а жыцьцё прыпірае...

— А што, сазнеецеся самі.

Рыгор расьсьмяяўся і гэтым прымусіў сьмяяцца Лібу.

— Ад жыцьця не схаваешся...

— А намер маеце? Пецярбург не дае вам спакою—я ведаю.

— Зрэдку думаю пра яго...

— Усяго зрэдку і, можа, між іншым, скажаце.

Ліба адвярнулася да вакна.

— А мне вас шкода, Рыгор,—ціха прызналася яна.

Рыгор то хадзіў, а то спыніўся. І калі зірнуў на Лібу, тая непарушна-спакойліва глядзела ў адну кропку.

Рыгор ізноў рушыў хадзіць.

— Я разумею,—казала Ліба далей:—перад вамі стаяць складаныя задачы... А мы... што мы. Нам суджана вярцецца ў абмяжованых рамках... І гэта нас застаўляе чапляцца за людзей, якія нам могуць пасо-

біць у нашай працы... Выехаў Сроль... Ня будзе вас... А чаго добрага, вынікне вайна... і што тады?

— А Павал? А Сімен? Ды вы, нарэшце? Мы людзі выпадковыя ў вас...

— Кіньце... Паўла трымалі вы ды Сроль.

— Няпраўда. І адзін, і другі—людзі стойкія і шчыра адданыя справе...

Магчыма... Але нешта нейкае сьвярдлуе маё нутро, калі я думаю пра ваш ад'езд. Паверце, Сроль ехаў—менш рупліва, а зараз...

Каля дзьвярэй хтосьці прайшоў.

Ліба ўздрыгнула і падалася ад вакна. У гэту хвіліну пачула бацькаў вокліч:

— Ліба!

— Скора!—адазвалася яна і праказала да Рыгора:

— Выбачайце...

Некалькі лёгкіх шагоў вынесьлі яе з пакою.

Рыгор напружаным узрокам прабег за ёю. Пасьля адвярнуўся і прысеў каля стала.

Гутарка з Лібаю закалыхала ў ім знаёмае пачуцьцё разлукі.

Колькі разоў гэта пачуцьцё хвалявала Рыгора. Якіх думак не выклікала ў яго галаве! Якіх ня ўзьнімала намераў!

У яго за апошнія дні думка пра неадкладны выезд скондэнсавалася ў цьвёрдае рашэньне. Перад гэтым рашэньнем адыходзілі на задні плян і рызыка нелегальнага ўцёку і небясьпека быць перанятым паліцыяй. Памыйкава думка пасабляла ўдасканаліць організацыю выезда. І, вось, раптам зьявілася Ліба з сваімі ўгаворамі. Яна нечакана і ўмела падкралася да самага балючага месца. І з халоднаю роўнавагаю ў настроі раскалыхала яго заспакоенае пачуцьцё. А, бач, ён ні разу і не падумаў, што гэта можа быць. Прыпамятаваў, што ніколі з належнаю ўвагаю не паглядзеў на яе, як на жанчыну. Стрэў Сролевым таварышам і паступова ставарышкаваўся сам—вось і ўсё... А гэта...

Рыгоравы думкі выпархнулі з галавы і перанясьліся да жоўтага будынку рыскага вастрогу, дзе ён пакінуў Наталю. Праз момант яны прынясьлі Зосін вобраз. Сьледам мацерын ліст радзіў Ганну.

Растаўшыся з Рудольфам, калі той названіў яму пра Пецярбург, Рыгор у комплексе пецярбурскіх вобразаў напаткаў яе. Стройная і мілая, часта задуменая, Ганна глядзела на яго з руні сілцоўскіх наплаваў.

І маці...

Досыць! Я перад ад'ездам, якога ня мінеш!—праказаў Рыгор і крута павярнуў думкі на апрацоўку пляну ад'езду Калі і што ды як пакінуць яму Смагін? Па якой дарозе накіравацца, каб ня даць паліцыі напасьці на сьлед? Як і што паглядзіць паліцыя на яго зьбег. Няўжо такі яна насур'ёз наладзіць за ім пагоню? Ці можа станавы аднясецца да гэтага спакойліва? Трывожны час адцягне яго думкі ў іншы бок? Цікава, як

справіцца Памыйка з пашпартам?"—падумаў Рыгор і праверыў прысьвечаных у яго ад'езд.

„Няўжо адзін Памыйка? Бязумоўна, і Сімен... і... пэўна, Ліба. Навошта ведаць Лібе. Яна ўжо ведае"...

Рыгор пачаў хадзіць па пакоі. „Да і ўсё роўна-ж яму праз Лібу прыдзецца мець справу з яе бацькамі. Ад'езд цягне за сабою разьлікі за кватэру і харчы, разьвітаньне. Трое, і гэтым павінна абмежавацца".

Стук у дзьверы перабіў яго развагі.

— Прашу!—пазваў Рыгор.

— Вячэраць будзеце.

Пытала Ліба.

Рыгор адчыніў дзьверы.

— У вас цёмна, як у лесе. Я прыкмячаю, што вы любіце быць у цямне

— Я зараз, вось, запалю лямпу.

Ён пабег да стала і пачаў мацаць рукамі па засланай паперы.

— Не найду запалак.

— Я прынясу вам.

Ліба ў поцемках паставіла на стале вячэру і вышмыгнула з пакою.

Праз хвіліну яна вярнулася з запаленаю сьвечкаю.

— Вось вам сьвечка,—можа ў лямпе няма газы.

— Давайце. Дзякую.

Рыгор спакойліва пераняў з Лібіных рук сьвечку, паставіў паміж двух талерак і сеў есьці.

— Прыемнага апэтыту!—пажадала Ліба і вышла.

Рыгору, аднак, ня прышлося і дзесяці хвілін прасядзець аднаму.

Ён не пасьпеў павячэраць, як да яго зьявіўся Памыйка.

— Не чакаў, думаю,—пасьмяяўся ён.

— А бадай, што і не.

— Ёсьць справы.

— Неспадзяваныя?

— Як табе сказаць: і неспадзяваныя, і разам—спадзяваныя.

Памыйка прычыніў дзьверы і падблізіўся да Рыгора.

— Канчай вячэру, я пачакаю.

— Кончыў, кажы, у чым рэч.

Памыйка яшчэ раз азірнуўся на дзьверы і, упэўнены, што ў пакоі яны ўдвох, падаў Рыгору чорную маленькую кніжачку.

— Маеш—на цэлых пяць гадоў.

Той паглядзеў і засьмяяўся.

— Ты стараешся як хутчэй мяне выправіць з Смагіна.

— Так складаюцца справы... Бачыш, едзе ня Рыгор Нязвычны, а Сьцяпан Луговіч...

— Гэта твая выдумка?

— Хто-ж небудзь ды мусіў цябе ахрысьціць. Папа, бачыш, было зваць няёмка.

Абое шчыра пасьмяяліся.

— Можаш хоць заўтра ў дарогу,—парадаваў таварыша Памыйка.

Факт ад'езду набываў конкрэтную форму і апярэджваў Рыгоравы меркаваньні. Так бывае заўсёды: хваляваньне збораў раптам зьмяняецца болем расставаньня. Тое, што складала комплекс яго жыцьцёвых адчуваньняў, навеяных умовамі і абставінамі Смагіна, вочавідкі адсувалася кудысьці назад, за дзьверы ды сьцены яго пакою. Гэты апошні прыстаўляў сабою ізолянанае ад мястэчка і ад яго жыцьця месца, нявыразны пункт, на якім часова абаперлася Рыгорава нага. Яго нутро не адчувала на сабе ніякіх рамак, а жыло ў якімсьці лёце над прасторамі.

— Ты дня ня вызначыў?—запытаў Памыйка, не адрываючы ўзрокаў ад Рыгора.

— Ці ня ўсё роўна калі,—спакойліва адказаў Рыгор.

— Я на тое пытаю, што трэба згадзіць фурманку.

— Фурманку?.. Вядома... Але скажы, Павал, у цябе консьпірацыя цьвёрда трымаецца?

Памыйка крыўдліва затрапятаў усёй постацьцю.

— Няўжо ты думаеш, што я нічога не разумею...

— Ня тое, Павал, зусім ня тое я хацеў сказаць... Ты мяне не зразумеў... Я пакладаюся на цябе, як на гору, ну вось, па-твоему, хто болей з нашых ведае пра гэта?

— Галас і толькі.

— А Ліба?

— Я не казаў нікому, ані... Ды Ліба калі і ведае—будзь спакойліў.

Хтосьці падышоў да дзьвярэй.

— Можна забраць пасуду?—пачуўся Лібін голас.

— Па-прашу вас.

— Загутараліся,—хітра праказала яна да Памыйкі.

— Так... Бярэце і мяне з пасудай,—адказаў Памыйка жартам.

І вясёлы яго сьмех зьліўся з Лібіным сьмехам, пацёкшы срэбранай лентай усьцяж калідору карчмы.

## IX

З часу паданай гутаркі з Памыйкай Рыгору не працавалася. Ён адчуваў нейкі цяжар, неўгамонную рупнасьць. Рукі махалі малатком, ці вадзілі напільнік, а вочы глядзелі ў іншы бок. Затрацілася ўсякая цікавасьць і захапленьне процэсам і дынамікай працы, яму здавалася, што ён ужо лішні і непатрэбны, як у майстэрні, гэтак і ў самым Смагіне.

Становішча ўскладнілася яшчэ болей, калі ў адзін дзень ён атрымаў наступную тэлеграму ад Пятруся:

„Прыяжджай хутчэй. Я дастаў табе месца".

Тэлеграма магла адыграць прыкрую ролю з яго ад'ездам. Яна бязьвінна з Пятрусёвага боку наводзіла паліцыю на больш дбайлівую сочку

за Рыгорам. Адно магло суцяшаць, гэта калі-б тэлеграма абмінула паліцыю. Ды пакладацца на выпадковасьць было апасьліва. Аставалася браць узмоцненай консьпірацыяй. Цэлы даўгі вечар пашоў у Рыгора з Паўлам на далейшы абгавор ад'езду. Было вырашана скрыць малейшыя адзнакі збораў. Той ці іншы намёк у паліцыі на тэлеграму павінен адцягнуць Рыгораў ад'езд. Памыйка штодня спраўляўся ў Рыгора наконт адносін да яго з боку паліцыі. Рыгор нічога не заўважаў. Ён два разы адбыў прапіску і ні разу ня прыкмеціў, каб да яго ўзмоцнілася паліцэйская ўвага. Гэта апраўдвала дадумы, што тэлеграма выкаўзнула з вачэй станавога.

Ї як ня горка было Памыйку раставацца з паважаным і любым таварышом, ён мусіў хутчэй выправляць яго з Смагіна.

Час ад'езду яны назначылі ўсяго за некалькі гадзін—гэтаму пасабіла трапнае адшуканьне вазьніцы.

Рыгор, як нібыта той, узяў ад Шульца зробленыя грошы пад выглядам высылкі іх мацеры, і аплаціў імі праз Лібу кватэру і харчы.

Кароткі тэрмін да моманту ад'езду Рыгор скарыстаў на абгавор закранутага Памыйкам пытаньня яго далейшае сувязі з Смагіным.

— Будзь пэвен,—завяраў таварыша Рыгор:—я выпаўню ўсё тое, што ты ад мяне просіш і яшчэ папросіш. Я адчуваю ў сябе вялікую ўдзячнасьць і табе і цэламу шэрагу смагінскіх таварышоў. Мястэчка само па сабе аставіла ва мне найлепшыя ўспаміны...

Памыйка ўважліва выслухаў Рыгорава завярэньне і ўдзячна паціснуў таварышаву руку.

— Я прызнаюся табе, Рыгор,—сказаў Памыйка голасам, прасякнутым непадробнай шчырасьцю:

— Ты многім памог мне пасталець. Дзякуючы табе, у маім нутры адбыўся круты пералом. Ты стрэў мяне напаўанархістым, нядбайнікам да жыцьця, а пакідаеш, павер, адданага соцыял-дэмократа, якому дорага яго жыцьцё, як сродак для змаганьня за соцыялізм. Я ня выпушчу з свайго ваччу тваіх сьлядоў, пакуль ня спаткаемся нанова...

Памыйка ўжо паднімаў Рыгораў куфэрак, каб выносіць яго праз задняе выйсьце на гарод і далей на загуменную сьцежку, як зьявіліся Сімен з Лібаю.

— Куды так раптоўна?—запытаў Сімен.

— Фурманка чакае,—адказаў Памыйка.

— Пачакае... Так...

Сімен хацеў нешта сказаць, але гутарка ня клеілася. Рыгору рупіла йсьці і яго ўвага драбілася на часткі.

— Ты пасачы, каб ніхто не зайшоў у дзьверы,—папрасіў Лібу Памыйка.

Ліба зачыніла дзьверы, што адгароджвалі калідор ад буфэтнай і паведаміла:

— Нічога. Можна спакойна выходзіць.

Сімен разьвітаўся з Рыгорам і пакінуў іх траймі.

Ліба правяла Рыгора з Паўлам у двор:

— Шчасьлівае дарогі!

— Бывайце, Ліба Шлёмаўна. Дзякую за вашу таварыскую да мяне ўвагу,—шчыра пацiскаючы Лібіну руку, выказаў Рыгор,—кланяйцеся бацьком і перапрасеце, што я не пасьпеў з імі разьвітацца.

— Пішэце, Рыгор Міхасевіч,—папрасіла Ліба і пастаяла, пакуль яны не схаваліся за будынкам.

Калі праз паўтары гадзіны Памыйка вяртаўся ў мястэчка, правёўшы Рыгора, Ліба весела напявала мэлёдыю Кармэн, стоячы ў вакне свайго пакою.

* * *

На заўтра раніцою, ужо седзячы ў цягніку, Рыгор вычытаў у газэце паведамленьне пра забойства аўстрыяцкага кронпрынца сэрбскім гімназыстым у Сараеве. Гэта буйная навіна з палітычнага жыцьця ня выклікала дваякіх думак. Яна няўхільна і вочавідкі вяла да аднаго скутку—да вайны. Рэдка ў каго магло знайсьціся сьмеласьці надаваць іншае тлумачэньне гэтаму факту. Як прэлюдыю да вайны зразумеў яго і Рыгор. Ня дзіва таму, што ён зразу занядбаў усё іншае і накіраваў свае думкі і сваю ўвагу да Сараеўскіх падзей. Рыгора цешыла тое, што ён на дарозе да Пецярбургу, дзе далейшае разьвіцьцё здарэньняў не схаваецца ад яго ў сваёй выразнай надзеннасьці.

З кожнаю вярстою, што праяжджаў цягнік, ён усё радзей вяртаўся думкамі да Смагіна. Зьвязаная з яго ад'ездам небясьпека танула ў буйных расткох узрушаючых навін. Газэта адцягвала яго ўвагу і ад нагляданьня ў вакно вагону, што было неад'емнай яго прывычкаю ў час язды па чыгунцы. Мала цікавілі суседзі па вагону; з імі Рыгор не знаходзіў гутаркі. Некалькі гарадзкіх мяшчан, як чуць было з іх гутаркі, ехалі па гандлёвых справах, і газэта іх мала абыходзіла.

Яшчэ далей ад апошніх палітычных навін былі жанчыны. Іх займала ажыўленая дыскусія пра некае вясельле ў іх вёсцы. Не пачуў Рыгор абгавору газэтных навін і ў гутарках другіх пасажыраў вагону.

Гэта быў асобны, зусім абмежаваны сьвецік, які жыў у баку ад падзей, каторыя нясьлі і для яго нячуваную катастрофу. Не па ім, зразумела, можна было судзіць пра тыя ўражаньні і развярух, які зрабіў сваім стрэлам невядомы дасюль сэрбскі гімназысты.

„Там, па-за воканьню вагону, у прамінутых гарадох і ў гарадох, якія наперадзе, сотні вачоў бегаюць па слупкох газэт, выглядаючы выразную веліч сараеўскіх падзей.

Зацішаны ў сваім разьвязаньні тысячы экстраных спраў, другія тысячы набылі іншы наварот. Па ўрадавых установах і па прыватных інстытуцыях пранёсься вецер неспадзяванай клапатлівасьці. З стальною

напружнасьцю сконцэнтравалася людзкое пачуцьцё на гадальным вырашэньні бліжэйшага наступнага".

Праз дзень, праз два газэты распаўсюдзяць гэтыя навіны па ўсіх кутках вялікае краіны. Можа заўтра яны трапяць і ў Смагін. „Цікава, як іх стрэнуць смагінскія таварышы". Го, Рыгор адчувае, як моцна яны ўсхвалююць Памыйку. Разьвітваючыся ўчора, ён, мэрам, і ведаў, што павінна што-кольвечы важнае трапіцца, калі так нэрвова казаў пра далейшую чыннасьць смагінскай організацыі. „Іспыт надышоў... Хлопцам трэба будзе падварушыцца. Я ня думаю, вядома, што яны не прыстасуюцца да ўмоў. Знойдзецца ў іх сілы ды ўменьня запанаваць над абставінамі... А вось Пятрусь... Ці не падумае ён, што я збаюся ў гэты час ехаць у Пецярбург?..

Але ўзьнятае газэтнымі весткамі ўзрушэньне паступова пакідала Рыгора. Ён асвойтваўся з ім, як з неадменным фактам. Гэты факт пакуль не адбіваўся на вырашэньні яго лёсу. Язды да Пецярбургу аставалася ўсяго няцэлая пара. Толькі тады, калі ён спаткнецца з пецярбурскаю сапраўднасьцю, будзе відаць, як павернуцца яго справы.

Рыгор ляжаў на апростанай жанчынамі лаўцы, калі яго папрасілі даць месца дваім новым пасажырам. Яны з узьнятым настроем абгаварвалі навіны дню, гартаючы жмак сьвежых, пахнучых фарбаю, газэт.

Адзін чамусьці дапускаў мірнае вырашэньне ўастрыяцка-сэрбскага інцыдэнту, спасылаючыся на пэрманэтную вострасьць Балканскага пытаньня. Другі няўломна стаяў на сваім—вайна няміnuча. Ён спасылаўся на шэраг прыкладаў з галіны экономічных супярэчак і даводзіў, што Балканскі вузел павінна расьсеч вайна.

— Няўжо такі Аўстрыя не задаволіцца выпаўненьнем Сэрбіяй ультыматуму—пытаў першы свайго таварыша.

— Пра гэта ня можа быць і рэчы. Сараева—сыгнал да выступленьня, а ня звычайны выпадак. Гімназісты Прынцып таўхнуў воз, які стаяў на краю гары, і яго не пераняць цэлым,—даказваў другі... Паляціць у правальле...

— Ці ліха! Няўжо іх не атрэзьвяць жахі вайны?—сумняваўся першы.

— Сэрбія, каб і хацела, ня будзе дапушчана яе апякунамі пайсьці на пакорную,—увяраў другі.

— Магчыма, ультыматум і завостры, каб яго выпаўніць,—здаваўся першы.

„Ультыматум"—то былі пазьнейшыя тэлеграфныя весткі, пра якія Рыгор даведаўся з гутаркі гэтых пасажыраў. Гэта ўжо заганяла здарэньні далей, выразна акрэсьліваючы сур'ёзнасьць бліжэйшага наступнага.

Самы пэнт разьвіцьця падзей і нахіл, куды ішло гэта разьвіцьцё, ізноў запаланілі Рыгора. Ён ня мог далей моўчкі слухаць і прыняў удзел у гутарцы сваіх суседзяў:

— Гэта калі Аўстрыя падала ультыматум?—запытаў ён.

— Стала вядома сёньня раніцою! Вось чытайце!

Сусед падаў Рыгору газэту, ткнуўшы пальцам у чорныя радкі зьместу. Рыгор прагна накінуўся на зьмест і засаб некалькі разоў прачытаў паказанае месца.

— Ага!—выказаў ён.—Скажэце, як усё хутка робіцца!..

— Пажар... Ды пры ветры... Цяпер можна сьмела гатавацца ў паход. Аўстрыйскі ультыматут—гэта ўжо вайна... Ды ў нас мобілізацыя на хаду. Настрой ясны...

— Настрой за вайну, кажаце?—перапытаў Рыгор, мэрам-бы не зразумеўшы суседавых слоў.

Той зьдзіўлена паглядзеў на Рыгора.

— Я не бяруся вам характарызаваць грамадзкага настрою. Я разумею настрой урадавых колаў. Грамадзкасьць пасьля выявіць свой твар. Пакуль яна абурана хадою падзей і перажывае першае аслупяненьне... Ужо ў Пецярбурзе можна будзе бачыць, у якім аспэкце выглядаюць апошнія навіны.

— Я, бач, еду з вёскі,—паведаміў Рыгор:—і толькі сёньня з газэт дазнаўся пра сараеўскі стрэл. Вёска зусім ня ў курсе, адкуль і што заставіла Прынцыпа страляць у аўстрыяцкага насьледніка.

— Так, зразумела,—супакоіўся Рыгораў сусед:—вёсцы цяжка разьбірацца ў пытаньнях міжнароднае політыкі... Наша вёска спаткаецца з ёю з аружжам у руках...

Рыгор зрабіў недаверлівую міну і, крыху памаўчаўшы, запытаў:

— Вы едзеце да Пецярбургу?

— Да пецярбургу.

— Упяршыню?

— Мы пецярбурскія жыхары.

— Пецярбурскія жыхары? Якраз да рэчы. Тады я ўжо буду вас пілнавацца.

* * *

Новы дзень Рыгор спаткаў пад настроем набліжэньня да Пецярбургу. Учарашнія навіны, ён дагадваўся, нарадзілі за ноч шмат сьвяжэйшых, і, магчыма, болей складанейшых. Ён пазнаецца з імі ў Пецярбурзе.

Рыгор падняўся і стаў у вакне вагону.

За вакном сьвятлеў ясны пагодлівы ранак. Шырокае гала зялёных ніў, упрэмяжку з даўгімі густымі лясамі, сьціскалі сьвежым паветрам бягучы цягнік. У душны, яшчэ спакойлівы вагон ліліся пыльныя праменьні зыркага сонца. Трапляў густы вятрыска, асьвяжаючы сьпёртае паветра. Зелень блішчэла на сонцы, сьмяялася радаснай, ласкавай, суцешнай ухмылкаю. У мяккім калыханьні гэтае ўхмылкі расплываліся шэрыя сылуэты земляробаў і жывёлы.

Нідзе, ні на чым не заўважана было жадных прыкметаў навіснуўшых над сьветам страшэнных прыгод. Нівошта не дапамінала пра іх, і таму Рыгорава нутро перапаўнялася пачуцьцём заміласаньня. У бліскучым

праменьні сонца мігалі паўстаўшыя вобразы з яго сілцоўскага жыцьця.— Лужкі, Хвойнік, Масткі, знаёмыя палеткі і лясы. Няйначай, вось гэта яны цягнуцца ўздоўж чыгункі, вяжучы сабою вёскі з гарадамі, мінулае з наступным...

Другі дзень ён сядзіць у цесным душным вагоне, і, здаецца, што ў тым—нічога асаблівага. Сядзеў ў сваёй хаце, сядзеў ў балагольскай будзе, пасьля перабраўся ў майстэрню заводу, а адтуль у вастрожную камеру, а далей у майстэрню Шульца. А за гэтым? Вылезе з вагону і трапіць зноў ці ў завод, ці ў кантору—але ў памяшканьне з чатырох сьцен і вокан, або адчыненых, або зачыненых.

Усё гэта будуць клеткі, мала адрозныя адна ад другое, прыладжаныя для ўмору чалавека... Для чалавека, які любіць бязьмежнасьць прастору, неба і сонца, а вымушаны сядзець у затулку... Сядзець і жыць...

Праўда, у гэтым сэнсе вагон дае пераважнасьць—ён імкнецца, бяжыць у далячыню, і, здаецца, уздаўжае жыцьцё. Рознастайніць. Злучае яго з вялікімі прасторамі, напаўняючы багацейшым зьместам.

Можа таму самы працэс язды Рыгору так да сэрца! Калі прыслухацца да яго, то зьнябываешся будзённага, а зьліваешся ў адно з дынамікай руху, гукаў і мігаценьня.

Рыгор вострымі ўзрокамі ўстраміўся ў зялёныя галы палёў. Яны хутка мігалі, адбягаючы назад, туды, адкуль ён аддаляўся.

Ён выразна адчуваў вялікую отдалеч ад пакінутага месца. Вось-вось абдым гарадзкога жыцьця захопіць яго ў свой водакрут. Мільённы горад захавае яго ў хвалях разьюшанага натоўпу—і схавае сабою Смагін і Памыйку, Шульца і Лібу.

Вось паказаліся пад задымленым небам шэрыя абрысы фабрычных каміноў.

— Мы, напэўна, пад'яджаем да Пецярбургу?—між іншым запытаў Рыгор яшчэ не ахаенага ад сну суседа.

Той паглядзеў на гадзіньнік і адказаў.

— Калі ня спозьнімся, то праз гадзіну будзем у Пецярбурзе.

— Прыяджаем а дзевятай?—запэўніўся Рыгор.

— Так... Калі ня спозьнімся.

Набліжэньне да Пецярбургу ў вагоне падняло сумятню. Пасажыры заварушыліся, забегалі па калідоры ўзад ды ўперад. Застукалі куфэркі. Пацягнуліся да вакна, узьняўшы перадпрыездную гутарку.

— Вунь Пулкава, дзеці,—прарэзьліва гукнула на весь вагон якаясьці жанчына.

Некалькі дзіцячых галасоў зьліліся ў радасным выгуку:—

— Пакажэце, мама.

Хутка ў Рыгоравым ваччу вырас на ўзвышшы белы будынак, ахутаны густою зелянінай садоў. Сьледам цягнік прайшоў станцыю Пулкава.

З другога боку, некалькі чалавек углядаліся ў бок Царскага Сяла. Ішла гутарка пра палацы і паркі.

Веяла Пецярбургам.

Рыгоравым нутром бегаў ні то халадок зьдзіўленьня, ні то подых асалоды.

Узвышаны настрой зьмяніўся трапяткім уздымам, калі з-за пулкаўскіх гор вынырнулі жалезныя рыштаваньні пуцілаўскае вэрфі. Цёмным пераплётам крыжавалі яны паветра на фоне каламутна-белаватага неба. Рыгор ня мог устаяць на адным месцы і рупліва пераходзіў з боку на бок вагону.

У правым вакне лесам фабрычных каміноў зірнула на яго Маскоўская застава. Далей за ёю, на многа вярстоў цягнуўся фабрычна-заводзкі раён Неўскае заставы, сёлы архангела Міхаіла, Абухава, Колпіна.

Над роўнымі абшарамі балоцістых паплавоў насіліся хмары чорна-палавога дыму. У яго густой муці скрадаліся рысы высокіх, пабітых на вокны, стромых будынкаў гульлівага гораду.

Да Рыгора падстаў адзін з суседаў, пачаўшы апавядаць пра назвы заводаў і мясцовасьцяй, пра колькасьць рабочых на буйнейшых прадпрыемствах, пра нядаўнія забастоўкі, Рыгор прагна ўбіраў у сябе гэтыя першыя веды пра вялікі горад, дагэтуль зававбны і марлівы, а зараз вочавідкі і жывы. Плойма markнастайных пытаньняў выростала ў яго нутры, напірала на язык і прасілася да выказу. Але ня час быў гэтым займацца. Ужо пара было пытаць пра маршрут у Лясное, на Пятрусёў адрас.

Ён пасьпяшыў выкарыстаць суседа.

— Вам ляпей усяго садзіцца на дзевятку і проста да Фінляндзкага вакзалу, а там...

Сусед, напэўна, запамятаваў далейшы парадак праезду ў Лясное і абярнуўся да свайго таварыша.

— Чаму на дзевятку?..—Лепей усяго васьмёркаю,—памог той.

— Толькі восьмым нумарам. Даедзеце да клінікі Вілліе, а там на паравік і ў Лясное,—праказаў селянін-эстонец.

Яго падтрымала да пяці іншых пасажыраў, якія ўжо стаялі згруджанай масай у праходзе вагону.

Між тым цягнік спыняўся на вакзале.

На пэроне яго чакала мноства публікі, якая напруджана лавіла ўзрокамі пакідаўшых вагоны пасажыраў. Чуўся гулкі, рэзвы гоман і насіліся выгукі імён і прозьвішчаў.

Рыгор пазіраў праз вокны вагону на публіку і завідаваў цёплым спатканьням знаёмымі знаёмых. Яму міжвольна чакалася, што, а вось, якая прымха навядзе на яго Пятруся ці Ганну... І тут ён якраз наткнуўся на сваю непрадбачанасьць і паіранізаваў над сабою. „Або я дагадаўся хоць аднаму з іх паведаміць?“

З гэткай развагай Рыгор апынуўся ў густой тлуматні публікі.

Ён не агледзеўся, як людзкая хваля падхапіла яго і панесла з сабою да ўваходу ў вакзал.

Вузкія дзьверы не ўмяшчалі натаўпу. Яго добра пацiскалі, пакуль прайшоў дзьверы. Ды ў вакзале ня было вальней.

Сотні рознастайных, мэрам дзе бачаных і знаёмых твараў, ухмыляліся яго пытальным вачом. Рыгораў знадворны выгляд дапамагаў яшчэ больш зьвяртаць увагу. Не патураючы на гэта, ён ня кідаў надзеі стрэць хоць адну знаёмую душу...

Няўжо такі сярод вялікага натаўпу на вакзале ня знойдзецца кагокольвечы, хто-б дзе, калі яго спатыкаў?

Незаўважна для сябе Рыгор апынуўся пры буфэце. Навакола за столікамі сядзелі пасажыры і госьці, хто за гарбатаю, хто за півам, хто за сьнеданьнем.

Прысеў і ён і заказаў шклянку гарбаты ды пару сырных бутэрбродаў.

І можа з паўгадзіны аддаў на сваё скромнае сьнеданьне.

Вакзал паступова апусьцеў. Заціхлі гоман і тупатня.

Мала прыметны раней, ён зараз адцягаў на сябе беглыя ўзрокі мігаючых тэлеграфістых і паважна тупаючага жандара.

Гэта не замяняла чаканых знаёмых. Роўная, як струна, здаравенная постаць жандара, яго колкія кноразавы вочы, мэрам выдаўленыя наповерх чырвонага круглага твару—уплывалі няпрыемным уражаньнем і не манілі далей сядзець пры стале.

Адчуўшы казытны ўкол адзіноцтва, Рыгор вышаў з вакзалу.

Направа, праз гарбаценькі мосьцік заварочваў трамвай, на якім чорная літара расьпірала бакавыя бляда-жоўтыя трыкутнікі. Як вочы сьляпога, сумна глядзелі на яго шкелкамі пара патухлых ліхтароў стройная пукатая, як сваха, лічба 8.

# НА ШЛЯХОХ ВОЛІ *)

## Якуб Колас

У гушчары кустоў брызгліны,
Дзе межаваўся з ярам сад,
Нырнуў Барыс у цёмны спад
Пад навісь горкае каліны...
На сонцы песьцяцца галіны...
Няма! ня вернецца назад!
Нібы прыглушаная громам,
Стаяла Насьця ў немаце,
А ў сэрцы голас трымацеў...
Як дух, зьявіўся патаёма
І зьнік... О, сорам ёй і дому
Куды зайшла у дураце!

НАСЬЦЯ

Любы!
Вярніся! выслухай! даруй!—

За ім пабегла пад гару,
І словы ласкі шэпчуць губы...
Няма! ня верне яна згубы!
Віна яе. Плач і гаруй!
Застыла Насьця ў немым горы.
Канец, і шчасьця ёй няма!
Хто пахаваў яго? сама!
Ён вечным будзе ёй дакорам,
І на паваблівае „ўчора“
Кладзецца сёнешняя цьма.

НАСЬЦЯ

Разьбіта чара асалоды...
Мой любы, дарагі!
Хоць боль мае тугі
Пачуй!..

*) Гэты разьдзел у поэме павінен ісьці пасьля XI разьдзелу. *Якуб Колас.*

Замерзла плынь пад лёдам...
Пакінуў назаўсёды!..
Даруй!
Няшчасная дзяўчына!
Што я нарабіла?
На век яго згубіла!
Ой, горкая-ж часіна!
І заламала Насьця рукі.
Што будзе з ім? Ён тут адзін,
Як няпрызнаны брат і сын,
Апаражніўшы келіх мукі.
Ох, сэрца звадлівыя згукі!
Вас жывіць сокамі палын!
І чэх ня меней быў зьбянтэжан:
Зьдзівіў і з тропу зьбіў нашчэнт
Неспадзяваны інцэдэнт.
Як паступіць яму належыць?
І як прайшоў усе іх межы
Яго праціўнік конкурэнт?
Злавіць яго ў адну хвіліну!
Прыняць рад энэргічных мер:
Ён—вораг, рускі афіцэр.
Яго абразіў і дзяўчыну!
І чэх на „брата-славяніна“
Гатовы кінуцца, як зьвер.
І як ён схібіў, збавіў тону,
Прыняў пасыўна так удар!
Успомніць сорам—як шкаляр!
І каб узьняць сваю пэрсону,
Наш чэх, ня трацячы фасону,
Як леў, намерыўся ў гушчар.
Ступае крок, глядзіць—на доле
Ляжыць астаўлены пакет.
Дык вось які ён, „амулет!“
Эх, панна! граеш ты дзьве ролі!
За ім пабегла з такім болем,
Каб замяніць сабой партрэт!
І зайздрасьць чэха забірае.
Падняў пакет, яе лісты,
Імчыцца ў зарасьнік густы,
І кроў у жылах яго грае.
Эх, песьня даўняя, старая!
А вечна новая ўсё ты!
І бачыць—Насьця ў смутку, жалю

Стаіць панылая, адна.
Туга ў яе вачох відна,
Як-бы прысуд яны чыталі
На цёмнай, жудаснай скрыжалі,
Каб гора вычарпаць да дна.
Падходзіць бліжай—не зважае,
Стаіць нязрушана маўчыць,
І зоў яго дарма гучыць.
Стаіць, далёкая, чужая,
Бы томіць штось яе, пужае—
Ня чэх на мысьлях у дзяўчы.

КРОЧАК

Дык гэта ваш сардэчны друг?..
Прашу даць тлумачэньне:
Што значыць ваша засмучэньне?
Каго-ж кахаеце з нас двух?
І слоў яго ня чуе Насьця.
Няма ёй радасьці, уцех:
Жыцьцё разьбіў ёй гэты чэх.
І сэрца кроіцца на часьці.
На дол гатова яна ўпасьці,
Каб замаліць нявольны грэх.

КРОЧАК

Скажэце-ж мне хоць слова,
Чаму вы раптам сталі сухі
І да пытаньняў маіх глухі?
Мне гэта зьмена ваша нова!
Ці ўжо забыты вамі я,
І песьня скончана мая,
І паплылі навекі хвалі,
Гукнуўшы песьняй аб вясьне,
І прамільгнулі, як у сьне,
І маё шчасьце пахавалі,
І мне—стаяць у старане,
Бо-ж вы чужынца, вы мяне
Ніколі не кахалі?

НАСЬЦЯ

У часе смутку пахаваньня
Не гаварэце аб каханьні
І ня трывожце сэрца раны—
Я гэтак жорстка пакарана

За тыя добрыя хвіліны,
Што з вамі бавіла ня раз,
І вось прышоў расплаты час:
У сум абернуты ўспаміны...
Сябе віню я, а ня вас:
Стрымаць парываў не змагла
І сэрцу волю я дала.
Але праведзена граніца,
На ёй пастаўлены капец,
Парог паложаны—канец!
Забудзьце-ж вы мяне, блазьніцу.

### КРОЧАК

Апошнюю прашу я ласку:
Пакіньце на ўспамін
Мне гэту картачку, як казку,
Як невясёлую разьвязку
У шчасьця ўкрадзеных хвілін.

### НАСЬЦЯ

Ня добры лёс яе і мой—
Не ўспамінайце мне аб ёй!—
І тут-жа картачку-злашчасьце,
Кунежных слоў на ёй радкі
Яна парвала на шматкі,
Каб выразьней канец пакласьці
Спакусам гэтым і напасьці,
Што налучылі неўзнакі,
Сама-ж парывіста і хутка
Мільгнула ў проразі галін
І зьнікла ў некалькі хвілін.
У садзе стала пуста, жудка...
Эх, Насьця, Насьця—баламутка!
І ты адна і чэх адзін.
А дзе-ж Барыс? а дзе ён, сьведка
Свайго пасьмешышча і здрад?
Ня бачыць-бы лепш цябе, сад,
Ня знаць-бы лепш вас, мары-кветкі,
Стала чужога недаедкі!
Ці-ж ёсьць другі такі вар'ят?
Бо хто-ж так верны быў дзяўчыне?
Хто марыў-сьніў, як ён, аб ёй?
І хто цяпер яе гэрой?

Чужак у афіцэрскім чыне,
Што на яе-ж зямлі-айчыне
Гвалтоўнасьць чыніць і разбой!

У крыўдзе, гневе, абурэньні,
У сэрцы тоячы разлад,
Пакінуў здрадлівы ён сад.
Вось і канец яго сумненьню!..
Дык цешся з мілага здарэньня!
Вітай спатканьне з ёю, брат!
Куды-ж ён пойдзе і што скажа?
Чужынец стаў гаспадаром,
Дзявочых мар уладаром—
Сьвет засланіла маска ўража...
А палажэньне не хлямяжа:
Варожасьць, здрадлівасьць кругом.

Кустамі, тропкамі глухімі
Ён разглядаецца, ідзе.
У смутных думках і нудзе
І сам ня знае, што прадпрыме,
І ўсё стускнела, як у дыме,
Няма прасьветліны нідзе.
Прысеў нарэшце ў дзікім рове,
Ня горне ўсё-ж яго палон,
Трымае ўсё яшчэ фасон...
А можа сьніць, што ён у схове,
Што Насьця з ворагам у змове?
Увы! сапраўднасьць, а ня сон.
Падпёр ён голаву рукою,
Спусьціўшы вочы ў дзірваны,
Сядзіць, застылы, дзервяны,
А думкі ўюцца талакою
У сумятні, у непакою,
Нібы над трупам груганы.

Як дзіўна ўсё яно сплялося!
Якая вычварнасьць дарог!
І выдумаць-бы так ня змог...
Пустэча, глухасьць, безгалосьсе.
Нічога больш не засталося
З таго, чым жыў, што так бярог.
У гразь утоптаны парывы.
Вянок юнацкіх яго мар
Дарэмна ёй нёс ён, як дар,
І бег іх радасна-імклівы

Туман агортвае імглівы
Ды туліць гэты цёмны яр.
І адступіла ўсё нейк далей,
Кудысь адсунулася ў бок
І ахінулася ў дымок.
Ні болю вострага, ні жалю,
І струны сэрца аддрыжалі,
А ён глядзіць на ўсё здалёк.
Над ім, разьвесіўшы галіны,
Як маці, хіліцца вярба,
Сама пакута і журба.
Разносіць вецер пах расьліны
Ды ціха ўздрыгваюць даліны—
Грыміць дзесь гулкая пальба.
І мімаволі ўспамінае
Акопы, роту сваю, полк.
Узяць ня можа сабе ў толк,
Як захапіла мысьль блазная
І гэта забаўка дурная
Туляцца між франтоў, як воўк.
Але цяпер яму ўсё роўна:
Заб'юць—няхай, ну, што з таго?
Ён толькі хоча аднаго,
Душа адным жаданьнем поўна:
Забыцца, сьцішыцца бязмоўна—
Ён бязудзельны да ўсяго.
І мысьлі блытаюцца, гаснуць.
Абрыўкі вобразаў і слоў
То мільгацяць, то нікнуць зноў
У тлум зьліваюцца няясны,
Каб узыйсьці на шлях уласны—
Пуціну вычварную сноў.
І хвалі сну кунежнай ласкай
Праходзяць лёгенька над ім
І ткуць чароўны свой кілім
Ды шчодра дораць зьявы-краскі
І рачаіснасьць лучаць з казкай,
Каб разагнаць тускноту-дым...
Расплюшчыў вочы—што за дзіва?
Гарыць зямля і ўсё кругом,
Усюды выбухі і гром.
Снарады выюць праразьліва,
Дрыжыць, хістаецца жахліва
Над ім вярба сваім шатром.

Трасецца цемра, як жывая,
Гарыць, купаецца ў агнёх,
Сталёвы сыплецца гарох,
І горкі, долы засявае,
І віскам моташным сьпявае
Пальбою ўзрушаны разлог.

Дзяжа, аглушаны, зьнямелы,
Ляжыць, ні мёртвы, ні жывы,
Узьняць ня сьмее галавы.
Мурашкі бегаюць па целе—
Аж грудзі ломяць залпы-стрэлы,
А ў нос б'е дым парахавы.
І мысьляй ён сабраць ня можа,
Адкуль дзе што яно? і як
Сюды ён трапіў, небарак?
Мацнуў сырое сваё ложа,
І ясна ўстала падарожжа...
Ды што робіць яму аднак?

ДЗЯЖА

Перш за ўсё: развага,
Ацэнка абстаноўкі:
Што добра, а што блага,
Каб вывесьці высноўкі.

І думка з вострасьцю балючай
Малюнкі піша перад ім
Ды ўсё гаворыць аб адным:
Як выйсьці суха з гэтай бучы?
Атака будзе нямінуча...
Адно: застацца-б хоць жывым!
Унь там успыхваюць зарніцы,
Сюды імкне снарадны лёт!
Папаў, папаў у пераплёт!
А дзе акопныя граніцы?..
Стой! гэта з нашых б'юць пазыцый.
Дзяржы кірунак на усход!
Барыс на момант весялее—
Ён ключ пазыцый улавіў,
Ня так гняце яго адрыў,
І ў сэрцы туліцца надзея,
Што, хоць і верыць ёй ня сьмее,
Збавеньне прыдзе, будзе жыў.
І робіць далей спасьцярогі.

З другога боку, чуе ён,
Чарга снарадаў наўздагон
Ляціць з варожае дарогі.
Аж дрыгацяць над ім разлогі—
Падайся ніжай пад адхон!
Ён бліжай туліцца к карэньню,
З зямлёю лучыцца шчытней,
А ў галаве ўстае ясьней
Малюнак бою, наступленьня
І небясьпека палажэньня,
І сэнс усіх гэтых падзей.
Ляжыць у рове, як у склепе.
Трасе, аж носіць яго страх,
І сьмерці чуецца замах—
Вось-вось асколкамі залепіць!
І дзе ад іх схавацца лепей?
А жыць-жа хочацца як—ах!
І жаль агортвае, самота.
Няўжо прышоў апошні час,
І згіне ўсё, патухне ўраз?
Як томіць гэта адзінота!
На задні плян сышлі згрызоты,
Агонь і жар у сэрцы згас.

Але ён робіць намаганьне,
Каб зноў сябе перамагчы
І скінуць страху абручы.
„Ці сяду?“ верціцца пытаньне.
Мінута вострая ваганьня,
І ён садзіцца на карчы.
Навокал пекла, гром усьцяжны,
Зямля ўся ў віхрах агнявых,
Няма на ёй мясьцін жывых.
І раптам—стоп! у колькі сажнях
Салдат мільгаецца адважны
І ня згінае галавы!
Дзяжа ўздрыгнуўся! Тфу, ты—зданьне!
Прывід, той самы аўстрыяк,
Забіты колісь ім сьмяляк!
Барыса томіць прадчуваньне,
Што гэта ёсьць напамінаньне,
Аб сьмерці ўласнай яго знак.

## ДЗЯЖА

Заб'юць, ну, што-ж?
Ад лёсу, не ўцячы.
Маўчы!..
О, божа! дапамож
Даждаць канца начы!..
Наступленьня ўсе адзнакі,—
Шалёныя галопы,
На іхнія акопы.
А яны дзе аўстрыякі?

Ён разглядаецца наўкола—
Ці не падацца трохі ўзад,
Каб лепш схавацца ад гармат?
Але баіцца рушыць з долу
Ды прыгінае ніжай голаў,
Як праляціць над ім снарад.
Глядзіць, нібы сьвятлеюць далі
Скрозь дым і выбухаў агні...
Эй, хлопча, голаву прыгні!
Асколкі жудасныя сталі
Сіпеньнем дзікім засьвіталі
У пекле грому, траскатні.
Вярба хіснулася вярхушкай,
І сук, нібы рука з пляча,
На ніз шугнуў каля карча,
Барыса-ж нібы хто загушкаў,
На дол спусьціў, як на падушку,
Няма і болю згарача.
Наадварот, нейк лёгка стала,
Нібы прыкрыла яму скронь
Чыясь лагодная далонь
І прыглушыла віск мэталю,
І аддаляецца навала
І гураганны той агонь,
І толькі ціхім, мяккім звонам,
Акордам стомленай зямлі
Дзесь аклікаюцца палі
Ды нібы шэпча засмучона
Вярба, схіліўшыся каронай.
„Ляжы, мой голубе, драмлі!“.

24-XIII 1929,—25-I 1930 г.

# ДЫКТАТУРА*)

## І. Мікітэнка

*(П'еса ў 4-х дзеях, 12 карцінах)*

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### I

### Карабельныя будаўнікі

Кацельны цэх вялікага карабельна-будаўнічага заводу. Стукат малаткоў і гул электрашлангаў. Заклёпваюць катлы, зварваюць цыстэрны. Кацельны цэх спаборнічае з мэханічным на павышэньне продукцыйнасьці.

Пілíп Тодаравіч *(чытае паперку)*. Спрытна!

Майстра мэхан. цэху (*праходзіць праз кацельню*). Здароў, Тодаравіч! Колькі нагналі?

П. Т. Га? Стаімо на месцы (*схаваў паперку*).

Майстра. Хітруеш?

П. Т. Га? Прыдзецца іці ў адстаўку.

Майстра. Такі стары і такі зласьлівы. Добра-ж ведае, што ідзе наперадзе нашага цэху.

П. Т. Што?

Майстра. Ды ну цябе! Глухі чорт.

П. Т. Га? Як ты сказаў?

Майстра. Глухар! *(пашоў)*.

П. Т. Ідзі здароў, ды заходзь калі... *(Раптам праз шум заводу прарываецца ёнк. Піліп Тодаравіч кінуўся туды)*.

Што там? *(Рабочыя кінуліся ўсе да аднае цыстэрны)*.

Рабочыя. Хто? Каго ўдарыла?

— Молатам!

— Электрыка! Шланг! Выключыць!..

— Зубчэнкаву! Электрозварніцу! Выцягвайце!

— Ды выцягвайце-ж яе! Яна ў цыстэрне!

Кныш. Таварышы! Спакой! Яна тут!

*) Права пастаноўкі толькі з дазволу аўтара, альбо УТОДІКА (Украінскае Таварыства Драматургаў і Композытараў). *Аўтар.*

Зубчэнка *(злосна)*. Там Дудач! Чаго-ж вы паглядаеце, чэрці? Даставайце! Можа ён забіты.

Маса. Чудач! У цыстэрне Дудач.

Майстра. Раступецеся! *(З цыстэрны выцягваюць Дудача. Нясуць на пярэдні плян. Кладуць на зямлю)*.

Кныш *(пад плечы паднімае яго)*. Стары. Ды ну цябе, слухайся.

Майстра. Ударыла?

Зубчэнка. У мокрых ботах.

Маса. А-а-а! У мокрых ботах.

Зубчэнка. Я-ж казала Дудачу: сёньня мая чарга, сёньня я лезу ў цыстэрну. А ён—адчапіся. У мяне, кажа, рука цьвярдзейшая, я хутчэй звару. І палез. На дварэ дождж, а ён, як прышоў, боты мокрыя аж цячэ... Ну, дык вось яго электрыкаю і секанула.

Дудач *(разьмінае плечы)*. Хо-о... не пашанцавала...

Галасы. Нічога, другім разам пашанцуе (*Усе засьмяяліся*).

Кныш. А здорава рэзнула?

Дудач. Га? Лёгенька шарпанула... Думаў—перабіла хрыбет.

Майстра. А чаго-ж ты палез у мокрых ботах? Маленькі?

Дудач. Абцёр. Хацеў скончыць.

Майстра. Скончыць?.. Калі так будзеш спаборнічаць, дык калінебудзь і самога скончыць. Што-ж цяпер? Ляжацьмеш?

Маргун. Дзеля гэтага-ж і палез... А нам працуй...

Дудач. Што? Я ляжацьму? (*Падымаецца*).

Кныш *(да Маргуна)*. Ах ты... трапло!

Галасы. Хіба толькі, як паложаць на лаву, дык тады...

Аосрыменка. Калені і цяпер дрыжаць. Змагаюцца, ці што?.. (*Сьмех*).

Дудач. Даволі.

Майстра *(зірнуў на гадзіньнік)*. Чаму гэта, сапраўды, пакінулі работу? На месца! (*Загуў гудок. Перапынак на сьнеданьне*).

Маса. Сьне-дань-нее! (*Пашлі*).

Сталоўка цэху. Доўгія сталы. Плякаты і інш. Рабочыя дастаюць сьнеданьне, садзяцца, стаяць каля сталоў, бліскаюць бляшаныя кубачкі,—сьнедаюць, п'юць чай.

Кныш *(націрае цыбуляю кавалак хлеба)*. Стары, бутэрброда хочаш?

Галасы. Не, мусіць адшыбла апэтыт. І заўтра не захоча... (*Сьмех*).

Дудач *(нахмурыўшыся)*. Годзе, кажу. Няма пра што гаварыць.

Кныш. Рабочы чалавек павінен добра есьці. Хто ня есьць, той не працуе.

Галасы. Будзеш есьці, калі ёсьць што.

Маргун. Вунь хлеба не хапае ў горадзе.

Зубчэнка *(стукае кубкам па стале)*. Таварышы, я стаўлю такое пытаньне... Таварышы...

Галасы *(перабываюць)*. Якое там пытаньне?

Маргун. Зноў будзеш зудзіць? Не дае пасьнедаць...

Зубчэнка. У парадку дня два пытаньні. Не, тры.

Галасы. Ды не цягні. Агалашай парадак!

Маргун. Які парадак? Для мітынгаў ёсьць іншы час. Чаго зудзіш?

Зубчэнка. Слухай, Маргун, ты... памаўчы. Першае пытаньне: нашы пісьменьнікі да нас прыяжджалі? У цэху выступалі?

Маргун. А нам ад гэтага лягчэй? Выступалі... Няхай-бы ня выступалі.

Кныш. Дай слова.

Зубчэнка. А ў нас газэт украінскіх няма? Часопісяй няма? Кніжак няма?

Кныш. Дай слова, табе кажуць. Заціскаеш...

Зубчэнка. Ня дам. Яшчэ я ня скончыла.

Кныш. Дай слова. Я скажу, тады табе нечага будзе канчаць. Так, таварышы. Я сам гутарыў з адным. А чаму, пытаюся, вы ня носіце украінскага адзеньня? Раз наша культура пайшла ў гору, дык трэба і сарочку і ўсё, як належыць...

Голас. А штаны, як сіняе мора.

Кныш. Правільна.

Зубчэнка. Эт-ты... штаны. А як-жа ты ў цыстэрну ў гэтых штанах?

Голас. Ён скіне (*сьмех*).

Кныш. Вось вы зрываеце, а ня ведаеце, што я хачу...

Дудач. Ня туды б'еш, Сьцёпка.

Голас. Глупства пораш. А што ён табе сказаў?

Дудач. Не з таго канца бярэш. Не разумееш украінскае культуры

Кныш. Я? Не разумею?

Дудач. А ні ў зуб. Ня маеш ніякага ўяўленьня.

Кныш. Сьмяешся. Ды я Шаўчэнкавага „Кобзаря" напамяць ведаю. Ух, і напісаў...

Галасы. А ну, Сьцёпка, дакажы...

Кныш (*дэклямуе*). Було колысь на Вкраіні,

Рэвілы гарматы...

а далей забыўся (*сьмех*).

Дудач. Вось бачыш, на тым, што было, далёка не заедзеш.

Галасы. Будзеш раўці.

Дудач. Індустрыя была? Дзяржава ў цябе, ці ў твайго дзеда была?

Голас. Матня была, а не дзяржава... (*сьмех*).

Кныш. Зубчэнка, кажы далей. Пра штаны гэта я так, каб распаліць... у парадку дыскусыі. Тут і на вузкія не хапае мануфактуры...

Зубчэнка. Давайце не замазваць пытаньня. Завод падпісаў дагавор. Уставілі пункт пра украінскую культуру. Для чаго падпісвалі? Я стаўлю рубам: забаўляемся ці робім справу?

Галасы. Думай, ды ліквідуй закавыку... (*Сьмех*).

Ахрыменка (*вышаў, выставіў уперад нагу. З захапленьнем*).

Факт! Вось я пролетарыят Ахрыменка, забыўся свой язык. Як прышоў на завод шаснаццаць гадоў таму назад, дык забыўся. Пачаў быў парускаму сяк так, абы не па свойму. А пасьля—калі паедзеш у вёску да бацькоў, як-бы сказаць у госьці, прыдуць суседзі, а ты, як габлянеш... Чужы, кажуць, з гарадзкіх... факт. Партыя праўдзіва кажа: мы пролетарыят і выхаду няма: трэба ведаць свой язык, інакш грош табе цана. Ну, але цяпер я бачу, хто вінаватым быў. Русыфікацыя. Во. Так што курс правільны, таварышы. І... Я кончыў.

Галасы. Давай прапанову. Трэба ўзяцца.

Групка. Дурань галаву. Лепей скажы, калі хлеб будзе? *(шум).*

Зубчэнка *(стукае кубкам).* Таварышы...

Кныш. Хоця вы і шкурнікі, а хлеба такі ня шкодзіла-б...

Майстра. Кныш, падвіньці мутэрку і ўстрымайся. Глядзі на мяне: Я ўжо стары чорт, а ня здыхаю, бо, як кажуць, гляджу ў корань.

Кныш. Не, гэта вы старым салам жывяце. Да рэволюцыі з нашага брата ад'еліся *(сьмех).*

Майстра. Цьфу! *(адышоў).*

Кныш. А вы ня сумуйце, таварыш майстра. Піша адзін, што хлеб „прадбачыцца“...

Маса. Дзе, хто піша?

Кныш. Вось *(дастае пакамечаны, засмальцованы нафтаю ліст).* Ліст ад сваяка. Піша, што... *(паважна чытае, усе ўважна слухаюць).* „Холад і дагэтуль трымае, але, як прадбачыцца, дык быццам і вясна набліжаецца, але ня ведаем, як там улада сабе думае, ці будзе нам пасеўны матарыял, бо свайго так што і не прадбачыцца, дык адпішы, як там улада сабе думае, ці прадбачыцца што ці можа так што і не прадбачыцца“. Вось вам і хлеб... *(сьмех).*

Дудач. Серадначок?

Кныш. Хто сваяк? А так. Мае худобу—кошку, ды сабаку, а сам пасярэдзіне.

Дудач. Няхай ня плача. Бяз хлеба ня будзем.

Кныш. Так і напішу: ня плач, Дудач табе вышэйшага сорту пытляванкі надашле (*сьмех*).

Зубчэнка. Таварышы, гэта нікуды ня варта. Зараз пытаньне не пра хлеб. Не замазвайце.

Ахрыменка. Узяцца па нашаму, па рабочаму. Так... узяцца за свой язык... за мову, за культуру.

Галасы. Ды ўжо-ж прыдзецца. Зубчэнка, арганізуй гэтую справу, а тагды кажы...

Зубчэнка. Ну, глядзеце, каб ня было бузы. Прыдуць другім разам, а ў нас нічорта ня зроблена. Другое пытаньне: дзе Піліп Тодаравіч.

Майстра *(як раз падышоў).* Чаго табе агітатарша? (*абняў яе за плечы*).

Зубчэнка. Кітай, рукі прэч ад чыгункі... Жонка ваша яшчэ зальле мне вочы серкаю.

Майстра. Не, яна ў мяне спакойная. Вар'яцела, але прайшло (*сьмех*).

Зубчэнка. Ваша другое пытаньне. Як нашы справы?

Майстра. Ша. Маўчок, хлопцы. Быў ў канторы. Пашло ў нас угору на дваццаць процантаў.

Маса. Ня можа быць? Ах, чорт, гэта, дык махнулі (*шум*).

Зубчэнка. Спакойна. Яшчэ адно пытаньне. Галоўнае. Пазыка індустрыялізацыі.

Групка. Зноў. Закрывай зборы. Даволі.

Зубчэнка. Таварышы, не даволі, а слухайце. Я ня буду расьцягваць. Усе вы ведаеце, што наша партыя і рабочая кляса...

Група. Годзе. Даволі. Ведаем. Чулі ўжо.

Маргун. Не агітуй. Чаго агітуеш?

Голас. А ну, змоўкні там!

Зубчэнка (*зьдзіўлена глянула на Маргуновых прыхільнікаў*). Вы што? Гэта вы сапраўды? Гэта так рабочыя нашага цэху? (*павуза*).

Кныш (*падыходзіць да яе*). Так. Гэта рабочыя нашага цэху. Ты каго агітуеш? Скажы, каго ты агітуеш? Ты кажы толкам.

Зубчэнка. А-а, толкам. Вось. Кацельны цэх павінен купіць пазыкі індустрыялізацыі на пяцьдзесят сем тысяч рублёў.

Маргун. Ого, махнула...

Кныш. Пяцьдзесят сем кажаш?

Ахрыменка. Калі ўзяцца па нашаму, па рабочаму...

Групка. Няма чым брацца. Слабо!

Маргун. Дай нарэшце сказаць пару слоў (*выходзіць наперад*). Слухаю і чую. Культура. Змаганьне. Пазыка. Ха. Але ў каго пазычаеце? У рабочага? На каго? На бюракрата! Ахрыменка, глянь ты на сябе. Хіба катляр такім павінен быць. Як павінен жыць рабочы? Адмысловы! Як мы жывем? На нітачку. І тое дай і там дапамагай, але-ж да каторае гэта пары? Хлеба няма, ні чорта няма... Гуркоў не дакупішся. Мы рабочыя. Дыктатура! Мы павінны запытаць: што думае партыя? Што думае ўлада (*стукнуў сабе ў грудзі*). Нам цяжка. Вось і ўся падпіска.

Групка. Правільна. Чаго хавацца. Праўды не схаваеш.

Зубчэнка. Так. Цікава. Ну, хто яшчэ?

Ахрыменка. Ведаеш, што, браток? Ты не пролетарыят і не дыктатура, а ты проста Маргун і стэрва. Гэта факт!

Галасы. Гэта праўда! Поўная кваліфікацыя!

Кныш. Дудач, чаго маўчыш? Як на тваю партыйную думку?

Дудач. Маўчу. На маю думку Ахрыменка ўсё сказаў двума словамі.

Галасы. А ты падсып.

Дудач. Ну, давай падсыплю. Што гэта мы, га? Бузу пачынаем? Ты, Маргун, чуў, як Кныш чытаў ліст ад сваяка? Сумны ліст? А хлеб

ёсьць. У другіх ёсьць! І трэба ўзяць. А як мы возьмем, калі на заводзе, вось тут у нашым цэху... ёсьць людзі ня лепшыя за кулакоў? Дык гэта такая дыктатура? Не, хлопцы! Ня наша лінія. Ударыць трэба! Напісана пяцьдзесят сем? Шэсьцьдзесят павінны ўзяць! Твая дыктатура? Падстаўляй і свае плечы. Так будуюць камунізм. А Маргуны так ня могуць. На тое яны і маргуны, каб маргаць на дыктатуру шкурніцкім вокам ды крычаць „мая". Ды яна ня іхняя, не для іх і ня з імі. Яна наша, для нас і для тых, хто з намі. Вось і ўсё.

Галасы. Галасуй, Зубчэнка.

Групка. Сілаю ня возьмеш.

Зубчэнка. Таварышы, я думаю, што Дудач усё сказаў. Галасую. Хто за? (*падымаецца многа рук*). Апусьцеце рукі. Хто супраць (*групка супраць*).

Маргун. Як будзе хлеб, сам падпішуся.

Дудач. Абыдземся. У мяне такая прапанова: запісаць у пратакол, каб ня браць ад іх ні капейкі.

Ахрыменка. Факт (*дастае тры рублі і кладзе перад Маргуном*). На. Бяры на хлеб. Бяры, не саромейся (*сьмех. Групка заціраецца*).

Галасы. Скінем на беднасьць. Бярэце! (*Даюць грошы. Сьмех, шум*).

Зубчэнка. Сход закрываю.

*Уваходзіць дырэктар.*

Дырэктар. Здаровы, таварышы!

Галасы. Здароў, здароў, таварыш дырэктар (*вітаюцца*).

Кныш. Ну, як справы, таварыш дырэктар? Кантора піша?

Дырэктар. Кантора то піша, а як вы тут клёпаеце?

Кныш. Дрэнна. Дудача сёньня кляпалі. Хацеў адразу выйграць спаборніцтва.

Дырэктар. А, здароў, Рыгор. Ёсьць справа да цябе.

Дудач. Кажы (*усе пайколам абступаюць іх*).

Дырэктар. Цябе выклікае Акругком. Паедзеш на вёску (*у масе рух*).

Кныш. Высоўваюць, выстаўляюць?

Ахрыменка. Дрэнна справа. За што-ж яго высоўваюць? Па партыйнай лініі?

Дырэктар. На хлебазагатоўкі.

Рабочыя. А-а-а-а... Ад нас па хлеб. Глядзі, як ведаў.

Дудач. Хіба іншага каго не знайшлося? Які з мяне агітатар?

Дырэктар. Ну, ну, Рыгор, пагаворыш там. А агітатар з цябе такі, як і катляр: ня так многа на заводзе, а ўсё такі дваццаць чатыры гады стукаеш. Што-ж, таварышы, выпраўляйце яго.

Рабочыя (*загулі*). Такі едзе? А куды? У які раён? Шчасьліва! З дзядзькамі там добра абыходзься!..

Ахрыменка. Скажы: пролетарыят Ахрыменка пасылае вам прывітаньне. Так і скажы (*паціскае руку*).

Кныш. Сам ведае, не маленькі. Дай пацалую. Гэта нічога, што я рабы і дрэнны з выгляду. Заплюшчы вочы... *(рогат).* Чаго сьмеяцеся? Жонка ў мяне вунь якая і то цалуе мяне. А што вы думаеце? Сіла ня ў мордзе, а... адным словам ня ў мордзе.

Дудач *(скінуў прозадзеньне, надзеў сіні пільчак, кепку, паціскае таварышом рукі. Цалуецца з Кнышам).* Сьцёпа, а забыліся мы, браток, пра вёску.

Кныш. Толькі ў дакладах і чую—змычка гораду з вёскаю...

Дудач. Ну, хлопцы, бывайце. Даўно ня быў... Толькі тагды, калі быў голад, дык насіў боты мяняць на міску бульбы.

Рабочыя. Усім даводзілася. Зажыгалкі тагды рабілі *(усе задумаліся і слухаюць Дудача).*

Дудач. Поле, дык ужо і сьніцца перастала. Забыўся, як пахне зямля. А пахне, калі на яе ўпадзе кропля сялянскага поту. А як чартапалох зацьвіце на мяжы, сінім колерам... альбо як жаўранак высока... А дзядзька распусьціць палатняную сарочку, нібы вятрыла (*парус),* ды калі наляжа на касьсё... хістаецца над пракосам, аж жылы ў яго напінаюцца...

Кныш. Ну, стары! Калі вось так будзеш гаварыць, увесь хлеб вывезеш. Ох і с-су-р'ёзна гаворыць!

Дудар. Што тут гаварыць, Сьцёпка. Свая дзяржава, падтрымаюць.

Маргун. Паедзеш—паспрабуеш...

Дудач *(рэзка).* Не цябе, а нас падтрымаюць. А вы, братва, глядзеце: праіграеце, не вярнуся і ў цэх. *(Гудок. Дудач бярэ сваю кашолку. Рабочыя праводзяць яго. Гудок змагаецца з іхнімі галасамі: „Націсьнем! Аж дым пойдзе! Націсьнем! Варочайся здароў!“ Усе зноў да варштатаў. Завод заварушыўся, пайшоў. Паволі цямнее. Толькі гудзе музыка заводу. Пасьля гучыць мэлёдыя вёскі).*

II

## Чырва іграе

Вёска. Увечары каля хаты Чырвы вышліся суседзі. Сядзяць, пакурваюць. Чырвоным крапінкамі бліскаюць папяроскі. Падыдзе да барады, супыніцца, блісьне на зубах і зноў плыве і зьнікае ў цемры.

Певень. Ёсьць чутка, што скора будуць забіраць і ў нас. У Сухой Слабодцы, народ ужо танцуе. Чуеш, Андрэй?

Сыроватка. Скачуць.

Певень. Ага.

*(На небе выплывае месяц. Каля хаты сядзяць: Чырва ў кажусе і смушкавай шапцы, зьвесіўшы вусы на грудзі, Певень Макар, усьпёршыся на сучкаваты грушавы кій і Сыроватка з аблічам сьвятога Антона).*

Чырва. Кат іх бяры. У мяне не паскачуць, бо няма на чым. Даўбы ад сэрца, каб быў і ў яго, як нашы бацькі і дзеды казалі, боршч не парожны, каб плавалі ў ім хоць жукі падарожныя. Ды паверыце, самому да новага ня хопіць. Ох-хо-хо. Як дрэнна, калі дзяржава голая. Не вясёлая яе доля, а разам і наша.

Певень. Чаго невясёлая? Яшчэ і як паскачаш. Вунь прыехаў у Сухую Слабаду ахвірыст, той, што скупоўвае хлеб. Падтрымліваеш кажа, сваю ўладу, ці не падтрымліваеш? Ды чаму-ж, адказвае зяць Матроны Каладубіхі—Матузка—падтрымліваю, бо паспрабуй не падтрымаць... Ну, добра. І забралі ў яго ўвесь хлеб да астачы. А пасьля давядзі-ж, што ты падтрымліваеш, так. А як давядзі? Нанялі музыкаў, прывялі на Матузкаў двор і гэты самы ахвірыст кажа: скачы! Весялей скачы! Так скачы, каб бачыў я, што ты супраць савецкае ўлады ня маеш ніякае тугі... *(сьмяюцца).*

Сыроватка *(тоненькім набожным галаском).* От, сукін сын. Відаць, што вучоны.

*(Чуваць доўгі надрыўны са сьвістам, з піскам, з праклёнам кашаль. Здаецца, што ад гэтага бухканьня здрыгаецца ўся зямля. І дзіва, як чалавек не разарвецца ад яго ўшчэнт. Усе моўчкі слухаюць).*

Чырва. Гэта Малаштан. Толькі ён мае такі кашаль...

Певень. І дзе ён яго дастаў? Нібы заграпічны...

Чырва. Я пусьціў яму ў сэрца жука. Цяпер ходзіць у задуме... Пра ўладу... Вось паслухайце...

Малаштан *(перакашляў, падышоў да гурту).* Добрага вечара заможнікам ад незаможніка *(багацеям ад бедняка).*

Чырва. Добрага вечара, кумок. Усё з жартамі. Самі скора пойдзем у арганізацыю... Ну, як? Няма палёгкі?

Малаштан. Кашаль? У аднэй меры. Ды няхай сабе. Гэта я ў календары знаходзіў, што кашаль бывае ад інхвузорыі. Так што ён мне ня шкодзіць і не дапамагае. А ўжо вось тая штука, ведаеце, кум...

Чырва. Хіба зноў?

Малаштан. У, у, спаць не дае. Ляжаш, а яно табе ў галаву—тук... тук... тук... Але я такі дакапаюся.

Чырва. Што ў вас галава не абы якая, гэта я ведаю. Вы да ўсяго можаце дайці. Але на гэты раз ня верыцца, каб вы дакапаліся.

Малаштан. Дакапаюся. Я такі, што ўсяго дакапаюся. Бо мяне мучыць.

Певень. Што-ж яно, вантробу табе смокча ці што?

Малаштан. Э, гэта глупства. Тут зусім іншая інхвузорыя. Тут палітычная. Вось я бядняк Пятро Малаштан. Я нібы і свой чалавек уладзе. А якая ў нас улада?

Чырва. Савецкая.

Малаштан. Правільна, савецкая. Чыя гэта ўлада? Рабочых і сялян. А цяпер вы мяне і пытаеце: а як-жа гэта так, што ўлада рабочых і

сялян, а дыктатура пролетарыяту? Вось як вы тут? Праўду вы, кум Андрэй, казалі.

Чырва. Дзе я казаў? Не выдумляйце! Я ніколі ня думаў і ў голаву ня браў. Гэта выходзіць быццам: улада наша, а дыктатура ваша... Не, мне такога клопату ня трэба.

Певень. А ты гарэлкі з чартапалохам не прабаваў?

Малаштан. Гарэлкі? Не. Калі служыў па дварох, дык часамі, бывала, пакропіш душу. А цяпер не. Адчуваю, што яна мне не дапаможа. Тут трэба галавою...

Чырва. А я думаю так: будзь пакорным уладзе, калі ўжо і бог яе трывае. Вось табе і дыктатура. Вось хоць-бы і я. Ніколі і слова не сказаў супраць улады, падатак выконваю, жыву па закону і мне ўсё роўна. А вы, кумок, Пётра, усё думаеце, усё дакопваецеся. То селькору не давяраеце, то Ігнату Гароху. А ён-жа старшыня Сельсавету. Вось яно і выходзіць на грэх.

Малаштан. Не, я сваю справу ведаю. Не прашыбу. Я, ведаеце, кумок. Чаго я прышоў? Хачу заўтра паехаць у Зялёны Кут.

Чарва. Вось як. Чаго-ж гэта вам?

Малаштан. Трэба. А мая „рысачка“ наўрад, ці дацягне да ўзгорку. На аглоблю падае.

Чырва. Даў-бы я вам каня, але на заўтра самому трэба. Яно-ж цяпер так, сёньня жывеш, а заўтра можа... і паехаць куды трэба. Чулі-ж, зноў прыяжджаюць па хлеб? Охо-хо, як дрэнна, калі дзяржава галодная. Ахвяраваў-бы які пуд, адарваў-бы ад роту, але, дзе-ж яго ўзяць.

Малаштан. А яшчэ кажуць, што вы гаспадары. Дык і я-ж гаспадар ня горшы за вас, бо і ў мяне няма і ў вас няма.

Певень. Хто горшы? Ты? Ого! Цяпер такім, як ты, самае жыцьцё. Ну, і той ахвірыст таксама ня дурны. З гарадзкіх. Як унадзіўся быў да Каржа ў Высокім Кражы, дык дай і дай. Дзяржава, кажа, патрабуе хлеба. А я-ж хіба накармлю дзяржаву, адказвае Корж. Мяне самога недастача душыць з усіх бакоў. Вось вам, кажа, два пуды, ахвярую, бярэце, ды адчапецеся...

Сыроватка. Аж два пуды? Дык чаго-ж ім? А ён што?

Певень. Не, кажа, дзядзька, два пуды для нас мала. Усё роўна, што два хунты, на раз у рот і няма. (*Зарагаталі*).

Сыроватка. Гарадзкі...

Чырва. Ну, далей.

Певень. На раз, кажа, у рот. Прадай больш. Тагды ўжо не ўцярпела старая Коржыха. Дай, кажа, ім яшчэ два пуды, няхай будзе пяць, ды ідзеце сабе з богам, не дражнеце пад вокнамі сабак. Тагды ўжо Корж, як ні круціў, ня выкруціўся. А пасьля ўжо даў Коржычысе прычасьце, тры дні не ўставала з пасьцелі. Гэта, кажа, табе за тое, што такой разумнай стала, нібы дэлегатка. Наклаў тумакоў поўную пазуху.

Сыроватка (*ціха, богабаязна*). Я-б сваёй галаву адкруціў.

Певень. А з мяне—хіба зьдзяруць скуру. Не прадам і хунта.

Малаштан. Несправядліва!

Певень. Як несправядліва?

Малаштан. А так што несправядліва! Як гэта так ня дам, ня дам?

Чырва (*трывожна глянуў у Пеўней бок*). Вядома, што несправядліва. Як можна так гаварыць, ня дам і хунта. Улада, як не разарвецца, каб даскочыць сацыялізму, а тыя ня дам... Гэта-ж, як той сабака на сене: сам ня гам і другому ня дам. Вядома, што несправядліва, несьвядома. А я першы даў-бы, хоць сто пудоў. Але-ж... няма. А чаму-б ня даць. Трэба даць. Што набыў потам і кроўю—аддай... Вось калі-б у цябе кралі, ці рабавалі ўначы, тагды абараняйся. Ад зладзеяў абараняйся, бі іх, не шкадуй. А ўлада што-ж... У дзень прыходзіць і забірае... Так я думаю. Хто мае, той няхай дае. А хто ня мае, дык яшчэ яму павінны дадаць які пуд... Ці так я кажу, кум?

Малаштан. Дык што-ж, калі няма... Пайду... Выходзіць на сваёй „рысачцы“ трэба ехаць.

Чырва. Паверыце, кумок, не адмовіў-бы вам каня, але-ж самому трэба. Вось а першай гадзіне маюся выехаць. Можа дастану дзе які пуд хлеба, няхай хоць пахне ў хаце...

Малаштан. Ну, дык... (*закашляўся, махнуў рукою*). Бывайце. (*Пашоў*).

Чырва. Ідзеце здаровы (*да Пеўня*). З Малаштанам будзь асьцярожным. Ён хоць і кум мне, але ўсё такі... Цяпер і бацьку роднаму ня можна адкрыць сэрца.

Певень. Не баюся, што ён мне зробіць?

(*Здалёк чуваць комсамольская песьня*).

Чырва (*з гораччу*). Сьпяваюць... Не, ня тое цяпер жыцьцё.

Сыроватка. Ня тое...

Певень. Ня тое...

(*У вароты ўваходзіць Паранька. Адзета з прэтэнзіяй. На плячох стракаты шалік*).

Сыроватка. Дачку вам бог паслаў. Ну, і дзеўка. Мацак!

Певень (*рагоча*). Па мне пашла. Чаго цябе чэрці прыгналі?

Паранька. Бяз чорта вы ня можаце? І якога-б гэта я чорта чартыхалася? Добры вечар!

Сыроватка. Здарова, галубка. Гэта ты на бацьку так?

Паранька. Няхай не чартыхаецца. Якога-ж чорта? Самі чартыхаюцца, а ты маўчы. Якія пазаводзілі парадкі. Чуеце, тата, вунь Панцялей Іванавіч нешта хоча вам сказаць.

Певень. Гусак?

Паранька. Ды ён-жа. І якога-б гэта чорта я перапытвала? (*Каля варот зьявіўся Гусак*).

Гусак. На пару слоў, Макар Мітрафанавіч. Прабачайце, што адрываю ад гутаркі. Пільная справа. Добры вечар сумленным хлебаробам.

Чырва. Здаровы былі, Панцялей Іванавіч. Гуляеце?

Гусак. Нам з вамі няма калі гуляць.

Певень (*да Чырвы*). Ёсьць навіны. Ён аб нечым дазнаўся.

*Падыходзіць да варот і гутарыць з Гусаком. Той шэпча яму на вуха. Паранька дастае сланэчнік і пачынае спакойна, самаўпэўнена лускаць*).

Паранька. Перасмажыла крыху. Гаркавата.

Гусак. Вазьмеце пад увагу, Макар Мітрафанавіч. Хвіліна вельмі адказная. У сельсавеце дачуўся. Ну, няхай вам пашанцуе доля (*узяў Параньку пад руку*). Дазвольце?

Паранька. Яшчэ і пытае... Ог кавалер! (*пашлі*).

Певень (*устрывожаны падбягае да Чырвы*). Эх, і справа, каб я праваліўся! Заўтра прыяжджае з гораду з заводу рабочы.

Чырва (*усхапіўся*). Заўтра?

Сыроватка. Па хлеб?

Певень. Па тваю душу! Што рабіць?

Чырва. Ехаць!

Певень. Куды?

Чырва. На станцыю!

Сыроватка. Чаго?

Чырва. Спаткаць! Узяць да сябе! Ехаць!

Певень. Згодзен!

Чырва. Паедзеш са мною. А цяпер... цяпер разыходзьцеся... рабеце, што трэба па гаспадарцы. Ну, чаго-ж стаіце? Ідзеце! Гаспадарце! Няхай бог бласловіць!

(*Певень і Сыроватка хутка зьнікаюць. Чырва застаецца адзін. Нейкі час стаіць нярухома. Калі ўсё заціхла, ён паглядзеў на вуліцу, пасьля замыкае вароты вялікай завалаю. Месяц заходзіць за хмару. Цямнее. Чырва падыходзіць да хаты, стукае ў вакно*).

— Марта! Марта! (*з хаты выходзіць жонка*). Будзі Марылю, бярэце рыдлёўкі.

Жонка (*трывожна*). А што здарылася?

Чырва. Маўчок. Бярэце рыдлёўкі.

(*Жонка ідзе ў хату і праз хвіліну выходзіць з нявесткаю, у руках рыдлёўкі. Даюць Чырве ліхтар. Ён закрывае яго крысом халата. Усе трое ідуць углыб двара да старое хаты. Жанкі неасьцярожка бразнулі рыдлёўкамі*).

Чырва (*зацыкаў*). Ціха вы! Чуеце? Ціха!

*Цямнее.*

III

## Малаштану трапіліся два пасажыры

Маленькая станцыя „Зялёны Кут“. Пэрон. Буфэт—будка. Вельмі тоўсты буфэтчык і ня менш таўстая яго жонка рыхтуюцца да прыходу поезда.

Буфэтчык. Скора пасажырскі. Ня сьпі.

Жонка. Ня сплю. Чаго ты? Што рабіць з бутэрбродамі. Пацьвілі.

Буфэтчык. Дай сюды. Пацьвілі... Паднавіць крышку, вось і ўсё... Ніяк не навучу цябе. Забылася, што казаў Ленін.

Жонка. Мала чаго ён казаў.

Буфэтчык. Ня ўсё ведай. А гэта памятай: вучыцца гандляваць—казаў Ленін (*набірае ў рот вады, пырскае на брудную сурвэтку і пачынае „паднаўляць“ ёю бутэрброды*).

Грузчык (*падыходзіць*). Ну, што, Максімавіч, таргуем?

Буфэтчык. Вучымся.

Грузчык. Скора табе, Максімавіч, канец будзе.

Буфэтчык. Як гэта?

Грузчык. Соцыялізм задушыць.

Буфэтчык. Ну, мо‘ дасьць бог ня вельмі скора.

Грузчык. Сур‘ёзна кажу. Ёсьць чутка, што адбяруць у цябе буфэт.

Жонка. Калавур! Рабуюць!

Грузчык. І зусім не рабуюць, а выціскаюць.

Буфэтчык. Як выціскаюць? Як гэта так, што выціскаюць? Хто мяне можа выціснуць?

Грузчык. Хто-ж, цэрабкоп. Ён і выціскае прыватны капітал. А пакуль што, дай, Максімавіч, напавер дзесятак папярос. Аддам пасьля палучкі.

Буфэтчык. Бачыш, у доўг дай, а адстойваць мяне перад дзяржаваю няма каму.

Грузчык. Ну, гэта ўжо выбачай, Максімавіч. Кляса на клясу пашла! (*Гэтым часам на пэроне з пугаю зьяўляецца Малаштан. Ён спыняецца перад рэйкамі, утаропіўся і моўчкі стаіць. Грузчык узяў пяпяроскі, ідзе і натыкаецца на Малаштана*).

Грузчык. А маё шанаваньне!

Малаштан. Добрага здароўя.

Грузчык. Да поезду?

Малаштан. Ага-ж.

Грузчык. А чаго?

Малаштан. Мо‘ трапіцца пасажыр, зараблю якога рубля.

Грузчык. Наўрад.

Малаштан. А чаму? Можа і трапіцца.

Грузчык. Наўрад. Вось колькі гадоў я служу на станцыі і вы ўсё прыязджаеце, а яшчэ ніколі ня трапіўся вам пасажыр. Ніразу.

Малаштан. Ніразу. А можа... Я такі, што можа і дачакаюся.

Грузчык. Наўрад. Пасажыр, які едзе, дык ён бярэ добрыя драбіны, альбо каламажку (брычку). А іць у вас якая канячка? Ад ветру падае.

Малаштан. У мяне? Э, не кажэце. Добрая матка была. Вы не глядзеце, што яна такая, нібы дурная. Яна яшчэ і цяпер, калі пойдзе спачатку, толькі торкай. Праўда, харчы дрэнныя.

Грузчык. Наўрад. Але вы ня тужэце. У газэтах пішуць, што цяпер для беднага і серадняцкага сялянства палёгка будзе.

Малаштан. А чаго? Я і так гаспадар. Вядома, як я адчуваю па сабе, дык я бядняк. Ну, а з беднякоў таксама не вялікі даход дзяржаве. А тут і ў іншых хлеба ня больш, як у мяне. Вось хоць-бы і мой кум Чырва, дык паверыце, я вось гэта паехаў на станцыю, а ён падаўся недзе, каб дастаць які пуд хлеба, каб хоць пахла ў хаце. Вось вам і гаспадар.

(*З будынка выходзіць начальнік станцыі*).

Начстанцыі. Ярмалаенка! Званок пасажырскаму.

Грузчык. Зараз. Адкуль вы ведаеце, што ён ня брэша?

Малаштан. Кум Чырва? Э, што вы. Дзяцей хрысьціў: Мітрыка, Кузьму і Машку хрысьціў. У госьці запрашае, за стол садзіць і частуе: „Кушайце, кумок, не інтэрэсуйцесь". А гэта-ж, кажа, паеду пашукаю, хоць пуд на пражыцьцё. Не, я такі, што не прашыбу. Няма ў чалавека.

Начстанцыі. Ярмалаенка!

Грузчык. Ня ведаю. Ну, я так скажу, што цяпер таксама народ пашоў... стэрвы. Тут адзін прыяжджаў, ох і стэрва... А ў мяне раз кум грошы ўкраў. Так што наўрад.

Начстанцыі. Ярмалаенка!

Грузчык. Ды пасьпеем (*ідзе да званка і звоніць*).

(*Са станцыйнага будынку на пэрон вылазіць некалькі пасажыраў. У руках клункі, кашолкі, саквояжы і інш.*).

Гандлярка. Пасунься, грамадзянка, ня бачыш.

Пасажырка. А вы ня лезьце на ногі, нахаба.

Гандлярка. Хто нахаба? Ах, ты, задрыпанка.

Пасажырка. Ну, вы, ня штурхайцеся! Станьце ў чаргу!

Гандлярка. Ды я яе, лахудру, штурхану. Я яе штурхану!

Пасажырка. Адчапецеся, нахаба!

Гандлярка. А, ты так? Прыбяры, кажу, табе, паскубанае куранё.

Начстанцыі. Ярмалаенка, супакойце грамадзян.

Грузчык. Ты, прыватны капітал, і калі на цябе выцясьненьне прыдзе? Стань у чаргу.

Малаштан. А колькі на ёй крамніны...

(*Грузчык выкочвае тачку з багажом. Начстанцыі становіцца скраю пэрона. Падыходзіць поезд. Пасажыры кідаюцца да вагонаў. Адтуль*

*выходзіць некалькі чалавек. Яны хутка зьнікаюць за станцыяй, кідаючы на хаду):*

І пасажыр. Паважаньне Пятровічу!

Грузчык. З прыездам (*пакаціў тачку*).

II пасажыр (*да буфэтчыка*). Гарачыя піражкі ёсьць? (*некалькі чалавек абступае буфэт*).

Буфэтчык. Сьвежыя бутэрброды!

III пасажыр. Хурман!

Хурман (*падбягае*). Паедзем? (*хапае саквояж, зьнікаюць. Малаштан толькі, толькі хацеў падыці, а пасажыр ужо і зьнік. Ён бярэ пад руку пугаўё і чакае. З вагона выходзіць Дудач*).

Хурман. Паедзем? Вам куды? Эх, давязу!

Дудач (*падыходзіць да Малаштана*). Таварыш, да Гарбачоў далёка?

Малаштан (*спужаўся, сумеўся*). Да Гарбачоў? Дык я... сказаць, і сам з Гарбачоў. А вам можа па дарозе?

Дудач. Проста ў Гарбачы.

Малаштан. Няўжо? У самыя Гарбачы? Гэта ў вас там сваякі, ці так знаёмыя людзі?

Дудач. Справы. Ну, колькі возьмеце, ды давайце ехаць. (*Да іх падыходзіць Нябаба, таксама з поезда. Тым часам б'е два званкі, поезд адыходзіць*).

Нябаба. Таварыш, вы наймаеце хурманку?

Дудач. Так.

Нябаба. Да Гарбачоў?

Дудач. Так.

Нябаба. Я еду з вамі.

Дудач. Запытайцеся ў чалавека, як ён.

Нябаба. А чаго тут пытацца. Адзін пасажыр лепей, чым ніводнага, два—лепей, чым адзін (*да Малаштана*). Згаджаецеся, таварыш? Чакайце! Дык гэта-ж таварыш Малаштан! (*дае руку*).

Малаштан. А так, Малаштан. Пятро Малаштан.

Нябаба (*весела*). Ніякага сумненьня (*да Дудача*). А вы, таварыш, адкуль едзеце?

Дудач. З акругі.

Малаштан. Можа ад улады?

Дудач. Га? З заводу.

Нябаба. Ну, вось бачыце, я так і ведала, што вы—таварыш Дудач. А вы не прызнаецеся.

Дудач (*зьдзіўлена*). А вы адкуль ведаеце?

Нябаба. Я? Вось табе і на! Як адкуль? (*дае руку*). Нябаба, агітпроп Гарбачоўскае ячэйкі камсамолу. Значыць, да нас на хлебазагатоўкі?

Дудач (*засьмяяўся*). Праўда, што ня баба. Усё ведаеце...

Нябаба. Трохі перабольшваеце. Так сёе-тое ў раённым маштабе. А вы вёску ведаеце?

Дудач. Ведаў, але забыўся.

Нябаба. Дрэннавата. А Гарбачы ведаеце?

Дудач. Дрэнна!

Нябаба. Будзеце ведаць. Па дарозе я зраблю вам такі інфармацыйны даклад. Пашлі.

Малаштан. А... таварыш, вы сапраўды з заводу? Чысты пролетары?

Дудач. Га? Ня вельмі чысты. Не пасьпеў як сьлед памыцца, проста з заводу.

Малаштан *(яшчэ больш углядаецца)*. Проста з заводу? Гм. Вось справы! *(замятусіўся)*. Пойдзем! А ў нас і гутарка была. Няма і пуда! Хоць плач...

Нябаба. Э, таварыш Малаштан, бачу, што ў дарозе прыдзецца адкрыць спрэчкі.

*(Пашлі. Насустрач ім выбягаюць Чырва і Певень).*

Певень. Няўжо прамаргалі? не, вось яны.

Чырва. Дазвольце запытаць, ці ня з гораду будзеце?

Дудач. А што такое?

Чырва. Ды мы вось у раёне даведаліся, што маюць прыехаць таварышы. Можа давезьці вас да Гарбачоў?

Нябаба. Ня трэба. Мы ўжо дагаварыліся (*дае знак Дудачу*).

Чырва. З кім?

Нябаба. А вось з чалавекам.

Чырва *(вельмі зьдзіўлены)*. Кум! Гэта вы павезяце? У вас-жа кабыла на аглоблю падае.

Малаштан. Хто? Мая рысачка? А ну давайце навыперадкі!

Чырва *(да Дудача)*. У мяне поўныя драбіны саломы, а тут будзеце на гэтым ламаччы трэсьціся...

Дудач. Нічога. Няпершыня.

Нябаба. Даедзем!

Малаштан. Не, кумок, гэта пасажыры мае! Дванаццаць гадоў чакаў *(узяў пад руку пугаўё і горда)*: Хадзеце, таварышы, да майго хваятона! *(Пашлі).*

Певень. Вы чулі?

Чырва. Гэтага ня можа быць.

Грузчык *(зьяўляецца)*. А, стэрва... не пашанцавала... сайдзі з пэрону *(мяце)*.

Чырва. Едзьма за імі!

Певень. Едзьма!

(*Пабеглі).*

*Заслона.*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### IV

### **Шэсьць тысяч пудоў**

Памяшканьне райкому партыі. Раніца. У пакой ускочыла Нябаба, адчыніла акно. На яе бліснула сонца. Радасна ўсьміхнулася. Падышла да тэлефону, які вісіць на сьцяне. Пакруціла.

Нябаба. Райвык! Райвыканком? Старшыню райвыканкома да тэлефону. З партыйнага камітэту. Таварыш Чабаненка? Праверце ваш гадзіньнік, ён у вас валочыцца ззаду на хвілін пятнаццаць. Мінімум. Ня крычэце, а зараз-жа ідзеце на пасяджэньне. Усе чакаюць. Таварыш Дудач кажа: „ну і арганізаванасьць у нізавым апараце"... *(Павесіла трубку. Раптам, прыкмеціўшы некага на вуліцы, бяжыць да вакна і гукае):* Вася! Кацiся сюды! Раз, два (*чакае. Уваходзіць піонэр*). Будзь гатоў!

Піонэр. Заўжды гатоў!

Нябаба. Куды разагнаўся, Васюк?

Піонэр. У штаб. Сёньня паход.

Нябаба. Вельмі добра. А па дарозе заскоч у нардом, знайдзі Каваля і скажы яму так: „ты, што-ж гэта, сакратар каэсэму, чакаеш на асобнае запрашэньне? Камісія даўно сабралася, а ты ня йдзеш? Кацiся, скажы, да райкому!"

Піонэр. Ёсьць.

Нябаба. Чакай. Далей зрабі налёт на сакратара райкому. Скажы гэтае самае і дадай: „Ужо чвэртка дзевятае".

(*Уваходзіць Каваль*).

Каваль. Дзе чвэртка дзевятае?

Піонэр. Ёсьць! Адзін ужо тут. Бягу да Вялічкі (*пабег*).

Нябаба. На аднэй назе, Васюк.

Каваль. Дзе тая чвэртка дзевятае, калі і васьмі яшчэ няма?

Нябаба. Сапраўды? А я і ня ведала. Я вам вельмі ўдзячна, таварыш Каваль.

Каваль. Як відаць, ты ўсім сказала, што ўсе сабраліся?

Нябаба. Не, я сказала ім, што ўсе яшчэ сьпяць. Каб не сьпяшаліся. Хлеб-жа ня воўк, у лес не ўцячэ. А калі прыдзе Дудач, дык хіба ён ня зможа пачакаць Каваля?

Каваль. Ну даволі. Прыдумала добра, а чаго задавацца? Матэрыялы з акругкому прывезла?

Нябаба. Усе. Зацьвердзілі і анкеты.

Каваль. Добра (*пахмура*). А чаму так доўга была?

Нябаба. Хіба? А мне тыя некалькі дзён, калі я ня бачыла вось гэтае морды, праляцелі нібы матылькі. І так, нібы пасьля прыемнага сну, няпрыемная рэчаістасьць: прачынаешся, а перад табою морда.

Каваль. Слухай, Аксана...

Нябаба. Нябаба маё прозьвішча.

Каваль. Аксана.

Нябаба. Нябаба. І вось што я, між іншым, хацела табе сказаць. Ты гэтую мэтафізыку пакінь.

Каваль. Як гэта мэтафізыку?

Нябаба. А так. Мэтафізыку і ўсякі ідэалістычны туман. Ты спачатку падыдзі крытычна. Якое можа быць каханьне між сэкратаром камсамолу і агітпропам таго-ж самага раёну? Чакай. Я аналізавала гэтае пытаньне ўважна. Ніякага! Напрыклад, сэкратар і агітпроп. А пасьля раптам каханьне...

Каваль. Чаму-ж раптам? Нішто ня бывае раптам. Усё разьвіваецца. У змаганьні, у рабоце, разумееш, яно разумееш...

Нябаба. Не, не разумею. Ёсьць важнейшыя справы.

Каваль. Яно патроху, разумееш так... Я, разумееш... Ну, ты-ж мяне крыху разумееш?

Нябаба. І крыху не разумею. Гэтае пытаньне яшчэ не праароблена. І наогул, што такое каханьне? (*у лятуценьні, паволі захапляючыся*). Гэта-ж такая буза... Такая, Паўлуня, буза! Калі закахаецца чалавек у якога-небудзь (*да яго*) дурня... і вось, калі пабачыць яна яго на камсамольскіх сходах, калі ён блісьне вачыма, скажа: „таварышы камсамольцы!“ і чупрыну вось так рукою. А яна, як шоўкавая хваля,—хіль назад... Таварышы камсамольцы, і голас такі... такі... ну, як табе сказаць... моцны, заўзяты, малады. Малады, ак раніца! І тагды адчуваеш, быццам зямля робіцца такою лёгкаю, а сілы ў цябе іграюць, быццам... (*Каваль углядаецца сваімі бліскучымі вачыма, захапляецца яе словамі*)... мора! Так!

Каваль. Іграюць?

Нябаба. Так!

Каваль. Як духавая музыка!

Нябаба. Быццам вецер дзьме на грудзі!

Каваль. Правільна! Вось ты правільна прарабляеш пытаньне! Страшэнна цікава!

Нябаба. Чакай. І тагды... і тагды, разумееш, Паўлік, ня страшны чорт. Вось змаганьне. У нас цяпер змаганьне. Дыктатура, ты ведаеш, што гэта такое? Гэта,—калі вораг зломлен, але не дабіты, і ён падымае галаву і сочыць за кожным тваім крокам...

Каваль. Правільна, але ня точна. Я ведаю точнае вызначэньне, дыктатуры... Ленінскае! (*дастае запісную кніжку*). Вось!

Нябаба. І ён сочыць за тваім крокам.

Каваль. Точнае! Гэта ўжо я напэўна ведаю. Мы-ж прарабялі гэтае пытаньне.

Нябаба. За кожным крокам (*уваходзіць Вялічка, слухае*). А табе ня страшна. Бо ты ведаеш, што пераможаш. Ня можаш не перамагчы. Павінен перамагчы. І жыцьцё такое цікавае, вялікае, як сьвет. А сонца сьвеціць, сьвеціць, нібы дурненькае. Пасьля, калі доўга ня бачыш, тагды

робіцца нейк страшна, быццам нешта цяжкае налягае... (*уздрыганулася*). Адным словам, гэта, Паўлуша, такая буза, такая буза...

Каваль (*захоплена*). Аксана! (*Хоча ўзяць яе за рукі*).

Вялічка (*кашлянуў*). Нябаба, што такое буза? (*праходзіць да стала і кладзе партфель*).

Нябаба (*ніякава*). Так... пустое... разумееш... буза, гэта такі продукт, як і малако...

Каваль. Тэорэтычныя спрэчкі...

Вялічка. Пра што?

Нябаба. Неактуальна. Словам, буза, Мэтафізыка.

Вялічка. Згодзен, што неактуальна. Ты сказала, што ўсе ўжо тут.

Нябаба. Я сказала ўсім аднолькава. Дудач кожную хвілінку можа зьявіцца.

*Уваходзяць*: *Чабаненка, Нечай, Гарох.*

Чабаненка. Каторая гадзіна, таварышы?

Нябаба. Бяз двух хвілін восем. Вы сёньня на зьдзіўленьне акуратны.

Вялічка. Добра. Ты добра прыдумала. Ну, хлопцы... Ага, як там таварыш Дудач?

Нябаба. Спыніўся ў Малаштана. Там такі вэрлах. Учора, калі мы ехалі са станцыі, Чырва ўсю дарогу заглядаў у наш воз. То міне, то зноў застанецца ззаду.

Вялічка. Ня ўкусіш!

Нябаба. Прыгатавалі вячэру. Прышлі да Дудача і просяць: пойдзем, не пагрэбайце мужыцкім хлебам, сольлю. Прыходзілі ўдвох з Пеўнем.

Чубаненка. А ён.

Нечай. Пашоў.

Нябаба. Падзякуваў. Пажадаў прыемнага апэтыту.

Каваль. Ну, будзе работа. Ох, будзе работа.

Вялічка. Так, таварышы, работы ня мала. Прыдзецца паваяваць.

Нябаба. Нястрашна! Налажыць на іх адразу па пудоў сто пяцьдзесят. Добра, што прыехаў Дудач. У яго слова моцнае.

*Уваходзіць Дудач.*

Нябаба. Роўна восем гадзін.

Дудач. Га? Здаровы, таварышы! (*Вітаюцца*).

Вялічка. Старшыню райвыканкому вы ўжо ведаеце. Сэкратар камсамольскае арганізацыі. Старшыня Гарбачоўскага сельсавету. Старшыня комбеду. І нарэшце вось (*на Нябабу*), як бы вам сказаць... гэта наш...

Дудач. Агітпроп (*Дружна сьмяючыся, паціскае Нябабе рукі*).

Нябаба. Вам Чырва і Певень ня сьніліся?

Дудач. Не, я добра спаў. У гумне. Страха прадрана і зоркі відаць. Такі... ведаеш... Прырода. Прачынаюся і што такое? Гудок! Выходжу на двор, аж гэта Малаштанаў хлопчык у дудку дзьме.

Вялічка. Пачнем, таварышы *(садзяцца да стала)*. Каб не зацягваць, я адразу скажу лічбу. Наш раён павінен даць семдзесят тысяч пудоў.

Дудач. Так. Роўна семдзесят тысяч.

Вялічка. Таварыш Чабаненка, ты маеш слова.

Чабаненка. Коратка. Агульная лічба можа быць толькі пабольшана. Так. І ні ў якім разе так? Ні ў якім разе ня зьменшана. Усе мы гэта добра разумеем. Але пры разьмеркаваньні, так? пры разьмеркаваньні можна зьменьваць. Прапаную камісіі такое разьмеркаваньне. Так? Прашу азнаёміцца *(кладзе перад кожным членам камісіі аркуш)*.

Гарох. *(паглядзеўшы ў аркуш)*. Чатыры тысячы?

Вялічка. Што чатыры тысячы?

Гарох. На Гарбачоўскі сельсавет прыпадае чатыры тысячы! Гэта разьмеркаваньне!

Чабаненка. А што-ж? Гарбачы—вялікае сяло. Так? і хлебнае.

Гарох. Усё роўна. Такі момант, што больш трох наўрад ці возьмем.

Вялічка. Таварыш, Гарох, што гэта? Адступленьне.

Каваль. Дазвольце. Ні ў якім разе нельга дапусьціць зьмяншэньня з Гарбачоў. Тут мы ня можам зрабіць назад ніводнага кроку. Я прапаную, таварышы...

Вялічка. Што-ж ты прапануеш?

Каваль. Шэсьць тысяч.

Нябаба. Мінімум! І бяз панікі, таварыш Гарох. Спакойненька загатовім шэсьць тысяч пудоў.

Вялічка. У Гарбачох?

Каваль. Так. У Гарбачох можна нагатовіць шэсьць тысяч. Я сам з Гарбачоў. Ведаю. А вось з Кляновага трэба на дзьве зьменшыць. Гэта серадняцкае сяло з вялікім процантам беднякоў.

Вялічка. А ведаеш? Ты маеш рацыю.

Нябаба. Вось тут ты маеш рацыю.

Гарох. Я не магу. Такі момант, што не бяруся...

Вялічка. Баішся Чырвы? Мы пашлем да вас таварыша Дудача.

Нябаба. Ты таксама паедзеш з Дудачом.

Каваль. Ну, і я, зразумела, таксама еду!

Дудач. Чаго пытаеш?

Вялічка. Добра. Мабілізуй увесь камсамол. Слова мае старшыня Комбеду.

Нечай. Мы падтрымліваем шэсьць тысяч. Хоць бядняк і нямнога дасьць, ну багацейшая частка зможа даць больш. Ня будзе пакрыўджаны

і серадняк, а калі дасьць які дзесятак пудоў, дык не прападзе, а яшчэ паправіцца. Так што можна запісаць у плян.

Вялічка. Галасую! Хто за такое разьмеркаваньне, прашу падняць рукі (*усе апрача Гароха падымаюць рукі*).

Нябаба. Таварыш Гарох? А вы?

Гарох. Я... гэтага... Ня буду іці супраць усіх... Такі момант (*падымае руку*).

Нябаба. Так бы адразу. Нічога, таварыш Гарох, ня бойцеся, памаленьку справімся.

Вялічка. Аднагалосна. Будзем прасіць таварыша Дудача пачаць з Гарбачоў. Ад посьпеху справы ў Гарбачох залежыцьме справа загатоўкі ва ўсім раёне.

Чабаненка. Бязумоўна. Так? Гэта бясспрэчна.

Каваль. Ясна! (*нахмурыўся*). Трэба прылажыць усе сілы.

Дудач. А ну, дай слова. Я ня ведаю сяла Гарбачоў, так, каб бяз промаху. Ня ведаю, ці зможа даць столькі, колькі тут вызначана.

Каваль. Зможа, таварыш Дудач!

Чабаненка. Мы-ж ведаем. Так? Ведаем сваё сяло?

Дудач. Дык вось, плянуйце так, каб не па формуле, а бярэце мазгамі і сэрцам. Бо ўсю вызначаную суму раён, што-б ня было, павінен падняць. Дык вось... Дадай да пастановы мой голас. І даволі гаварыць, што прыложам усе сілы. Гэта вядома і так. Абавязак перад пролетарскаю дзяржаваю і ніякая мутэрка. Там спадзяюцца, што мы тут ня будзем спаць. Сёньня-ж станаўлюся на работу.

Нябаба. Кропка. Зрыву ня можа быць.

Каваль. Таварыш, Дудач... Ды мы... мы з-пад зямлі выкапаем, а дамо!

Дудач. Добра. Як бачу, гарачы. Глядзі не астынь. Сёньня будзем гутарыць з беднякамі.

Нечай. Сход назначан на дзесятую гадзіну.

Дудач. (*да Каваля і Нябабы*). Запрасеце камсамольцаў. Трэба, каб яны былі ў курсе.

Вялічка. І апошняе: трэба рабіць так, каб Чырва і яго сябры не дазналіся да сходу пра раскладку на Гарбачы. Пастарайцеся зрабіць уплыў на беднякоў.

Каваль. Ясна.

Усе. Не дазнаюцца.

Нябаба. Сярод беднякоў правакатараў няма.

Малаштан (*прачыніў дзьверы, спыніўся на парозе*). Дазвольце заявіць.

Дудач. Што такое? Га?

Малаштан. Беднякі сабраліся, просім да нашага парлямэнту!

Цёмна.

## V

### Расьпятыя на крыжох

Ноч. Старыя вясковыя могілкі. Цёмна. Здалёк чуваць глухі царкоўны звон. Раптам дзесьці загуў трактар. Недзе блізка праходзяць камсамольцы. Чуваць песьня. Тагды чатыры постаці ўскакваюць з магілы і хаваюцца за крыжамі, расьпінаючыся на іх. Тры камсамольцы з песьнямі ідуць паўз могілкі.

„Ой, устала сонца раным-рана,
Ў лузе чутна рэха лоскат.
Гэй, выходзьце-ж вы, выходзьце
Хлопцы-новабранцы.

Трубы гучна заігралі,
Вецер вее, б'е крылом.
Ну, бывайце, усе бывайце
Й ты наш Выканком"...

I камсамолец. Стойце! Быццам-бы крыж зварухнуўся.

III камсамолец. Кінь. Дурман пускаеш.

I камсамолец. Дай кіну грудаю.

III камсамолец. Ды кінь. Хуліганства. А яшчэ камсамолец!

II камсамолец. Хлопцы, а здорава сёньня Дудач гаварыў! Вось дзе сіла! Рукі ў яго ты бачыў? Залеза можна крышыць.

III камсамолец. А мяне напаткаў Певень. Слухай, кажа, Алесь, ну чаму-б табе не сказаць, якую там зрабілі пастанову. Мая-ж Паранька таксама хоча запісвацца ў камсамол *(хлопцы сьмяюцца).*

*(Зноў чуваць туркаценьне трактара).*

II камсамолец. Чуеце? Трактар! Гэта прывезьлі ў колектыў. Прабуюць. Гайда!

III камсамолец. Гайда! Паглядзім! *(Пашлі).*

*(Цішыня. Далёка недзе пяюць пеўні. Чатыры крыжы хістаюцца, нібы з іх сходзяць расьпятыя. Лёганькі сьвіст. Тагды „крыжы" рушыліся з месца і сходзяцца на сярэдняй магіле).*

Чутно: Фіць! *(крыжы апускаюць рукі).*

Чутно: *(Яшчэ раз).* Фіць.

*(Чырва, Певень, Сыроватка і Рамашка садзяцца на магілу).*

Усе. Пашлі! *(Павуза).*

Сыроватка. Вы чулі?

Усе. Што? *(Павуза).*

Сыроватка. Я чуў!

Усе. Што вы чулі? Што? Што?

Сыроватка. Залеза можна крышыць. *(Павуза).*

Чырва. Можна. Мы будзем крышыць залеза. Чуе маё сэрца, што там нешта робіцца. Чаму яго так доўга няма?

Сыроватка. І маё чуе.

Певень. І маё.

Рамашка. А маё нічога ня чуе. Чаго мы сюды прышлі?

Чырва. Ня чуе? Глухое яно ў цябе.

Рамашка. Ды хто-ж яго ведае, як яно будзе. Можа і дрэнна, што мы вось сабраліся, да яшчэ на могілках.

Певень. Як гэта дрэнна?

Чырва. Ш-ш. Ня крычы!

Певень. Ня я крычу, душа крычыць.

Чырва. За звычай продкаў! За сьвятую зямлю, якая ведае толькі гаспадара. І толькі яму яна дае свой хлеб сьвяты. А хто чужы, зямля памсьціцца.

Рамашка. Ну, есьці-ж трэба і яшчэ каму-небудзь.

Чырва. Запытайся ў гаспадара. Ён табе вызначыць цану. І што прадасьць, тое і будзеш мець.

Рамашка. Хто-ж яго ведае, хто цяпер гаспадар. А ведаеце што? Заўтра на сходзе аба ўсім дазнаемся. Хіба-ж ня можна пачакаць. Чаго нам сьпяшацца? Усё роўна. Як людзі кажуць: хутка дагоніш ліха, ці яно цябе дагоніць. Так што ўсё роўна.

Чырва. Маўчы, Рамашка, ты нічога не разумееш, бо ты сабе серадняк, а на нас кажуць, што мы кулакі. Гэта-ж крыўда. Каго мы кулачым? А якая богупрацiўная назва.

Рамашка. Так, назва няпрыемная, няма чаго казаць.

Чырва. Каго мы кулачым? Няхай таму скулачыць розум. Чым-жа ты, Рамашка, не падобны на нас? Чым? Мы ўсе аднальковыя.

Певень. Усе.

Чырва. Нам усім дарагая ўлада. Мы не паны. Мы сумленныя хлебаробы.

Рамашка *(кашлянуў)*. Вядома. Яно, як на чый погляд.

Чырва. Госпадзі! Ты сказаў есі: паленам таго, хто не бароніць свайго. Ты сказаў праўду.

Рамашка. Дык каго-ж паленам?

Чырва. Каго?

*(Здалёк чуваць, як кашляе Малаштан).*

Чырва. Гэта кум.

Певень. Ён.

Чырва. Лажэцеся. Я пайду насустрач яму. Замрэце! (*Трое разам лажацца на магілу. Чырва зьнікае. Чуваць сьпеў мужчынскага голасу*).

> Чаго мне так сумна, і цяжка і важка,
> Скажы, Украіна, чаго мне, чаго.
> Так цяжка і важка, так важка і цяжка
> Што й сэрца спакою ня знойдзе свайго...

Рамашка. Гусак з вашаю Параськаю. Нешта ён намерыўся, а браць не бярэ.

Певень. Нічога, Паранька такая, што і сама возьме.

Сыроватка. Ціха.

(*Зьяўляюцца: Гусак і Паранька*).

Гусак. (*Пад гітару падпявае*):

> Штой сэрца свайго я ня ў сілах суняць
> Ня здолею выказаць слова яму
> Цяпер ты, Украіна, ня родна ўжо маці
> Таму мне і цяжка і важка таму...

Сам напісаў. Украінскі раманс. Балючая песьня нашага стэпу і магіл. Эх, швэцкія магілы... далёкі ў марах небасхіл... Каб ты ведала, Паранька, які нязломны дух буяе ва мне.

Паранька. Ну? Вялікі?

Гусак (*пахмура*). Ня ведаю, што змагу зрабіць адчуваючы такую сілу.

Паранька. А, няхай яго чорт. Можа для гэтага і завёў мяне сюды? (*Туліцца*).

Гусак. Навошта? А-а... Не, ты не разумееш мяне. Унутраная сіла. Талент. Зразумей—я самотны. Я і мой талент, нас двое. Калі быў у сталіцы, колькі я напісаў цудоўных вершаў. Неперабольшваючы скажу—геніяльных. І што-ж? Вычысьцілі. Прышпілілі кулацкі ўхіл. Хто? Барабанныя поэты, стэрвы, малпы, халуі... Але-ж хіба ты разумееш мяне?

Паранька. Не разумею, хіба я маленькая? Кажаш сіла. Што-ж сіла, калі яна падурному гуляе і марна прападае.

Гусак. Чаго-ж падурному? Пакуль што няхай кіпіць. Няхай кондэнсуецца вось тут...

Паранька. Дзе?

Гусак. (*Б'е сябе ў грудзі*). Вось тут.

Паранька. А-а... (*насупілася*).

Гусак. Вучыўся... працаваў... для народу. Сама падумай, Параня.

Паранька. Ты-ж на вэтэрынара вучыўся, а кажаш для народу. З вэтэрынараў вычысьцілі, а цяпер без пасады.

Гусак (*цьвёрда*). Памыляешся. Я буду працаваць у сельсавеце. Ужо і цяпер даюць сёе-тое перапісваць (*дэклямуе*):

> Цяпер ты, Украіна, ня родная ўжо маці
> Таму мне і цяжка і важка таму.

А перапісваць, значыць мець у руках усе таямніцы. Я скажу табе адкрыта. Кахаю цябе. Моцна і рацыянальна. Бязумна кахаю.

Паранька (*падае на яго*). Як ты гаворыш!... Бязумна... о-о-о-о-х.

Гусак. Але танна не магу. Хоць тысячу рублёў няхай дасьць твой бацька.

Паранька (*млява*). Карову-ж даюць.

Гусак *(сурова)*. Што мне карова? Я поэт! *(падумаў)*. Карову няхай даюць асобна, а тысячу рублёў асобна. І тагды... Ты разумееш. Тагды...

Паранька. А ты-ж ня кінеш?

Гусак. Карову?

Паранька. Ды не. Чаму-ж карову?

Гусак. Цябе? *(пахмура)*. Як жа я кіну? Ты-ж ня папяроска, што дакурыў, ды кінуў.

Паранька. *(млее)*. Мяне ня скора й дакурыш. Хопіць на ўсё жыцьцё. Тата казалі, што, як толькі выйграюць з хлебазагатоўкамі, дык адразу і вясельле. Хлеб прададуць на вольным рынку.

Гусак. Я згодзен. Мне трэба прыбіцца да прыстані. Інакш другую знайду. Цяпер вольны гандаль. Гэта ўлада на мясцох душыць. Скажы бацьку, няхай не баіцца, ды хутчэй няхай прадае, бо мне таксама, думаеш, лёгка цярпець? Ты ня ведаеш, што робіцца ў маей душы. Грошы мне патрэбны, як вада, як поэзія. Няхай зараз-жа прадае.

Паранька *(лісьліва)*. Зарррраз. А пакуль што не датыкайся да мяне, бо я за сябе ня ручаюся... *(туліцца да яго)*. А я ў бацькі адзіначка.

Гусак *(холадна)*. Ня турбуйся. На алімэнты не наскочу.

Паранька. Я і не турбавала... на чорта мне алімэнты? Свайго хопіць.

Гусак. На слова толькі дурань верыць. Лепей пасьля хлебазагатовак.

Паранька. А яны-ж доўга будуць?

Гусак. Заўтра сход. Генеральны бой. Можна сказаць, раўненьне з многімі невядомымі. Гэта-ж трагічная тэма. Вось слухай. Сёньня напісаў. Хочаш прадэклямую?

Паранька (*амаль шэптам*). Прадэклямуй хорашанька!..

Гусак. Параня, я цябе да культуры прылучаю, а ты ўхіляешся ў фізыолёгію. Адкінь натуралізм і слухай верш, як мастацкі твор... (*чытае*)

> І сумна і радасна, ясна у небе,
> Параня праз тры дні ужо будзе мая.
> А покуль што доля залежыць ад хлеба
> Ня ў сілах таго ўжо і выцерпець я.
>
> Хацеў бы пакласьці ўжо грошы ў кішэню,
> Схіліцца на палкія грудзі твае,
> А покуль—парожна і пуста у жмені.
> Ой, горкія дні, Украіна, твае...

(*з гораччу*) думаеш надрукуюць? Не надрукуюць. Хацеў пасланць у рэдакцыю. Раздумаў. Хіба ім патрэбна мастацтва. Ды ў мяне ёсьць для рэдакцыі, вось (*дастае вялікі сшытак. Псэўдонім Тодар Чацьвяртак*).

(*Чуваць гоман. Набліжаецца Чырва і Малаштан)*.

Паранька. Пойдзем да млына, там прадэклямуеш... (*абымае*)

**Гусак.** Хадзем. Толькі да вясельля не абымай і не надзейся. Я чалавек арганізаваны. Няхай спачатку прададуць хлеб...

А покуль парожна і пуста у жмені,
Ой, горкія дні, Украіна, твае...

*(Пашлі. З другога боку выходзяць Чырва і Малаштан з сеткаю)*

**Чырва.** А вы, кумок, усё рыбку ловіце? Злавілі што-небудзь?

**Малаштан.** Ды вось... *(паказвае вядзерца)*. На квас. Чужы чалавек у хаце, трэба сьвежанькага. Дзесяць карасікаў злавіў. Трапечуцца. І ім жа жыць хочацца.

**Чырва.** Ох-хо-хо-хо. Жыцьцё! Якая гэта цяжкая штука. Вось так і чалавек б'ецца, як гэтая рыба. Вось хоць-бы і той таварыш. Хіба яму на заводзе соладка? Але і тут ня лёгка сабраць гэты хлеб. Ужо-ж мо, зацьвердзілі колькі там?

**Малаштан.** За... Э, кумок, не магу сказаць...

**Чырва.** Ды не кажэце сабе. Я-ж ня прымушаю, бо ведаю: калі ня можна, дык ня можна. На тое-ж і арганізацыя... Ну, але калі мы з вамі ўсё роўна, як браты, верым адзін аднаму, ніколі я вас ня скрыўдзіў і не пакрыўджу. Лепей у зямлю пайду, дык вось запытаў. Але, як ня можна, дык бог з вамі, кумок.

**Малаштан** *(крыху паддаўшыся)*. Я сказаў-бы вам, кумок, але...

**Чырва.** Я-ж ня прымушаю...

**Малаштан.** Вось таму я і веру вам, кумок. Вы-ж ня Певень. Той шкодная інхвузорыя. А вам і сам ня ведаю як. Веру вам. Але-ж у вас хлеба няма?

**Чырва.** Ня вам-бы, кум, пытацца. Бывайце: правёў вас крыху, а мне яшчэ аж на хутар іці.

**Малаштан.** Слухайце, кумок! Сёньня на пасяджэньні за вас выступаў супраць усіх. Ну, прызнаючыся... на наша сяло налажылі шэсьць тысяч пудоў.

**Чырва.** Мала... (*захлынуўся*).

**Малаштан.** Так што і на вас, кум, даруйце за слова, паўтараста пудоў прыпадае.

**Чырва** (*ціха ікнуў*). Паўтараста?

**Малаштан.** Ну, я ня вінен. Я быў супраць, бо ведаю, што ў вас няма.

**Чырва.** Паўтараста! Ня мне клопат, а ім. Хіба кажух зьдзяруць. Вось гэта і ўсё маё багацьце.

**Малаштан.** Ды вы ня тужэце. Можа яно яшчэ і пераменіцца.

**Чырва.** Пераменіцца? Можа і пераменіцца (*перамогшы сябе, лагодна гаворыць далей*). Дзякую, кумок. Хоць буду ведаць, бо мо' і на сход заўтра не пайду. Бывайце здаровы (*спыніўся*). А ведаеце, што, кумок? Вось вам добры выпадак. Усё сяло ведае, што вы так занепакоены такімі думкамі, хварэеце нават. А тут, таварыш Дудач. Чалавек разумны,

пролетарыят. Чаму·б вам, ну, хоць-бы і заўтра, на сходцы, не запытаць пра тое, што вас мучыць? Запытайце пры народзе, бо ўсё-ж сяло ведае, што вы разумееце політыку. Вядома, ня лезьце, пакуль ён не пагаворыць з грамадою. А калі пагаворыць, зробіць даклад, а тагды вы: „Дазвольце вапрос“. А зрэшты, як знаеце, справа ваша, яно мне не баліць. Бывайце. Пайду (*спыніўся*). Калі надумаеце, дык я кіўну вам заўтра, у які час запытаць... (*пашоў у той бок, адкуль яны прышлі*).

Малаштан. (*Доўга стаіць нярухома на месцы. Развважае*). Значыць пры народзе?.. А што, сапраўды? Запытаю (*пашоў проста*).

(*Варушыцца магіла. Падымаецца Певень*).

Певень. Фіць! Пашоў.

Чырва. (*ціхенька вярнуўся*). Пашоў? Сюды! Усе сюды! Да мяне. Ідзеце да мяне! Слухайце, якая на зямлі праўда. Налажылі шэсьць тысяч пудоў! Шэсьць тысяч.

Рамашка. Не салгу. Я сам сабе меркаваў, так сама на шэсьць набягала...

Певень. А шэсьць тысяч балячак у пячонку ня хочуць?

Сыроватка. Шэсьць тысяч гадзюк у жывот!

Чырва. Шэсьць тысяч (*падымае рукі ўгору і трасе кулакамі*) Госпадзі, божа! Пашлі на нашу зямлю шэсьць тысяч udараў грому (*раптам мяняе тон*). А ведаецца па колькі на нас?

Сыроватка. Пудоў па трыццаць?

Чырва. (*стогне*).

Певень. Па пяцьдзесят?

Чырва. Па сто пяцьдзесят.

Рамашка (*лагодна*). Ня выпаўніце?

Певень. Возьмуць праз сто пяцьдзесят гадоў!

Сыроватка. Паўрубля дам. Больш ня маю. Паўрубля на соцыялізм. Хочуць бяруць, а ня хочуць, як сабе хочуць.

Чырва. Не, не, не. Вы, як дзеці, вы не гаспадары. Вы думаеце, яны будуць з намі цацкацца? О-о! Вы памыляецеся! але памыляюцца і яны

Рамашка. А хто-ж не памыляецца?

Чырва. Я! Чырва Козыр. Мы павінны выграць. І вось мой плян Усім гаспадаром, усяму сялу, кожнай хаце мы павінны ўтлумачыць, наставіць іх на дарогу. Ідзеце ў чатыры канцы сяла і гаварэце: грамадзяне, падтрымлівайце ўладу, але дабравольна! Галасуйце: даць хлеба, але не зацьвярджаць колькі. Вось і ўсё.

Певень. Што? які гэты плян? У мяне хлеба няма! Ня дам! Вось ўвесь плян.

Чырва. Не зацьвярджаць колькі, дурань ты! Два пуды ў цябе ёсьць?

Певень. Пуд.

Чырва. Крычы: падтрымлівай уладу, але дабравольна! Гукай! Гамані! Інакш мы прапалі. Крычэце, і мы разбурым іхні плян і пусьцім справу на волю гасподнюю. Гаманеце, і яны, гарадзкія гадаванцы, не паядуць вас. Але гаманеце ціха. Так ціха, як лятае муха. Чуць, чуць дзвынгае. Гудзеце, як жукі. Лёгенькім шэптам, павявайце лёгенькім ветрыкам у вуху. Блаславуляю вас. Разыходзьцеся ў чатыры канцы.

*(Разыходзяцца. Першы ідзе Чырва. Другім Певень. Трэцім Сыроватка. Чацьвертым Рамашка).*

Рамашка *(ступіў два крокі і спыніўся)*. А куды-ж ты пойдзеш Рамашка? За каго і супраць каго? Сур'ёзнае пытаньне. Ідзі хіба да жонкі ды лажыся спаць. А заўтра відней будзе *(хрысьціцца і кланяецца на ўсе чатыры бакі і ідзе).*

*Цямнее*

## VI

### Чырва выйграе

Пляц каля Сельсавету. Каля сьцяны стол. На пляцу паўнютка народу. Пярэднія, усьпёршыся на палкі, сьцяною стаяць і зухавата паглядаюць на дзьверы Сельсавету. Гоман. Чуваць асобныя выгукі: „самі абадранцамі ходзім. Дакуль гэтак будзе?“

Певень *(тлумачыць двум дзядом)*. Галасуйце, кажу, за падтрымку. А там ужо Чырва ведае, што рабіць.

І дзед. А па колькі-ж даваць?

ІІ дзед. Каб часам ня ўляпацца.

Чырва. *(падышоў)*. Даваць, дзедка, пасьля будзем, колькі хто. А сёньня толькі трымайце за дабравольную падтрымку.

І і ІІ дзяды. Ага, ага... Вось яно як...

*(Сыроватка агітуе ў другім гурце. Чырва і Певань пераходзяць ад гурту да гурту. Тут-жа шлындаецца Гусак і Паранька. Да дзядоў падыходзіць Нечай).*

Нечай. Што яны вам тут налівалі, дзедка?

І дзед. А што налівалі, тое і выпілі, сынку.

Нечай. Ня слухайце іх. Ад іх такога вып'еце, што горка стане.

ІІ дзед. А чаму-ж яго, сынку, ня слухаць? Ён-жа праўду кажа. Галасуйце за падтрымку.

Нечай. Вось як *(зьдзіўлена адыходзіць).*

*(Раптам пачуліся гукі барабана. Атрад піонэраў і 8 камсамольцаў со сьцягам праходзяць праз усю залю на сцэну. Наперадзе Нябаба. За ёю два камсамольцы нясуць плякат „Увесь хлеб на індустрыялізацыю краіны“ Бедныя сустракаюць іх воплескамі. Гоман.*

*З Сельсавету выходзяць: Дудач, Каваль і Гарох. Гоман заціхае).*

Дудач. Добры дзень, таварышы!

Пярэднія *(кашлянуўшы)*. Добры дзень, добры дзень, таварыш.

Дудач. *(да піонэраў)*. Будзьце гатовы!

Піонэры. Заўжды гатовы!

Гарох. Грамадзяне! Сход Гарбачоўскага Сельсавету абвяшчаю адкрытым. Грамадзяне, я ня буду доўга гаварыць, бо як цяпер момант, што трэба хлеб, і мы павінны прадаць усе лішкі, дык мы і прадамо. Вось адно пытаньне стаіць на гэты момант. Слова для дакладу мае прадстаўнік з акругі таварыш Дудач.

Дудач. Таварышы, сяляне. Перш за ўсё я хачу перадаць вам...

Певень. Таварыш рабочы. Я ізьвіняюсь... мы не особенно понімаем гэты украінскі язык, ці што-лі. Можа вам лёкшай будзе па рускі?

Камсамольцы. Далоў крыкуноў! Маўчэце!

Дудач. Ня чую. Хто гэта сказаў? Гэта, мусіць, як служыў у войску дык навучыўся? За царом яшчэ?..

Певень. Гэта не касацельна, ці служыў, ці ня служыў. Там, на етым языку не гаварылі.

Дудач. А кім служыў?

Бядняк. Фэтфэбелем. Ён фэтфэбелем служыў на зьверхстрочнай *(сьмех)*.

Чырва. *(тузануў Пеўня, той падаўся назад)*.

Галасы. Ды гаварэце, як умееце!

Дудач. Як умею, так буду і гаварыць. І вы, дзядзька, мяне ня зьбівайце, бо шчыкалаткі пазьбіваеце.

І дзед. О, з характарам...

Дудач. Хачу вам, таварышы-сяляне, перадаць прывітаньне ад нашага заводу. Мы робім параходы, якія плаваюць па Дняпры і па Чорным моры. Будуем для рэспублікі водны транспарт...

Певень. Нам няма калі езьдзіць на гэтых параходах.

Дудач. Га? А вы можаце паплысьці адсюль і без парахода! *(у гурце сьмех)*. Ня зьбівай, кажу, не саб'еш!

Камсамольцы. Прывітаньне карабельным будаўніком! Няхай жыве індустрыялізацыя!

Дудач. Рабочыя нашага заводу сказалі напомніць вам, што некаторыя з вас у дзевятнаццатым годзе ішлі поруч з намі супраць ворагаў рэволюцыі. Вось, значыцца, я перадаю.

Рамашка. *(Горка паківаў галавою)*. Ды я сам супраць белых хадзіў.

Дудач. Значыцца—гэрой. Дык вось што, таварышы сяляне. Выходзіць дванаццаць гадоў мы жывем з вамі. Час не малы. Га? Кажу, не малы час. Гаспадарку падымаем. Самі будуем. Соцыялізм, які дзесь-ці чуць, чуць у марах вызначаўся, калі мы з вінтоўкамі стаялі супраць ворага, босыя, абадраныя, вош грызла рэволюцыю, а цяпер соцыялізм пачынае расьці з новага грунту *(шум)*. Я кажу расьці. Пыхкае завод, сямтам гудзе трактарышка. А хто думаў, што ўлада ня вытрымае, аслабне мутэрка і ўпадзе, той грызе пальцы. Бо мы рабочыя і сяляне ня падаем,

мы ідзем плячо з плячом і ніякая сіла. Паспрабуй разарваць! Кішка ня вытрымае (*Воплескі*).

Галасы. Правільна. Трэсьне кішка (*шум задавальненьня*).

Дудач. Але нам з вамі трэба яшчэ больш цесна, мацней зьвязацца. Для гэтага патрэбна залеза. Індустрыя. Новыя заводы. Каб зарунела поле, каб расквітнела наша жыцьцё і каб вораг ня ўзяў яго ня толькі зубамі, а і і вагнём. Кожны рабочы цяпер усе сілы на тое, каб падняць, каб перамагчы. І кожны з вас павінен падтрымаць яго прадуктам свае працы (*Воплескі ў групе беднякоў, камсамольцаў і часткі серадьякоў*).

Галасы. Правільна. Сябе-ж падтрымоўваем.

Дудач. Дзяржава патрабуе хлеба. Гэты хлеб маеце вы (*шум у групе Чырвы*). Вы павінны прадаць яго не спэкулянтам, а дзяржаве, па цьвёрдай цане і кончана. Можа дзяржава бедна і не магла-б заплаціць даражэй? Га? Не, яна магла-б плаціць пяць рублёў за пуд...

І дзед. Цана падхадзяшчая. Можна-б і прадаць.

Дудач. Га? Не ўтаргуеце, дзедка. Ня той курс. Гэтыя грошы пойдуць на індустрыялізацыю, на разьвіцьцё гаспадаркі. Зямлю ручком не ўскалупаеш, не пасееш і ня будзеш есьці хлеба. Трэба яе машынаю драпнуць. Кажу, даволі валаводзіцца. Даеш індустрыялізацыю! Даеш хлеба! (*Воплескі*).

Выгукі. Правільна! Для нашага-ж дабра!

Дудач. А калі правільна, дык бліжэй да справы.

Гарох. Грамадзяне, Гарбачы павінны прадаць дзяржаве шэсьць тысяч пудоў.

Маса (*прашумела*). Шэсьсссь тысьсссяч...

І дзед. Чаму-ж так мала? Бяры, сынку, больш.

ІІ дзед. Мужык вытрымае, абы рабочы падужаў зьесьці.

Чарнега. Што вы там, дзедка, прастарэкуеце? Вам ужо ў зямлю пара, а вы і дагэтуль таргуецеся.

Певень. Дзед праўду кажа. Ежце рабочыя на шэсьць тысяч пудоў. Чэрава ня дрэва, раздасцца.

Чарнега. Зямлёю цябе генэралы не кармілі. Можа-б тагды не званіў, каб у чэрава зямлі напхалі...

Дудач. А вы, таварышы, больш пасур'ёзнаму. Бярэце слова і выказвайцеся.

(*Шум кароткаю хвалею прабег і раптам стала ціха. Запанавала цяжкая цішыня*).

Гарох. Грамадзяне, выказвайцеся. Такі момант... Хто бярэ слова? (*маўчаньне*). Чаго-ж вы маўчыце? (*маўчаць*).

Чарнега. Дай мне. Таварышы, тут ня прыходзіцца доўга думаць. Сяло вялікае. Хлеб ёсьць. Трэба адказаць, таварышы, Дудачу, а праз

яго ўсім рабочым, што грамада згодна. Гэта наш абавязак перад дзяржаваю. Што-ж тут доўга гаманіць. Згодны, вось і ўсё. Я сам дваццаць пудоў адвязу.

Беднякі і камсамольцы. Згодны! Зацьвердзіць! (*частка з натоўпу зварухнулася, вызьверылася*).

Галасы. Як гэта згодны? Хто сказаў згодны? А можа і ня згодны! Мы гаспадары! Мы прымаем уладу!

Певень. На вольным рынку прадамо.

Дудач. Ня чую. Хто там на вольным? Галасьней! Выйдзі і кажы чаму на вольным? Усяму народу скажы, а не з-за сьпіны. Гэта ўжо не па грамадзкі.

(*Мёртвая цішыня. Ніхто не бярэ слова. Чырва дае знак Малаштану. З натоўпу высоўваецца Малаштанава рука*).

Малаштан. Дазвольце вапрос.

Гарох. Гаварэце.

Малаштан. Вось я хочу дакапацца да аднаго параграха. Напрыклад, у нас улада рабочых і сялян. Я згодзен. А чаму-ж дыктатура пролетарыяту? Вось тут, як яно. Дайце на гэта ясны адказ.

Галасы. А што. О, гэта правільна. Няхай адкажа.

Пярэднія (*паднялі бароды*). Адказ!

Нябаба. Гэта правакацыя!

Камсамольцы. Правакацыя!

Нябаба. Лепей-бы вам, таварыш Малаштан, яшчэ колькі гадоў ня мець пасажыра, чым вось так малаштаніць. Эх, вы-ж, галава. Хто гэта вас навучыў?

Малаштан. Я сам дакапаўся.

Нечай. Таварыш Дудач, мы заяўляем вам, што гэтае пытаньне не бядняцкае, а малаштанскае. Гэта мы вам заяўляем!

Беднякі. Правільна! Гэта мусіць Чырва навучыў. Далоў яго!

Галасы. Няхай адкажа! Няхай адкажа!

Нябаба. Таварыш Дудач, навошта адказваць на правакацыйнае запытаньне?

Дудач. Чакай, не тарахці. Чаму дыктатура пролетарыяту? Я скажу. А ты слухай, ты, дзядзька Малаштан, слухай. Таму, што пролетарыят вырывае селяніна з кіпцюры эксплёататара і вядзе яго да соцыялізму. А больш цябе ніякая сіла ня вырве і не павядзе. Толькі пролетарыят. Вось тое, што ён цябе вядзе, а ты за ім сьвядома, чуеш, сьвядома ідзеш і пад яго кіраўніцтвам разам з ім будуеш соцыялізм, вось гэта і ёсьць дыктатура пролетарыяту. А ты якое дыктатуры хочаш? Можа белае? Тае, што вядзе ў ярмо, альбо ў штаб Духоніна? Ня хочаш? Кажы мацней!

Малаштан. Не хачу!

Дудач. Дык чаго-ж ты пытаеш, таварышок? Зразумеў?

Певень. Зразумеў. Такі ваша зьверху.

Выгукі. На дыктатуру не дамо. Няма хлеба! (*шум*).

Чарнега. Брахня. Дасьце. Поўныя засекі хлеба!

Гарох. Супакойцеся! Грамадзяне! Момант...

Чырва. Прашу слова.

Камсамольцы. Не даваць!

Галасы. Як гэта не даваць? Няхай гаворыць!

Гарох. Кажэце (*цішыня*).

Чырва. Грамадзяне. Вось што я вам скажу. Вы ня бунтуйце. Я хлебароб Чырва Козыр, з дзядоў-прадзядаў слухаюся ўлады, кажу вам: слухайцеся і вы. Грамадзянін Малаштан дарэмна протэстуе. Ня слухайце яго. Хлеба на дыктатуру, гэта значыць, на соцыялізм трэба даць. Хоць кроў з носу. Ну, вось таварыш з гораду казаў: мы самі будуем сваю гаспадарку. Гэта праўда. Мы не нявольнікі. Мы самі будуем і падтрымоўваем уладу дабравольна. На што казаць шэсьць тысяч. Кожны ведае, колькі ён дасьць. Можа і дванаццаць дамо. Бо гэта-ж грамада— сто душ, сто груш, а мо' хто і дзьве кіне. Так што, грамадзяне, я прапаную: падтрымаць дабравольна, гэта значыць не пастанаўляць колькі тысяч. Вось і ўсё.

(*Шум задавальненьня. Шум протэсту*).

Выгукі. Правільна! Дабравольна! О, гэта па праўдзе!

Беднякі і камсамольцы. Неправільна! Гэта зрыў кампаніі! Зры-ы-ы-ў!

Нябаба. Ён хоча перачырвіць сход! Падкартоўвае! (*сьмех*).

Дудач (*да беднякоў*). Тут нечым пахне. Кажу, тут сьмярдзіць.

Каваль. Таварышы! Організаванае сялянства ня можа паслухацца Чырвы. Што гэта значыць: дамо, але не пастанаўляем, што дамо. Вы толькі падумайце, што гэта азначае: левая рука ня ведае, што робіць правая. Гэта ня толькі не па рэволюцыйнаму, а нават не па гаспадарскі.

Галасы. Мы гаспадары. Дабравольна дамо! (*шум*).

Нябаба. Вы ня крычэце. Чаго вы крычыце? Вы лепей супакойцеся на хвілінку і падумайце. Камсамол вам кажа: падумайце. Вы-ж чулі, што казаў таварыш Дудач? Вы зразумелі яго? Калі вы зразумелі, дык зразумейце яшчэ і тое, што так паставіць пытаньне, як тут паставіў Чырва, можа толькі вораг.

Галасы. Чулі, чулі. Без цябе чулі. Даб-ра-воль-на! Пойдзем! (*Гоман. Нябабіных слоў ня чуваць*).

Нябаба (*перамагае*). Эх, вы... на правакацыю пашлі. Сьляпыя. На кулацкія козыры іграеце. Ня ведаеце, што робіце. Заўтра вы, калі ўбачыце, што вас абдурылі, валасы на сабе будзеце рваць.

Галасы Хто нас абдурыў? Нас не абдурыш. У нас кулакоў няма!

Гарох *(звоніць)*. Грамадзяне. Супакойцеся! Гэта-ж такі момант. *(Ён ня ведае, што рабіць. Дудач нешта яму кажа)*.

Бядначка. Дай мне слова.

Гарох. Гавары.

Бядначка. Таварышы сяляне! Ах, вы-ж сукіны сыны, таварышы сяляне! Што-ж вы робіце? Вы-ж прадаеце рэволюцыю. Каму? Чырве Козыру, ды гэтаму дзеду, які ўжо аднэю нагою ў дамавіне.

І дзед. Дурная баба. Я яшчэ пражыву даўжэй за цябе.

Певень. Ён-жа гэтае зімы толькі ажаніўся *(сьмех)*.

Галасы. Ціха. Далоў. Не перашкаджайце!

Бядначка. Ты, Макар, не кукурэкай, бо саб'ем грэбень. Не глядзі, што я жанчына. Калі страсяну, дык з цябе з самога хлеб пасыпецца... Думаеце, Чырва выграе? Брэшаце! Соцыялізм выграе! Няхай шалее кулак, але на яго ня будзе! *(Крык. Агульны шум)*.

Камсамольцы-беднякі. Правільна! Ня будзе па вашаму! *(воплескі)*.

Рамашка *(намерыўся ўсё сказаць)*. Дайце я скажу! Я скажу ўсю праўду!

*(Чырва, Сыроватка, Певень дагадаліся, што ён хоча здрадзіць ім зашумелі ў натоўпе)*.

Чырва. Ужо ўся праўда сказана.

Галасы. Давай рэзолюцыю. Дабравольна! Галасуй! *(Паднялі палкі)*.

Беднякі, камсамольцы. Запісвай шэсьць тысяч!

Гарох *(зусім ня ведае, што рабіць)*. Ды галасую! Не напірайце!

Каваль. Таварыш Гарох! Што вы робіце?

Дудач *(адхіляе Каваля)*. Пачакай, таварышок *(да Гароха)*. Не сьпяшайся. Чаго спужаўся? *(да сходу)*. Вы вось што, таварышы... Тут у вас нешта ня тое... Я кажу, ня тое надумалі. Так соцыялізму не пабудуем. Нечая рука... га? Я пытаю, чыя рука? Сарваць надумалі? Не пашанцуе. Чырва добры прамоўца, а вы павінны быць лепшымі слухачамі, каб зразумець, куды ён гне. Гарох, шэсьць тысяч, дружа, як адзін фунт і кропка.

Галасы. Дабравольна! Галасуй, Гарох. Галасу-у-у-уй!

Гарох. Галасую. Грамадзяне, я галасую... Зразумейце момант... Хто за шэсьць тысяч?..

*(Беднякі і камсамольцы падымаюць рукі. Рамашка таксама. Серадняки нясьмела падымаюць рукі і зараз-жа апускаюць іх)*.

Галасы. Лічы! Лічы! Гарох!

Дудач. Гарох, можаш не турбавацца. Зробім інакш.

Гарох. Раз, два, тры, чатыры, пяць...

Галасы. А цяпер, хто дабравольна? Галасуй!

Гарох. Хто дабравольна? *(Падымаюць рукі. Паступова далучаюцца серадняні, лік паднятых рук павялічваецца).*

Галасы. Лічы, Гарох! Лічы!

Дудач (*да сваіх*). Чаго стаіце? Ідзеце бліжэй. Няхай там лічаць. Мы пастановы Чырвы к чортавай матары! Клямка! Мы зробім інакш.

Беднякі і камсамольцы. Правільна! Тут Чырвіна работа!

(*Сьвіст. Дудач нешта гаворыць да беднякоў і камсамольцаў. Піонэры б'юць у барабан. На Дудачовы словы з гурту беднякоў чутны галасы*).

Галасы. Правільна. Так і зрабіць! *(сьвіст)*. Эй, вы, стэрвы! Кулакі. Ня выйдзе! *(насоўваюцца на сход)*.

Гарох (*лічыць*). Раз, два, тры, чатыры, пяць, шэсьць, сем... *(чырвоную істужкаю прарэзваюць масу піонэры. Усе замаўкаюць. Угдядаюцца. Піонэры маршам ідуць са сцэны)*.

Заслона падае.

*(Канец будзе)*.

Пераклад з украінскае **В. Сташэўскага.**

# РАЙКОМ

## Юлі Таўбін

I

Там, на рагу—каменны дом,
Навокал цэрквы і касьцёлы
І шыльда блізкая—
„Райком“
Для Ленінскага Комсамолу.

Райком!.. Трывожны людзкі тлум,
Вясёлы сьмех жывой гаворкі,
Ў пакоях душны вечны шум
І дым—ад песен і махоркі.

Там за ваконцам—вой завей...
Сюды вясна нам шле паклоны.
Машынкі стукат, рып дзьвярэй.
Званкі бляшаных тэлефонаў.

Тут вее сьвежаю вясной,
Выводзячы ў прастор бязьмежны—
І пасяджэньне за сьцяной,
І гэты скрэмзаны абежнік.

Тут у вачох запал і жар,
Тут воля маладое клясы,
Тут інструктуе сакратар,
Як трэба „біцца“ за калгасы.

Удзень ня ціхнуць галасы,
За пасяджэньнем пасяджэньне...
Прышлі сялянскія хлапцы
З анкетамі для паступленьня...

Сышліся ўдарнікі на сход—
Іх твары дышуць сілай весьняй,
І сьціснуў вушы дзелавод
Ад зычнай комсамольскай песьні.

Па вечарох—туман застыў.
На небе зоры сталі ў грады...
Тады зьбіраецца актыў
На інструкцыйныя нарады.

І зноў бушуюць галасы,
Шумяць гарачыя дэбаты,
І позьняй ноччу, ў маразы
Ідуць удзельнікі да хаты

2

Ў провінцыяльнай цішыні
Жывога—
дурань ня угледзіць:
Мы з брудных будняў нашы дні
Зрабілі днямі бур і медзі.

Райком!.. Люблю цябе, як сын
І тым ад сэрца ганаруся,
Што я падклаў адну з цаглін
Ў падмурак творчай завірусе,

Што сам я з арміі тваёй,
Што сам я—ленінскага стану,
І сам схіляўся галавой
Над картамі вялікіх плянаў.

Я часта ў высі залятаў,
Я быў на вымудры багаты
І няпрыкметна парушаў
Наш цьвёрды комсамольскі статут...

Тады я йшоў у гэты дом—
І ці з усьмешкаю, ці строга
Ўсё-ж накіроўваў наш райком
Мяне на верную дарогу.

Райком!.. Люблю цябе за ўсё,
Як частка воляю крылатых,
Якія аддадуць жыцьцё
За шчасьце пролетарыяту,

За шум высокіх гарадоў,
За радасьць дзён індустрыяльных,
За край уквечаных садоў
У нашай будучыні дальняй.

3

Райком!.. Ты знаў другія дні—
Пра іх мне засталіся чуткі...
Ў тваёй звычайнай сумятні
Разгортваў час другія скруткі.

Дзе зараз надпіс: „Агітпрап“,
Як штаб для моладзі вясковай—
Тады таксама меўся штаб,
Але ў звычайным сэнсе слова.

Тут кожны быў другому друг,
Тут харчавалі партызанаў,
Тут раздавалі сотням рук
Вінтоўкі, кольты і наганы,

Адсюль выходзілі на фронт
Пасьля братэрскіх пацалункаў,
Тут накапляліся гарой
Конфіскаваныя ладункі,

Сюды параненых байцоў
Хавалі ад варожай здрады,
І тут ствараў райком ізноў
Добраахвотныя атрады.

Часы трывог, часіны сшром!..
Як пераблыталіся часта—
Агульны сход—з ліхім баём,
А пасяджэньне—з перавязкай!..

Я па гадох малодшы брат
Той моладзі, што ў дні навалы
Запісвалася ў коматрад
І за краіну паміpала,—

Таму я сьню рашучым днём,
Таму я шчыра буду рады,
Калі ізноў зьбярэ Райком
Добраахвотныя атрады.

І пакаленьне ўсё маё—
Арава воляю крылатых—
Пакласьці здолее жыцьцё
За справу пролетарыяту.

І я аддам сваіх ладоў
Напеўны рокат разьвітальны
За край уквечаных садоў
У нашай будучыні дальняй.

4

Там, на рагу—каменны дом...
Каменны дом—і штаб, і школа—
Ĭ шыльда родная—
„Райком“
Для Ленінскага Комсамолу.

Ў провінцыяльнай цішыні
Жывога—дурань ня угледзіць.
Мы з бур стварылі нашы дні—
З ваяцкіх бур, з ваяцкай медзі.

Ня кожны—ў мудрасьць дзён пранік...
Пранікшы,—стаў энтузіястым.
Цябе, шматрукі кіраўнік,
Я ўспамінаю ў песьнях часта.

Мой Комсамол... З табой іду
Ĭ радасна вітаю стромы,
Бо прыглядзеўшыся, знайду
Мо' тысячу такіх райкомаў

Ĭ міліён знайду байцоў,
Аднэю воляю крылатых,
Якія аддадуць жыцьцё
За долю пролетарыяту...

Мы—моладзь,—шчасьце ля старна,
Мы—абнаўлёныя стагодзьдзі
Ĭ комсамольская вясна
Для нас узбуджаных прыходзіць.

Мы—моладзь,—сіла, воля, ток
Вачэй жывых, вачэй гарачых,
У нас у жылах творчы сок.
Мы ўперад на стагодзьдзі бачым.

Мы—моладзь,—ткань сухіх цягніц,
Бадзёрасьць дум і цьвёрдасьць цела,—
Для нас прасторы без граніц,
Для нас зямля зазелянела.

Мы—моладзь. Моладзь—гэта ўсё.
Мы—моладзь. Будучнасьць за намі
Ĭ прывітальнымі агнямі
Цалуе сёньня нас жыцьцё.

Амсьціслаў.
21-І—1930 г.

# САБАЧАЯ СЬЦЕЖКА

**А. Кушніроў**

У Кіеве, ад пячорскіх гарбатых узвышшаў да цэнтральных нізін, з гары, вядзе доўгая, шырачэзная вуліца.

Апошнія гады сьцёрлі, выкрасьлілі старую назву вуліцы.

Было так:

Улады прыходзілі і адыходзілі.

Дваццаць разоў назва зьмянялася.

Да дваццаць першага разу—з ліпнёвымі сонечнымі днямі зноў савецкая ўлада і зноў, назаўсёды зацьверджана:

Кастрычнікавая вуліца!

Ад пячорскіх гарбатых узвышшаў да цэнтральных нізін, апрача Кастрычнікавай, вядуць яшчэ іншыя закручаныя, заблытаныя вуліцы.

І яшчэ адна дарога ёсьць—самая кароткая—за агароджамі арсэналяў і старых казарм, праз яры і канавы, вузкая глістая сьцежка, з гары ўніз, з гары ўніз зьмяіцца да вузкай глоткі рыначнай плошчы.

У ярох, у канавах галодныя сабакі, сабакі грызуцца за здыхляціну, за сьмяцьцё і адкіды, што тлусты рынак штодзенна сюды выкідае.

На вузенькай, глістай сьцежцы—сабачыя сьляды ўсялякіх гатункаў. І яна так і завецца:

Сабачая сьцежка.

* * *

І вось у цёмную студзеньскую ноч восемнаццатага году праз гэтую сабачую вузенькую сьцежку шмат, шмат народу ўзышло на гарбатыя пячорскія ўзвышшы, да сурова-маўклівага арсэналю, узышлі праз Сабачую сьцежку, каб праз некалькі дзён—дзён змаганьня—адтуль ня сыйсьці, а для таго, каб іх адтуль зьнесьлі ў шматлікіх чырвоных трунах, праз шырокую вуліцу, якая тады ўпяршыню атрымала сваю назву: Кастрычнікавая вуліца.

Гэта было ў пачатку восемнаццатага.

Семнаццаты толькі што адшумеў, адстаяўся месяцамі гутарлівымі з барвістымі днямі чырвонымі і сьветлымі—перад сконам—якія нарадзілі Кастрычнік.

У далёкай, туманамі спавітай, сталіцы была радасьць і голад, і холад. І праз тэлеграф, праз радыё—усім, усім, усім—ува ўсе канцы і далячыні прасторнага, вялікага краю ўсё яшчэ імчаліся пра Кастрычнік наказ і заклік.

Тады было так:

Шмат хто гэты заклік не зразумеў і ня ўспрыняў, бо, каб зразумець і адчуць, трэ' было мець сэрца гарачае і цьвёрдае, прасякнутае моцным, як настоенае віно, гневам. І яшчэ—

каб зразумець і адчуць, трэ' было проста быць рабочым,—вось, як тыя з арсэналю, якія ў цёмную студзеньскую ноч выкінулі спалоханаму гораду патрабаваньне:

— Уся ўлада Саветам!

* * *

У тую ноч на Сабачай сьцежцы спаткалася двое людзей.

Было мокра і сьлізка. Мароз апаў яшчэ некалькі дзён таму. У вільготнай, туманнай цемры вочы не маглі намацаць адзін у аднаго твары, толькі калі яны ўжо дыхалі блізка адзін ля аднаго, адзін спытаў:

— На гару ідзеш?

Ён быў высокі. Адчувалася ў цямноце, як з кожным крокам яго цела штурхае наперад агромністую глыбу цемры. Другі быў на шмат ніжэйшы. Ён увесь час падбягаў, каб не адстаць.

Ніводзін з іх ня зьдзівіўся, што яны абодва ішлі аднэй дарогай. Іначай быць не магло: у гэтую ноч дарога праз Сабачую сьцежку была толькі адзінай—да сурова-маўклівага арсэналю, які з узвышша, як цяжкая небясьпека, зьвісаў над горадам.

Сабачая сьцежка бегла ўверх глініста і зьмяіста, і нават праз туман востра вызначаліся яе загібы праз цемру равоў. Ззаду прыдушаны, загаслы горад яшчэ выглядаў дзе-ні-дзе далёкімі, забытымі аганькамі. Там, ля тых аганькоў, магчыма, усё-ж было цяплей і прытульней, як цяпер на Сабачай сьцежцы.

І высокі зноў спытаў:

— Зброю якую-небудзь маеш?

Сам ён думаў пра тое, што гадзіны дзьве таму ён разбудзіў свайго сямігадовага сына. З-пад сяньніка, на якім хлопец спаў, ён энэргічна выцягнуў стрэльбу, якая там была схавана.

Сямігадоваму хлопцу гэта стрэльба была вельмі добра знаёма. Шмат дзён была яна схавана пад гэтым сяньнікам, заверчаная ў шматкі. Шмат разоў хлопцу хацелася выцягнуць стрэльбу, разгарнуць і разгледзець яе.

Цяпер хлапчук спытаў:

— Тата... я таксама пайду з табой?

— Сьпі, сьпі, жэўжык, заўтра пойдзеш.

Але вось усьмешка, якая ўсплыла яму на вусны, калі ён так адказаў, яшчэ і цяпер крывіла яго твар. Ён расказаў, пачаўшы адразу з канца, як-бы той і раней ведаў добра ўсё:

— Вось дык жэўжык: тата... я таксама пайду з табой.

А другі—

ці ён думаў, ці не—некалькі гадзін таму ён стаяў у сьветлай друкарні. Рухавыя пальцы, як галодныя, дзёўбалі ў гнёздах касы. Ён і яго сябры—яўрэйскія наборшчыкі—набіралі адозву, якраз пра гэты неспадзяваны і—як у адозьве пісалася—бязглузды выпадак у арсэнале.

Адозва заклікала рабочых у апошнюю гадзіну схамянуцца...

Адозва была вялікая. Орыгінал разадралі, падзялілі для набору кавалачкамі. І кожны кавалак паасобку заклікаў цяпер і запэўняў у бязглузьдзі.

Пад адозвай былі падпісаны імёны, перад якімі сэрца яго самога—сэрца рабочага—ня раз схілялася ў пашане. Але гэтым самым сэрцам рабочага цяпер наборшчык Ёсель Карп раптам адчуў,—што, мабыць, здарылася памылка, што ўсім імёнам, якім ён прызвычаіўся верыць, цяпер верыць нельга.

Ён шпурнуў вярстатку з набранымі радкамі. Ён выставіў да таварышоў пустыя рукі і сказаў:

— Я загадаў-бы не набіраць гэта.

Ён не чакаў, каб хто-небудзь зрабіў гэта самае. Але яму самому адразу зрабілася спакойна і лёгка. Наборшчыку Ёселю Карпу цяпер здавалася, што ў адозьве так і застанецца пропуск. Вось, яго пропуск ужо ніхто ня зможа запоўніць.

Цяпер ужо высокі весела апавядаў:

А ў нас усе прамоўцы спыніліся. Нашыя ўсе там: у нас рабочыя—як адзін.

Наборшчык Ёсель Карп прабаваў абараняцца. Наборшчык Ёсель Карп сказаў упаўшым голасам:

— Правадыры падвялі. Памыліліся правадыры. Вось, я сам—яшчэ верыў да сёньнешняга.

А Сабачая сьцежка бегла наверх гліністая, зьмяістая.

Двое рабочых ішлі наверх да сурова-маўклівага арсэналю. Тады было так: каб зразумець і адчуць, трэ' было мець сэрца гарачае і цьвёрдае, прасякнутае моцным, як настоенае віно, гневам. І яшчэ... каб зразумець і адчуць, патрэбна было быць проста рабочым—вось, як тыя з арсэналю.

І тады, калі ў цемры на Сабачай сьцежцы стыкнуліся шляхі двух рабочых—тады ў загаслым горадзе ўжо двойчы прабуджаўся сямігадовы хлопчык. Ён з ложку ўгледзіўся ў чарнату вакна. Ён крыкнуў да маці, якая спала замучаная і змораная і ня чула яго.

— Мама... Уставай! Захопяць нашу чаргу за хлебам. Уставай! Вядзі мяне ў чаргу...

І таксама тады—

праз страшныя гарадзкія вуліцы дзяўчына дабралася да дзьвярэй друкарні. Праца ў друкарні ўжо скончылася, але там было яшчэ сьветла і яна знайшла там усіх. Ніхто сягоньня адтуль не разыходзіўся і ўсе зьдзіўлена пазіралі на чалавека, які прышоў з гэткае начы.

Дзяўчына моўчкі прабегла вачыма па ўсіх тварах. Таго, з-за каго яна ў гэткую пору сюды прышла, цяпер тут ня было.

Яна ціха і спалохана спытала:

— Карпа... наборшчыка, Ёселя Карпа, цяпер тут няма?

Ніхто не хацеў ёй сказаць страшнога слова.

Ніхто ня мог сказаць ёй усьцешнага слова.

Не спрабавалі яе затрымліваць і ўгаварваць, каб яна ўжо тут разам з усімі перачакала да золаку.

З цемры, з вуліцы праз дрыжлівыя вокны рваліся ў друкарню водгукі далёкіх грымотаў. Сьцены друкарні душылі нейчую, далёкую бегатню. І яна вышла з друкарні зноў на вуліцу. Яна зноў пашла праз цёмныя страхотныя вуліцы. Горад цягнуўся аграмадны. Горад быў напружаны: стрыманае дыханьне зблізку, здушаны шум і бегатня недзе далёка.

Хата, куды дзяўчына цяпер ішла, была далёка. Яна прышла туды разгарачаная ад хады і імпэту. І ў цішыні закінутага падворку раптам раздаўся моцны грукат у дзьверы.

Яўрэй, абуджаны ад сну, спалоханы, глядзеў на дзяўчыну, ён толькі нядаўна заснуў пасьля гадзін неспакойных роздумаў і выгляданьняў Цяпер ён у замяшаньні паўтараў:

— Дык як-жа гэта, значыць, яго там няма?

— Кудыісьці цяпер шукаць яго?

Цяпер дзяўчына прабавала ўжо і не магла знайсьці ўсьцешных слоў. На змрочных пакаёвых сьценах дрыжэлі два цені, і адзін— яўрэя, бацькі— быў вельмі падобны на наборшчыка Ёселя Карпа...

Вось гэты наборшчык Ёсель Карп, пропуску якога ў адозьве сёньня ніхто ўжо ня мог запоўніць, цяпер разам з другім, новым сябрам, караскаўся па Сабачай сьцежцы да Арсэнальнай вуліцы.

Там гарэлі кастры. Людзі гурткамі сядзелі вакола кастроў, прытуліўшыся да агню, болей месца ля кастроў ужо ня было. Шмат хто скакаў вакола кастроў і, час-ад-часу—праз галовы сядзячых, выкідалі абедзьве рукі да агню.

Абодва ўноў-прышоўшыя, наборшчык Ёсель Карп і яго высокі сябра, былі яшчэ ўгрэтыя ад карасканьня па Сабачай сьцежцы. Ля кастроў яны не затрымаліся. Праз дзірку ў плоце яны адразу ўлезьлі ў падворак арсэналю. Таксама і тут палыхалі кастры. Было відна і шумнавата, было цесна ад гор накіданага жалезнага лому і чалавечых гурткоў, рассыпаных па ўсіх кутках вялікага падворку.

Прышоўшых ніхто ня спытаў, хто яны і скуль прышлі. Тут ніхто нікога ня пытаў, бо кожны ведаў, як пра самога сябе, дзеля чаго ўсе сабраліся сюды, у гэтую ноч, на арсэнальны падворак.

Наборшчык Ёсель Карп стаў у шэрагі натоўпу, які ўжо быў гатовы выйсьці за вароты. Ён агледзеўся. Ува ўсім натоўпе ня было ніводнага знаёмага твару. З усіх тых, з якімі ён разам працаваў і жыў, ён быў цяпер тут адзіны. І асабліва блізкі стаў яму высокі сябра, з якім ён толькі сёньня ўпяршыню стрэўся на Сабачай сьцежцы. Той таксама заняў месца ў гэтым самым натоўпе, і калі вышлі з двара на вуліцу, ён перабег і стаў радам з наборшчыкам.

— Вось, глядзі, нашыя, усе, як адзін,—сказаў ён весела,—не, нашых ужо ніхто не падвядзе.

Натоўп крочыў моўчкі і насталожана. Нехта ішоў наперадзе і моўчкі вёў. Ішлі назад да Сабачай сьцежкі.

Тут на самым высокім яе завароце, што зьвіс над ярамі і канавамі, натоўп спыніўся. Тады шмат хто адразу адчуў, што цяпер, у гэты час— як да завароту, што над глыбінёй і цемрай канаваў,—так шчыльна яны падышлі і наблізіліся да свайго лёсу.

Наборшчык Ёсель Карп быў худы дваццацігадовы хлапец. Начная калючая вільгаць пранізала яго і калаціла. І яго высокі сябра раптам пачуў, як яго зубы рассыпаюцца ў мерны касьцяны стукат.

Ён сказаў, высокі, штурхнуўшы яго локцем.

— Ты, не палохайся. Нічога ня будзе... апрача... можа... сьмерці...

Яны ляжалі ўдваёх, укапаўшыся ў гліністы загіб, што над ярамі, справа і зьлева быў рад іншых таварышоў—людзей, якія толькі сёньня стрэліся, з тварамі, якія ў цямноце нельга было разгледзець. І ўсе цяпер тут ляжалі супроць настарожанага, цёмнага гораду,—жывая сьцяна на дарозе да арсэналю.

Вось тут ноч разгрузіла сваю настарожанасьць градам стрэльбавых стрэлаў. Іншыя людзі ў гэту самую ноч прышлі з гораду, і ўжо не пааднаму, а цэлымі натоўпамі лазілі па Сабачай сьцежцы. Былі гэтыя людзі ўзброеныя дасканала і зброяй, і ўпэўненасьцю пралажыць сабе шлях. Але ў тую ноч наверх, да канца сьцежкі не караскаўся ніхто. Гарачае дыханьне жывой сьцяны адкінула іх і разьвеяла па ўсіх сьцяжынках і канавах.

Толькі шэры дзень павольна праз празрысты туман падпоўз і дабраўся да самай вяршыні. І гэты дзень таксама там, у жывой сьцяне на Сабачай сьцежцы, шмат каго не знайшоў...

І напалову замёрлы горад не падбадзёрыў дзень. Вуліцы засталіся страхотлівымі і пустымі, і жыцьцё бурліла толькі ў шматлікіх хлебных чаргох, бо людзей тады выганялі на вуліцу толькі адвага і гатоўнасьць памерці і яшчэ—надзея дастаць кавалак хлеба.

Гарачы пах сьвежа-выпечанага хлеба сабраў ля закалочаных дзьвярэй пякарні доўгі шэраг людзей. Неба было такое шэрае і неспакойнае,

быццам яно магло ў кожны момант лопнуць і рассыпацца агнём над галовамі.

І доўгі шэраг людзей корчыўся. Доўгі шэраг людзей у страху туліўся туды, дзе было бліжэй да сьцяны ці да варот.

І ля людзкога шэрагу з боку вуліцы дыміўся маленькі халодны агеньчык. Дзіцё доўга стаяла ў чарзе і замерзла, і пасінела. Дзіцё выбегла са свайго месца ў шэразе—пашукаць на вуліцы некалькі саломінак і падтрымаць агонь. Зьмёрзлае дзіцё хукала ў здубелыя ручкі, падскоквала, каб сагрэць зьдзервянелыя ножкі. Зьмёрзлае дзіцё не магло сагрэцца ў халоднага, ледзь тлеючага агеньчыка, і дзіцячае цярпеньне ня вытрымала. Дзіцё зайшлося плачам.

Можа мацней і гарчэй за ўсё быў гэты дзіцячы плач, бо людзі з шэрагу раптам запамяталі, што неба гэткае неспакойнае над галовамі.

Людзі з жалем казалі:

— Няйначай—мачыха... Родная маці ня выслала-б дзіцё ў гэтае няшчасьце.

І раптам вясёлы рогат прабіўся ў доўгім шэрагу людзей.

Узбуранае дзіцё стала супроць старэнькай бабкі ў шэрагу. Дзіцё праз сьлёзы крычала:

— Ты сама мачыха... сама... сама...

Затым дзіцё выстаяла свой час у чарзе. Дзіцё абедзьвюма зьмёрзлымі ручкамі прыціснула да грудзей порцыю цёплага хлеба, што прышлася на яго частку, і пабегла да хаты.

І яшчэ дзень быў з бойкамі і нэрвовымі хлебнымі чаргамі і яшчэ дзень...

Дзяўчына, якая ўначы вышла шукаць наборшчыка Ёселя Карпа, раньнім золакам зноў вышла на вуліцу і заняла месца ў хлебнай чарзе. Яна разам з усімі цярпяліва стаяла свой час пад шэрым небам, якое штохвілінна гатова было лопнуць, і разам з усімі жалкавала сямігадовага хлопчыка, які зьмёрзлы чакаў у чарзе сваю порцыю хлеба.

І яшчэ дзень быў з бойкамі і нэрвовымі хлебнымі чаргамі. І яшчэ дзень...

Затым неба над горадам стала спакайнейшым і з вуліц зьнік сполах. У вялікім зімовым гарадзкім садзе, што на доўгай шырокай вуліцы, пасярод дня палыхалі кастры, каб разагрэць і зьмякчыць зямлю для вялізнай братэрскай магілы.

Раніцой выпаў лёгкі пушысты сьняжок і зрабіў дзень бялейшым і сьвятлейшым. Дзяўчына пашла шукаць між мёртвымі целамі наборшчыка Ёселя Карпа. У цёмную студзеньскую ноч восемнаццатага году—шмат хто пайшоў на гарбатыя пячорскія ўзвышшы, да сурова-маўклівага арсэналю—караскаліся па Сабачай сьцежцы, каб праз некалькі дзён ужо ня зьлезьці назад, каб іх зьнесьлі ў чырвоных шматлікіх трунах, праз шырокую вуліцу, якую тады ўпяршыню назвалі:

Кастрычнікавая вуліца.

Наборшчык Ёсель Карп ляжаў у цесным радзе трунаў. Яго твар быў касьціста востры. Застыглае вока са срэбна-замёрзлым брывом выглядала занадта шырока і напружна расчыненым пры дзённым сьвятле.

Той, высокі, які ў цёмную ноч сустрэў яўрэйскага наборшчыка на Сабачай сьцежцы ён застаўся жывы. Ён цяпер разам з таварышамі хадзіў тут між трупамі. Стрэльба на вяроўцы зьвісла ў яго з пляча.

Таварышы гаварылі пра таварышоў, што загінулі. Таварышы ўспаміналі дні вялікай самаахвярнай адвагі і хвілі, калі сэрца сьціскалася ад здушанага сполаху.

Высокі глянуў на шырока-расчыненае вока наборшчыка Ёселя Карпа. Высокі задумна сказаў:

— Ну, страх... Страх гэта глупства... Кожны баіцца. А вось ты паспрабуй не паддацца страху... Вось гэта справа. Гэта ня кожны зможа...

І як-бы нясумысьля махнуў рукой на труну наборшчыка Ёселя Карпа.

— Вось гэта быў дружака... Эх, баліць сэрца!..

З яўрэйскае мовы пераклаў **Ізраіль Плаўнік**

## СЛОВЫ—АД ЧЫСТАГА СЭРЦА

**М. Хведаровіч**

Контрасты выра́зныя
І тэмпы шпа́ркія,
Скачок дыялектыкі
Суздро́м не наро́кам.
Рэвалюцыя зарадзіла
Крывяныя шарыкі
Энэргічным
Электрычным токам.

Яна самапачуцьці
Ўзьняла высока,
Вялікаю сілай
Гарачае крэ̆ўнасьці.
І кожны а́том
Напаіла сокам
Клясавай прыхільнасьці
І клясавай не́навісьці.

Організм чалавека
Да нэрва абноўлены,
І сэрца рухавік
Працуе няспынна.
Бясто́мнасьць абумо́ўлена
Круглыя суткі
24 гадзіны.

Гляньце, перараджаецца
Псыхіка чалавека,
Самае кволае
І самае ўпартае.
Гляньце, як шчупальцы
Нашага веку
Самае ўстойлівае
І фанатычнае кра́таюць.

І яно пахіснулася
Ўдрызг, аж да кораня,
Падае трупам
На землю ніцма.
Веюць жудо́ю
Пляміны чорныя,
Веры спрадвечнай
„Сьвятыя“ бажніцы.

Гэтыя зрухі—
Тая-ж контрастнасьць,
Шпаркія тэмпы—
У росьце масы.
І н д ы в і д у а л ь н а я
Зьвярыная ўласнасьць
Канае на парозе
Магутнага колгасу.

Энэргія ўключаецца
Для адзінага мэтавага,
Ідэя імкнецца
У пэрспэктыўнасьць.
І вось чалавек
Для новага гэтага
Выклікае на спаборніцтва
Творчую актыўнасьць.

Хіба-ж ня гонар
Згарэць за ідэю,
Па капельцы вы́капаць
Творчы мозг.
Стрэчнага тава́рыша
Сваёю крывёю
Напаіць,
Калі таварыш
Ад стомленасьці змок.

І гэта, сябры,
Недалёкае блізкае,
Чую яго я
Пераможны по́зыў.
Гэта ня дарам
Іскрамётамі бліскае
Творчая апора
Чалавечы розум.

І яно нараджаецца
Ў муках вялікіх,
І яго акаляе
Мільён супярэчнасьцяй.
Горда эпоха
Бярэ на пікі,
Сьмела штурмуе
Фундаманты вечнасьці.

І можа мой верш
Ня завеце вершам;
Тава́рышы!
Справа ня ў на̀зьве.
Затое мае
Поэтычныя дэпешы
Нарадзіліся з формаю разам.

І гэта штодзённыя
Баявыя дэпешы,
Пэўны прыцэл
Для пясьнярскае кулі.
Вялікая шчырасьць
Што сэрца цешыць—
Ад пяці пачуцьцяў
І мазгавых паўкуляў.

Іх нарадзіла—
Вялікая Рэволюцыя,
А форму вызначыў
Няспынны яе по́ступ.
Нарэшце,
Вітаю творчую
К о н с т р у к ц ы ю
Як сымболь гэніяльнага
Вялікага росту.

4 лютага, 1930 г.
Менск.

# УЗМАХІ

**Язэп Пушча**

Разводзьдзе бурных песен
Размыла берагі вякоў.
З гранітных скал мы крэсім
Агні мазольнаю рукой.

Раскутых крыл узмахі
Шугаюць да агністых зор;
Узводзім фабрык гмахі,
Шумеў дзе ўчора хмуры бор.

Далінай і узгор'ем
Цякуць да сонца рэкі дзён.
Лісьцё сухое згорнем
І выкінем за плот з сьмяцьцём.

Ідзе вясна у госьці
З сваёю сонечнай сяўбой.
Дажджы надзей ня схвошчуць,
А прынясуць нам плён з сабой.

Сям'ёй працоўнай, вольнай
Зьнішчаем перашкоды меж.
Вятры палёў прывольных
Раскідалі стары манеж.

Страху сарвалі з кроквау,
Разьвеялі пакуты пыл.
Ідзём мы цьвёрдым крокам;
У песьнях радасьці наплыў.

Зары мігцяць каралі,—
Мы у дарогу з ёй ідзём.
Вясна за небакраем,
Праменьніць сонца подых дзён.

2 лютага, 1930 г.

# МІЖ САМЫХ ВЫСОКІХ

## Ізі Харык

> Вясной жыцьцятворчай—праз вільгаць, праз ямы,
> Бруіць і струменіць жыцьцё акіянам.

Ідзеш ты паволі да хаты з работы,
І гаснуць праменьняў снапы, пазалота,
І гаснуць на шыбах, і таюць за дахам,
І дыхае вецер замораным птахам.

Іскрацца завулкі празрыстым зіхценьнем,
Стамлёна ўздымаеш пагляд у зьдзіўленьні:
Стаіш на дарове, на змочаных плітах,
А хаты уздымам будоўным спавіты.

„Шчэ ўчора крывыя, як сівая даўнасьць,—
Маленькія хаткі ў бросьню прыбраны,
А сёньня выростае мур-камяніца,
І радасьць праўляе свой баль-вечарніцу.

Тут вільгацьцю сьвежай атулены сьцены,
І водырам квасным 'шчэ дыхае цэмант.
Ты мажа пайшоў-бы,—адходзіць ня можаш:
Бруіць над табою праменісты дожджык...

У хату ўваходзіш глыбокім сьвітаньнем,
І сам ты зайздросьціш свайму мілаваньню.
Глядзіш, як згасаюць бялявыя зоры,
І песьню заводзіш,—хай чуюць прасторы:

> У ботах юхтовых, запэцканы ў цэмант,
> Стаім на страшэнных узвышшах і сьценах.
> На сталі, бэтону—амаль каля зор,
> Як мяккую гліну, мы месім прастор.
>
> Занятыя працай, захоплены працай,
> Каб сьцены бэтонам маглі нажырацца...

Адгэтуль галовы вышэй закідаем...
Глядзім, як мільгаюць усходкі у далях.

І раптам, адразу—мы ўсе ў задуменьні,
Так хочацца дахам накрыць гмахі-сьцены.
І росьціцца шчасьце: — у дзівах красы
Між самых высокіх апынімся й мы...

З яўрэйскае мовы пераклаў
**Ізраіль Плаўнік**

5-XI—29 г.

# ТЭОРЫЯ І ПРАКТЫКА БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛ-ФАШЫЗМУ

**А. Сталевіч**

### Прычыны актывізацыі агентаў фашызму

Белы тэрор, турма народаў, хранічныя крызісы, форпост імпэрыялізму—вось тыя характэрныя адзнакі, якія даюць агульнае разуменьне аб сучаснай фашыстоўскай Польшчы. Сьпечаная антантаўскімі дыплёматамі на вэрсальскай палітычнай кухні, Польшча стала пляцдармам сусьветнага імпэрыялізму ў падрыхтоўваемай праз яго контр-рэволюцыйнай вайне супроць СССР.

Экономічныя чыньнікі пры заснаваньні Польшчы былі падпарадкаваны заборчай палітыцы міжнародных і краёвых імпэрыялістых, падпарадкаваны міжнародным дыплёматычным комбінацыям. Вось чаму зусім натуральна, што пасьлявэрсальская Польшча пры сваёй палітыцы вайны, эксплёатацыі і прыгнечаньня перажывае хранічныя гаспадарчыя крызісы.

Сучасны крызіс Польшчы мае ў сабе значна больш вострыя формы, чым папярэднія яе крызісы, бо выцякае з непараўнальна глыбейшых супярэчнасьцяў капіталістычнай гаспадаркі Польшчы і зьяўляецца адбіцьцём усё паглыбляючагася сусьветнага гаспадарчага крызісу, у ціскох якога корчацца капіталістычныя дзяржавы ўсяго сьвету.

Польшча—найбольш слабое зьвяно ў ланцугу капіталістычных дзяржаў і дзеля таго ў ёй з асаблівай вачавіднасьцю і яскравасьцю наглядаюцца тыя адзнакі, якія характарызуюць трэці пэрыяд пасьляваеннага крызісу капіталізму. Расхістваньне і расклад капіталістычна-абшарнічай гаспадаркі, бурны ўздым рэволюцыйнай хвалі, пашырэньне ўплыву компартыі, разгул белага тэрору—вось якімі праявамі жыве сучасная Польшча, вось чым багаты дні нядоўгавечнага існаваньня фашыстоўскай дыктатуры.

У гэты час, калі ў капіталістычным сьвеце буржуазная гаспадарка корчыцца ў конвульсыйных схватках крызісу, дык у СССР працоўныя масы пад кіраўніцтвам УсеКП(б) ня толькі даганяюць з боку тэхнічнага перадавыя капіталістычныя краі, але на шмат якіх вучастках пераганяюць, а ў цэлым нячувана шпаркім тэмпам будуюць соцыялізм, ідуць да соцыялізму.

Міжнародны капітал бачыць у Савецкім Саюзе, у яго нячувана шпаркім тэмпе індустрыялізацыі краю і колектывізацыі сельскае гаспадаркі,

прычыну прычын сваіх гаспадарчых і палітычных крызісаў, росту рэвалюцыйнага ўздыму працоўных мас.

Нябывалы дагэтуль выбух антысавецкай міжнароднай кампаніі зьяўляецца выразьнікам завастрэньня інтэрвэнцыйных імкненьняў імпэрыялістых, накіраваных да таго, каб збройнай сілай выбіць з рук пралетарыяту і яго ленінскай партыі соцыялістычную перабудову СССР.

Фашыстоўская Польшча, зьяўляючыся фарпостам міжнароднага імпэрыялізму, выяўляе асаблівую агрэсыўнасьць і сьпешна куе зброю супроць вогнішча міжнароднай рэвалюцыі—Савецкага Саюзу.

Падаўленьне ўзросту рэвалюцыйнай хвалі і падрыхтоўкі вайны зьяўляецца цяпер галоўнейшымі ўдарнымі задачамі, асновай асноў усёй палітыкі фашыстоўскага лягеру капіталістых, абшарнікаў і кулакоў і іх фашыстоўскай дыктатуры. Найбольш адказныя і важныя вучасткі гэтай палітыкі фашыстоўскага ўраду, вучасткі акопаў супроць наступленьня пролетарыяту, займаюць соцыял-фашыстыя і нацыянал-фашыстыя. Зьяўляючыся неад'емнай складанай часткай фашыстоўскага лягеру, гэтыя агенты фашызму ў асяродзішчы працоўных мас разумеюць, што пролетарская рэволюцыя няміnуча пакончыць і з іх існаваньнем. Клясавыя абавязкі, ускладзеныя на соцыял-фашыстых і нацыянал-фашыстых іхнай соцыяльнай базай, іхная контр-рэволюцыйная роля, з аднаго боку, і набліжэньне рашаючых клясавых баёў з другога, выклікаюць ажыўленьне дзейнасьці гэтых агентаў фашызму. Ідзе зацятая барацьба да канца—клясы супроць клясы, барацьба паміж фашызмам і комунізмам —хто каго. У гэтай барацьбе соцыял і нацыянал-фашысты як найбольш вопытныя ў ідэолёгічнай барацьбе і якія непасрэдна стаяць у масах, зьяўляюцца найбольш пакладзістымі сіламі фашызму, ударнымі атрадамі фашыстоўскай дыктатуры ў яе барацьбе з комуністычным рухам за працоўныя масы.

Тое асаблівае ажыўленьне дзейнасьці агентаў фашызму (ППС, Бунд, беларускія і украінскія нацыянал-фашыстыя), якое выяўляюць яны ў апошнія часы, зьяўляецца лепшым паказальнікам набліжэньня пролетарскай рэволюцыі, заблытанасьці і труднасьці палажэньня фашыстоўскай Польшчы, паказальнікам расхістваньня ўстояў фашыстоўскай дыктатуры і сьпешнасьці падрыхтоўкі яе крыжовага паходу на край саветаў.

Об'ектыўнымі прадпасылкамі крысталізацыі і ўзмоцненай дзейнасьці беларускага нацыянал-фашызму зьяўляюцца:

1) Абвастрэньне клясавай барацьбы ў ЗБ, рост рэволюцыйнай актыўнасьці пролетарыяту і асноўнай масы эксплёатаванага сялянства і ўсё большая консолідацыя нацыянальна-вызваленчага руху пад кіраўніцтвам КПЗБ.

2) Абвастрэньне клясавай барацьбы ў БССР у выніку пераможнага соцыялістычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі і рост праяваў нацыянал-дэмократызму, як адбітак і вынік абвастрэньня барацьбы беларускага нэпманства, кулацтва і

> буржуазнай контр-рэволюцыйнай інтэлігенцыі супроць савецкай улады. Абвастрэньне ўнутраных і замежных супярэчнасьцяй капіталістычнай стабілізацыі змушае буржуазію, у тым ліку і беларускую згуртаваць усе сілы дзеля таго, каб ажыцьцявіць спробы, знайсьці выхад са створанай сытуацыі шляхам вайны з СССР.
>
> (III пленум ЦК КПЗБ).

Сказанымі вышэй прычынамі трэба тлумачыць і тую стараннасьць і адданасьць у паслугах фашыстоўскаму ўраду з боку беларускіх нацыянал-фашыстых, якімі верхаводзіць вядомы палітычны махляр А. Луцкевіч.

Дзеля таго, што Луцкевічаўская група стаіць у пярэдніх шэрагах контр-рэволюцыйнага лягеру на ЗБ, што яна зьяўляецца ідэолёгічным цэнтрам, концэтруючым ядром і найбольш актыўнай групай беларускага нац.-фашызму, затрымаема ўвагу чытача менавіта на тэорыі і практыцы гэтага найбольш ваяўнічага атраду фашызму на Зах. Беларусі.

### Соцыяльная база беларускіх нац.-фашыстых

Ажыўленьне дзейнасьці беларускага нацыянал-фашызму выцякае з эканомічнага разгортваньня ягонай соцыяльнай базы, а менавіта беларускай буржуазіі і кулацтва—выцякае з росту агрэсыўнасьці гэтай буржуазіі ў адносінах да БССР, з росту падрыхтоўкі збройнага нападу на СССР з боку польскага і сусьветнага імпэрыялізму.

Фашыстоўскі ўрад, праводзячы сваю палітыку на Зах. Беларусі, (аграрную, падатковую, крэдытовую, вайны, эксплёатацыі і інш.) мае на мэце ўзмацніць сваю соцыяльную базу коштам эксплёатацыі рабочае клясы, руйнаваньня бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак. Усе мерапрыемствы ўраду маюць на мэце садзейнічаць капіталістычнаму разьвіцьцю абшарніцкіх, кулацкіх і асадніцкіх гаспадарак. Галоўнае, што паслужыла гаспадарчаму ўзмацаваньню беларускага кулака—гэта дапушчэньне яго да ўдзелу ў парцэляцыі, а таксама правядзеньне камасацыі і ліквідацыі сэрвітутаў.

Тэмп прыватнай і ўрадовай парцэляцыі пасьля фашыстоўскага перавароту ў 1926 г. шпарка расьце на Зах. Беларусі: у 1925 г. распарцэлявана на Зах. Беларусі 51.288 *га*, 1926 г.—54.035 *га*, 1927 г.—77.537 і 1928 г.—без Навагрудчыны—64.082 *га*. У гэты-ж час значна аслабляецца тэмп асадніцтва на крэсах. У 1925 г. выдзелена парцэляванай зямлі для асаднікаў 15.044 *га*, 1926 г.—8.240 *га*, 1927 г.—1.333 *га*, у 1928 г. ніжэй тысячы. З такога шпаркага павялічэньня плошчы парцэляванай зямлі праз прыватную, а таксама і ўрадавую парцэляцыю і зьмяншэньня тэмпу асадніцтва зусім вачавідна выплывае той аграмадны ўдзел у парцэляцыі мясцовага, пераважна беларускага, кулака, які быў дапушчаны да гэтай парцэляцыі, пасьля 1926 г.

Тэмпы правядзеньня мерапрыемстваў па зямляўпарадкаваньні надзвычайна ўзрасьлі пасьля фашыстоўскага перавароту 1926 г. Калі ўзяць

усю скамасаваную зямлю ў Польшчы ў г. г. 1918—1928 за 100, дык на 1918-1925 г. прыпадае 22,6 проц., а на 1926-1928 (9 месяцаў) гг.— 77,4 проц. Характэрна адзначыць дынаміку камасацыі пры фашыстоўскім рэжыме: 1926 г.—15,5 проц., 1927 г.—27,8 проц., 1928 (9 месяцаў) г. 34,3 проц. Пры гэтым скамасаваная зямная плошча ў Зах. Беларусі складае палову скамасаванай плошчы ўсёй Польшчы. Вышэй даныя гавораць аб тым, што фашызм ідзе фарсіраваным тэмпам на ўзмацаваньне сваёй соцыяльнай базы і апоры капіталістычна-абшарніцкай окупацыі на Зах. Беларусі, як пляцдарму перад надыходзячай вайной супроць СССР.

Тое-ж самае наглядаецца і з ліквідацыяй сэрвітутаў. За 1919-1925 гг. зьліквідавана сэрвітутаў 19,7 проц. ва ўсей Польшчы, за час ад 1919 г. да 1928 г., а ў 1926-28 гг. аж 80,3 проц. Тэмп ліквідацыі сэрвітутаў таксама шпарчэйшы на Зах. Беларусі.

Зьліквідавана ў гектарах.

| | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|---|---|
| З. Б. . . . | 5.276 | 12.406 | 20.549 | 49.746 |
| Польшча . . . | 18.928 | 42.861 | 82.882 | 108.373 |

Крэдытовая політыка, якая таксама абслугоўвае абшарнікаў, асаднікаў і кулакоў, значна ўзрасла пры фашыстоўскім рэжыме.

Узмацненьню сельскай буржуазіі служыць хронічны голад на Зах. Беларусі, тое руйнаваньне вытворчых сродкаў бедняка і серадняка, іх непамерна вострая паўпэрызацыя. Даволі сказаць, што 14 проц. усіх гаспадарак ня мае ні каня, ні каровы, а да 15 проц. мае толькі адну карову, каб прадставіць усю галечу працоўнай вёскі. Адгэтуль беспрацоўе, экономічная залежнасьць ад вясковых багацеяў, жорсткая эксплёатацыя і кабала праз абшарнікаў і кулацтва і пераход зямлі і інвэнтару асноўных мас сялянства ў рукі вясковых багацеяў.

Бясспрэчна, што гаспадарчы крызіс адбіваецца на інтэсіфікацыі буйных і кулацкіх гаспадарак. Гэта відаць са зьмяншэньня попыту на штучныя ўгнаеньні ў 1929 г. у параўнаньні з 1928 г.—попыт на паташ зьменшыўся на 34 проц., а фосфарнае ўгнаеньне на 40 проц. Зьменшыўся і ўвоз сельска-гаспадарчых машын.

Аднак, недахопы і прарэхі ў абшарніцкіх і кулацкіх гаспадарках у зьвязку з крызісам вясковыя эксплёататары і ліхвяры імкнуцца пакрыць узмоцненым наступам на сельскі пролетарыят і полупролетарыят. А рост рэволюцыйных настрояў працоўных беларускіх мас і наступленьне пролетарыяту, ліквідацыя кулака як клясы ў СССР, паход соцыялістычнага будаўніцтва сямімільнымі крокамі пяцігодкі, росквіт беларускай пролетарскай культуры яшчэ цясьней будзе зьнітоўваць беларускую буржуазію і кулацтва і іх ідэолёгаў нацыянал-фашыстых з фашыстоўскім лягерам, будзе выклікаць усё больш ажыўленую контр-рэволюцыйную іх дзейнасьць.

## Фашыстоўскі клёк тэорыяў А. Луцкевіча

Тэорыі А. Луцкевіча, як ідэолёга беларускай буржуазіі (у тым ліку і кулацтва) політычна афармляючага яе мэты і імкненьні, зьяўляюцца прадаўжэньнем і разьвіцьцём тэорыяў выплываючых з яго доўгай згодніцкай контр-рэволюцыйнай практыкі. Галоўны агонь і ўся „філёзофія" А. Луцкевіча заўсёды былі накіраваны супроць рэволюцыі, дыктатуры пролетарыяту і яго компартыі. Свае тэорыі і практыку Луцкевіч заўсёды дапасоўваў да вымог і інтарэсаў беларускіх заможных клясаў. Ён у часы (1917—20 гг.) ваенных інтэрвэнцый і збройнага змаганьня супроць соцыялістычнай Кастрычнікавай рэволюцыі выступаў з адкрытым забралам у перадавых шэрагах контр-рэволюцыі. У час настаўшай ваеннай передышкі А. Луцкевіч панырае замаскаваным агентам буржуазіі і провокатарам у гушчу працоўных мас, змагаючыхся за сваё соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне. Цяпер у час заборчага мілітарысцкага шалу імпэрыялістых, напярэдадні выбуху новай крывавай бойні супроць пролетарскай дзяржавы, тэорыі Луцкевіча поўнасьцю адбіваюць і старанна выконваюць соцыяльны заказ імпэрыялістычных апякуноў. Ён стары нашанівец, прайшоўшы провокатарскую школу пры фашыстоўскім рэжыме, улічваючы існаваньне Савецкай Беларусі і шырокі ўплыў компартыі на Зах. Беларусі, ужывае абноўленыя мэтады ў сваёй практыцы, практыцы значна ажыўленай, апіраючайся на ўзмоцненай соцыяльнай базе, бо падпіхаецца арганізаваным антысавецкім блёкам міжнародных акул.

Нас перш-на-перш цікавіць, якім таварам аздабляе А. Луцкевіч прылавак сваёй крамкі, каб завабіць масы бліжэй да фашызму і на якую прыманку ён ловіць масы ў сваю фашыстоўскую мышалоўку. У органе авангарду беларускіх нацыянал-фашыстаў „Наперадзе" любімая нотка Луцкевіча—гэта гаварыць ад імя прыгнечанай беларускай нацыі, плакацца аб разьбіваньні праз комуністых адзінага нацыянальнага фронту, трызьніць аб беларускай народнай рэспубліцы. Буржуазным нацыяналізмам прасьмярдзеў кожны радок гэтай газэціны. Вось некалькі вынятак, якія паказваюць сапраўдны твар ягомасьці Луцкевіча і зьмест яго нацыяналістычных „тэорый".

> Сьвядомая нацыянальна-беларуская радыкальная інтэлігенцыя лічыць *змаганьне за нашыя правы на культурна-нацыянальным фронце* за найважнейшую ў сягонешніх варунках жыцьця справу. Менавіта на гэтым фронце беларусам сягоньня даводзіцца адлюстроўваць найвялікшы націск усіх рознакалёрных і рознаязычных ворагаў нашага нацыянальнага адраджэньня і вызваленьня. („Наперад" № 4, 1930 г.) (невыпадкова гэты агент польскага фашызму замоўчвае пытаньне экономічнага парадку ды соцыяльнага вызваленьня.—Ст.).
>
> — „Пад гул гарматных стрэл, ад якіх валіліся ў пыл тры вялізарныя манархіі: Расійская, Нямецкая і Аўстрыяцкая,—здабылі

сабе дзяржаўную незалежнасьць. І тыя ж чэхі, і палякі, і літвіны, і латышы, і эстонцы, і фіндляндцы. І толькі беларусы ды украінцы аказаліся менш шчасьлівымі за другіх: бо, з аднаго боку, дужэйшыя суседзі іх былі лішне ўжо зацікаўлены ў падняволеньні і падзеле іх між сабою, з другога боку, далёка ня ўсе 10 мільёнаў беларусаў і 30 мільёнаў украінцаў мелі неабходную нацыянальную сьвядомасьць, без якое немагчыма Воля. („Наперад“ № 6, 1930 г.).

Буржуазія ўжывае розныя формы нацыяналізму дзеля сваіх клясавых інтарэсаў, яна нацыяналістычнай пропагандай затушоўвае клясавыя супярэчнасьці ў народзе, распальвае нацыянальны антагонізм дзеля аслабленьня клясавай барацьбы, дзеля адцягваньня працоўных мас з-пад інтэрнацыянальнага вызваленчага сьцягу компартыі.

Ваяўнічы шовінізм—гэта абстуканая і ўжо даволі ненадзейная зброя фашызму, як прыгнечаных, так і прыгнятаючых нацыянальнасьцяй, італьянскія фашыстыя, праводзячы наступленьне капіталізму на рабочую клясу, крычалі ў вушы ўсім пакрыўджаным, прыгнечаным і эксплёатаваным аб „сьвятым адзінстве“, аб „папсутай пабедзе“, аб „велічы італьянскай нацыі“. Для нямецкіх фашыстых прыкрыцьцём іх буржуазнага аблічча і клясавай барацьбы паслужылі лёзунгі за адбудову „вялікай“ Нямеччыны, за рэванш Францыі.

Адкрытаму беларускаму шовінізму ва ўмовах сучаснай Заходняй Беларусі няма вялікага размаху сярод шырокіх працоўных мас. Беларускаму нацыянал-фашызму пры наяўнасьці шырокага ўплыву компартыі на працоўныя масы ў Зах. Беларусі, пры сумежным існаваньні і росквіце вольнай Савецкай Беларусі ня прыдзецца пажынаць лаўраў сваіх перамог. Бо трудна супроцьставіцца ясным і зразумелым для мас лёзунгам компартыі, што нацыянальнае прыгнечаньне ёсьць складаная частка прыгнечаньня пролетарыяту і ўсяго капіталістычнага рэжыму, што няма нацыянальнага вызваленьня без соцыяльнага, што нацыянальнае пытаньне не зьяўляецца надклясавым пытаньнем і яно можа быць вырашана толькі шляхам пролетарскай рэволюцыі, толькі пры дыктатуры пролетарыяту, як гэта мае месца ў СССР.

Стары згоднік і прайдзісьвет Луцкевіч, прыкрываючыся нацыяналізмам, як ідэолёгічнай заслонай, хоча ўгаварыць працоўныя масы Зах. Беларусі, быццам у рамках капіталістычнага ладу Польшчы можна стварыць сваю бацькаўшчыну „лепшую будучыню і поўнага свайго расьцьвету“. Аднак гэтая заслона шыта белымі ніткамі, бо калі Луцкевіч і ўсе іншыя нацыянал-фашыстыя выступаюць у абароне ўсяго беларускага народу, выпучваючы свой „надклясавы патрыотызм“ і адначасна з пенай на губах накідваюцца на пролетарскую рэспубліку—Савецкую Беларусь, дык гэтым выдаюць з галавой буржуазны фашыстоўскі клёк сваіх тэорыяў. Апэруючы падношанымі лёзунгамі аб адзінстве інтарэсаў усяго беларускага народу, нацыянал-фашыстыя хочуць усыпіць клясавую

чуйнасьць працоўных мас, адцягнуць іх ад рэвалюцыйнай барацьбы, ад уплыву компартыі. Кожны, хто за клясавую барацьбу ў абароне інтарэсаў рабочых і працоўнага эксплёатаванага сялянства, хто за рэвалюцыйны рух і ўвязку яго з міжнароднай соцыялістычнай рэвалюцыяй, хто стаіць у абароне Савецкай Беларусі, як сваёй бацькаўшчыны, тых Луцкевічаўская група і ўсе нацыянал-фашыстыя абвяшчаюць ворагамі беларускага народу, абвяшчаюць інтэрнацыяналістымі і „служкамі чужых багоў".

Служачы не за страх, а за сумленьне польскаму капіталу і сваёй буржуазіі, Луцкевіч хоча скрыць служэньне сваім багом—буржуазіі жульнічаскай манэрай—„лаві злодзея" ў адносінах да тых, хто жорсткай барацьбой і кроўю здабывае соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне працоўных мас у Зах. Беларусі.

Аднак, нацыянал-фашызму трэба лічыцца з няпрыемным для іх фактам, лічыцца з той завостранай клясавай барацьбой, з тым высокім роўнем нацыянальна-вызваленчага руху працоўных мас Зах. Беларусі, лічыцца з тым, што гэтыя масы прайшлі вялікую рэвалюцыйную школу пад кіраўніцтвам компартыі. Працоўныя масы Зах. Беларусі на досьледзе барацьбы са шматлікімі беларускімі згодніцкімі групоўкамі ў значнай меры ўяўляюць сабе, што калі гаворыцца аб абароне інтарэсаў усяго народу, значыць справа ідзе аб абароне інтарэсаў буржуазіі і заможных клясаў, аб абароне капіталістычнага ладу, што справа ідзе аб большым іх закабаленьні. Не ашукаеш і не завабіш працоўныя масы пропагандуемай Луцкевічам незалежнасьцю Беларусі („якую маюць чэхі, палякі..."). Працоўныя масы свой горкі досьлед пад буржуазнай так званай незалежнасьцю фашыстоўскай Польшчы, параўноўваючы з сапраўднай незалежнасьцю ў БССР, робяць зусім процілежныя вывады з Луцкевічаўскай пропаганды за беларускую народную рэспубліку.

Вось усё гэта змушае нацыянал-фашыстых выдумваць новыя прошукі ў ашуканстве мас.

Тут Луцкевіч са сваёй новай махінацыяй даводзіць, што зьяўляецца найбольш здатным агентам фашызму. Ён удала выкарыстоўвае палітычную пляцформу нябожчыцы благой памяці „сэцэсыі" КПЗБ, яе нацыяналізм прыкрыты сфальсыфікаванымі лёзунгамі бальшавізму, яе контррэволюцыйную барацьбу супроць польскіх і вялікарасійскіх комуністых, ды сапраўдных комуністых беларусаў-інтэрнацыяналістых. Той самы „Наперад" у кожным нумары зьмяшчае ці, лепш кажучы, кожны нумар прысьвячае антысавецкай і антыкомуністычнай барацьбе. Ва ўсіх гэтых прысьвечаньнях гутарка ідзе аб прасьледваньні беларускіх комуністых у БССР, прасьледваньні беларускай культуры, аб маскоўскім чырвоным імпэрыялізьме, аб Сталінскай супроцьбеларускай політыцы і таму падобная буржузная лухта.

Прыводзячы цытаты з артыкулаў менскай прэсы і партыйных пастаноў, „Наперад" дае свае адменныя ад польскай буржуазнай прэсы комэнтарыі. Кажучы аб барацьбе КП(б)Б супроць нацыянал-дэмократычных

ухілаў, „Наперад“ даводзіць, што гэта ёсьць расправа з усімі тымі комуністымі беларусамі, якія „ў працягу дзесяцёх гадоў, паверыўшы, што Комінтэрн, „надоўга і ўсур'ёз“ пашоў насустрэчу вызвольна-адраджэнцкім імкненьням беларусаў, з напружаньнем усіх сваіх сілаў будавалі беларускую соцыялістычную радавую рэспубліку і беларускую культуру“.

> Вінаваты беларусы-комуністы тым, што шчыра працавалі ў духу ленінскай лініі, не спадзяючыся, што Сталін так хутка зьменіць курс у нацыянальнай політыцы і павядзе яе ў кірунку, любым маскоўскаму нацыяналізму („Наперад“ № 1, 1929 г.).

Згодна тэорыі „Наперад“ цяпер у БССР маюць разьвязаныя рукі маскоўскія нацыяналістыя, якія, „выкарыстаўшы адпаведны момант скажэньня Сталіным запраўднай ленінскай лініі, рынуліся ў атаку на ўсё беларускае“ („Наперад“ № 4, 1929 г.).

> Маскоўскія нацыяналістыя ў комуністычнай скуры і іх беларускія прыслужнікі, пускаючы ў ход свае абвінавачаньні супроць лепшых прадстаўнікоў беларускага комунізму на Ўсходзе...
>
> („Наперад“ № 4, 1929 г.).

З памянёных цытат відаць, як Луцкевічаўская група нахабнай дэмагогіяй у галіне „стопроцантнай“ рэволюцыйнасьці, шарлятанскай фальсіфікацыяй сучаснай ленінскай лініі ЎсеКП(б) і яе правадыра т. Сталіна, стараецца пусьціць туман у вочы працоўных мас, стараецца скомпромэтаваць заваёвы працоўных мас СССР і БССР у галіне экономічнай і нацыянальна-культурнай. Гэтыя агенты фашызму ўжываюць палітычны шантаж, маскуюцца абаронай „беларускага комунізму на Ўсходзе“,— абнаўляюць свае нацыяналістычныя контр-рэволюцыйныя лёзунгі з тым, каб закінуць фашыстоўскую вудачку ў тое опортуністычнае балота, ад якога ачышчаецца КП(б)Б і КПЗБ, каб працісьнуць ідэі сэцэсыі (якая знайшла свой апагей у провокатарсьцьтве Гурына ў найбольш хісткія элемэнты КПЗБ, каб яднаць і стаць на чале ўсіх „пакрыўджаных і прасьледуемых у БССР“, г. ё. буржуазных элемэнтаў і іх ідэолёгаў. Прадстаўляючы нацыянал-дэмакратаў і ўсіх ухілістых, як барацьбітоў за беларускую справу, як ахвяр „сталінскага рэжыму“, ствараючы легенды аб „скажэньні“ ленінскай лініі, нацыянал-фашыстыя хочуць унесьці дэзарыентацыю ў рэволюцыйныя шэрагі, падарваць сымпатыі да Савецкай Беларусі, давер'е да компартыі—словам, служаць на ўзмацаваньне фашыстоўскай дыктатуры і рэалізацыі яе політыкі вайны, эксплёатацыі і паняволеньня.

Цяпер віноўнік усяму, як бачыце, т. Сталін, які, згодна зьвягі „Напераду“, здрадзіў свайму грузінскаму народу, прадаўся маскоўскаму нацыяналізму, ён-жа „разграміў“ у 1917 г. так называемы ўсебеларускі зьезд, а цяпер прасьледуе беларусаў-комуністых, прасьледуе „беларускі комунізм на Ўсходзе“.

Чым-жа выклікана гэтая нянавісьць з боку нацыянал-фашыстых да т. Сталіна? На гэта дае адказ сам „Наперад“: „Усё гэта („колектывізацыя і ліквідацыя кулака як клясы“—А. С.) робіцца ў імя „новай тэорыі“, якую надумаў праводзіць у жыцьцё Сталін, адкінуўшы старую ленінскую лінію ў зямельнай політыцы“ („Наперад“ № 4, 1930 г.).

Шпаркі тэмп індустрыялізацыі, перабудова сельскае гаспадаркі шляхам колектывізацыі, выкарчоўваньне і зьнішчэньне астаткаў капіталістычных элемэнтаў у горадзе і вёсцы, сакрушальная барацьба супроць нацыянал-дэмократаў у БССР, словам, перамога Ленінізму на ўсіх франтох соцыялістычнага будаўніцтва зусім зразумела выклікаюць шалёную клясавую ненавісьць у ідэолёгаў і выявіцеляў волі беларускай буржуазіі і кулацтва—беларускіх нацыянал-фашыстых.

Непамерна вялікія заслугі т. Сталіна, як найвыдатнейшага ленінца ў практыцы і тэорыі, як стойкага і рашучага змагара за чыстату ленінскай лініі са шматлікімі ўхілістымі, пры якім УсеКП(б) і Комінтэрн зьдзяйсьняюць пераможнае бальшавіцкае кіраўніцтва ў соцыялістычным будаўніцтве і міжнародным русе,—усё гэта прыводзіць да заваёў шырокіх мас компартыямі, выклікае пролетарскія сымпатыі да тав. Сталіна. Ствараючы нябывалыя лягенды пра паварот партыі ў сельскагаспадарчай політыцы, па-фашыстоўскаму фабрыкуючы розныя недарэчнасьці пра кіраўніцтва КП(б)Б і яго барацьбу за чыстату ленінскай лініі, нацыянал-фашыстыя награмаджаюць дзікія абвінавачаньні на т. Сталіна з тым, каб выклікаць у масах сумненьні адносна правільнасьці лініі ЎсеКП(б), каб выкарыстаць гэтыя сумненьні дзеля сваіх ваенных фашыстоўскіх мэт.

Што Луцкевічаўская група спрытна пераняла ідэолёгію заснавацеля ўспомненай сэцэсыі—КПЗБ провокатара Гурына, сьцьвярджае яго паказаньне на процэсе Грамады, якое было пададзена на суд у пісьменнай форме. Нацыянал-фашыстыя падпяваюць Гурыну, калі той барацьбу КПП і КПЗБ супроць сэцэсыі і нацыяналістычных элемэнтаў у партыі так тлумачыў: „разумеючы, што далейшае супрацоўніцтва беларускіх організацыяў немагчыма з Комінтэрнам, я перайшоў да вострай крытыкі комуністычных партыяў наогул і КПП асабліва, абвінавачваючы іх у тым, што яны вядуць згодніцкую маскоўскую політыку“.

З паказаньняў провокатара Гурына можна чытаць па картах Луцкевічаўскай групы: „Створаную праз мяне сэцэсыю—кажа Гурын—я ўважаў, як організацыю пераходную. Я ня выказваў выразна аб зрыве з прынцыпамі комунізму і гэта з мэтай завербаваньня як найбольш сяброў. Аднак па сутнасьці імкнуўся да легалізацыі новастворанай партыі... шляхам дагаворанасьці з ППС“. Аб тым, што гэтая дагаворанасьць паміж Луцкевічаўскай групай і ППС ужо існуе, пабачым ніжэй.

Але Луцкевічаўская група ідзе далей. Яна далучае і сябе да гэтых ахвяр „Сталінскай супроць-беларускай політыкі“. „Наперад“ у № 1 1930 г. даводзіць, што КПЗБ у 1926-27 г. „Луцкевіча, Тарашкевіча, Астроўскага, Рак-Міхайлоўскага і іншых узносіць на недасягаемы п‘едэстал, як

сапраўдных і адзіных барацьбітоў-мучальнікаў за працоўны беларускі народ". Далей „Наперад" адзначае, што цяпер компартыя Луцкевіча, Астроўскага пераводзіць у лягер контр-рэволюцыйны і вядзе барацьбу супроць іх, якія „засталіся вернымі свайму ідэалу". Зразумела, што „Наперад" ня кажа аб тым, што сапраўдныя барацьбіты за вызваленьне беларускіх працоўных мас, як Тарашкевіч, Міхайлоўскі і іншыя сядзяць у вастрозе фашыстоўскай Польшчы, а вось „верныя сваім ідэалам" гэта ёсьць прынцыпам фашызму Луцкевіч і Астроўскі, адслужыўшы провокатарскую ролю ў Грамадзе, сталі адкрытымі агентамі фашызму і працуюць верныя сваім ідэалам пад апекай у фашыстоўскага ўраду І бяда нацыянал-фашыстым з гэтымі сталінцамі нават у Зах. Беларусі, якія „распачалі няпрымірымую барацьбу, каб зьнішчыць культурныя здабыткі. беларускіх сялян і работнікаў, каб паўзрываць беларускія культурныя ўстановы".

Больш таго, нацыянал-фашыстыя ў сваім асьцервяненьні да нацыянальна-вызваленчага руху і яго кіраўніка—компартыі, даводзяць, што пагром масавых беларускіх організацый і беларускіх гімназій праз фашыстоўскі ўрад і пры іх дапамозе зьяўляецца ня чым іншым, як „паходам компартыі на культурныя пляцоўкі".

Такі паклёп на компартыю з боку беларускіх нацыянал-фашыстых зьяўляецца разьвіцьцём і дапасаваньнем да сучаснасьці лёзунгаў правакатара Гурына, які кажа: „што тактыка Комінтэрну, якая праводзіцца ў Польшчы, гэта політычная правакацыя... якая мае на мэце выклікаць з боку ўлад масавыя рэпрэсіі".

Вывады свае Луцкевічаўская група робіць з таго, што працоўныя масы пад кіраўніцтвам КПЗБ вядуць барацьбу супроць культурніцтва, супроць позытыўнай працы нацыянал-фашыстых, якая пры фашыстоўскім рэжыме ідзе выключна на карысьць пануючых багатых клясаў і служыць адводам мас ад клясавай барацьбы за сваё вызваленьне. Гэтыя свае вывады Луцкевічаўская група робіць з мэтай ізноў-жа дзеля прыкрыцьця фашыстоўскай буржуазнай сутнасьці сваіх тэорыяў і сваёй практыкі, дзеля атуманьваньня мас і перацягваньня іх на шлях угоды супрацоўніцтва з фашызмам.

Орган нацыянал-фашыстых „Наперад", льлючы кракадзілавыя сьлёзы аб заняпадзе „беларускай культуры і гаспадарчага стану" Зах. Беларусі заклікае працоўныя масы да позытыўнай творчай працы. Кожны рабочы, кожны працоўны вёскі дазнаўся на сваёй скуры, што ня можа быць ніякай органічнай творчай працы пры фашыстоўскай дыктатуры, якая-б ішла на карысьць працоўным масам. Тыя беларускія організацыі (як, напрыклад, ТБШ), якія організуюць працоўныя масы дзеля абароны сваіх інтарэсаў, пастаянна прасьледуюцца ўрадам, тэрорызуюцца, разграмляюцца. Беларускія гімназіі і школы, якія больш-менш ішлі насустрэч дзецям працоўных бацькоў, цяпер разгромлены і сфашызаваны і абслугоўваюць выключна кулакоў і буржуазію.

Зразумела, што пры фашыстоўскім рэжыме ўсё жыцьцё, усе парадкі і сыстэма апарату фашыстоўскай дыктатуры, пабудаваны так, каб за кошт шырокіх працоўных мас будаваць панаваньне і роскаш багатых клясаў. І заклік Луцкевіча да позытыўнай творчай працы зьяўляецца нічым іншым, як заклікам да супрацоўніцтва з фашызмам, да ўзмацаваньня базы фашызму і яго дыктатуры, ды окупацыі на Зах. Беларусі.

Характэрна, што Луцкевічаўскі „Наперад“ у адмену іншых беларускіх нацыянал-фашыстых не абмінае і рабочага пытаньня і выстаўляе сябе прыхільнікам рабочае клясы. Луцкевіч улічвае, што цяпер у эпоху пролетарскіх рэволюцый нельга ігнараваць рабочага пытаньня, ён з жалем адчувае сілу тэй вядучай кіраўнічай ролі пролетарыяту ў міжнароднай рэволюцыйнай арміі, ён ведае, што інтарэсы яго клясы патрабуюць ад яго раскладаючай пагромнай работы і сярод рабочае клясы.

Каб яшчэ больш выпукліць новы манэўр беларускіх нацыянал-фашыстых у сэнсе аб'яднаньня вакол сябе ўсіх ухілістых, выкінутых з компартыі ў Зах. Беларусі і БССР, у сэнсе стварэньня каля сябе орэолу прававерных рэволюцыянэраў, трэба адзначыць, што „Наперад“ не забывае часамі кульгануць і аб сусьветнай рэволюцыі (артыкул „Барацьба за моладзь“ № 1, 1930 г.) і аб тэорыі марксызму, за што радыкальную прэсу бязумоўна ўлады ўсьлед конфіскоўвалі-б. Аб „марксызьме“ Луцкевіча няхай пасьведчаць ніжэй пададзеныя радкі:

> „Ведама, што марксызм нясе вызваленьне ўсім прыгнечаным народам і ніколі ні ад кога не вымагае, каб выракаўся права на самастойнае жыцьцё. У Сталіноўскай лініі запраўды-ж лішне шмат цёмнага. Пастараемся разабрацца ў гэтым у спэцыяльнай стацьці. Запраўды-ж: тут пахне провокацыяй у адносінах да рэволюцыі і яе здабычаў...“

Наогул новая атрута ў тэорыях А. Луцкевіча заключаецца ў тым, што ён побач з асьцервянелым контр-рэволюцыйным паходам, супроць комуністычнага руху і СССР ужывае надзвычайна гнуткую дэмагогію, нахабную фальсіфікацыю лёзунгаў УсеКП(б) і КПЗБ і падзеяў у БССР, спэкулюе сваёй провокатарскай роляй у разгромленай Грамадзе. Бязумоўна, што ўсе гэтыя махінацыі нацыянал-фашыстых і іх хітрая маскіроўка зьяўляюцца пагрозай таму, што на тым ці іншым вучастку вызваленчай барацьбы ім удасца на якісь час праціснуцца ў шэрагі працоўных мас. Аднак, Луцкевічаўскай групе ня ўдасца ашукаць шырокія масы і разьбіць іх рэволюцыйны рух, ня ўдасца вырваць гэты рух з-пад кіраўніцтва компартыі.

Бо ўжо гэты Луцкевічаўскі манэўр сам па сабе вельмі характэрны ў сэнсе ацэнкі настрояў шырокіх працоўных мас Зах. Беларусі, Улічваючы высокі рэволюцыйны ўздым і ўплыў компартыі, Луцкевіч змушаны быў ня толькі спэкуляваць імем разгромленай Грамады, але пайсьці на розныя фальсыфікацыі, лягенды і ілжу аб компартыі і яе ленінскай лініі.

аб сусьветнай рэвалюцыі, марксызьме і т. п., каб паказаць сваю выабражальную блізасьць да рэвалюцыйнага руху і гэтым працiснуцца ў шэрагі працоўных мас.

Луцкевічаўская група спэкулюе популярным імем Б. С.-Р. Грамады, гаворыць ад імя радыкальнай інтэлігенцыі Зах. Беларусі і ў імя абароны „беларускага комунізму на Ўсходзе“ маскуецца левай фразай і паказной опозыцыяй да ўраду. Гэтая група разумее, што з адкрытымі фашыстоўскімі лёзунгамі будзе адразу пабіта і прагнана з асяродзьдзя працоўных мас, яна ведае, што ў адкрытай бойцы з КПЗБ за масы яна будзе сакрушальна і шпарка разьбіта. Вопыт пераможнай барацьбы з усімі беларускімі згоднікамі зьўляецца залогам таму, што не памогуць ніякія прошукі і дэмагогічныя выкрутасы і Луцкевічаўскай групе.

## „Ідэйная коопэрацыя“

Аднэй з важнейшых задач, пастаўленых польскім фашызмам перад групай Луцкевіча—гэта консолідаваць і організаваць усе беларускія контр-рэволюцыйныя антысавецкія групоўкі і элемэнты. У перадавіцы першага нумару „Наперад“ абвяшчаецца, што робіцца спроба „згуртаваць усе жывыя беларускія сілы“ ў „ідэйную коопэрацыю“. Ужо цяпер можна сказаць, што ўсё больш-менш выдатнае на беларускім контр-рэволюцыйным відавоку групуецца каля газэты „Наперад“, каля галоўнага стаўленьніка польскага фашызму А. Луцкевіча. Да гэтай групы прымыкаюць ня толькі прадстаўнікі беларускіх буржуазных кулацкіх слаёў, як беларускі фашысты Я. Станкевіч, Уласаў, расейскі кадэт Самойла, беларуская буржуазная інтэлігенцыя, але і беларуская белая эміграцыя (Чэха-Славакія, Латвія, Літва).

Існуе і ўмацоўваецца чулае братаньне і пераклічка паміж наперадаўцамі і Віленскімі пілсудчыкамі. У сваім органе „Кур‘ер Віленскі“ крэсавыя пілсудчыкі аддаюць шмат увагі „рабоце“ Луцкевіча, бяруць яго ў сваю абарону, прапагандуюць яго ідэі. „Кур‘ер Віленскі“ вітае групу Луцкевіча, якая „не дае падстаў, каб лічыць яе антыпольскай, антыдзяржаўнай“, якая „ўносіць вельмі цэнны ўклад пры рэгуляваньні польска-беларускага сужыцьця“. Атэстацыя зусім адкрытая. Мірна жыць і зрастацца з фашызмам можа толькі той, у каго з фашызмам аднолькавыя інтарэсы, хто ідзе з ім у нагу ў справе падрыхтоўкі нападу на СССР, у справе падаўленьня рэволюцыйнага руху рабочых і працоўнага сялянства, якія ня могуць і ня хочуць мірна жыць пад фашыстоўскім ярмом.

„Кур‘ер Віленскі“ і „Наперад“, як кроўныя браты аднэй фашыстоўскай сям‘і, як „верныя сваім ідэалам“ гавораць адным языком.

„Кур‘ер Віленскі“ № 31 1930 г.:

> „З моманту ўзяцьця ўлады ў Бальшэвіі праз Сталіна адразу распачаўся пэрыяд прасьледваньня нацыянальнага руху на Савецкай Беларусі“.

„Наперад“ № 1, 1929 г.:

„Калі кіраўніцтва партыяй перайшло ў рукі Сталіна, нязвычайна высака падняў галаву пільна ўкрываны раней маскоўскі нацыяналізм“.

„Кур‘ер Віленскі“ № 31, 1930 г.:

„Сярод беларускага грамадзянства вызначаюцца ўсё больш выразныя імкненьні да позытыўнай творчай працы, абапертыя на ўзмацаваньні свайго нацыянальнага бытаваньня, а таксама ў галіне экономічнай і культурна-асьветнай“.

„Наперад“ № 1, 1929 г.:

„Ад гэтае гадзіны трэба ўсе беларускія радыкальныя (!) сілы мобілізаваць на грунце позытыўнае творчае культурна-нацыянальнае працы“.

„Кур‘ер Віленскі“ ад 29/II, 1929 г.:

„Лёзунгам комуністых зьяўляецца лепш зьнішчыць кожную беларускую організацыю, чымся ўтраціць свой уплыў“.

„Наперад“ № 2, 1930 г.:

„Тыя-ж людзі, што ў Менску цяпер распачалі няпрымірымую барацьбу, каб зьнішчыць культурныя здабыткі беларускіх сялян і работнікаў, далі загад сваім паслугачом у Зах. Беларусі, каб за ўсялякую цану паўзрываць перш тут беларускія культурныя ўстановы“.

І ўрэшце № 6 „Наперад“ у прыпісцы ад рэдакцыі да аднаго артыкулу па-прыяцельску патрасае руку віленскім фашыстым: „у газэце „Кур‘ер Віленскі“ былі зьмешчаны дзьве стацьці, прысьвечаныя таму-ж пытаньню, і мусім з задаваленьнем адзначыць, што рэдакцыя польскага органу заняла становішча блізкае да нашага“. Як бачым, поўнае супрацоўніцтва з польскім фашызмам, і беларускія нацыянал-фашыстыя вельмі задаволены, што ўдала спраўляюцца з задачай свайго гегемона.

Ідэйная коопэрацыя беларускіх нацыянал-фашыстых захоплівае і таварышоў па роду фашыстоўскага аружжа—ППС. У нацыянал-і сацыялфашыстых задачы і мэты адны і мэтоды ў барацьбе з рэволюцыйным рухам і компартыяй—сваяцкія і роўналежныя. „Наперад“ старанна пропагандуе важнейшыя манэўравыя пастуляты ППС, называючы гэтых фашыстоўскіх пагромшчыкаў і палачоў рабочае клясы „польскай лявіцай“. „Наперад“, як і ППС, сее дэмократычныя ілюзіі, выступае „змагаром за парлямантарную дэмократыю“.

„Недахоп сапраўднага моцнага беларускага прадстаўніцтва ў сойме, з якім сойм мусіў-бы паважна лічыцца, даецца ўзнакі народу на кожным кроку“ („Наперад“ № 4, 1930 г.).

Луцкевічаўская газэціна прадстаўляе правадыроў ППС, як змагароў за „справядлівую конституцыю, у якой ёсьць задаваленьне ўсіх патрэб прыгнечаных народаў, прыцягненьне працоўных мас да ўлады“.

Луцкевічаўская група вельмі дасьціпла адгараджвае сябе ад здэмаскаваных ужо беларускіх фашыстоўскіх груп з тым, каб у вачох мас прадстаць, як сапраўдныя грамадаўцы, як „Беларуская радыкальная інтэлігенцыя“. З гэтай мэтай на старонках „Наперад“ можна сустрэць палемічныя артыкулы, накірованыя супроць беларускай хадэцыі. Аднак у сапраўднасьці, гэтая сямейная спрэчка зьяўляецца ні чым іншым, як прыкрыцьцём адзінага фронту ўсіх беларускіх рознайстайнасьцяй нацыянал-фашыстых у іх барацьбе супроць нацыянальна-вызваленчага руху. Бо як толькі паўстае пытаньне аб компартыі, СССР, рэволюцыі—усе беларускія нацыянал-фашыстыя ў адзін тон нападаюць на сваіх клясавых ворагаў, уперагонку вядуць дзікую кампанію супроць СССР.

> „Нацыяналістычны лягер беларускай буржуазіі, ня гледзячы на яго вонкавую раздробленасьць, зьяўляецца адзіным лягерам бел. нацыянал-фашызму, які ідзе пад гегемоніяй польскай буржуазіі ў шэрагах міжнароднага антысавецкага фронту і поўнасьцю падпарадкуецца плянам фашыстоўскай дыктатуры ў Польшчы“. (Пастанова III пленуму ЦК КПЗБ).

Луцкевічаўская ідэйная коопэрацыя працуе пад кіраўніцтвам і наглядам дэфэнзывы і праз яе фінансуецца. Пастаянныя дэлегацыі да обэрфашыстага Кіртыкліса, чулыя спатыканьні прэзыдэнта Польшчы хлебам, сольлю і кветкамі, малебны „за здраўе“ жонкі старосты (Навагрудак), супрацоўніцтва ў беларускіх гімназіях з вучыцелямі-дэфэнзыўшчыкамі і паліцыяй, ажыцьцяўленьне лёзунгаў правакатара Гурына, ды шмат што іншае гаворыць аб цеснай палітычнай і організацыйнай увязцы тэорыі і практыкі нацыянал-фашызму з дэфэнзывай.

## Нацыянал-фашыстыя рыхтуюцца да вайны супроць СССР

Галоўная работа ў справе ідэолёгічнай падрыхтоўкі працоўных мас ЗБ да вайны, у справе ўцягненьня гэтых мас да збройнага нападу на СССР узложана польскім імпэрыялізмам на беларускіх нацыянал-фашыстых. Луцкевічаўская група ў сваёй газэце „Наперад“ са скуры лезе вон, каб хлусьнёй, паклёпам, цкаваньнем падарваць сымпатыі мас да СССР і галоўным чынам да яго складовай часткі БССР, да соцыялістычнага будаўніцтва, якое так шпарка разгортваецца пад кіраўніцтвам ленінскай УсеКП(б). З кожнага нумару „Наперад“ перакошаны ад клясавай нянавісьці твар нацыянал-фашызму брызгае пенай атруты да ўсяго савецкага, рэволюцыйнага, комуністычнага. Кожны крок КП(б)Б па ўзмацаваньні і разгортваньні соцыялістычнага будаўніцтва, кожнае заваяваньне і дасягненьне працоўных мас у галіне індустрыялізацыі краю, колектывізацыі сельскай гаспадаркі, разьвіцьця беларускай пролетарскай культуры, посьпехі ў галіне палітычна-ідэолёгічнага выхаваньня мас—усё гэта выклікае скрогат зубоў у нацыянал-фашыстых, выклікае іх актыў-

насьць у барацьбе з рэволюцыйным рухам, у падрыхтоўцы да нападу на СССР.

На антысавецкую контр-рэволюцыйную антыкомуністычную кампанію мобілізаваны ўсе сілы, усе прошукі і здатнасьці нацыянал-фашыстых, ваенным мэтам падпарадкаваны ўсе іх тэорыі і практыка. Іх тэорыя, што КП(б)Б выростае карэньнямі з беларуска буржуазнага адраджэнцкага руху, іх надзеі на капіталістычна-буржуазную рэстаўрацыю Савецкай Беларусі сакрушальна разьбіты пасьпяховай рэалізацыяй пяцігадовага пляну вялікіх работ. Ушчэнт выкарчоўваецца іх апошняя апора ў БССР, капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, ліквідуецца кулак як кляса, іх ідэолёгічных пабратымцаў—буржуазную інтэлігенцыю, нацыянал-дэмократаў сакрушальнай барацьбой канчаткова выбіваюць з усіх позыцыяў. Усё гэта б'е па клясавых інтарэсах беларускай буржуазіі і кулака на Зах. Беларусі, якія бачаць у цесным саюзе з польскай буржуазіяй задаваленьне сваіх інтарэсаў і ратунак ад надыходзячай соцыялістычнай рэволюцыі. Нацыянал-фашыстыя, як ідэолёгі беларускіх заможных клясаў і разнавіднасьць нацыянал-фашызму—нацыянал-дэмократы афармляюць дамаганьні і імкненьні сваёй соцыяльнай базы, а менавіта: змагацца супроць пролетарскай рэволюцыі ў Польшчы, падрываць соцыялістычнае будаўніцтва ў БССР, ажыцьцяўляць заборчыя пляны сваёй буржуазіі, выслугоўвацца перад польскім і міжнародным капіталам.

Ваенны заказ фашыстоўскага ўраду і заборчыя пляны беларускай буржуазіі Луцкевічаўская група стараецца працягнуць у масы шляхам шалёнай кампаніі ілжы і паклёпу на СССР і компартыю. І газэта „Наперад" па-фашыстоўску выкарыстоўвае, перакручвае, скажае кожны рух у разьвіцьці соцыялістычнага будаўніцтва з мэтай давесьці масам, асабліва працоўнаму сялянству, што мэта іх барацьбы—гэта не ўстанаўленьне дыктатуры пролетарыяту, не аб'яднаньне з Савецкай Беларусьсю, а барацьба супроць Саветаў, барацьба за так называемую буржуазную незалежнасьць Беларусі, „якую здабылі сабе чэхі, палякі і г. д."

Пераход беднякоў і серадняковў у БССР пад кіраўніцтвам пролетарыяту і яго компартыі на шлях соцыялістычнага будаўніцтва праз колектывізацыю Луцкевіч прадстаўляе, як крах савецкага ладу, а зьніштажэньне кулака як клясы, прадстаўляе, як наступленьне на ўсё сялянства наогул і ў цэлым. Адгэтуль абарона прышчэпаўшчыны, траўля „сталінскай політыкі супроць хутарызацыі" і г. д.

У справе антысавецкай, антыкомінтэрнаўскай кампаніі Луцкевічаўская група ў Заходняй Беларусі зьяўляецца застрэльшчыкам і ўзорам, яна пад кіраўніцтвам польскага фашызму ідзе наперадзе контр-рэволюцыйнага лягеру, яна ў гэтай кампаніі найбольш ваяўнічая і актыўная.

Яскравым паказальнікам ліхаманкавасьці падрыхтоўкі да вайны зьяўляецца работа Луцкевічаўскай групы па заманьваньні ў свае фашыстоўскія сеткі працоўнай моладзі (выданьне часопісяў „Сям'я і школа", „Вучнёўскі звон", „Студэнцкая думка", арганізаваньне моладзі і т. п.).

Згодна тэорыі гэтых нацыянал-фашыстых моладзь трэба выхоўваць на „нацыянальна-сьвядомую“ інтэлігенцыю, якая „мусіць узяць у свае рукі далейшае правадырства беларускімі працоўнымі масамі ў іх барацьбе за нацыянальныя і соцыяльныя ідэалы“. Вострую клясавую барацьбу, якую вяла працоўная вучнёўская моладзь у беларускіх гімназіях супроць іх фашызацыі і полёнізацыі, супроць беларускіх нацыянал-фашыстых, Луцкевіч абзывае маскоўскай провокацыяй. Адгэтуль далоў клясавую барацьбу, трэба даць „дзецям навуку, падрыхтаваць іх да вялікага заданьня, якое прыпадае ім на долю, як будучых інтэлігентаў“. Луцкевічаўскі „Наперад“, пападаючы ў тон буржуазнай пілсудчыкаўскай прэсе, лемантуе аб комуністычнай пагрозе для моладзі і заклікае:

> „Да грамадзян, да бацькоў мы сёньня зварочваемся з заклікам: беражэце нашых дзяцей, не давайце, каб з іх рабілі гарматнае мяса нібыта ў імя сусьветнай рэволюцыі („Наперад“ № 1, 1930 г.).

Атручваючы моладзь нацыяналізмам, адцягваючы іх ад рэволюцыйнай барацьбы супроць іх клясавых ворагаў, беларускі нацыянал-фашызм нацкоўвае моладзь на компартыю, на „маскоўскі комунізм“, прадстаўляючы іх віноўнікамі ўсіх „Сьціл і Харыбд“, змушае вучняў прымаць удзел у ваенных кампаніях фашызму (збор на польскі ваенны флёт у Навагрудку) і т. п.

Ідучы ўсьлед за польскім імпэрыялізмам, беларускія фашыстыя пры дапамозе польскага ўраду таксама мобілізуюць свае контр-рэволюцыйныя сілы дзеля больш пасьпяховай падрыхтоўкі збройнага нападу на СССР. Згодна паведамленьняў „Напераду“ ствараюцца організацыі беларускіх жанчын, моладзі, вучыцялёў, поэтаў. Організацыя праскага (Чэха-Славаччына) контр-рэволюцыйнага гнязда беларускіх студэнтаў пераносіць сваю сядзібу ў Вільню. Нядаўна наведаў віленскіх нацыянал-фашыстых прадстаўнік беларускай белай эміграцыі ў Літве інжынэр Душэўскі, які ў 1920-21 гг. уваходзіў у 2-гі аддзел польскай дэфэнзывы. Навязаў сувязь і „ўдарнік“ генэрала Шкуро пасол латвійскага сойму Пігулеўскі.

Як бачым, ажываюць і зьлятаюцца ўсе недабіткі вайсковай камісіі, слуцкіх паўстанцаў і іншыя агенты і папіхачы імпэрыялістычнага антысавецкага блёку.

У апошнія часы адбываецца ня толькі ажыўленьне работы нацыянал-фашыстых, але і консолідацыя ўсіх іх элемэнтаў, коордынацыя іх работы па лініі стварэньня адзінага антысавецкага фронту ўсіх контр-рэволюцыйных сіл прыгнечаных нацыянальнасьцяй Польшчы. З гэтай мэтай пад крылом фашыстоўскага ўраду ў Варшаве адбылася конфэрэнцыя самых заядлых контр-рэволюцыянэраў—прадстаўнікоў нацыянал-фашыстоўскіх беларускіх, украінскіх і літоўскіх. Конфэрэнцыя прайшла пад лёзунгамі барацьбы супроць нацыянальна-вызваленчага руху, пад лёзунгам падрыхтоўкі вайны супроць СССР.

**КПЗБ неперамажны кіраўнік рэволюцыйнага руху**

III пленум ЦК КПЗБ, аналізуючы вытокі, дзейнасьць і сутнасьць беларускага нацыянал-фашызму, а таксама об'ектыўныя варункі і сучасную політычную сытуацыю, констатуе, што

> „беларускі нацыянал-фашызм зьяўляецца галоўным ворагам комуністычнага руху ў барацьбе за беларускія працоўныя масы. Небясьпека з гэтага боку яшчэ больш павялічваецца ў выніку таго націску, які робіць нацыянал-фашызм побач з нацыянал-дэмократызмам у БССР на вядомыя колы беларускага нацыянальна вызваленчага руху,—націску, які выяўляецца ў шэрагу ўхілаў і хістаньняў унутры гэтага руху, а таксама і прасачваецца ў шэрагі нашай партыі. Дзеля гэтага барацьба з беларускім нацыянал-фашызмам і яго ўплывам на нацыянальна-вызваленчы рух і нашую партыю зьяўляецца галоўнейшай задачай КПЗБ, асабліва-ж маючы на ўвазе ўсё больш актуальную пагрозу ваеннага нападу фашыстоўскай Польшы на СССР“.

Да гэтага часу Луцкевічаўскай групе і ўсім нацыянал-фашыстым пры іх пастаянных патугах не ўдалося дасягнуць значнейшага посьпеху па лініі заваяваньня працоўных мас, паглыбленьня хістаньня ў шэрагах нацыянальна-вызваленчага руху.

Па-фашыстоўску апрацаваны плян фашызацыі ТБШ, быў з поўнай клясавай сьвядомасьцю здэмаскаваны і адкінуты працоўнымі масамі. Як працоўнае сялянства настарожана і рэволюцыйна чула да ўсіх агентаў фашызму, як даюць адпор вылазкам Луцкевіча-Астроўскага, сьведчаць лісты з месц да рабоча-сялянскай газэты „Сьвітаньне“.

> „Гэтым паведамляем вас, што мы, сяляне з вёскі Мішут, як звычайна атрымалі газэту „Наперад“ № 4 і, прачытаўшы, пераканаліся, што гэтая газэта зьяўляецца здрадніцкай, дык сяляне нашай вёскі гэтай заразнай газэты чытаць ня хочуць“.
>
> „Сяляне Ашмянскага павету напісалі протэст, у якім заяўляюць, што нічога супольнага ня хочуць мець са здраднікамі беларускага вызваленчага руху Луцкевічам і Астроўскім, якія брэшуць у сваёй газэце „Наперад“ на БССР і СССР. Протэст падпісала 19 сялян“. („Сьвітаньне“ № 4).

Далей газэта паведамляе, што рэдакцыя „Наперад“ атрымоўвае цэлыя скруткі нумароў, адсылаемых назад сялянамі з месц.

Асабліва яскравае паражэньне і банкруцтва атрымала Луцкевічаўская група ў сваіх спробах зламаць рэволюцыйную волю кіраўнікоў Грамады, засуджаных на доўгія гады вастрогу. Тарашкевіч, Валошын, Мятла, Рак-Міхайлоўскі і іншыя грамадаўцы катэгорычна адмаўляюцца прымаць Луцкевіча, Астроўскага ці іх агентаў да пабачэньня ў вастрозе. Тараш-

кевіч на апошнім сваім судзе 24 студзеня г. г. патрабаваў удаленьня з залі суду Луцкевіча і Астроўскага, якія прышлі, як госьці, а змушаны былі выйсьці зьбянтэжанымі агентамі фашызму.

Тарашкевіч і Валошын у адказ на нясупынныя спробы Луцкевіча-Астроўскага дабіцца ад іх хоць цені пакаяньня перад фашызмам, адказалі адкрытымі лістамі з вастрогу, у якіх заяўляюць, што „міласьці прасіць мы не прасілі і ня будзем... Усе зьдзекі і вастрог ні на крок ня прыблізілі нас да прымірэнцтва ці згоды. Словам ніхто з нас у санацыю (Луцкевічаўская група—А. С.) ня пойдзе“ (ліст Тарашкевіча). „Я лічу яго (А. Астроўскі) прыезд палітычным шантажом. Наогул, якія не рабіў-бы ён захады адносна мяне ці-то ў відзе звальненьня, ці-то каўцыі, адкідаю іх з пагардай, як нязломны барацьбіт за інтарэсы беларускіх сялян і работнікаў і як адзін з правадыроў гістарычнай Б. С.-Р. Грамады. На яго захады аб звальненьні я катэгорычна і ясна заяўляю: рукі прэч“ (з ліста Валошына).

Гэтыя банкруцтвы і паражэньні нацыянал-фашыстых кажуць аб высокім рэволюцыйным уздыме шырокіх мас, кажуць аб тым, што КПЗБ зьяўляецца домінуючай палітычнай сілай у Зах. Беларусі.

Кожнае банкруцтва і паражэньне нацыянал-фашыстых і нацыянал-дэмократаў і перамогі КПЗБ і КП(б)Б б'юць па адзіным фронце гэтых агентаў імпэрыялізму, дэмаскуюць іх тэорыі, падрываюць іх практыку.

Пераможнае соцыялістычнае наступленьне на ўсіх франтох у СССР і БССР, штурм рэволюцыйных мас пад кіраўніцтвам КПЗБ на фашыстоўскую дыктатуру зьмятаюць і зьмятуць усіх агентаў капіталу.

Працоўныя масы СССР і БССР, побач з будовай соцыялізму, узмацняюць і абарону краю, яны ў любы момант гатовы нанесьці сакрушальны ўдар па першай спробе міжнародных імпэрыялістых пасягнуць на заваёвы Кастрычнікавай рэволюцыі,—яскравым прыкладам чаго зьяўляецца паражэньне кітайскіх генэрелаў. Працоўныя масы Зах. Баларусі пад кіраўніцтвам КПЗБ вядуць барацьбу супроць падрыхтоўкі вайны з СССР, на выпадак-жа ўзброенага нападу на СССР рабочыя і працоўныя сяляне павернуць штыхі супроць сваіх эксплёататараў і прыгнятацеляў у абарону сваёй пролетарскай бацькаўшчыны.

Польскі імпэрыялізм, які ў апошнія часы асабліва нахабна пачынае патрасаць збройным кулаком у бок СССР, які ахоплены ваенным чадам, з асаблівай сьпешнасьцю організуе сваіх агентаў—беларускіх нацыянал-фашыстых—павінен успомніць грозны штых Чырвонай арміі і сакрушальныя ўдары паўстаўшых працоўных мас Беларусі.

# ДА ПЫТАНЬНЯ ПРА АГРАРНЫЯ АДНОСІНЫ НА БЕЛАРУСІ НАПЯРЭДАДНІ 1905 г.[1])

Л. Расін

## I

Аграрныя адносіны, што склаліся да пачатку XX в., маюць свае глыбокія карані ў аграрнай рэформе 1861 г. Вядомыя „адрэзкі“, вызваленьне сялян „ад неабходных для іх гаспадаркі вадапояў, выганаў і да т. п.“, адціканьне сялян на „пясочкі“ і надзвычайная праспалосіца сялянскай зямлі з памешчыцкай, дзякуючы якой „паном памешчыкам быў забясьпечаны надзвычай верны—і надзвычай шляхетны—даход ад спагнаньняў

---

[1]) У гэтай працы шырока выкарыстаны „Труды местных комитетов о нуждах сельско-хозяйственной промышленности Минской губернии“. Для чытачоў, не знаёмых з гэтымі камітэтамі падаем наступную даведку:

Асаблівыя нарады і мясцовыя камітэты а патрэбах сельскагаспадарчай прамысловасьці былі організаваны ў 1902 г. Гэтыя камітэты павінны былі выясьніць патрэбы сельскагаспадарчай прамысловасьці і выпрацаваць прапановы, накіраваныя на ўздым сельскай гаспадаркі і, галоўнае, на суцішэньне вёскі. Буйныя аграрныя хваляваньні, што пачаліся ў 1902 г., сур'ёзна напалохалі кіруючыя колы і прымусілі іх зноў паставіць на павестцы дня сялянскае пытаньне, „якое здавалася ўжо вырашаным“.

Што да складу камітэтаў, то яны былі складзены „з асоб, у консэрватызьме якіх, здавалася-б, не магло быць ніякага сумненьня“ (С. Ю. Віттэ „Воспоминания“, ч. I, стар. 537).

На чале мясцовых камітэтаў былі пастаўлены: губэрскіх—губарнатары, а павятовых—павятовыя прадвадзіцелі дваранства. Камітэты Менскай губэрні, як і другіх губэрняў, складзены: губэрскі—па асабістаму погляду губарнатара, а павятовыя па закліканьню павятовых прадвадзіцеляў дваранства. Само сабою зразумела, што падобным чынам падабраныя камітэты станавілі сабою верхавіну бюрократычнага апарату і цьвет буйнага зямляўласьніцтва. Менскі павятовы камітэт, напрыклад, складаўся з павятовага прадвадзіцеля дваранства, земскіх начальнікаў усіх вучасткаў, падатнога інспэктара, некалькіх лясьнічых і групы буйных зямляўласьнікаў. Такім самым, прынамсі, быў і склад другіх камітэтаў. Заклік на паседжаньні камітэтаў сялян быў неабавязковы і аддаваўся на погляд старшынь камітэтаў або іх членаў. У камітэтах Менскай губэрні „ўдзел“ сялян адзначаны толькі ў Ігуменскім, Мазырскім і Бабруйскім камітэтах, але і тут гэтыя сяляне былі „пераапранутыя“. У Мазырскім павятовым камітэце ў якасьці прадстаўнікоў ад сялян былі выкліканы валасныя старшыні. Што да рэшты камітэтаў, то ў „Трудах“ няма падобных паказаньняў, але і там, як відаць, справа стаяла таксама.

Наогул сяляне ня прыцягваліся да ўдзелу ў рабоце камітэтаў. У тых самых камітэтах, дзе прадстаўнікі сялян былі, яны не разглядалі пытаньняў програмы, а толькі „апытваліся“ па тым ці іншым пытаньні. На адказы-ж сялян уплываў як самы склад гэтых „прад-

за патравы ды інш.“ [1]), бясспрэчна ў тым ці іншым выглядзе мела месца і ў беларускіх губэрнях. Праўда, тут аграрная рэформа мела свае некаторыя асаблівасьці, рускі ўрад з мотываў палітычнага характару крыху „трымаў бок сялян“. Аднак, па сутнасьці, як гэта ўбачым з далейшага, процэс абезьзямеленьня сялян амаль нічым не адрозьніваўся ад таго самага процэсу ва ўнутраной Расіі. Падзеі-ж 1863 г. і мерапрыемствы Мураўёва па забясьпечаньні сялянскай аселасьці і дадатковаму надзяленьню сялян зямлёю ў лепшым выпадку толькі ліквідавалі тое вялікае скарачэньне сялянскага зямлякарыстаньня, а часамі і простае абезьзямеленьне сялян, якое мела месца як у час складаньня інвэнтароў, так і ў пэрыод паміж інвэнтарамі і рэформай 1861 г.

Наяўнасьць сувязі паміж сучаснымі аграрнымі адносінамі і сялянскай рэформай усьвядомлівалася і некаторымі мясцовымі памешчыкамі. Менскі павятовы прадвадзіцель дваранства, напрыклад, у сваім дакладзе аб патрэбах сялянскай сельскай гаспадаркі пісаў: „Больш як 40 год прайшло з часу вызваленьня сялян з прыгону, а тымчасам, прыступаючы да дасьледзін патрэб сялянскай гаспадаркі, мы ўсё яшчэ прымушаны зьвяртацца да гэтай падзеі для растлумачэньня многіх прычын нашага сучаснага становішча, бо з гэтага моманту пачынаецца самастойнае жыцьцё нашага сялянства і з тае прычыны, што цяперашняе становішча нашай вёскі ёсьць вынік умоў, пры якіх адбылося вызваленьне сялян з прыгону“ [2]). Мы ня ставілі сабе задачай дэталёвы разгляд сялянскай рэформы, таму абмяжуемся толькі тым, што падамо некалькі фактаў, якія характарызуюць сувязь паміж рэформай і аграрнымі адносінамі, што склаліся да пачатку XX в.

Рэформай 1861 г. за памешчыцкімі сялянамі пакінуты ўсе тыя сядзібы і палявая зямля з ужыткамі, якімі апошнія ўладалі да зацьверджаньня палажэньня. Тая-ж зямля, якая знаходзілася ў сялян у часовым уладаньні за плату грашыма або сельска-гаспадарчымі продуктамі, зварачалася назад памешчыку, пры гэтым памешчык меў права ва ўсякім выпадку ўтрымаць у сваім распараджэньні да аднае трэцяе часткі ўсёй ужыткоўнай зямлі нават за кошт адпаведнага скарачэньня сялянскага надзелу [3]).

---

стаўнікоў“, так і агульныя абставіны. (Гл. цікавыя спрэчкі наконт гэтага пытаньня ў „Трудах“ стар. 177 і выказваньні „прадстаўнікоў“ сялян а прычынах „ня прыязнасьцяй і тормазаў разьвіцьця сельскай гаспадаркі“, „Труды“, стар. 117—118).

„Труды“ мясцовых камітэтаў становяць вялікую цікавасьць і даюць цікавы матэрыял для характарыстыкі поглядаў прадстаўнікоў буйнага зямляўласьніцтва і верхавін чыноўніцтва на способы вырашэньня заблытанага клубка аграрных адносін напярэдадні рэволюцыі 1905 г., у момант пачатку буйных аграрных хваляваньняў.

[1]) У. І. Ленін, том IX, стар. 609.

[2]) „Труды местных комитетов о нуждах сельскохозяйственной промышленности Минской губ.“ стар. 219.

[3]) Гл. У. І. Пічэта: „Крестьянское и рабочее движение на Белоруссии в эпоху 1905 г.“ („Труды БДУ“, 1926 г., № 11, стар. 105); Ф. Ястремский: „Надельные земли в Минской губ.“, стар. 20.

У Менскай губэрні ў выніку рэформы ў распараджэньне памешчыкаў за надзелам сялян засталося 62 проц. усяе ўжыткоўнае зямлі губэрні, а на долю сялян прышлося толькі 36,3 проц. У сярэднім-жа па 48 губ. Эўропэйскай Расіі на долю сялян прыпадала 55,3 проц. усяе ўжыткоўнае зямлі. Характарна адзначыць, што Менская губ. па адноснаму разьмеру надзельнай зямлі займае амаль апошняе месца сярод 48 губ. Эўропэйскае Расіі [1]).

Рэформа наогул замацавала існуючае становішча рэчаў у адносінах сялянскага зямлякарыстаньня. Калі ўлічыць, што разьмер вучасткаў, што знаходзіліся ва ўладаньні сялян да рэформы, абумоўліваўся галоўным чынам складам рабочай сям'і і тым свабодным часам, які мог у яе заставацца пасьля абавязковай работы на памешчыка, то зробіцца зразумелым, што рэформа з самага пачатку стварыла адноснае перанасяленьне вёскі, якое, як гэта мы ўбачым далей, усё больш і больш абвастралася на працягу ўсёй другой палавіны XIX в. і абумовіла сабою палкае змаганьне сялян за зямлю, пад знакам якога (змаганьня) праходзіла ўся наступная гісторыя аграрных адносін.

Для лічбавай характарыстыкі вынікаў аграрнай рэформы скарыстаем даныя з кнігі Ястрэмскага „Надельные земли в Минской губ.“. Па вестках актаў умацаваньня сярэдні надзел ужыткоўнай зямлі на двор у Менскай губ. складаў 19,63 дзес. з хістаньнем па асобных паветах ад 10,57 дзес. у Навагрудзкім павеце да 27,34 дзес. у Мазырскім. Аднак, сярэдні памер надзелу яшчэ не характарызуе з выстарчальнай яснасьцю пытаньня, якое нас цікавіць.

Кожная сярэдняя дае толькі абстрактную статыстычную лічбу, за якой вельмі часта бывае трудна разгледзець сапраўднае становішча рэчаў. Таму здавалася-б неабходным зрабіць адпаведную групоўку надзелаў па іх фактычных памерах. Нажаль, мы ня маем неабходных матэрыялаў для падобнага роду групоўкі, таму мы прымушаны абмежавацца групоўкай двароў Ястрэмскага па сярэдняй велічыні надзелу ў паселішчы, дзе разьмешчаны двор.

Вось гэтая таблічка.

*Табліца № 1.*

**Групоўка паселішч па сярэднім разьмеры сялянскага надзелу**

| Сярэдні надзел | | | Сярэдні надзел | | |
|---|---|---|---|---|---|
| менш 1 дзес. | | —0,25 | ад 10 да 15 дзес. | | —27,95 |
| ад 1 да 3 | „ | —0,19 | „ 15 „ 20 | „ | —25,20 |
| „ 3 „ 5 | „ | —1,20 | „ 20 „ 25 | „ | —14,95 |
| „ 5 „ 7 | „ | —2,94 | „ 25 „ 30 | „ | — 7,60 |
| „ 7 „ 10 | „ | —8,93 | „ 30 „ 50 | „ | — 9,30 |
| | | | звыш 50 | „ | — 1,49 |

[1]) Гл. Ю. Янсон: „Опыт статист. исследов. о крест. наделах и платежах“.

Гэтая групоўка не дае яшчэ поўнага ўяўленьня пра памеры сялянскіх надзелаў, бо ў аснову яе пакладзены не асобныя двары, а цэлыя паселішчы, для якіх вылічаўся сярэдні памер надзелу ў даным паселішчы, памеры-ж надзелаў унутры паселішчаў былі далёка не аднолькавыя. Але гэтыя даныя ўсё-ж дазваляюць устанавіць, што сярэдні памер надзелу ў большасьці паселішч быў вучастак у 10—15 дзес. *Калі прыняць*, што выстарчальна надзелены тыя гаспадаркі, вучастак ужыткоўнай зямлі якіх складаў 20—25 дзес., то выйдзе, што паселішч з выстарчальным сярэднім надзелам было толькі 14,95 проц., 53 проц. паселішч былі надзелены невыстарчальна (ад 10 да 15 дзес.), 13,5 проц. паселішч атрымалі зусім невыстарчальныя надзелы (да 10 дзес.) і толькі 18,39 проц. паселішч мелі надзелы звыш 25 дзес. Праўда, сярэднія памеры надзелу на душу насяленьня ў заходніх губ. і асабліва ў Менскай былі значна вышэй як у суседніх вялікарускіх і украінскіх губ. Аднак, сярэднія лічбы не даюць яшчэ выстарчальнага матэрыялу для суджэньня пра ступень забясьпечанасьці сялян зямлёю.

„Тая розьніца ў матэрыяльным становішчы сялян, якая ў вялікарускіх губ. паходзіць ад вышэйшых, ніжэйшых і чацьвертных надзелаў, тут яшчэ больш узмацняе розьніцу паміж надзеламі цяглымі, пешымі, гароднымі і батрачнымі, урэшце існаваньнем ва ўсіх губэрнях вялікага ліку сялян беззямельных, ня гледзячы на меры, да гэтага часу ўжытыя, для наладжваньня іх быту“ [1]).

Такім чынам, як гэта зусім правільна адзначана ў аднэй рабоце У. І. Пічэты, „У момант ліквідацыі прыгоннага права сярод сялянства трэба адзначыць наяўнасьць клясавага пачляненьня, якое з цягам часу павінна было яшчэ больш пашырыцца“ [2]).

Гэтыя некалькі лічбаў гавораць нам аб тым, што асноўная маса сялянства—памешчыцкія сяляне—былі надзелены невыстарчальна. Што да дзяржаўных сялян, то даныя Ястрэмскага сьведчаць аб тым, што сярэдні вучастак ужыткоўнай зямлі па гэтай групе сялян складаў толькі 15,27 дзес., пры гэтым у Менскім, Навагрудзкім, Ігуменскім і Слуцкім паветах сярэдні памер вучастка складаў нават адпаведна 9,81 дзес., 10,44 дзес., 11,47 дзес. і 11,98 дзес. [3]).

Абезьзямеленьне дзяржаўных сялян праведзена з такой самай рашучасьцю, як гэта было ў адносінах памешчыцкіх сялян. Тут зусім невыстарчальна надзеленых паселішч (да 10 дзес.) аказваецца ўжо цэлых 24,2 проц, а выстарчальна надзеленых толькі 15,5 проц. усіх двароў. Наш вывад у адносінах абезьзямеленьня сялян у выніку рэформы цалкам сьцьвярджаецца і данымі, якія адносяцца да Менскага павету. Паводле

[1]) Ю. Янсон: „Опыт статистического исследования о крестьянских наделах и платежах“, стар. 114—115.

[2]) В. И. Пичета: „Труды БДУ“, № 11 за 1926 г., стар. 109.

[3]) Ф. Ястрэмский: „Надельные земли в Минской губ.“, стар. 53—54.

вестак, здабытых з выкупных актаў, сяляне ў Менскім павеце атрымалі наступныя надзелы [1]):

*Табліца № 2.*

| Памеры надзелу | Лік двароў | % |
|---|---|---|
| Да 1 дзес. | 1.403 | 12,3 |
| Ад 1 „ да 3 дзес. | 987 | 8.6 |
| „ 3 „ „ 5 „ | 398 | 3,5 |
| „ 5 „ „ 10 „ | 1.144 | 10,0 |
| „ 10 „ „ 15 „ | 3.857 | 33,8 |
| „ 15 „ „ 20 „ | 2.812 | 24,6 |
| Больш 20 дзес. | 823 | 7,2 |

Мы тут не закранаем прычын такога абезьзямеленьня сялян—іх шмат, але як адну з немалаважных прычын мы хочам толькі адзначыць, што мела месца і дабравольнае адмаўленьне некаторых сялян ад траціны надзелу з прычыны немагчымасьці здабыць з надзелу досыць прыбыткаў, каб аплаціць ускладзеныя на іх павіннасьці. З прычыны нізкай у той час арэнднай цаны на зямлю гэта магчыма было нават выгадней, як адбываць павіннасьці за поўны вучастак зямлі [2]). Мы тут таксама не закранаем рэшты катэгорый вясковага насельніцтва, паколькі разгледжаныя ўжо намі групы ахопліваюць 97,5 проц. усіх сялянскіх двароў і, такім чынам, у выстарчальнай ступені вельмі характарызуюць нам сялянскую рэформу.

## II

Зьвернемся цяпер да аналізу аграрных адносін, якія склаліся да пачатку XX в. Спынімся перш за ўсё на разглядзе тых зьмен, якія адбыліся ў разьмеркаваньні зямляўладаньня.

Выданая Цэнтральным статыстычным камітэтам у 1906 г. „Статистика землевладения 1905 г.“ дае магчымасьць прасачыць дынаміку зямляўласьніцтва ад 1877 г. да 1905 г. Абмяжуемся тым, што падамо толькі самыя агульныя вынікі і паспрабуем формуляваць асноўныя вывады, што вынікаюць з гэтых даных.

Увесь зямельны фонд у Менскай губ. да 1905 г. складаў 8.013,5 тыс. дзес. Як гэты фонд разьмяркоўваўся па галоўным катэгорыям уладаньняў і зьмены, якія адбыліся параўнаўча з 1877 г., відаць з наступных даных:

[1]) „Труды“, стар. 220.

[2]) Гл. „Труды“, стар. 219.

*Табліца № 3.*

| | | У 1905 г. | У 1877 г. | Зьмены ў %% |
|---|---|---|---|---|
| Агульная колькасьць зямлі . . . . | | 8.013,5 | 7.057,2 | + 15 [1]) |
| Зямлі ў прыватнай уласнасьці | Лік уладаньняў . . . | 18.093 | 9.114 | +100 |
| | Кольк. зямлі (у т. дзес.) . | 5.257 | 4.281,3 | + 12,3 |
| | Сярэд. памер улад. (дзес.) . | 290,6 | 469,8 | — 22 |
| | % у агульнай плошчы . | 65,6 | 60,7 | — |
| | Лік двароў . . . . | 213.924 | 105.968 | +102 |
| Надзельн. землі | Кольк. зямлі (у т. дзес.) . | 1.946,0 | 1.827,6 | + 6 |
| | У сярэдн. на 1 дв. (дзес.) . | 9,1 | 17,2 | — 47 |
| | % у агульнай плошчы . | 24,3 | 25,9 | — |
| Землі дзярж. царк. і ўстаноў | Кольк. зямлі (у т. дзес.) . | 810,5 [2]) | 945,3 | — 14 |
| | % у агульнай плошчы . | 10,1 | 13,4 | — |

Гэтыя даныя сьведчаць пра глыбокія процэсы, якія адбываліся ў пэрыод 1877—1905 г. у галіне зямляўладаньня. У асноўным яны зводзіліся да падрабненьня як прыватнай зямельнай уласнасьці, так і асабліва надзельнай зямлі. Сярэдні памер прыватнага ўладаньня скараціўся за гэты пэрыод на 22 проц., а сярэдні памер надзельнага вучастка нават на 47 проц. Гэтае драбненьне зямельных вучасткаў можа быць пастаўлена ў сувязь у адносінах прыватнай уласнасьці з некаторай яе дэмократызацыяй, паасобку ў сувязі з політыкай па насаджэньні расійскага зямляўладаньня ў краі, а па адносінах надзельнай зямлі—драбненьнем гаспадарак у сувязі з ростам насяленьня.

Унутры групы прыватнага ўладаньня ёсьць наступныя зьмены сярэдняга памеру ўладаньня:

*Табліца № 4*

| | Лік дзесяцін | | Зьмены |
|---|---|---|---|
| | 1877 г. | 1905 г. | ў %%-х |
| Без адрозьненьня груп . . . . | 469,8 | 290,6 | — 38,2 |
| У т. л.: дваране . . . . . | 1.003,5 | 580.4 | — 42,2 |
| Духоўныя асобы . . . . | 85,4 | 83,9 | — 1,8 |
| Купцы і паваж. грамадзяне . . | 3.496,9 | 3000,8 | — 14,2 |
| Мяшчане . . . . . | 17,7 | 63,9 | +261,0 |
| Сяляне . . . . . . | 28,4 | 41,5 | + 46,1 |

[1]) Павялічэньне зям. фонду ў 1905 г. параўнаўча з 1877 г. тлумачыцца, як відаць, большай дакладнасьцю статыстыкі зямляўлад. 1905 г.

[2]) У тым ліку няўжыткоўных 246,4 тыс. дзес.

Драбненьне вучасткаў характэрна для ўсіх груп асабістых зямельных уласьнікаў, за выключэньнем апошніх двух груп, адносная вага якіх, аднак, невялікая.

Для высьвятленьня абсалютных памераў сялянскага зямляўладаньня трэба яшчэ да агульнага ліку надзельнай зямлі дадаць асабістую зямельную ўласнасьць сялян (141,8 тыс. дзес.) і сялянскія ўладаньні таварыствамі (342,4 тыс. дзес.). Склаўшы гэтыя тры велічыні, мы атрымаем, што сялянскае зямляўладаньне да 1905 г. складала 2.430,2 тыс. дзес. або каля 30 проц. усяго зямельнага фонду губ. проці 1882,3 тыс. дзес. у 1877 г. Сялянскае зямляўладаньне, такім чынам, павялічылася за 28 год толькі на 12,9 проц., тымчасам як насяленьне за гэты пэрыод бясспрэчна падвоілася.

Больш дэталёвы разгляд сялянскай асабістай зямельнай уласнасьці паказвае, што яна толькі вельмі ўмоўна можа быць аднесена да сялянскіх уладаньняў. Ужо самы сярэдні памер сялянскага асабістага ўладаньня—41,5 дзес. выклікае сумненьні наконт працоўнага характару гэтых уладаньняў. Групоўка-ж асабістай уласнасьці *паводле памераў* уладаньняў выяўляе, напрыклад, што сярод сялянскіх уладаньняў лічыцца 7 уладаньняў ад 1000 да 2000 дзес. кожнае, тры ўладаньні ад 2000 да 3000 дзес. і тры ўладаньні нават ад 3000 да 4000 дзес., а ўсяго на долю 13 уласьнікаў—„сялян" прыпадае 26920 дзес. або, інакш кажучы, на долю 3,7 проц. усіх сялян асабістых уласьнікаў прыпадае 19 проц. усяе сялянскай асабістай зямельнай уласнасьці. Відаць, што гэта „сяляне" толькі па цэтліку і таму іх зямельная ўласнасьць наўрад ці можа быць залічана да сялянскай.

Да непрацоўнага зямляўладаньня трэба яшчэ залічыць і ўладаньні ад 100 да 1000 дзес., на якія прыпадае 229 уладаньняў або 8,8 проц. усіх асабістых уладаньняў і 57.415 дзес. зямлі або 41 проц. усяе асабістае зямельнае ўласнасьці сялян. Ачысьціўшы сялянскі зямельны фонд ад уладаньняў паказаных груп, мы атрымаем, што ў карыстаньні сялян у 1905 г. знаходзілася 2.346 тыс. дзес. або 29 проц. усяго фонду ўжыткоўнай зямлі губэрні.

Значыцца, на долю 214 тыс. сялянскіх двароў прыпадала 2.346 тыс. дзес., што складае ў сярэднім каля 11 дзес. на двор, на долю іншых 13 тыс. асабістых уладаньня прыпадала 4.700 тыс. дзес. або 360 дзес. у сярэднім на адно ўладаньне, пры гэтым на долю 91 уладаньня, кожнае больш 10 тыс. дзес. прыпадае звыш 2 міл. дзес., г. зн. 25 проц. усяго ўжыткоўнага зямельнага фонду губэрні, або бадай столькі сама, колькі складала ўсё сялянскае зямляўладаньне. Да 1905 г. захаваліся яшчэ буйныя лятыфундыі побач з прогрэсуючым абезьзямеленьнем масы сялян.

Як вялікія былі памеры абезьзямельньня сялян, відаць з наступных даных, якія датычаць, праўда, аднаго Менскага павету, але якія досыць характарныя ў гэтых адносінах:

Разьмеркаваньне зямельных вучасткаў сялян паводле сярэдняга памеру ўладаньня ў 1861 г. і 1902 г. [1]).

*Табліца № 5.*

| | 1861 г. | 1902 г. | Павялічэньне, або памяншэньне (—) |
|---|---|---|---|
| да 1 дзес. | 1403 | 1425 | 22 |
| ад 1 „ да 3 дзес. | 987 | 3124 | 2137 |
| „ 3 „ „ 5 „ | 398 | 4803 | 4405 |
| „ 5 „ „ 10 „ | 11144 | 7420 | 6276 |
| „ 10 „ „ 15 „ | 3857 | 2544 | —1313 |
| „ 15 „ „ 20 „ | 2812 | 880 | —1932 |
| больш 20 дзес. | 823 | 185 | — 638 |
| Разам | 11424 | 20381 | 8957 |

Сялянскае зямляўладаньне разьвівалася па зьбежнай лініі: лік зямлязабясьпечаных скарачаўся, а лік малазямельных і безьзямельных узрастаў. Маладыя пакаленьні ўсім сваім цяжарам ціснулі на зямлю, зямлю-ж моцна трымалі ў руках зямельныя магнаты, якія лічылі за лепшае эксплёатаваць іх праз адпрацоўкі і кабальную арэнду. Мы ўжо бачылі, што сялянская прыватная зямельная ўласнасьць займала мізэрнае месца ва ўсім сялянскім зямляўладаньні; ня гледзячы на вострую зямельную патрэбу, сялянства ня мела магчымасьці набываць зямлю і вучасткі драбнелі разам з ростам насяленьня. Калі ў 1877 г. на адзін сялянскі двор прыпадала 17,2 дзес. надзельнай зямлі, то ў 1905 г. сярэдні памер сялянскага вучастку зьніжаецца ўжо да 9,1 дзес.

Разьмеркаваньне надзельных уладаньняў па іх памерах, паводле даных „Статистики земледелия 1905 г.“, выкрывае, што вучастак сялянскага зямляўладаньня, які найчасьцей спатыкаецца,—гэта 6—7 дзес. на двор, гаспадарка, якую Ленін залічае да разбуранага сялянства, прыціснутага прыгоньніцкай эксплёатацыяй. Выходзячы з таго, што вучастак у 5 дзес. зямлі, пры даным стане вытворчых сіл, ня мае магчымасьці ўтрымліваць сялянскую гаспадарку і выкарыстаць усю рабочую сілу сялянскай сям'і, што вучастак у 5—10 дзес. зьяўляецца недахватным зямлязабясьпечаньнем для ўтрыманьня сям'і і аплаты ўсіх павіннасьцяй, якія ляжаць на гаспадарцы, то, адпаведна групуючы гаспадаркі, мы атрымаем, што агульны лік сялянскіх двароў у 1905 г. падзяляўся на 12,3 проц. двароў паўпролетарскіх, якія праводзяць большую частку свайго часу на полі памешчыка або ў промыслах на баку, 61,9 проц. двароў невыстарчальна забясьпечаных і ўжываючых з гэтай прычыны арэнду і толькі 25,8 проц. больш або менш забясьпечаных (звыш 10 дзес.), пры гэтым у асобных паветах процант паўпролетарскіх гаспадарак павялічваецца

[1]) „Труды“. Стар. 220.

да 15,2—у Менскім павеце, 18,1—у Слуцкім і нават 34,1—у Навагрудзкім павеце. Само сабою зразумела, што ў гэты падлік не ўвайшлі безьзямельныя, па колькі яны не маглі быць улічаны статыстыкай зямляўладаньня.

Ня дзіва таму, што і некаторыя мясцовыя памешчыкі прымушаны былі прызнаць, што „ўсё вясковае насяленьне ў даны час амаль не пролетарыят пры існуючых умовах“ [1]), што „селянін Пінскага павету мае ворнай зямлі $^{2}/_{3}$ дзес. на душу, што, прымаючы пад увагу слабую ўрадлівасьць зямлі, адсутнасьць у народзе належных сельскагаспадарчых ведаў і прымітыўныя яе прыёмы, што адгэтуль вынікаюць, адсутнасьць машын і правільнага абсталяваньня мёртвага сельска-гаспадарчага інвэнтару ў селяніна, можна наперад сьцьвярджаць, што гэтыя $^{2}/_{3}$ дзес. ня толькі ня могуць служыць крыніцаю багацьця, але наўрад ці могуць даць досыць хлеба для харчаваньня сялянскай сям'і“ [2]).

Сялянскае малазямельле было такое вялікае, што наглядалася заворваньне сялянамі даных ім выганаў, а часамі і сенажацяй [3]) тым часам, як „для селяніна няма такіх вельмі цяжкіх умоў, на якія-б ён не згадзіўся, каб толькі зьняць сенажаць на частку або за грошы, асабліва, лепшай якасьці; для яго ня існуе няпрыступнага, непралазнага балота, для яго няма такое цяжкое, зьвязанае нават з рызыкай страціць жыцьцё і здароўе, працы, на якую-бы ён не адважыўся дзеля здабытку сена. Самыя няпрыступныя сенажаці з самай дрэннай травою косяцца сялянамі на трэцюю частку або на палавіну; ні ў вошта лічыцца грузнуць цэлымі днямі па пояс у твані або брадзіць па вадзе і жаць або касіць верхавінкі травы, што выступае з вады, зьбіраць яе ў лодкі, вывозіць на больш высокае месца і там класьці яе ў стагі, і ўсё гэта рабіць аддаючы ўласьніку трэцюю частку, а часамі і палавіну“ [4]). „Патрэба ў сенажатніх ужыткоўнасьцях,—чытаем мы ў аднэй запісцы, паданай у Ігуменскі павятовы камітэт,—вялікая, а іх няма. Што гэта факт, то п. п. зямляўласьнікі, напэўна, не адмовяцца пацьвердзіць гэта і, апрача таго, паведаміць, што сяляне бяруць у іх сенажаці ўсяго толькі на $^{1}/_{5}$ часткі добрай, на $^{1}/_{3}$—дрэннай. Ці гэта ня доказ пільнае патрэбы?“ [5]).

Пытаньне пра пашу і сенажатныя ўжыткоўнасьці ў Менскай губ. надзвычай заблытанае, мы яго закранем у другой сувязі пры разглядзе сэрвітутнага пытаньня. Тут-жа мы падалі гэтыя вытрымкі для таго, каб падкрэсьліць усю вострасьць сялянскага малазямельля.

Чаму сялянства, адчуваючы такую вострую патрэбнасьць у зямлі, не выступала больш актыўна на зямельным рынку, ня прымала больш актыўнага ўдзелу ў процэсе, які адбываўся, мобілізацыі прыватнай зямельнай уласнасьці?

---

[1]) „Труды“ стар. 286.

[2]) „Труды“ стар. 310.

[3]) Тамсама, стар. 214.

[4]) Тамсама, стар. 310.

[5]) Тамсама, стар. 162.

Мы ўжо адзначалі, што сялянства цягнулася да зямлі і не рабавала ніякімі сродкамі для таго, каб яе здабыць, у тым ліку і праз выступленьні на рынак у якасьці пакупніка зямлі, аддаючы за яе ўвесь дадатковы продукт свае гаспадаркі. Аднак, роля сялян на рынку, як гэта мы паспробуем давесьці ў далейшым, была нязначная.

III

Скарыстаем даныя статыстыкі зямляўладаньня і паспрабуем на аснове гэтых даных даць агульную характэрыстыку працэсу мобілізацыі зямлі на працягу 1863—1902 г., г. зн. за 40 гадоў—пэрыод з часу аграрнай рэформы.

Наступная табліца, складзеная намі на падставе офіцыйных даных дэпартаманту акладных збораў [1]), характарызуе гэты працэс у 5 заходніх губ. параўнаўча з 45 губ. Эўропэйскай Расіі.

*Табліца № 6.*

| | Купл і—продажы зямлі | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Усяго за 40 г. (1863—1902) | Асобныя дзесяцігодзьдзі ў проц. да агулу за 40 год зямельная цана ў проц. да сярэдняй за 1863—1872 г. г. | | | | | |
| | | 1863—1872 г. | 1873—1882 г. | 1883—1892 г. | 1893—1902 г. | У тым ліку: 1893-1897 г. | 1898-1902 г. |
| **Лік зьдзелак (у тыс.)** | | | | | | | |
| Па 45 губ. Эўроп. Расіі | 911,3 | 12,4 | 23,1 | 28,5 | 36,0 | 15,1 | 20,9 |
| У т. л. 5 заход. губ. | 66,3 | 9,5 | 15,5 | 30,2 | 44.8 | 20,4 | 24,4 |
| **Лік дзесяцін (у млн.)** | | | | | | | |
| Па 45 губ. Эўроп. Расіі | 118,9 | 16,8 | 29,2 | 24,0 | 30.0 | 13,9 | 16,1 |
| У т. л. 5 заходн. губ. | 14,6 | 14,0 | 25,9 | 25,4 | 34,7 | 16,6 | 18,1 |
| **Кошт праданай і купленай зямлі (у млн.)** | | | | | | | |
| Па 45 губ. Эўроп. Расіі | 4108,8 | 8,8 | 17,7 | 24,6 | 48,9 | 17,2 | 31,7 |
| У т. л. 5 заходн. губ. | 324,7 | 7,4 | 14,5 | 22,3 | 55,8 | 21,0 | 34,8 |
| **Сярэдн. зямельн. цана за дзесяціну (у руб.)** | | | | | | | |
| Па 45 губ. Эўроп. Расіі [2]) | — | 100,0 | 121,0 | 191,5 | 322,0 | 250,0 | 382,0 |
| У т. л. 5 заходн. губ. | — | 100,0 | 107,0 | 167,0 | 307,0 | 241,0 | 367,0 |

[1]) „Материалы по статистике движения землевладения в России“ вып., XII. Погубернские итоги мобилизации и средние земельные цены за 40-летие 1863—1902 г. г.

[2]) Бяз Пермскай губ.

У паданай табліцы паказаны абсолютныя лічбы на 40 год і адносныя лічбы на кожныя 10 год. Толькі ў адносінах апошніх 10 год, якія ўсутыч закранаюць пэрыод, што нас цікавіць, мы падаем агулы і па пяцігодках.

Пра што гаворыць гэтая табліца?

Перш за ўсё пра тое, што зямля ад дзесяцігодзьдзя да дзесяцігодзьдзя ўсё больш інтэнсыўна выкідвалася на рынак. Лік зьдзелак, колькасьць адчужванай і набыванай зямлі і асабліва яе кошт даюць няўхільна крывую, якая падвышаецца, прычым асаблівую сілу мобілізацыйны процэс дасяг у апошнія пяць год разгляданага намі пэрыоду. На гэтую пяцігодку па 45 губ. Эўропэйскай Расіі прыпадае 20,9 проц. усіх зямельных зьдзелак за 40 год, 16,1 проц. усяе колькасьці адчужанае і набытае зямлі і нават 31,7 проц. яе кошту. У сярэднім за 40 год па 44 губ. Эўропэйскай Расіі штогод прадавалася 3,07 проц. усёй плошчы прыватна-ўласьніцкай зямлі, г. зн. за 40—гадовы пэрыод зямля пераходзіла ад аднаго ўласьніка да другога 1,23 разы. Гэта, зразумела, ня значыць, што кожны ўчастак зямлі абавязкова 1,23 разы на працягу 40 год ішоў на рынак, затое многія ўладаньні пераходзілі з рук у рукі вельмі шпарка. Зямля была ўцягнута ў тавараварот і зрабілася об'ектам спэкуляцыі ды ўзбагачэньня для адных і прычынай разбурэньня для другіх. Сялянства, зямляўладаньне якога ўжо ў момант вызваленьня было зусім невыстарчальным для вядзеньня колькі-небудзь сярэдняе гаспадаркі, па меры росту народанасяленьня і парцэляцыі ў сувязі з гэтым вучасткам, усё больш і больш актыўна выступала на рынку ў якасьці пакупніка зямлі. Зямельныя-ж монополістыя адказвалі на гэтую павышаную актыўнасьць сялян рэзкім падвышэньнем цаны на зямлю, загароджваючы, такім чынам, шлях да зямлі асноўнай масе сялянства. Дынаміка зямельнай цаны за 40-гадовы пэрыод выяўляе рэзкі ўздым уверх і за апошнюю пяцігодку яна ўжо аказваецца ў чатыры разы вышэй цаны, якая існавала ў першым дзесяцігодзьдзі пасьля рэформы. Мы ў далейшым пастараемся паказаць, наколькі непамерна высокая была зямельная цана ў параўнаньні з даходнасьцю зямлі. Пакуль мы толькі адзначым, што спэкулятыўна ўзрослая цана не знаходзіць свайго тлумачэньня ні ў стане цаны на продукты рольніцтва, ні тым больш у капітальных затратах на палепшаньне і падвышэньне яе ўраджайнасьці. Рост цаны выклікаўся толькі монополіяй кучкі асоб, якія перапампоўвалі, такім чынам, дадатковы продукт, што назіраўся ў сялянскай гаспадарцы, для свайго ўласнага, да таго яшчэ, ня вытворчага спажываньня. Тая акалічнасьць, што амаль увесь дадатковы продукт сялянскай гаспадаркі і значная частка дадатковай цэннасьці ўсяе народнай гаспадаркі наогул замест вытворчага спажываньня павінны былі быць перадаваны найбольш паразытычнай і нявытворчай клясе для яе асабістага спажываньня зьяўлялася аднэй з галоўных прычын адносна застойнага стану нашае народнае гаспадаркі і наогул земляробства паасобку.

Мобілізацыйны процэс у Заходніх (беларускіх) губэрнях нічым амаль не адрозьніваецца ад апісанага ўжо намі процэсу ў рэшце Эўропэйскай Расіі. І тут лік зьдзелак, колькасьць адчужанай зямлі ды яе кошт няўхільна падвышаліся ад дзесяцігодзьдзя да дзесяцігодзьдзя. Процэс нарастаньня мобілізацыі зямлі тут, мабыць, яшчэ больш ярка выражан. На долю апошняга дзесяцігодзьдзя ў Заходніх губэрнях прыпадае 44,8 проц. усіх зьдзелак за 40 год, 34,7 проц. колькасьці ўсяе адчужанае і набытай зямлі і нават 55,8 проц. яе кошту. Мобілізацыйны процэс у заходніх губэрнях, як відаць, пачаўся пазьней, як гэта мела месца ў сярэднім па Эўропэйскай Расіі наогул. Тут на першае дзесяцігодзьдзе пасьля аграрнай рэформы прыпадае ўсяго толькі 9,5 проц. усіх зьдзелак за 40 год і 14,0 проц. колькасьці адчужанае зямлі. Сялянства, дзякуючы існаваўшаму сэрвітутнаму праву, у першыя гады, як відаць, ня вельмі востра адчувала патрэбу ў зямлі. Потым-жа, па меры росту нясяленьня і абмежаваньня памешчыкамі сэрвітутнага карыстаньня, і беларускі селянін прымушаны быў выносіць свае мізэрныя пажыткі на рынак у памену на кавалак панскай зямлі.

Які быў удзел у гэтым мобілізацыйным процэсе асобных соцыяльных груп насяленьня?

Адказ на гэтае пытаньне даецца ў наступнай табліцы, складзенай намі паводле матэрыялаў Ф. Ястрэмскага [1]):

*Табліца № 7.*

| | Куплі-продажы зямлі ў заходніх губ.[2]) па станах прадаўцоў і пакупцоў у сярэднім за пэрыод у проц. да агулу | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Прадаўцы | | Пакупцы | |
| | 1863—1892 г. | 1893 г. | 1863—1892 г. | 1893 г. |
| | Лік зьдзелак | | | |
| Дваране, чыноўнікі і афіцэры | 50,7 | 60,1 | 20,8 | 10,0 |
| Сельскія абываталі | 13,6 | 20,2 | 58,4 | 69,0 |
| Купцы, грамадзяне і профэс. годнасьці | 3,5 | 3,8 | 3,3 | 2,3 |
| Іншыя | 22,2 | 15,9 | 17,7 | 18,7 |
| | Лік дзесяцін зямлі | | | |
| Дваране, чыноўнікі і афіцэры | 73,2 | 82,3 | 61,8 | 51,5 |
| Сельскія абываталі | 2,1 | 3,2 | 13,5 | 21,6 |
| Купцы, грамадзяне і профэс. годнасьці | 5,5 | 7,8 | 14,3 | 12,1 |
| Іншыя | 19,2 | 6,7 | 10,4 | 14,8 |

[1]) „Материалы к оценке недвижимостей в Минской губ. Купли-продажи, залоги и аренды земель у Минской губ.“.

[2]) Віленская, Віцебская, Горадзенская, Ковенская, Менская і Магілеўская губ.

Прадаўцамі зямлі выступалі дваране, чыноўнікі і афіцэры, іх контрагентамі былі пераважна сельскія абываталі (паводле тэрміналёгіі статыстыкі), адносная вага якіх ва ўсёй масе пакупцоў склала ў сярэднім за 30 год (1863—1892 г. г.) 58,4 проц., а за наступныя 5 год павялічылася нават да 69,0 проц. Пакупцамі зямлі выступалі і дваране, асабліва ў пэрыод 1863—1892 г. г., што часткова тлумачыцца політыкай ураду па насаджэньню Расійскага зямляўладаньня ў краі. У цэлым мобілізацыйны процэс да 1905 г. мала закрануў дваранскае зямляўладаньне. Паводле даных „статистики землевладения 1905 г.“ дваранскае зямляўладаньне да 1905 г. у Менскай губ. складала палавіну ўсяго зямельнага фонду губэрні, 76,9 проц. усяе плошчы прыватнага ўладаньня і 86,3 проц. усяе плошчы, якая знаходзілася ў асабістай уласнасьці.

Наступная табліца дае разьмеркаваньне зямельных зьдзелак паводле іх памераў і ўзровень зямельнай цаны ў залежнасьці ад памераў зьдзелкі[1]).

*Табліца № 8.*

| Групы паводле памераў зьдзелак | Лік зьдзелак | | Лік дзесяцін | | Сярэдняя цана 1 дзес. у руб. | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У проц. да адпаведнага агулу | | | | | |
| | 1863—1892 г. | 1893—1897 г. Зах. губ. | 1863—1892 г. | 1993—1897 г. Зах. губ. | 1863—1892 г. | 1893—1897 г. Зах. губ. |
| ад 1 да 5 дзес. . . | 19,2 | 13,8 | 0,1 | 0,2 | 19,76 | 119,36 |
| „ 5 „ 10 „ . . | 10,4 | 12,6 | 0,2 | 0,4 | 52,87 | 61,73 |
| „ 10 „ 50 „ . . | 37,9 | 43,1 | 3,3 | 5,1 | 35,89 | 46,61 |
| „ 50 „ 100 „ . . | 10,1 | 10,8 | 2,5 | 4,0 | 31,40 | 44,90 |
| „ 100 „ 500 „ . . | 14,6 | 14,3 | 12,2 | 15,4 | 26,19 | 38,0 |
| „ 500 „ 1000 „ . . | 3,5 | 2,7 | 9,1 | 9,3 | 21,44 | 31,50 |
| „ 1000 „ 5000 „ . . | 3,5 | 2,2 | 27,6 | 24,0 | 14,56 | 30,14 |
| Звыш 5000 дзес. . . | 0,8 | 0,5 | 45,0 | 41,6 | 6,90 | 17,58 |
| Разам . . | 100,0 | 1000,0 | 100,0 | 100,0 | 14,63 | 27,80 |
| Абсолютна (лік дзес. у тысячах) . . . . . | 34654 | 12171 | 9313 | 2423 | — | — |

Пераважным памерам зьдзелкі быў вучастак у 10—50 дзес. На долю зьдзелак гэтага памеру прыпадала ў 1863—1892 г. 37,9 проц., а ў 1893—1897 г.—41,1 проц. усіх зьдзелак, што адпавядае адзначанай ужо высокай адноснай вазе сельскіх абываталяў—пакупцоў зямлі. Аднак, па адносінах да колькасьці мобілізаванай зямлі гэтая група займае ў 1863—1892 гг. усяго толькі 3,3 проц., а ў 1893—1897 гг.—5,1 проц. Аб‘яднаўшы ўсе зьдзелкі ў тры групы: дробныя, сярэднія і буйныя і залічаючы да першай групы зьдзелкі да 50 дзес., другой—да 1000 дзес. і трэцяй звыш 1000 дзес. мы атрымаем:

[1]) „Материалы к оценке недвижимостей в Минской губ. Купли-продажи, залоги и аренды земель“.

*Табліца № 9.*

| | Адносная вага ў проц. | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Па ліку зьдзелак | | Па ліку дзесяцін | |
| | 1863—1892 | 1893—1897 Зах. губ. | 1863—1892 Зах. губ. | 1893—1897 Зах. губ. |
| 1 група . | 67,5 | 69,5 | 3,6 | 5,7 |
| 2 „ . | 28,2 | 27,8 | 23,8 | 28,7 |
| 3 „ . | 4,3 | 2,7 | 73,6 | 65,6 |
| Разам . | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |

Гэтая табліčка цалкам пацьвярджае наш вывад аб тым, што дробныя пакупцы, займаючы пераважнае месца па ліку заключаных імі зьдзелак, здымалі з рынку ледзь 5—6 проц. прадаванай зямлі. На долю-ж некалькіх процантаў буйных пакупцоў прыходзіцца да 80 проц. купленай зямлі.

На жаль, мы ня маем магчымасьці больш дэталёва разглядзець пытаньне пра ўдзел сельскіх абываталяў (паводле тэрмінолёгіі тагачаснай афіцыйнай статыстыкі) у мобілізацыйным процэсе—у нашым распараджэньні няма патрэбных для гэтага даных. Бясспрэчна, аднак, што гэтыя сельскія абывалі не станавілі сабою аднастайнай клясавай групоўкі. Сюды ўваходзяць як тыя сялянскія гаспадаркі, якія прымушаны былі зьвяртацца да зямельнага рынку для задаволеньня сваіх уласных спажывецкіх патрэб, так і верхавінныя кулацкія пласты вёскі, якія пашыралі сваё зямляўладаньне далёка за межы працоўнага зямлякарыстаньня. У гэтым пераконвае нас супастава некаторых вышэй паданых лічбаў. Так, у Заходніх губэрнях на долю дробных зьдзелак, умоўна прынятых у памеры ад 1 да 50 дзесяцін у 1893—1897 гг., прыпадае 5,7 проц. усяе зямлі, што хадзіла на рынку (гл. табл. № 9), на долю сельскіх абываталяў, як пакупцоў, прыпадае 21,6 проц. усяе мобілізаванае зямлі (гл. табл, № 7). Такім чынам група сельскіх абываталяў узятая цалкам выходзіць далёка за межы дробных зьдзелак. Калі нават дапусьціць, што ў першых найбольш дробных групах па меры зьдзелак прымалі ўдзел выключна сельскія абывалі, чаго сапраўды ня было, што сярэдні памер зьдзелак апошніх павінен быў хістацца ў межах ад 1 да 500 дзесяцін, пры чым каля 16 проц. (21,6 проц.—5,7 проц.) усяе мобілізаванае за пяцігодку зямлі, або каля 75 проц. усяе набытае сельскімі абываталямі зямлі, прыпадае на долю верхавіны пластоў вёскі. Гэтыя ўскосныя даныя дазваляюць нам зрабіць вывад пра тое, што і ў Заходніх губ. кулацкія пласты вёскі прымалі актыўны і адносна большы ўдзел у мобілізацыйным процэсе ў галіне зямляўладаньня. Пра гэта кажа і адзначаны ўжо намі рост сярэдняга памеру прыватнага сялянскага зямляўладаньня (гл. стар. 104).

Само сабою зразумела, што дробныя пакупцы на рынку аказваліся ў значна менш выгадным становішчы параўнаўча з буйнымі. Паданая вышэй табліца (№ 8) паказвае, што зямельная цана заметна зьніжалася разам з ростам памеру зьдзелкі. Калі сярэдняя цана на зямлю па зьдзелках да 5 дзес. у 1893—1897 г. г. у Заходніх губэрнях складала 119,36 руб. за дзес., то па зьдзелках звыш 5 тыс. дзесяцін, гэтая цана зьмяншаецца да 27,80 руб. Таму для характарыстыкі ўдзелу сялян у мобілізацыйным процэсе трэба выходзіць з гэтай вышэйшай цаны, бо асноўная маса сялян скупляла дробныя вучасткі па надзвычайнай высокай, якая ў 4—5 разоў перавышала сярэднюю, цане.

Аналіз зямельнай цаны па соцыяльных групах пакупцоў і прадаўцоў паказвае, што сельскія абывалі ў цэлым з прычыны перавагі адносна дробных пакупак аказваліся на рынку ў значна менш выгодным становішчы параўнаўча з іншымі групамі пакупцоў.

Вось адпаведныя даныя:

*Табліца № 10.*

| | Продажная цана дзесяціны ў рублёх | | Пакупная цана дзесяціны ў руб. | |
|---|---|---|---|---|
| | 1863—1892 | 1893—1897 зах. губ. | 1863—1892 г. | 1893—1897 г. зах. губ. |
| Сарэдні кошт дзесяціны без адразьненьня груп . . . | 15,00 | 28,10 | 15,00 | 28,10 |
| У т. л. дваране, чыноўнікі і афіцэры . . | 15,34 | 27,38 | 13,01 | 28,29 |
| Сельскія абывалі . | 22,64 | 32,55 | 24,54 | 35,51 |
| Купцы, ганаровыя грамадзяне і людзі вольнай профэсіі . . . | 13,01 | 30,09 | 10,57 | 20,80 |

Гэтыя даныя ўжо самі па сабе характарызуюць дзейнасьць Сялянскага пазямельнага банку, які павінен быў памагчы малазямельнаму сялянству набываць зямлю. Мы бачылі, што розьніца ў цане ў залежнасьці ад памераў зьдзелкі ў 1893—1897 г., г. зн. пасьля дзесяцігадовага існаваньня банку ня толькі ня зьменшылася, але нават павялічылася. Сельскія абывалі ў Заходніх губ. у 1893—1897 г. г. плацілі значна больш высокую цану за зямлю параўнаўча з рэштай груп пакупцоў. Больш таго, абсолютны ўзровень пакупное цаны на зямлю, што набывалася праз Сялянскі пазямельны банк, значна перавышае агульную продажную зямельную цану. Так, сярэдняя пакупная цана банку ў 1887 г. перавышала адпаведную агульную зямельную цану ў Менскай губэрні на 76 проц. За пэрыод з 1887 г. па 1902 г. цана банку ўзрасла больш

як у 2 разы, прычым тэмп росту банкаўскай цаны перавышаў адпаведны тэмп росту сярэдняй зямельнай цаны; у выніку цана банку ў 1902 г. робіцца ўжо вышэй агульнай зямельнай цаны на 100 проц.[1]).

Вось таблічка, складзеная намі па „Памятных кніжках" Менскай губэрні, якая ў выстарчальнай ступені харыктарызуе дзейнасьць Сялянскага пазямельнага банку.

*Табліца № 11.*

| | 1897 г. | 1898 г. | 1899 г. | 1900 г. | 1901 г. | 1902 г. | 1904 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Лік пакупцоў (домаўласьнікаў) | 1671 | 2074 | 2647 | 3570 | 4294 | 2785 | 3573 |
| Кольк. набыта зямлі (у тыс. дзес.) | 23,5 | 19,8 | 30,2 | 45,1 | 50,8 | 24,8 | 37,0 |
| Сума пакупкі (у тыс. руб.) | 726 | 813 | 1044 | 1624 | 2291 | 1401 | 2097 |
| У т. л. даплата пакупцоў з уласных сродкаў | 233 | 275 | 350 | 488 | 755 | 455 | 550 |
| У проц. да ўсяго кошту набытай зямлі | 32,1 | 33,9 | 33,5 | 30,0 | 33,0 | 32,5 | 35,8 |

З гэтай табліцы відаць, што ў Сялянскі банк зьвярталіся адносна мала: у сярэднім штогод куплялі зямлю праз банк толькі 1,4 проц. сялянскіх гаспадарак. Пазыкі выдаваліся ў памеры 64—70 проц. кошту набытай зямлі, рэшты 30—36 проц. павінны былі даплачваць пакупцы са сваіх сродкаў. Пры гэтым пазыкі выдаваліся на ўмовах 6—7 проц. гадавых, тым часам як Дваранскі банк па сваіх опэрацыях браў толькі 4 проц. гадавых.

Гэтая адмоўная дзейнасьць банку, які ўзмацняў дыфэрэнцыяцыю вёскі, усьвядомлівалася нават мясцовымі памешчыкамі. Менскае таварыства сельскай гаспадаркі, напрыклад, зазначыла, што Сялянскі банк з прычыны бюрократычнай руціны, не дае сваім кліентам належнай карысьці"[2]). Менскі павятовы камітэт а патрэбах сельска-гаспадарчай прамысловасьці прыйшоў да вываду, што да таго, каб сельскаму бяднейшаму насяленьню даць магчымасьць набываць зямлю неабходна: 1) Зьніжэньне плацяжоў па пазыках банку, ва ўсякім разе да памеру плацяжоў Дваранскага банку, асаблівая дапамога пры пакупцы зямель безьзямельным і малазямельным сялянам, па магчымасьці бяз жадных даплат, 2) перагляд і зьмена ацэначных правіл банку з мэтай большай адпаведнасьці ацэнак банку сапраўднаму кошту праданай зямлі, 3) выдача пазык з банку і памеры да 100 проц. ацэнкі"[3]).

[1]) Розьніца паміж цаною Сялянскага пазямельнага банку і агульнаю зямельнаю цаною вылічана намі праз супаставу сярэдняй зямельнай цаны банку паводле даных Ф. Ястрэмскага і агульнай зямельнай цаны ў губэрні паводле „материалов по движению землевладения в России", вып. XIII.

[2]) „Труды," стар. 34.

[3]) Тамсама, стар. 24.

Аднак, патрабаваньні пра зьмяншэньне процанту па пазыках Сялянскага пазямельнага банку мы спатыкаем толькі ў „Трудах“ Менскага павятовага камітэту; у рэшце камітэтаў пытаньне пра Сялянскі банк амаль ня падымалася.

Як-жа сялянства змагалася з безьзямельлем, ня маючы магчымасьці купляць зямлю?

Часткова арэндай.

Паводле даных, якія адносяцца да 1887 г.[1]), у Менскай губэрні зарэгістравана 9135 арэнд, што ахоплівалі 1.007,8 тыс. дзесяцін (апрача надзельных), з якіх 92 проц. агульнае прасторы арэндаванай зямлі прыпадае на дваранскія ўладаньні. Такім чынам, дваранства значную частку свае ўжытковае зямлі эксплёатавала праз арэнду, што было, як убачым далей, выгадней продажу зямлі нават па адзначанай ужо высокай цане. У далейшым памеры арэнды, мяркуючы паводле даных Ястрэмскага, відаць, скарачаюцца. На жаль, даныя, якія ёсьць у нашым распараджэньні, не дазваляюць колькі-небудзь прыблізна ўстанавіць памеры і пашырэньне зямельнай арэнды да пачатку XX в. Таму мы абмяжуемся толькі тым, што падамо даныя, якія крыху асьвятляюць характар сялянскай арэнды.

Перш за ўсё пра арэндную плату.

З даных, што падаюцца ў паказаных „матэрыялах“, відаць, што арэндная плата ўзрастала разам з ростам зямельнай цаны. Так, арэндная плата ўзрасла ад 2 р. 45 к. на дзесяціну ў 1902 г. да 3 р. 15 к. у 1904 г., г. зн. павялічылася за два гады на 47 проц. Пры гэтым арэндная плата у 1904 г. у Навагрудзкім, напрыклад, павеце перавышала 5 руб. за дзесяціну. Арэнда, як гэта відаць з даных, што належаць да 1904 г. была пераважна грашовая (94,3 проц. усіх зарэгістраваных арэнд). Натуральных арэнд у Менскай губ. налічвалася 296 на плошчы 3343 дзес., прычым значная частка натуральных арэнд прыпадае на Барысаўскі павет (101 арэнда) і Мазырскі (94). Гэтыя даныя, аднак, як паказвае і Ястрэмскі, не ахопліваюць усіх выпадкаў натуральных арэнд, з прычыны цяжкасьці іх уліку. Аднак, паданыя ўжо намі вытрымкі з „Трудов“ мясцовых камітэтаў Менскай губэрні адносна пашыранасьці арэнды з часткі ўраджаю, асабліва сенажацяй, сьведчаць нібы пра тое, што гэты выгляд арэнды меў месца і пры тым даволі шырокае. Вось што мы чытаем у „Трудах“ Рэчыцкага павятовага камітэту пра арэнду сялянамі сенажацяй.

„Казённыя сенажаці здаюцца ў арэнду звычайна з таргоў на адзін год; сярэднія дзялянкі па якасьці травы раскупляюцца заўсёды за высокую цану, бо попыт вялізны, ён перавышае ў шмат разоў наяўнасьць добрай травы. Лепшыя сенажаці бяруцца на торгу з бою, як кажуць, заможнымі арэндатарамі, а беднякі звычайна задавальняюцца паўдзікімі, а не дык і зусім дзікімі сенажацямі. Бядняк, узяўшы дзікую дзялянку,

[1]) „Материалы к оцэнке недвижимостей в Минской губ. Купли-продажи, залоги и аренды земель“, стар. 37.

косіць яе год—два, на трэці год, як толькі трава крыху палепшыцца, дык забірае дзялянку на таргох заможны арэндатар, а бедняку зноў прыходзіцца касіць дзікую дзялянку, каб потым яна перайшла да заможнага, як і папярэдняя. Так бядняк і ня ўбачыць у сябе воза добрага сена да свае сьмерці, а такіх беднякоў у многіх і многіх вёсках, ёсьць, нажаль амаль ня 80 на 100“ [1]).

Рэчыцкі павет з гэтага боку ня быў адзін. У Барысаўскім павятовым камітэце скардзіліся, што „хоць Барысаўскі павет наогул нельга аднесьці да мясцовасьцяй малазямельных, хоць таксама нельга сказаць, каб жадаючыя набыць зямлю спатыкалі якія-небудзь асаблівыя перашкоды ў адшуканьні ўжыткоўнасьцяй усякага віду для куплі, або каб на зямлю існавала высокая цана, аднак, ня гледзячы на ўсё гэта, маса дробных земляробаў, пераважна сялян, у шмат якіх выпадках, выключна з прычыны недахвату сенажацяй, кідаюць свае гаспадаркі і шукаюць для пасяленьня, па-за паветам, больш адпаведнае месца“ [2]). Гэтая „ня высокая“, паводле думкі барысаўскіх зямляўласьнікаў, зямельная цана ўзрасла ў Барысаўскім павеце ад 1893—1897 г. г. да 1903—1905 г. г. на 100 проц.

Што „запыт на зямлю падымае цану як продажную, так і арэндную“ і што сяляне „давалі за яе (зямлю) цану нават вышэй сапраўднага кошту“ [3]), усё-такі ўсьвядомлівалася памешчыкамі. „Але, робячы так,— чытаем мы ў адным дакладзе ў Барысаўскім павятовым камітэце,—селянін ані ня робіць безрахубна. Для чалавека, які дарма дабіваецца працы, на якую ён здольны, куды выгадней таней прадаць сваю працу і атрымаць працу, як зусім застацца бяз дзела і сядзець склаўшы рукі, ня маючы, чым прахарчавацца сябе.

Даючы высокую цану за зямлю пры пакупцы і арэндзе, селянін, мабыць, адмаўляецца ў выніку ад атрыманьня проціанту на затрачаны капітал, цалкам атрымліваючы з ураджаю плату за сваю працу або, што тое-самае, атрымліваючы проціанты на капітал, таней атрымлівае за сваю працу як гэта належала б па існуючай цане на апрацоўку зямлі“ [4]). Ад сябе дадамо, што прымушанае рабіць так, сялянства адмаўляецца ад проціанту на затрачаны капітал і ад часткі платы за сваю працу. І тое і другое прысвоіў сабе манаполісты—зямляўласьнік.

## IV

Для характарыстыкі сялянскага зямлякарыстаньня неабходна яшчэ закрануць сэрвітутнае пытаньне, якое зьяўляецца часткаю агульнага пытаньня пра зямлязабясьпечанасьць сялян. Мы прымушаны, аднак,

---

[1]) „Труды“, стар. 398—399.

[2]) Тамсама, стар. 130.

[3]) Тамсама, стар. 141.

[4]) Тамсама, стар. 141.

з самага пачатку вызначыць пэўныя межы, якія выклікаюцца як тэмай, так і памерам данай працы. Мы абмяжоўваемся толькі разглядам сэрвітутнага пытаньня з пункту погляду зьвязанасьці яго з пытаньнем сялянскай зямлязабясьпечанасьці наогул і аграрных адносін паасобку.

Сэрвітутная праца вядзе свой пачатак яшчэ з прыгоньніцкай эпохі. Яно заключалася ў праве сялян карыстацца некаторымі вывадамі ад ужыткоўнасьцяй памешчыка, менавіта: права пасьвіць жывёлу на папары і ржышчы памешчыка, у лесе, на балотах і другіх няўжытковых участках, касіць у памешчыцкім лесе траву, зьбіраць павал на апал, грыбы, ягады і да т. п. Сэрвітуты павінны былі папоўніць сялянам адсутнасьць або недахват у іх надзелах пашы і сенажацяй. Гэтыя правы сялян заносіліся ў так званыя інвэнтары, якімі рэгуляваліся адносіны сялян да памешчыкаў.

Ня гледзячы на тое вялізарнае значэньне, якое мела сэрвітутнае права ў заходніх губ., яно было не спамянута мясцовым палажэньнем 1861 г. і ня было ўключана ў Статутныя граматы, якія рэгуляваліся па зямельнай адносіне сялян і памешчыкаў. Толькі потым, калі, пры пераварэньні Статутных грамат у выкупныя акты, пачалі ўзьнікаць непаразуменьні, распараджэньнем генэрал-губэрнатара графа Мураўёва было растлумачана, што за сялянамі павінна быць захаванаа права карыстаньня пашаю, якою яны карысталіся да вызваленьня, гэтае права павінна быць уключана і ў выкупныя акты. Аднак, пры ўмацаваньні за сялянамі пашавага сэрвітуту ў большасьці выпадкаў зазначаўся толькі від сэрвітуту бездакладнага абмежаваньня прасторы, на якую пашыраецца гэтае права, часу, на працягу якога сэрвітутаўласьнікі мелі права пасьвіць сваю жывёлу і г. д. Натуральна таму, што амаль ва ўсіх мясцовых камітэтах Менскай губэрні чуваць былі скаргі на поўную няпэўнасьць сэрвітутнага права. У „Трудах“ Пінскага павятовага камітэту, напрыклад, мы чытаем:

„Крыніцай істотнай шкоды ў нас, у Заходнім краі, зьяўляецца тая асаблівасьць, якою адрозьніваюцца нашыя сэрвітуты, а менавіта іх няпэўнасьць... Акты, што ўстанаўляюць сэрвітуты, якія, паводле закону, павінны-б дакладна і строга вызначаць памер і граніцы такіх, у большасьці выпадках адрозьніваюцца ўзорнай недакладнасьцю і няяснасьцю. Гэтая акалічнасьць зьяўляецца прычынай розных непаразуменьняў, памылковых тлумачэньняў і прысваеньня няіснуючых правоў, якія цягнуць за сабою нямінуча бесканцовыя судовыя справы [1]).

Наколькі вялікае было значэньне і пашыранасьць сэрвітутаў у Менскай губ. відаць хоць-бы з таго, што паводле даных, якія адносяцца да 83168 гаспадарак, за 49248 або 52,2 проц. усіх гаспадарак выкупнымі актамі было замацавана права сэрвітутнага карыстаньня, пры гэтым у асобных паветах процант сялянскіх гаспадарак, якія карысталіся сэрвітутамі даходзіў нават да 88,5 проц. (Мазырскі павет), 75,2 проц.

---

[1]) „Труды“, стар. 325.

(Навагрудзкі павет), 73,2 проц. (Слуцкі павет) [1]). З тых самых даных відаць, што пераважнымі відамі пашавага сэрвітуту былі карыстаньні агульнымі з памешчыкамі выганамі і паша ў лясох памешчыкаў, рэшта відаў сэрвітутаў ня мелі, як відаць, колькі-небудзь значнага пашырэньня.

Сялянства, надзелы якога мелі мала сенажацяй і пашы, або зусім ня мелі іх, натуральна можа трымалася за свае сэрвітутныя правы, энэргічна протэстуючы проці ўсякіх спроб іх урэзваньня. Памешчыкі-ж усяляк стараліся ўрэзаць гэтыя правы аж да поўнага фактычнага іх скасаваньня. Таму сэрвітутныя непаразуменьні былі вельмі пашыранай зьявай і „зрабіліся асноўнай прычынай аграрных непаразуменьняў сялян з іх памешчыкамі, якія часамі абвастраліся“ [2]).

Сэрвітутнае права было бясспрэчна перажыткам прыгоньніцкай эпохі, якая перашкаджала ўласьнікам маёнткаў, абцяжаных сэрвітутамі, завесьці правільную капіталістычную гаспадарку. Зямляўласьнікі „пачалі лічыць асабліва для сябе цяжкімі тыя рэшткі патрыярхальных абавязкаў, якія яна атрымала ў спадчыну і ў выглядзе даваньня пашы для сялянскай жывёлы“ [3]). Менскі губэрскі камітэт прызнаў, што „самым хворым пытаньнем мясцовага жыцьця зьяўляецца тормаз усякай культуры, сэрвітут з усімі аномаліямі, што ад яго існаваньня паходзяць“ [4]), і знайшоў неабходным „зьнішчыць гэтае зло зусім“. Мазырскі павятовы камітэт прызнаў, што „сэрвітут ва ўсіх яго відах у тутэйшым краі зьяўляецца галоўным тормазам да ўсякага правільнага вядзеньня ляснсе і другіх відаў сельскае гаспадакі“ [5]). Апрача таго, паводле думкі бадай усіх мясцовых камітэтаў, сэрвітутнае права надзвычай шкодна і нават распусна ўплывае на ўяўленьне ў сялянах пра чужую ўласнасьць, з прычыны чаго сэрвітут заўсёды зьяўляецца глебай для ўсякіх непаразуменьняў паміж памешчыкамі і сялянамі [6]).

Аднак, імкненьне памешчыкаў вызваліць свае маёнткі ад сэрвітутаў, што абцяжвалі іх, тлумачылася, як відаць, ня толькі гэтымі прычынамі. Выбарачнае абсьледваньне ўплыву пашавых сэрвітутаў на стан сялянскай і памешчыцкай гаспадаркі, зробленыя ў 1894 г., якое ахапіла 230 пасялішч Паўднёва-Заходняга краю, устанавіла, што асобныя ад сялян пашы, якія ёсьць у памешчыкаў, ня толькі пакрываюць патрэбы памешчыцкай жывёлы, але даюць яшчэ лішак кармовых сродкаў. Тым часам пашы ў сялян зусім не хапае для прахарчаваньня сялянскай жывёлы. Таму памешчыкі маёнткаў, не абцяжаных сэрвітутамі, а таксама тыя памешчыкі, якім тым ці іншым спосабам удалося вызваліцца ад сэрвітутаў, атрымалі магчымасьць выгадна эксплёатаваць сваю пашу і сенажаці,

[1]) „Энцыклёпэдычны слоўнік“ Брокгауз і Эфрон, том 58, стар. 639.

[2]) „Труды“, стар. 24.

[3]) Тамсама, стар. 409.

[4]) Тамсама, стар. 3.

[5]) Тамсама, стар. 230.

[6]) Таксама, стар. 118.

бяручы па 5—6 руб. з галавы сялянскае жывёлы за выпас на памешчыцкіх запасных землях на працягу лета [1]).

Мы ўжо падавалі сьведчаньні мясцовых памешчыкаў пра крайнюю патрэбу сялян у сенажатных ужыткоўнасьцях і пашы. Што памешчыкі выбівалі з гэтай вострай патрэбы сялян вялікую для сябе карысьць відаць хоць-бы з таго, што ў Пінскім, напрыклад, павеце „шмат якія ўласьнікі значна скарацілі або зусім спынілі палявыя гаспадаркі, каб мець магчымасьць прадаваць сена, бо гэтым шляхам дасягаецца самы большы даход з маёнткаў“ [2]). Памешчыкі, як відаць, менш за ўсё думалі пра ўвядзеньне шматпольля і другіх мерапрыемстваў па агрыкультурнаму палепшаньню свае гаспадаркі. Тое самае дасьледваньне ўстанавіла, што ў тых маёнтках, дзе былі разьмеркаваны сэрвітуты, наглядалася шпаркае і масавае павялічэньне колькасьці зямлі, якая здавалася памешчыкамі сялянам пад выпас за грошы, што ў гэтых маёнтках адзначан рост іх даходнасьці, выкліканы, аднак, не ўвядзеньнем удасканаленых сыстэм сельскай гаспадаркі, а толькі з прычыны зьяўленьня новай крыніцы даходаў у выглядзе платы, што атрымлівалася ад сялян за выпас іх жывёлы па тых памешчыцкіх ужыткоўнасьцях, якія раней былі пад сэрвітутам.

Натуральна таму, што асноўным лёзунгам мясцовых камітэтаў было патрабаваньне „спыніць раз на заўсёды ўсе зямельныя адносіны паміж сялянамі ды іх былымі прыгоннымі ўласьнікамі“ [3]), „пытаньне пра сэрвітуты скончыць адразу прымусовым спосабам“ [4]), поўнага зьнішчэньня сэрвітутаў у мэтах „упарадкаваньня паняцьця аб праве ўласнасьці, якое састаўляе адну з самых галоўных падстаў экономічнага і політычнага жыцьця народаў“ [5]) і г. д.

Пытаньне пра скасаваньне сэрвітутнага права, гэтага „немагчымага непаразуменьня“ і „прынцыпу комуны“, як яно было ахарактарызавана ў адным дакладзе ў Пінскім павятовым камітэце [6]), ставілася ня першы раз. Памешчыкі яшчэ ў час прыгоннага права былі нездаволены сэрвітутамі і стараліся ўвесь час не заносіць іх у інвэнтары. Гэтае імкненьне скончыць з сэрвітутамі яшчэ больш павінна было павялічыцца ў парэформавы пэрыод, калі продажная і арэндная цана на зямлю моцна ўзрасла. Памешчыкі, абмежаваныя існаваўшымі законамі, якія не дапускалі скасаваньня сэрвітутнага плана без дабрахвотнае на тое згоды сялян і адпаведнае ўзнагароды за гэтае скасаваньне, знаходзілі масу ўскосных шляхоў, якія вялі амаль да поўнага зьнішчэньня сэрвітутаў уласьнікаў— сялян. Дабраовольнае згоды, як гэта адзначаюць шмат якія члены камітэтаў, дасягнуць было вельмі цяжка, за ўвесь час адзначана толькі

[1]) „Энцыклёпэдычны слоўнік“ Брокгауз і Эфрон, том 58, стар. 634.

[2]) „Труды“, стар. 310.

[3]) Тамсама, стар. 401.

[4]) Тамсама, стар. 149.

[5]) Тамсама, стар. 230.

[6]) Тамсама, стар. 327—328.

80 выпадкаў раскладкі сэрвітутаў [1]). „Лёгка ўясьніць сабе,—чытаем мы ў адным дакладзе ў Пінскім павятовым камітэце,—чаму закон,—што дазваляе скасаваньне сэрвітутаў праз дабравольныя зьдзелкі, застаўся на практыцы амаль бяз ужываньня. Галоўная прычына заключаецца ў няпэўнасьці сэрвітутных узаемаадносін. Як толькі, у большасьці выпадкаў, паміж уласьнікамі маёнтку і сялянамі існуе рознамоўе наконт аб'ёму сэрвітуту, само сабою зразумела, ня можа быць згоды і наконт памеру ўзнагароды" [2]).

Не дасягнуўшы дабравольнае згоды, больш правільна, дабравольнага адмоўленьня сялян ад сэрвітутнага карыстаньня (адпаведнае ўзнагароды сялянам памешчыкі, як мы гэта ўбачым з далейшага, даць не хацелі). Памешчыкі пачалі касаваць сэрвітутнае права фактычна. Шмат магчымасьцяй у гэтых адносінах давалі рознага роду ўрадавыя тлумачэньні, сэнацкія рашэньні і г. д. Пра памешчацкія лясы паклапаціўся Лясны статут, які забараняў пасьвіць жывёлу на пасеках і маладнякох, што не дасяглі 15-гадовага ўзросту, і вызначаў для выпасу жывёлы спэцыяльныя так званыя заказьнікі. Памешчыку-ж заставалася толькі вызначыць заказьнікі ў такіх мясцох, каб да іх было далёка гнаць жывёлу або ў такіх мясцох, дзе прагон жывёлы абмяжоўваўся лёгкай магчымасьцю, напрыклад, патравы, або быў зусім немагчымы [3]).

Што да палявога сэрвітуту, то ў Менскім губэрскім камітэце, напрыклад, са здаволеньнем канстатавана, што „на падставе сэнацкіх рашэньняў сэрвітутная паша на папары (талака) не абмяжоўвае права памешчыка ўводзіць шматпольле ў гаспадарку [4]), а „пры шматпольным севазвароце ў памешчыцкіх гаспадарках сяляне амаль зусім пазбаўлены магчымасьці карыстацца данымі ім сэрвітутамі, а таму прымушаны наймаць пашу ў таго самага, або ў суседняга памешчыка на досыць цяжкіх да сябе ўмовах [5]).

Рад умоў, як об'ектыўнага характару (увядзеньне шматпольля, больш пільны выраб папараў, пашырэньне культуры кораньплодаў), так і суб'ектыўнага (вельмі раняе ворыва папару, якое скарачала-б пэрыяд выпасу, непамернае павялічэньне памешчыцкага стада, асабліва авец, што зьнішчалі ўвесь корм на сэрвітутным ужытку і да т. п.)—усё гэта вяло да фактычнага зьнішчэньня сэрвітутаў бяз жаднае ўзнагароды за гэта сялян. Гэтымі сродкамі і дабіваліся памешчыкі „дабравольнае згоды" сялян на раскладку сэрвітутаў. Гэта тым больш зразумела, што паводле думкі памешчыкаў „сялянам у іх сэрвітутным праве дорага толькі воля і свабода да ўсяго, што ён бачыць вакол сябе, а ня фіктыўная паша" [6]).

---

[1]) „Материалы оценки недвижимостей в Минской губ. Надельные земли", стар. 46.

[2]) „Труды", стар. 324.

[3]) „Материалы к оценке недвижимостей в Минской губ. Надельныя земли", стар. 41.

[4]) „Труды", стар. 64.

[5]) „Материалы к оценке ...", стар. 42.

[6]) „Труды", стар. 169.

„Устойлівасьць як самога сэрвітуту, так і памеру яго,—піша ў сваёй запісцы Ф. Ястрэмскі,—магла мецьмесца толькі пры захаваньні нязьменнасьці памешчыцкіх уладаньняў і сыстэмы памешчыцкіх гаспадарак. Але з тае прычыны, што гэтых апошніх умоў ня было і не магло быць, што ўжо са зьменай велічыні маёнткаў і сыстэм гаспадарак, ня кажучы пра іншыя акалічнасьці і не закранаючы асабістых якасьцяй тых ці іншых памешчыкаў, з ракавою неабходнасьцю пачала адбывацца паступовая частковая, а потым і поўная страта сялянамі сэрвітутных правоў, якая набыла за апошнія гады шырокія памеры“ [1]).

Прагладаючы тое мноства прапаноў, якія падаваліся ў мясцовыя камітэты, з прычыны сэрвітутаў [2]), пачынаеш разумець, чаму гэты бясспрэчны перажытак прыгоннай эпохі, якім былі нездаволены, як відаць, абодва бакі, ня мог быць зьнішчаны на аснове дабравольнай згоды паміж памешчыкамі і сялянамі. Памешчыкі спалучаюць у сабе палкае жаданьне ліквідаваць сэрвітуты з ня менш моцным жаданьнем ліквідаваць іх бяз жаднае страты для сябе. Для памешчыкаў наогул пытаньне было яснае, яны пазіралі на сэрвітуты, як на часовыя правы, даныя сялянам у моц чыста палітычных меркаваньняў. Віца-старшыня Менскага таварыства сельскай гаспадарцы ў сваёй запісцы так і пісаў, што „пакаленьне, якому сэрвітутнае ўладаньне было перадана пры выкупе ў часовае карыстаньне, ужо вымерла, а новае пакаленьне прывыкла пазіраць на сэрвітутныя ўжыткоўнасьці, як на сваю ўласнасьць, у якой вотчыньнік маёнтку, паводле яго разуменьня, мае нейкі нявызначаны ўдзел“ [3]). Калі-б сяляне ня былі так „падкія на чужое дабро“, як не аднойчы зазначалася ў „Трудах“, то яны, паводле думкі памешчыкаў, павінны былі дабравольна адмовіцца ад сэрвітутных правоў, падзякаваўшы яшчэ ўласьнікаў за часовае карыстаньне імі. Але, як мы гэта ўжо бачылі сяляне, нават пры ўсім іх жаданьні выглядаць больш паважна ў вачох сваіх былых уласьнікаў, гэтага зрабіць не маглі. Вельмі ўрэзана было іх зямляўладаньне ў момант вызваленьня і вельмі вострая была патрэба ў зямлі наогул і пашах ды сенажацях асабліва.

## V

Мы разгледзілі пытаньні, зьвязаныя з сялянскім зямляўладаньнем і зямлякарыстаньнем. Мы бачылі, што памеры сялянскага зямлякарыстаньня павялічыліся за 40-гадовы пэрыод зусім у малой ступені параўнаўча з ростам народанасяленьня, што на сэрвітутныя правы сялян вялося заўзятае наступленьне памешчыкаў, якія дабіваліся тым ці іншым спосабам няпоўнага ўхіленьня сэрвітутаўласьнікаў, то значных абмежаваньняў, якія часта абясцэньвалі ўсё значэньне сэрвітутаў для сялян.

[1]) „Труды“, стар. 24.
[2]) Тамсама, стар. 26, 169, 401.
[3]) Тамсама, стар. 74.

У беларускай вёсцы, як і ў другіх частках Расіі, адбываўся, значыцца, процэс абеззямеленьня і раскладу сялянства, які дасяг да пачатку XX в. свайго надзвычайнага абвастрэньня. Гэтаму процэсу ў значнай ступені дапамагала і падатковая політыка царскага ўраду і яго органаў на месцах. У руках заможных клясаў падаткі былі магутным сродкам па-за экономічнай экспропрыацыі ня толькі дадатковага продукту сялянскай гаспадаркі, але і часткі неабходнага продукту. Падатковая політыка ўраду займае далёка не апошняе месца ў радзе прычын, якія адмоўлівалі прогрэсуючае зьбядненьне і разбурэньне асноўнай масы сялянства.

Нажаль, умовы месца не дазваляюць нам падрабязна спыніцца на разглядзе матэрыялаў па пытаньні пра павіннасьці сялян. Адашлем тых, хто цікавіцца гэтым пытаньнем, да работы Ф. Ястрэмскага „Повинности крестьян". Адзначым толькі, што пры ўсёй маладаходнасьці сялянскай гаспадаркі павіннасьці былі і абсолютна і адносна надзвычай вялікія. У абсолютным выражэньні павіннасьці сялян (апрача харчовага збору) у Менскай губэрні склалі 2.652,2 тыс. руб.[1]). Пераводзячы чысты збор з жыта на сялянскай зямлі на грошы, лічачы, прыкладна, 1 млн. чацьвярцей[2]) па 5 р. 70 к. за чэцьверць[3])—усяго 5.700 тыс. рублёў, мы атрымаем, што павіннасьці сялян складаюць каля паловы ўсяго чыстага сялянскага збору галоўнага збожжа губэрні. Гэты наш разьлік, якава-б ня была яго ўмоўнасьць, надзвычайна ярка характарызуе падатную справу ў былой Расійскай імпэрыі наогул і ў беларускіх губэрнях паасобку.

Паводле разьліку Менскага павятовага прадвадзіцеля дваранства, павіннасьці сялян у 1901 г., уключаючы сюды і выдаткі на духоўныя трэбы і нядоімкі мінулых гадоў, якія трэ' было папаўняць, складалі 2 руб. 28 к. на кожную дзесяціну сялянскай зямлі, апрача натуральных павіннасьцяй: дарожнай і поліцэйскай[4]). Калі выходзіць з гэтых разьлікаў, то абцяжанасьць сялян павіннасьцямі выразіцца ўжо ў 70—80 проц. усяго чыстага збору галоўнага збожжа губэрні. „Немагчымасьць плаціць павіннасьці, што ляжаць на зямлі, з даходаў, якія атрымліваюцца з яе,—піша ў сваёй запісцы Менскі павятовы прадвадзіцель дваранства,— прымушае сялян, больш самастойна, набываць зямлю з дапамогай Сялянскага пазямельнага банку, ня гледзячы на вялікія проценты, якія бяруцца банкам за пазыкі (6%) і досыць вялікую цану на зямлі, менш самастойна—ужываць арэнду зямлі ў суседніх зямляўласьнікаў, ды шукаць шчасьця ў перасяленьні, а бяднейшыя павінны здабываць сродкі пабочнымі заработкамі"[5]). Адзін з членаў Менскага павятовага камітэту сьведчыў, што амаль заўсёды сяляне бяруць грошы „пад адработкі" ў восень у час спагнаньня павіннасьцяй і бяруць, паводле іх

[1]) Ф. Ястрэмскі. „Повинности крестьян", стар. 8.
[2]) „Материалы к оценке недвижимостей в Минской губ. Полевое хозяйство", стар. 121.
[3]) „Памятная кніжка" Менскай губэрні на 1901 г.
[4]) „Труды", стар. 224.
[5]) Тамсама.

заявы, заўсёды „на падатак“ [1]). Аднак, што сялянства было ападаткавана звыш сілы і магчымасьцяй, ня было сакрэтам для кіруючых колаў, С. Ю. Віттэ ў сваіх успамінах падае наступны факт:

„У 1898 г. разглядалася ў Камітэце міністраў справаздача дзяржаўнага контролю за 1896 г. На справаздачы дзяржаўнага контролю на тым месцы гэтай справаздачы, дзе дзяржаўны контроль выразіў думку, што „плацежныя сілы вясковага насяленьня знаходзяцца ў надзвычайным напружаньні“, яго імпэратарскай вялікасьці, благоугодно было адзначыць: „Мне таксама здаецца“.

Мы тут зусім не закранаем пытаньня пра роўнамернасьць і „справядлівасьць“ разьмеркаваньня падаткаў паміж памешчыкамі і сялянамі. Тыя даныя, якія нам удалося сабраць наконт гэтага, сьведчаць пра тое, што памешчыкі скрозь, дзе гэта толькі было магчыма, стараліся перакласьці ўвесь цяжар дзяржаўных і мясцовых павіннасьцяй на плечы сялян, што таксама зьяўлялася немалаважным зьвяном у ланцугу прычын, якія абумоўлівалі сабою абвастрэньне адносін паміж памешчыкамі і сялянамі [2]).

Сялянскі надзел пры даных грамадзкіх адносінах і даным стане вытворчых сіл ня мог прахарчаваць сялянскую сям‘ю. Кавалачак зямлі не даваў нават таго хлеба, які патрэбен быў для ўласнага харчаваньня. Варта толькі паглядзець на разьмеркаваньне сялянскай засеўнай плошчы паасобных культур на мноства культур, якія засяваліся на невялікім кавалачку зямлі, каб пераканацца, што сельская гаспадарка вялізнае большасьці сялян была чыста спажывецкай, прызначалася на задаволеньне ўласных спажывецкіх патрэб. Мы тут, зразумела, маем на ўвазе толькі малазямельныя гаспадаркі, тыя гаспадаркі, якія па сутнасьці былі ўжо пролетарамі, захаваўшы толькі бачную сувязь з вёскаю, або паўпролетарамі, для якіх зямельны вучастак ня быў ужо асноўнай крыніцай існаваньня, а нечым пабочным, што дастаўляў заняткі жаночай частцы сям‘і і непоўналетнім у гаспадарчых адносінах мужчынам.

Тым самым, патрэба ў грошах была вялікая. „Селянін, чытаем мы у Працах Менскага павятовага камітэту,—пачаў адчуваць недахват ня толькі для ўплаты павіннасьцяй, якія з кожным годам павялічваліся, але і для закупкі прадметаў першай неабходнасьці. Вучастак зямлі ня мог даць усяго, што патрэбна было сям‘і селяніна і яму прышлося шукаць дапамогі ў пабочных заработках“ [3]). Патрэбнасьць у грошах гэтая гаспадарка задавальняла ня продажам лішкаў свае гаспадаркі—іх у яе ня было,—а продажам свае лішняй рабочай сілы. Сувязь гэтай сялянскай гаспадаркі з рынкам праходзіла пераважна па лініі рынку працы. Калі селяніну і здаралася выступаць на рынку як прадаўцу продуктаў

[1]) „Труды“, стар. 247.

[2]) З. Ф. Ястрэмскі. „Повинности крестьян“, стар. 16, 17, 20, 26; „Труды„, стар. 408.

[3]) „Труды“, стар. 220.

сваe гаспадаркі, то гэта зноў такі абавязана было падатковай політыцы ўраду. „Большасьць сялян,—чытаем мы ў працах Менскага павятовага камітэту,—прадаюць увосень і зіму патрэбнае на насеньне збожжа па нізкай цане, атрыманыя грошы выдаткуюць на павіннасьці, а ўвесну самі купляюць, плацячы куды даражэй[1]). Адным з членаў Мазырскага павятовага камітэту было нават паднята пытаньне пра перанясеньне часу спагнаньня павіннасьцяй з восені на весну, „калі ў сялян ужо значная колькасьць зробленых грошай“ [2]).

Чым менш селянін пачаў атрымліваць са свайго зямельнага надзелу, тым большае значэньне набывалі пабочныя заработкі, тым больш селянін пачаў адыходзіць ад сваe гаспадаркі, тым больш пабочныя заработкі пeратвараліся ў асноўныя, а земляробскія, наадварот, у пабочныя. Паводле даных, сабраных камітэтам Сібірскай чыгункі[3]), лішак наяўнай колькасьці рабочых у параўнаньні з лікам іх, які патрэбен для вырабу сялянскай зямлі, выходзячы з разьліку вышэйшага або наказнага надзелу на душу мужчынскага роду азначаецца для Заходніх губ. для 1892 г. у 24,0 проц., а для вырабу ўсяе найбольшай засеўнай плошчы, уключаючы і памешчыцкую—у 14,1 проц., пры гэтым коэфіцыент аграрнай перанасяленасьці ў беларускіх губ. значна перавышае адпаведныя коэфіцыенты ў сярэднім па ўсіх 50 губэрнях Эўропэйскай Расіі (22,4 проц. і 12,7 проц.).

Да 1900 г. г. гэты коэфіцыент павінен быў яшчэ больш павялічыцца, бо прырост насяленьня склаў ня менш 22—25 проц., сялянскае-ж зямляўладаньне за гэты пэрыод павялічылася далёка не ў такой ступені. Гэта, зразумела, ня значыць, што ўсё лішняе насяленьне было выкінута, або абавязкова павінна быць выкінута з вёскі, а аграрнае перанасяленьне знаходзіла сваё выражэньне ў надзвычайным драбленьні зямельных вучасткаў, насіла схаваны характар. Але сямейныя разьдзелы, зразумела, ня былі вырашэньнем пытаньня, яны не павялічвалі агульнай плошчы сялянскага зямляўладаньня і не спраўджаліся інтэнсыфікацыяй сельскай гаспадаркі—гэтаму перашкаджала ўся сукупнасьць грамадзкіх адносін,—а, наадварот, адбіваліся адмоўна на вытворчасьці сялянскай гаспадаркі.

Нажаль, мы ня маем колькі-небудзь здавальняючых поўных даных пра пашыранасьць саматужных промыслаў і адыходніцтва ў вёсцы Менскай губ. Аднак, і тыя невялікія даныя, якія ёсьць у „Памятных книжках“ Менскай губ. і ў „Трудах“, дазваляюць усё-такі ўстанавіць, што сялянскія промыслы былі вельмі пашыраны і адыгрывалі буйную ролю ў сялянскай гаспадарцы.

---

[1]) „Труды“, стар. 225.

[2]) Тамсама, стар. 247.

[3]) „Свод статистических материалов, касающихся экономического положения сельского населения Европейской России“, стар. 18—19.

Вось таблічка, лічбы якой адносяцца. да 1904 г. і якая складзена намі на аснове даных з „памятнай кніжкі“ Менскай губ. за 1906 г.,

*Табліца № 12.*

| | Было занята асоб | Мелі заработку (у т. руб.) |
|---|---|---|
| У лясным промысьле . . . | 74.226 | да 1.010,3 |
| „ адыходным промысьле . . | 37.308 | „ 677,0 |
| „ саматужніцкім промысьле . . | 26.923 | „ 870,6 |
| Усяго . . | 138.457 | да 2.557,9 |

Гэтыя дачыя вельмі ня поўныя: сюды неўвайшла значная частка насяленьня губ., якая была занята рамонтам на чыгунках, як паказана ў „памятнай кніжцы“, а магчыма і яшчэ другія віды адыходу. Аднак і гэтыя пераменшаныя даныя ў выстарчальнай ступені характарызуюць значэньне сялянскіх промыслаў. Так, калі залічыць лік асоб, занятых промысламі да агульнага ліку самастойных, то атрымаем, што дапаможныя заняткі мелі больш 30 проц. усяго вясковага насяленьня [1]), пры гэтым сума заработку была амаль роўная суме павіннасьцяй сялян і складала каля 45 проц. чыстага прыбытку ад галоўнага збожжа губ., пад якім было занята каля паловы ўсяе засеўнае плошчы сялян.

Нашыя разлікі, аднак, носяць вельмі ўмоўны характар. Сапраўды ня ўсе сяляне мелі дапаможныя заняткі. Заможная частка сялянства, якая перайшла за ўзровень серадняцкае гаспадаркі і мела выстарчальнае зямлязабясьпечаньне, ня мела патрэбы ў дапаможных занятках. Значная частка лясных промыслаў (падрыхтоўка да сплаву і сам сплаў) і адыхоўніцтва наогул зьвязана з летнім часам, г. зн. прыпадае якраз на найбольш каштоўны і неабходны ў гаспадарцы час. Таму толькі „пролетары з надзелам (У. І. Ленін) мог пакінуць свой надзел на членаў сям'і, а сам пайсьці ў заработкі для таго, каб прынесьці да восені неабходныя сродкі для ўплаты павіннасьцяй. Паказаньні, што адыходніцтвам займаецца іменна бяднейшая частка насяленьня, мы спатыкаем і ў „Трудах“. Калі ўлічыць гэтую акалічнасьць, то вылічаныя намі коэфіцыенты, паказваючы толькі парадак велічыні, разам з тым даволі ясна характарызуюць значэньне промыслаў у сялянскай гаспадарцы.

---

[1]) Паводле перапісу 1897 г. у трох губ. (Віцебскай, Магілеўскай і Менскай). асобы, якія мелі самастойныя заняткі, складалі ў паветах 20 проц. усяго насяленьня. Беручы гэты процант ад агульнага ліку жыхароў у паветах Менскай губ. у 1904 г. (паводле „Памятнай кніжкі“ на 1906 г.—2.272,8 тыс. чал.), мы атрымаем, што ўсяго самастойных у 1904 г. было 442 тыс. чал.

Толькі з пункту погляду гэтых зарабсткаў можна зразумець і надзвычайную раздробнасьць сялянскага надзелу і абсолютна і адносна высокую зямельную цану і арэнднае платы.

У беларускай вёсцы, значыцца, меў месца той самы процэс расьсяляньваньня, які быў характарны для расійскай вёскі наогул. Процэс дыфэрэнцыяцыі сялянства: вымываньне сярэдніх груп і росту крайніх кулацкіх і бядняцкіх, асабліва апошніх—процэс, наяўнасьць якога для Расіі ў цэлым быў даведзены У. І. Леніным, характарны і для цікавячага нас края.

Аналіз даных вайскова-конскіх перапісаў за 1888 і 1894 г. г. паказвае, што ў Менскай, напрыклад, губ. было 22—23 проц. бясконных двароў, пры гэтым у асабовых паветах процант бясконны даходзіць амаль да паловы ўсіх двароў (Мазырскі павет). Гэтыя бясконныя, г. зн. гаспадаркі, якія ня мелі асноўнага сродку вытворчасьці, рабочае скаціны, могуць сьмела быць залічаны да вясковага пролетарыяту. Аднак, гэтым яшчэ ня вычэрпваецца ўся група сельскага пролетарыяту. Групоўка сялянскіх двароў па колькасьці належных ім коняй дае такі малюнак:

*Табліца № 13.*

| | 1888 г. | | | | 1894 г. | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік сялянскіх двароў | | У іх коняй | | Лік сялянскіх двароў | | У іх коняй | |
| | Абс. | % | Абс. | % | Абс. | % | Абс. | % |
| Бясконнных . . | 38144 | 23.5 | — | — | 42305 | 22.6 | — | — |
| З 1 канём . . . | 64969 | 39,9 | 64969 | 29,5 | 77080 | 41,2 | 77080 | 31.7 |
| „ 2 „ . . . | 36676 | 22,6 | 73352 | 33,2 | 42442 | 22,7 | 84884 | 33,8 |
| „ 3 „ . . . | 14519 | 8,9 | 43557 | 19,8 | 16388 | 8,8 | 49164 | 19.6 |
| „ 4 і больш . | 8268 | 5,1 | 38633 | 17.5 | 8758 | 14,7 | 40085 | 15.9 |
| Разам . . | 162576 | 100,0 | 220311 | 100,0 | 186973 | 100,0 | 251213 | 100,0 |

Калі, як гэта робіць У. І. Ленін, залічыць бясконных і 3/4 аднаконных гаспадарак да бядняцкіх і 1/4 аднаконных і ўсіх двухконных да сераднякіх, а рэшту да кулацкіх эксплёататарскіх гаспадарак, то атрымаем, што ў 1894 г у руках 50,4 проц. бядняцкіх гаспадарак было толькі 20,1 проц усіх коняй, а ў руках 13,5 проц. кулацкіх гаспадарак было 35,4 проц. коняй.

Супастава даных перапісу 1894 г. з данымі перапісу 1888 г. паказвае ўсё такі, што процэс раскладу сялянства ў Менскай губ. крыху адразьняецца ад таго самага процэсу ў Эўропэйскай Расіі наогул. Па-першае, коэфіцыент бясконных крыху адстае ад агульнага коэфіцыенту. Так, паводле даных перапісу 1888 г. у 41 губ. Эўропэйскай Расіі было 29,4 проц. бясконных двароў, а ў Менскай губ.—23,5 проц., па-другое,

дынаміка разьмеркаваньня сялянскіх гаспадарак па колькасьці коняй, якія ў іх ёсьць, дае па Менскай губ. некаторы адносны рост сярэдніх груп за кошт зьмяншэньня адноснае вагі крайніх, хоць абсолютна ўзрастаюць і бядняцкія і кулацкія гаспадаркі, ва ўсёй-жа Эўропэйскай Расіі, маркуючы паводле даных У. І. Леніна ў „Разьвіцьці капіталізму ў Расіі", мы маем досыць ярка выражаны процэс абсолютнага і адноснага росту буйных груп за кошт вымываных сярэдніх.

Магчыма, аднак, што прымета коннасьці ў Менскай губ., дзе былі як мы бачылі, значныя лясныя промыслы, якія патрабавалі ня толькі рабочую сілу самога селяніна, але і яго каня, невыстарчальна адлюстроўвае процэс раскладу сялянства гэтай губ. Гэтым, як відаць, трэба растлумачыць і крыху большы коэфіцыент бядняцкіх гаспадарак па разьліку зямлязабясьпечанасьці.

Вось як ахарактарызаваны процэс пролетарызацыі ў аднэй з запісак, паданых у Менскі губэрнскі камітэт [1]):

У нашых Паўночна-Заходніх губ. нормальны сялянскі надзел складае 15 дзес. Пры добрых глебавых умовах такі надзел, падзелены на 2—3 часткі, яшчэ можа даць гаспадару магчымасьць трымаць рабочага каня і здабыць з гэтага вучастку сродкі, для існаваньня яго самога і яго сям'і. Але народанасяляненьне павялічваецца, разьдзелы ідуць далей; 2—3 дзес. вучастак павінен ужо абмежавацца кароваю без рабочага інвэнтара, які ўласьніку ўжо прыходзіцца наймаць у суседа для вырабу поля; гэтае поле ўжо ня можа пракарміць свайго гаспадара: яму прыходзіцца ўжо выходзіць з свае гаспадаркі на заработкі, або ў падзённыя ў суседні маёнтак, або на некалькі месяцаў у адыходныя промыслы, каб здабыць недахватныя сродкі да існаваньня. Такі часовы заработак або адлучка часамі не задавальняюць усіх патрэб селяніна; адлучкі паўтараюцца некалькі разоў на працягу году, робяцца больш доўгімі; урэшце селянін заўважае, што яму няма прычыны зьвяртацца на свой мізэрны палетак, на выраб якога ён траціць вельмі вялікую долю свайго заработку. Тым часам, сусед яго, адновясковец, а, мо' і ўдзельнік у поўным калісьці сялянскім надзеле, які застаўся ў вёсцы і больш здольна або з большым шчасьцем вырабляе свой вучастак, прапануе яму досыць значную арэндную плату, каб, злучыўшы 2—3 сваіх дзесяціны з наёмнымі 2—3 дзесяцінамі пашырыць сваю гаспадарчую дзейнасьць. Адыходны рабочы адважваецца здаць свой вучастак у арэнду; замест здабытку даходаў у натуры, ён наважваецца задавальняцца рэнтаю; а калі ўсвоена паняцьце рэнты, то лёгка перайсьці і да капіталізацыі гэтае рэнты. Гэтай вось ракавой хвілінай пераломy і павінен карыстацца ўрад, прыходзячы на дапамогу сялянскаму арандатару, які жадае быць уласьнікам, прапановай пазямельнага крэдыту на самых ільготных умовах проценту і пагашэньня. Такім чынам, што пачлянялася з прычыны

[1]) „Труды", стар. 69.

вядомых акалічнасьцяй можа зноў скласьці адно органічнае цэлае—поўны сялянскі падворны вучастак.

Процэс у агульным апісаны досыць правільна. „Перашкод,—кажа ў другім месцы аўтар гэтае запіскі—ставіць гэтаму руху немагчыма, а трэба накіроўваць гэты жыцьцёвы струмень, каб ён сам сабе выбраў другое рэчышча (недрабненьне надзелаў), бо закон жыцьця мацней усіх пісаных законаў“.

Побач з гэтымі адкрытымі заклікамі не перашкаджаць процэсу распластаваньня сялянства, у мясцовых камітэтах былі чуваць галасы проці скасаваньня існуючых абмежаваньняў (гл. спрэчкі па гэтаму пытаньні ў Менскім павятовым камітэце, „Труды“, стар. 202—203). Аднак, *наяўнасьць процэсу* раскладу сялянства амаль ніхто з членаў мясцовых камітэтаў не адмаўляў. Спрэчка ішла толькі а прычынах, якія выклікалі гэты процэс, і пра меры неабходныя для яго ўпарадкаваньня хоць і былі такія, якія, грунтуючыся на француcкім прымоўі „зямлі дрэннай няма, а ёсьць дрэнныя гаспадары“, прыходзілі да выніку, што „ня якасьць зямлі і не малазямельле ў сялян зьяўляецца прычынай беднасьці апошніх, а поўная адсутнасьць ведаў рацыянальнае гаспадаркі“, як гэта зрабіў анонімны аўтар запіскі ў Барысаўскі павятовы камітэт[1]), або бачылі прычыны, „чаму ў нас народ бедны, а ў сельскай гаспадарцы—чаму так частыя ў нас недароды“, у тым, што „мы ня маем часу працаваць“, бо „у нас ў вёсках надзвычай шмат прагульных дзён, свавольна ўстаноўленых нібы сьвят“[2]).

Нельга, зразумела, адмаўляць і някультурнасьць і першабытную тэхніку, з якой селянін вырабляў сваё поле і г. д. Бясспрэчна, што больш інтэнсыўная культура, укладаньне ў сельскую гаспадарку капіталу павысіла-б працаёмасьць і даходнасьць сялянскай гаспадаркі, але ўвесь лад грамадзкага жыцьця выключаў нават самую магчымасьць уздыму сялянскай гаспадаркі, таму процэс дыфэрэнцыяцыі і раскладу сялянства адбываўся ва ўмовах экстэнсыўнай гаспадаркі, ва ўмовах бадай нязьменнага стану вытворчых сіл сельскай гаспадаркі.

## VI

Мы падалі рад даных, якія абмалёўваюць аграрныя адносіны на Беларусі ў канцы XIX і пачатку XX в Мы спрабавалі паказаць, што прычыны прыгнечанага стану сялянскай гаспадаркі, пэрыоду, які цікавіць нас, ідуць сваім глыбокім карэньнем у дарэформавы пэрыод, што 40 год, якія прайшлі з часу рэформы, паглыбілі і абвастрылі сялянскае пытаньне, зрабілі апошняе зноў адным з найбольш важных і трапяткіх пытаньняў экономічнага і політычнага жыцьця краіны. Кіраўнічы дзяржаў-

[1]) „Труды“, стар. 134.

[2]) Тамсама. стар. 282.

нымі маемасьцямі Менскай губ. І. Г. Базілевіч у сваёй запісцы ў Менскі губэрскі камітэт як на галоўныя прычыны „застою сялянскай гаспадаркі“ проста паказваў на „1) надзяленьне сялян параўнаўча горшаю зямлёю пры выдзеле часоваабавязаных сялян, пры тым неадпаведнай патрэбнасьці колькасьцю ворнай, сенажатнай і выганнай зямлі; 2) праспалосіцу і далёкасьць надзельнай зямлі ад сядзіб, якія не даюць выгад для карыстаньня, як, напрыклад, сярод казённых і прыватных уладаньняў; 3) ператварэньне сенажацяй і выганаў у ворную зямлю за недахопам апошняй з прычыны разрастаньня насяленьня“[1]).

Сялянскае пытаньне, такім чынам, упіралася ў пытаньне пра колькасьць і якасьць сялянскай зямлі, праспалосіцу з казённымі і прыватнымі ўладаньнямі, у пытаньне пра сенажатныя і выганныя ўжыткі, адсутнасьць якіх у сялянскіх надзелах зьяўлялася істотным тормазам у разьвіцьці сялянскай гаспадаркі. Прадстаўнікі сялян, у тых выпадках, калі яны ў мясцовых камітэтах апытваліся а прычынах непасьпяховасьці і заняпаду сялянскай гаспадаркі, проста паказвалі на паданыя акалічнасьці. У Бабруйскім павятовым камітэце прадстаўнікі сялян паказвалі, што „для пасьпяховага гаспадараньня неабходна для двара аднэй фактычнай сям'і мець ня менш 15 дзес. зямлі“[2]). Тыя самыя прадстаўнікі, апытаныя пра неабходныя, паводле іх думкі, меры да пашырэньня ў палепшаньні спэцыяльных галін сельскай гаспадаркі, заявілі, „што галіны сельскай гаспадаркі: садоўніцтва, гародніцтва, пчалярства, прамысловыя расьліны, хоць і знаходзяцца ў пачатковым стане, але ахвотна ўсвойваюцца сялянствам толькі пры ўмове выстарчальнай колькасьці зямлі; пры цяперашняй цясноце нічога падобнага быць ня можа; апрача таго, і прыклады ўзяць няма з каго: памешчыцкая гаспадарка ня зусім тое самае, што сялянская“[3]). У Ігуменскім павятовым камітэце „прадстаўнікі сялянскага стану выказвалі сваю думку, што хоць палепшаньне пароды сялянскае скаціны пажадана, але цяжка гэтага дасягнуць пры цяперашнім малазямельлі. Добрая цяжкая скаціна патрабуе вялікай колькасьці корму, а тымчасам у апошнім і адчуваецца недахоп“[4]).

Што да стану сялянскай жывёлагадоўлі, то ў адным з дакладаў проста констатуецца, што ў той час, як жывёлагадоўля ў памешчыцкіх маёнтках ужо зрабіла значны крок наперад, „сялянская скаціна ня толькі не пайшла наперад, а нават, можна сказаць, зрабіла значны крок назад“. Прычыны такога пераварота назад дакладчык бачыць у тым, што да вызваленьня сялян у гады бяскорміцы сяляне знаходзілі падтрыманьне ў сваіх памешчыкаў, бо кожная загінутая штука скаціны, або з прычыны бяскорміцы пахудзелая, рабілася няпрыдатнаю для веснавых

[1]) „Труды“, стар. 21.

[2]) Тамсама, стар. 121.

[3]) Тамсама, стар. 120.

[4]) Тамсама, стар. 158.

палявых работ, а сяляне выраблялі сваім інвэнтаром ня толькі сваю, але і памешчыцкую зямлю. Пасьля рэформы памешчыкі ня былі ўжо зацікаўлены ў падтрыманьні сялянскай жывёлагадоўлі. Другая прычына заняпаду жывёлагадоўлі наогул—заворваньне выганаў, а таксама і сеножацяў, адрэзаных сялянам пры надзеле [1]). Шмат якія памешчыкі вельмі добра ўсьвядомлівалі сувязь паміж сумным станам сялянскай гаспадаркі і малазямельлем сялян. Аднак, у сваіх вывадах, ніхто амаль ня йшоў далей констатаваньня гэтае акалічнасьці, а ў прапановах—патрабаваньні больш рашучых мер па ахове сельска-гаспадарчай уласнасьці. Да таго часу, пакуль памешчыкі гаварылі на тэму пра сялянскую гаспадарку „наогул“, яны выказвалі вельмі правільныя меркаваньні, дэманстравалі свой лібэралізм, але як толькі ад разважаньняў „наогул“ пераходзілі да конкрэтнага, зямляўласьнік монополісты адразу засланяў сабою нядаўнага лібэрала, які плакаўся на лёс сялянскага стану, „што гінуў у бяспраўі і невуцтве“, і на першы плян высоўвалася пытаньне пра ахову сельска-гаспадарчай уласнасьці. „Труды“ поўныя скаргаў на „грубы звычай нашага сялянства“ і непавагу да чужое ўласнасьці, якая ад гэтуль вынікае [2]). „Літаральна няма ў нас зямляўласьніка,—скардзіцца памешчык Б. Г. Скірмунт,—які ня церпіць ад патраў, высечак лесу, расьцягваньня сельска-гаспадарчых пладоў, нават падпалаў ды іншай злаўмыснай шкоды. Гэты сумны малюнак цалкам даказвае, што ў нас няма належнай павагі да чужое ўласнасьці і што нашыя законадаўчыя і адміністрацыйныя меры для аховы правоў уласнасьці невыстарчальныя“ [3]). Менскае таварыства сельскай гаспадаркі скардзіцца на „самы поўны хаос і нелады, што запанавалі ў той вёсцы, на парадку і дабрабыце якой заснаваны росквіт і спакойнае разьвіцьцё сіл дзяржавы“ [4]). „У Пінскім павеце і наогул на Палесьсі,—чытаем мы ў „Трудах“,—труднасьць аховы сельска-гаспадарчай уласнасьці складае адзін з галоўных цяжараў, якія прыходзіцца вытрымліваць усёй земляробскай клясе насяленьня. Усе судовыя ўстановы і валасныя суды завалены справамі: пра зямельныя спрэчкі і захваты, пра высечку лесу, патравы, зьбіраньне грыбоў і да т. п. З кожным годам лік такога роду спраў стала ўсё больш і больш павялічваецца і нельга адзначыць, да якое мяжы яно з часам можа дайсьці, а ў сваю чаргу ахова сельска-гаспадарчай уласнасьці робіцца ўсё больш і больш цяжкой“ [5]).

У сваіх выступаньнях у мясцовых камітэтах памешчыкі аднаэгодна сьведчылі пра ўзрослую актыўнасьць сялян у змаганьні за зямлю,

---

[1]) „Труды“, стар. 97.

[2]) Тамсама, стар. 21.

[3]) Тамсама, стар. 355.

[4]) Тамсама, стар. 31.

[5]) Тамсама, стар. 316.

за магчымасьць вядзеньня свае гаспадаркі. Беларускі селянін у пачатку XX в. сапраўды пачаў больш дзейна рэагаваць на сьціскаўшыя яго путы ў асобе памешчыцкай гаспадаркі. Гэтая дзейнасьць знайшла сваё выражэньне ў падпалах памешчыцкіх маёнткаў і лясоў, зямельных захопах, самавольных высечках, патравах і г. д. Становішча ўскладнялася яшчэ тым, што ў адносінах паміж сялянамі і памешчыкамі было яшчэ шмат перажыткаў прыгоннае эпохі: вучасткі сялян былі часта невыстарчальна абмежаваны ад памешчыцкіх уладаньняў, сэрвітутныя правы і г. д., усё гэта абумоўлівала некаторую няпэўнасьць зямельных адносін сялян і памешчыкаў і самі па сабе зьяўляліся прычынай узмацненьня аграрных непаразуменьняў.

Як-жа памешчыкі Менскай губ. прапанавалі вырашыць сялянскае пытаньне, ліквідаваць „самы поўны хаос і нелады, што запанавалі на вёсцы"?

Шляхам хутчэйшага сканчэньня адмежаваньня сялянскіх зямель, сціснаньне сялянскіх разьдзелаў, ліквідацыі сэрвітутнага права сялян, рассяленьне сялян па хутарох і галоўным чынам шляхам узмоцненай аховы сельскагаспадарчай уласнасьці.

„Расьсяленьне сялян (па хутарох),—піша ў сваёй запісцы памешчык Лапата,—зробіць моцнае ўзьдзейства ня толькі на матэрыяльны быт сялян, але і на моральны бок іх жыцьця. Азначаныя граніцы, паўнейшая свабода эксплёатаваньня свае ўласнасьці дае шырокае поле для прыватнай ініцыятывы кожнай больш здольнай адзінцы, дасьць новы штыршок да выхаду новых рамак вясковай руціны індывідуалізаваньнем асабістых інтарэсаў, разьяднае процізаконныя інстынкты суцэльнай сялянскай масы і, замест цёмнай фалангі, якая лёгка паддаецца самым недарэчным навучаньням, дасьць контынгент асобных прадстаўнікоў сялянскага стану, самадзейных і прыступных правільных культур" [1]).

Але памешчыкі, як відаць, не пакладалі асаблівых надзей на магчымасьць і бліжэйшую эфэктыўнасьць такога разьмежаваньня сялян, і таму яны нязьменна зьвярталіся да пытаньня пра ахову сельскагаспадарчай уласнасьці мерамі паліцэйскага ўзьдзейства. Менскі губ. камітэт пастанавіў, што ахова сельскагаспадарчай уласнасьці ня можа быць зьдзейсьнена без узмацненьня і палепшаньня сельскай паліцыі праз замену выбарнага пачатку прызначэньнем, а таксама ўздымам яе моральнага значэньня і матэрыяльнага становішча [2]).

Адначасна з патрабаваньнем узмацненьня і рэорганізацыі паліцыі, „устанавіць пасады палявых вартаўнікоў на ўтрыманьне якіх абкладаць зборам, як памешчыцкія, так і сялянскія землі" [3]) і г. д. членамі мясцовых

[1]) „Труды", стар. 67.

[2]) Тамсама, стар. 3.

[3]) Тамсама, стар. 199.

камітэтаў даказвалася неабходнасьць да агульнага узмацненьня паказаныя за кожнага роду праступкі па адносінах да памешчыцкай гаспадаркі. „Арышты пры паліцыі і нават адсідка ў турме,—чытаем мы ў „Трудох“ Барысаўскага павятовага камітэту,—анічуць не палохаюць такога селяніна, які адважваецца на крадзеж коняй, рабаваньне і зладзейства ў розных выглядах. Ні гэтых праступкаў, ні гэтае кары ён ані ня лічыць для сябе ганьбаю, наадварот, хваліцца зробленымі ім зладзействамі, а час адсідкі лічыць бясклопатным адпачынкам, які дае магчымасьць бяз працы жыць сытым. Лік заўзятых нягоднікаў,—кажа дакладчык,—узрастае з кожным годам, асабліва сярод сялянскай моладзі, дэмаралізацыя якіх набывае жахлівыя памеры. Па адносінах да нягоднікаў, нажаль, патрэбны больш строгія карныя меры—для іх зразумелыя і адчувальныя“[1]).

Скаргі на невыстарчальныя кары за высечкі і патравы мы спатыкаем і ў „Трудах“ Навагрудзкага, Ігуменскага, Менскага ды іншых камітэтаў (гл. „Труды“, стар. 273, 151, 199 ды інш.). Цікава выступленьне зямляўласьніка Наркевіч-Іодка, які падаў у Ігуменскім павятовым камітэце „асаблівыя ўласьцівасьці гусей“, якія „так асьцярожныя і хітрыя, што калі застанеш іх на патраве, не заўсёды паддаюцца затрыманьню: звычайна ў такім выпадку лятуць, таму зямляўласьнік рэдка мае магчымасьць даведацца, хто іх гаспадар і патрабаваць ад яго платы за патраву. З прычыны такое ўласьцівасьці гусей дакладчык знаходзіць неабходным дапоўніць правілы пра ахову поля ўвагай, у моц якой зямляўласьнік, які меў патраву, мог-бы абараняць ад гусей сваё поле і гароды агнястрэльнай зброяй“[2]).

У адным з дакладаў у Менскім павятовым камітэце была выказана думка, што трэ' было зьвярнуцца да прынцыпу пакараньня малалетніх, ужываючы да іх адпаведную меру кары[3]).

Некаторыя члены камітэтаў ня спыняліся нават перад патрабаваньнямі ўстанаўленьня кругавой адказнасьці вёскі за патраву, „бо пры патравах цяжка ўстанавіць вінаватых, г. зн. даведацца прозьвішчы ды імёны сялян (гл. спрэчкі па пытаньні пра ахову сельскагаспадарчай уласнасьці ў Менскім павятовым камітэце „Труды“, стар. 198—199). Праўда, некаторыя члены камітэтаў знаходзілі, што проектаванае павялічэньне кары ня спыніць сялян, а створыць цэлыя вёскі праступнікаў, для якіх ужо ня будзе лічыцца ганьбаю выседка імі ў турме кары“[4]), але гэтыя асобныя галасы ніклі ў заядлым выцьці мясцовых зямляўласьнікаў, якія патрабавалі ліквідацыі зямельных захопаў, высечак і патраў чаго-б то ні каштавала, ня спыняючыся перад самымі рашучымі мерамі.

[1]) „Труды“, стар. 137.
[2]) Тамсама, стар. 151.
[3]) Тамсама, стар. 80.
[4]) Тамсама, стар. 198.

„Меры, якія прымаліся да гэтага часу для аховы сельскагаспадарчай уласнасьці, хутчэй дапамагалі разьвіцьцю, а ня спыненьню захопаў". „Надышоў час ужыць меры для сапраўднага ўхіленьня зямельных захопаў [1])"—такавы былі лёзунгі мясцовых зямляўласьнікаў. Гэтым лёзунгам і была падпарадкавана ўся работа мясцовых камітэтаў а патрэбах сельска-гаспадарчай прамысловасьці.

Але ўсе гэтыя меры аказаліся слабымі перад нарастаючым рэвалюцыйным уздымам. Рэвалюцыйная хваля 1905—1907 гг., якая паднялася высока, ня здолела цалкам змыць усе перажыткі фэўдальна-прыгоннай эпохі, але царскія падпоркі і панаваньне памешчыкаў былі досыць падмочаны для таго, каб кастрычнік 1917 г. канчаткова вырашыў векавое змаганьне за зямлю і разам з ёю тыя асноўныя супярэчнасьці паміж грамадзка-вытворчымі адносінамі і вытворчымі сіламі, якія, як цяжкія ланцугі, скоўвалі народную гаспадарку, не даючы ёй магчымасьці рухацца наперад.

[1]) „Труды", стар. 279, 280.

# ДА ПЫТАНЬНЯ АБ СТЫЛІ ПРОЛЕТАРСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ [1])

**Я. Сякерская**

*(Працяг)*

## Ці патрэбен романтызм Зарэцкага беларускай пролетарскай літаратуры

„Паданьні ўсіх мёртвых пакаленьняў цягацеюць кашмарам над умамі жывых. Якраз тады, калі людзі, відавочна, толькі тым і занятыя, што перарабляюць сябе і акаляючае, ствараюць, зусім нябывалае,—якраз у такія эпохі рэволюцыйных крызісаў яны клапатліва выклікаюць сабе на дапамогу духаў мінулага, займаюць у іх імёны, баявыя лёзунгі, якія і ў асьвечаным старажытнасьцю ўбёры, на чужой мове, разыгрываюць новую сілу сусьветнай гісторыі".

„Социяльная рэволюцыя XIX ст. ня можа чэрпаць сваю поэзію з мінулага: *яна павінна яе чэрпаць з будучага. Яна ня можа стаць самой сабой, не адмовіўшыся ад усякае прымхлівае пашаны старажытнасьці.* Ранейшым рэволюцыям патрэбны былі сусьветна-гістарычныя ўспаміны аб мінулым, каб заглушыць у сябе думку аб уласным зьмесьце. *Рэволюцыя XIX ст. павінна даць мерцьвяцом хаваць сваіх мёртвых, каб уявіць сабе ўласны зьмест.* Там фраза пераважала над зьместам, тут зьмест пераважае над фразай". (Маркс, XVIII, брошура, стар. 7 і 10).

Калі дзеля адшуканьня стылю пролетарскай літаратуры ў нас выкідваюць лёзунг—пад сьцяг рэалізму ці романтызму, то тым самым гэткія „тэорэтыкі" літаратуры забываюць ці не разумеюць слоў Маркса, што пролетарская рэволюцыя ня можа чэрпаць сваю поэзію ў мінулым, але ў будучым. Бязумоўна, што ў такой тэндэнцыі ёсьць шкодная і непатрэбная пролетарыяту і яго літаратуры спроба „ў асьвечаным старажытнасьцю ўбёры на чужой мове разыгрываць новую сілу сусьветнай гісторыі". Пытаньне аб той ці другой вучобе ў клясыкаў як рэалістых, так і романтыкаў, нельга падменьваць пытаньнем аб новым стылі пролетарскай літаратуры, бо ні стары рэалізм, ні романтызм, ня могуць быць лёзунгам дню пролетарскай літаратуры, якая, як і самая пролетарская рэволюцыя, чэрпае сваю сілу не ў поэзіі мінулага, але будучага.

---

[1]) „Полымя" № 1 за 1930 г.

Між тым, сярод беларускіх пісьменьнікаў М. Зарэцкі выступіў з літаратурнай „тэорыяй“ позытыўнага романтызму, як асноўнага кірунку іменна пролетарскай літаратуры. На разглядзе сутнасьці гэтае тэорыі мы спынімся. У пачатку свайго артыкулу „Заўвагі да пытаньня пра стыль беларускае пролетарскае літаратуры“ М. Зарэцкі зусім правільна заяўляе: „Асноўнай задачай на новым этапе разьвіцьця беларускае пролетарскае літаратуры павінна зьявіцца барацьба за пролетарскую эстэтыку наогул і ў прыватнасьці за новы літаратурна-мастацкі стыль“.

Далей, увязваючы пытаньне аб стылі пролетарскай літаратуры з пытаньнем аб адносінах да ранейшых літаратурных школ і стыляў, Зарэцкі піша: „Зусім зразумела, што ніводзін поэтычны стыль, ніводзін кірунак ці школа, выпрацаваныя клясамі-папярэдніцамі пролетарыяту, ня можа быць цалкам успрынята пролетарскай літаратурай“.

Добра, што М. Зарэцкі ня згубіў яшчэ да такой ступені гістарычнага чуцьця, каб прапанаваць пролетарскай літаратуры цалкам і поўнасьцю паўтараць і аднаўляць які-небудзь з ранейшых стыляў. Але супроць-жа гэтай банальнай і бясспрэчнай ісьціны, што нельга цалкам перанесьці ў пролетарскую літаратуру, які-небудзь з ранейшых літаратурных кірункаў, ніхто не выступае. Такім чынам, Зарэцкі гэтым сьцьвярджэньнем застрахоўвае сябе ад няіснуючых ворагаў і пярэчаньняў і замазвае сапраўдную сутнасьць проблемы. Уся цяжкасьць і складанасьць пытаньня заключаецца ня ў тым, цалкам ці ня цалкам мы зможам скарыстаць той ці іншы стыль (аб гэтым няма спрэчак), а ў тым, *што* іменна і *як* з арсэналу ранейшай клясавай літаратуры можа паслужыць баявой зброяй у стварэньні самой пролетарскай літаратуры.

Правільная-ж пастаноўка і вырашэньне гэтага пытаньня (як гэта ўжо мы стараліся паказаць вышэй) магчыма толькі з вышыні „поэзіі будучыні“. Трэба ведаць, бачыць, разумець і адчуваць новыя прынцыпы пролетарскай літаратуры для ўменьня вучыцца і скарыстаць клясыкаў ранейшай літаратуры. Такім чынам пролетарскі пісьменьнік і пролетарскі крытык пры вырашэньні пытаньня аб тым, чаму і як ён павінен навучыцца ў ранейшай літаратуры, павінен перш за ўсё зразумець *прынцыпова* новыя задачы пролетарскай літаратуры, таксама як правільна зразумець буржуазную рэволюцыю і яе рухаючыя сілы можна толькі з пункту гледжаньня інтарэсаў пролетарскай рэволюцыі, з пункту гледжаньня прынцыпова новых задач пролетарскае рэволюцыі ў адзнаку ад усякай іншай рэволюцыі.

Ці з такім мэтодам падыходзіць Зарэцкі да ацэнкі мінулай літаратуры і да ўгрунтаваньня ім сваёй тэорыі позытыўнага романтызму?

Зарэцкі, жадаючы загадзя застрахаваць сябе ад магчымых папрокаў у тэрэтычнасьці сваёй тэорыі, увесь свой артыкул будуе на цытатах з Плеханава, Горкага, Жырмундзкага (цікава ўжо само супастаўленьне і падбор аўтараў) і пачынае ад слоў Луначарскага аб тым, што ўсякая кляса ў „пэрыод вострае барацьбы за апанаваньне ўладай, бывае адзна-

чана романтыкай уздыму". Адсюль ужо ад свайго ўласнага імя (бо Луначарскі гэтага ня кажа) Зарэцкі робіць вывад:

„Гэты пэрыод вострае напружанае барацьбы за сваё панаваньне перажывае цяпер пролетарыят. Перад пролетарскай літаратурай у гэты пэрыод стаіць вялічэзная і трудная задача ўсімі сіламі дапамагаць гэтай гэроічнай барацьбе і будаўніцтву. Праз эмоцыянальны ўплыў на чытача мастацкая літаратура павінна распальваць у рабочых і яго саюзьнікаў ненавісьць да клясавых ворагаў, загартоўваць волю, імкненьне да працы і барацьбы, падтрымліваць энтузіязм і веру ў перамогу ў шчасьлівую будучыню, у магутную, тытанічную моц чалавека. У буднях мірнага будаўніцтва, поўных цяжкай маруднай працы, мастацкая літаратура павінна знаходзіць і адкрываць няўмірушчае харство вялікага поступу чалавецтва наперад, павадыром у якім зьяўляецца адзіна-прогрэсыўная кляса—пролетарыят,—і сьвятлом гэтага харства асьвятляць цярністы шлях у будучыню".

Ясна, што ніводную з гэтых задач ня выканае рэалізм (хоць сабе і „псыхолёгічна")—з яго застойным обьектывізмам, з яго неўваротнасьцю, абмежаванасьцю. Іх выканае новая школа пролетарскае літаратуры, выходным пунктам для стварэньня якой *паслужыць* поэтыка романтызму, *уласьцівая* тэй клясе, якая гэроічна змагаецца за новае жыцьцё".

*Па-першае*, М. Зарэцкі робіць зусім сваволны і няправільны вывад са слоў т. Луначарскага. Калі вострая барацьба клясы, што вядзе змаганьне за сваё панаваньне і прыводзіць да романтычных уздымаў, а ў прыватнасьці, да романтызму ў літаратуры, то адсюль яшчэ не вынікае, што пролетарская літаратура павінна быць романтычнай. Элемэнты романтыкі гэроізму і былі ўласьцівы літаратуры і наогул усёй ідэолёгіі буржуазіі, якая вядзе барацьбу за сваё панаваньне, аднак будзе грубейшай *мэтафізычнай і палітычнай* памылкай пераносіць романтызм і гэроіку буржуазнай літаратуры на пролетарскую, апраўдваючы гэта толькі тым фактам, што цяпер пролетарыят, таксама як у свой час і буржуазія, зьяўляецца клясай, заваяваўшай і заваёўваючай уладу ва ўсім сьвеце.

Корань мэтафізычнай і палітычнай памылкі Зарэцкага заключаецца ў тым, што ён ня бачыць *прынцыповай* розьніцы ў тых задачах і ў тэй гістарычнай ролі, якую выконвае пролетарыят, як кляса, што вядзе барацьбу за сваё панаваньне для зьнішчэньня ўсякіх кляс, і якую ў свой час выканала буржуазія, пабудаваўшая на месцы панаваньня скінутае клясы сваё панаваньне. Словы Маркса аб тым, што соцыяльная рэволюцыя пролетарыяту ня можа чэрпаць сваю поэзію з мінулага, але што яна павінна яе чэрпаць з будучага, для Зарэцкага яны зусім не вядомы ці засталіся таямніцай за сям'ю пячаткамі.

*Па-другое*, мэтафізычны характар памылкі Зарэцкага заключаецца яшчэ ў тым, што романтычны характар стылю пролетарскай літаратуры Зарэцкі *ўгрунтоўвае*, выходзячы а priori *з агульнасьці* задач рэволюцыйнага пролетарыяту і калісьці хоць і не пасьлядоўна-рэволюцыйнай буржуазіі.

Тымчасам, для ўсякага, хто хоць крыху політычна разумее задачы пролетарскай рэволюцыі (а Зарэцкі, бязумоўна, прэтэндуе на годнасьць такога чалавека) і хто хоць крыху разьбіраецца ў пытаньнях дыялектычнага матэрыялізму,—павінна быць ясна, што перш чым параўноўваць гістарычную ролю і гістарычныя задачы тэй ці іншай клясы і іх літаратуры, патрэбна ўмець разумець карэнную розьніцу іх гістарычнай місіі, а гэтым шляхам і спэцыфічнасьці задач пролетарскай літаратуры. Падыход-жа Зарэцкага да пытаньня буржуазнага романтызму (як гэта відаць з яго-ж слоў) для ўгрунтаваньня романтызму пролетарскае літаратуры, асабліва не гістарычны, калі ён параўноўвае бяз усякіх агаворак вострую барацьбу пролетарыяту з вострай барацьбой ў свой час буржуазіі, а тым самым мэтафізычна і заключае ў сабе небясьпечныя політычныя вывады. Бо някрытычна параўноваючы задачы і барацьбу рэволюцыйнай у свой час буржуазіі з барацьбой і задачамі пролетарскай рэволюцыі, можна прысьці куды хочаш, але ва ўсякім выпадку не да разуменьня тэй соцыялістычнай перабудовы жыцьця [1]), якое ў нас адбываецца, і не да разуменьня задач пролетарскае літаратуры.

Таму, калі Зарэцкі заяўляе, што выйсьцёвым пунктам для пролетарскае рэволюцыі павінна „паслужыць поэтыка романтызму, уласьцівая тэй клясе, якая гэроічна змагаецца за *новае жыцьцё*“, то гэтыя яго словы ў такой усеагульнай пастаноўцы, параўноўваючай новае калісьці жыцьцё буржуазіі з новым жыцьцём пролетарыяту, мае толькі рэакцыйны сэнс, бо Зарэцкі забываецца зразумець і падкрэсьліць *істотнае*, што пролетарыят і пролетарская літаратура змагаецца за *зусім* іншае жыцьцё, чым змагалася буржуазія. Праводзячы-ж знак роўнасьці паміж тымі задачамі і ідэаламі, за якія змагалася буржуазія і за якія вядзе барацьбу пролетарыят, Зарэцкі тым самым, і тэорэтычна і політычна, зусім скажае тыя задачы, якія стаяць перад пролетарскай літаратурай. Больш таго, калі ў пачатку свайго артыкулу Зарэцкі асьцярожна заяўляе, што ніводны стыль цалкам ня зможа быць выкарыстаны пролетарскай літаратурай, то далей ён „папраўляецца“, катэгорычна сьцьвярджаючы, што толькі поэтыка романтызму павінна паслужыць выйсьцёвым пунктам для пролетарскай літаратуры і што ні ў аднэй з вялікіх задач, што стаяць перад пролетарыятам і пролетарскай літаратурай, яму ня зможа дапамагчы рэалізм. Такім чынам, Зарэцкі ўсё каштоўнае для пролетарскае літаратуры бачыць у романтызьме і нічога каштоўнага ў рэалізьме.

Гэтае сьцьвярджэньне Зарэцкага даводзіць, што ён абсолютна не разумее, што сутнасьць іменна ўсіх форм пролетарскай ідэолёгіі, а ў тым ліку і літаратуры, заключаецца якраз у тым, што яна найбольш пасьлядоўна матэрыялістычна і рэалістычна, зрываючы ўсе і ўсякія

---

[1]) Між іншым, гэта поўная няздольнасьць Зарэцкага зразумець спэцыфічнасьць соцыялістычнага будаўніцтва, якое адбываецца ў нашай краіне, вельмі яскрава праявілася ў яго „Падарожжы на новую зямлю“ разгляду якой мы прысьвецім паасобны артыкул.

маскі і „выкрываючы“ фразу, можна пазнаць, адбіць і вытлумачыць рэчаіснасьць і зьмяняць яе паводле сваіх: нявыдуманых рэальных ідэалаў. Такім чынам, ня можа быць ніякага „романтызму“ ў пролетарскай літаратуры, які ня быў-бы нагэтулькі рэалістычным і матэрыялістычным.

Не разумеючы, па-першае, таго, што побач з дыялектыкай, сутнасьцю пролетарскай ідэолёгіі зьяўляецца яе матэрыялістычнасьць, а значыць матэрыялізм, рэалізм пролетарскай літаратуры, *па-другое*, ігноруючы, не разьбіраючыся абсолютна ў дыялектыцы і мэханічна пераносячы романтыку буржуазнай літаратуры ў пролетарскую,—Зарэцкі тым самым, узяўшыся разважаць пра стыль пролетарскай літаратуры, выявіў сваё поўнае невуцтва ў галіне асноўных палажэньняў дыялектычнага матэрыялізму, што прывяло яго да чужой пролетарскай літаратуры політычнай устаноўкі.

Прыводзячы далей цытаты з Плеханава (у абарону сваёй романтычнай „тэорыі“) аб тым, што мастакі ўзыходзячае клясы не здавальняюцца рэчаіснасьцю, а перарабляюць яе згодна сваіх ідэалаў, Зарэцкі зусім не зразумеў слоў Плеханава.

Правільна, што буржуазія імкнулася перарабіць рэчаіснасьць згодна сваіх ідэалаў, але ўся справа ў тым, што буржуазія проціпастаўляла свае ідэалы рэчаіснасьці, як чужацкія ёй, пролетарыят-жа свае ідэалы *выводзіць з законаў* разьвіцьця капіталістычнага грамадзтва і зусім па іншаму іх разумее і ажыцьцяўляе. У сваёй барацьбе пролетарыят ня толькі набліжаецца да „ідэалаў“, але рэальна іх ажыцьцяўляе, чаму навочным прыкладам зьяўляецца соцыялістычнае будаўніцтва, што пасьпяхова праходзіць у нашай краіне.

Энтузіязм, вера, гэроіка, эмоцыянальны ўплыў—усё гэта рэчы вельмі добрыя і патрэбныя пролетарыяту, але Зарэцкаму трэба было-б помніць, што пролетарыяту патрэбны не наогул энтузіязм, вера, гэроіка (ды такіх энтузіястаў наогул ня існуе), а *конкрэтныя* формы пролетарскага энтузіязму, аб якіх трэба конкрэтна гаварыць, а не спасылацца, як гэта робіць Зарэцкі, на энтузіязмы мінулых клясаў, якія нічога ня могуць даць пролетарыяту.

Гутаркі-ж Зарэцкага пра гэроіку і энтузіязм наогул, выходзячы з параўнаньняў з энтузіязмам буржуазіі і буржуазнай романтыкі, вельмі напамінаюць буржуазныя пропаведзі аб справядлівасьці, свабодзе, дэмократыі, энтузіязьме наогул. Да катэгорыі такіх усеагульных разважаньняў адносяцца таксама словы Зарэцкага аб магутнай тытанічнай моцы чалавека, якія, апрача таго, надзвычай няпрыемна аддаюць пахам яскрава буржуазнай індывідуалістычнай філёзофіі Нітцшэ, з яго ідэяй звышчалавека.

Не выратоўвае Зарэцкага і яго спасылка на цытаты з Горкага аб романтызьме, бо Горкі, кажучы аб неабходнасьці „романтызму“ (у чужакосьсі) для пролетарскай літаратуры, ні слова ня кажа аб тым, што нашай літаратуры патрэбен нейкі новы стыль, ці школа романтызму, хоць-бы і позытыўнага (між іншым зусім ужо незразумела, для чаго Зарэцкі пры-

шывае слова позытыўны і што яно значыць) романтызму, Горкі зусім правільна падкрэсьлівае, што наша літаратура павінна актыўна адносіцца да рэчаіснасьці ў сэнсе выхаваньня волі да новага жыцьця, патосу будаўніцтва гэтага жыцьця, выхаваньнем ненавісьці і пагарды да ўсяго старога сьвету.

Зразумела, у гэтых адносінах Горкі абсолютна праў, зразумела, пролетарская літаратура ня можа быць пасыўна сузіраючай рэчаіснасьць, але абавязана быць актыўнай у адносінах да рэчаіснасьці і ў гэтым толькі сэнсе „романтычнай".

Але ў чым-жа памылка Зарэцкага ў разуменьні Горкага, ці больш правільней у неразуменьні яго?

Перш за ўсё Зарэцкі не разумее, што Горкі, правільна падкрэсьліваючы неабходнасьць актыўных адносін пролетарскага пісьменьніка да рэчаіснасьці, нідзе ня кажа, па-першае, што такія адносіны да рэчаіснасьці пролетарскага пісьменьніка, павінны прывесьці да ўтварэньня новай школай романтызму (Горкі нават само слова романтызм усюды ставіць у чужакосьсях), па-другое, Горкі нідзе ня кажа, што актыўнасьць у творчасьці пролетарскага пісьменьніка адмаўляе рэалістычны падыход да рэчаіснасьці. Такіх вывадаў ні ў якім выпадку нельга зрабіць са слоў Горкага і толькі асьветленыя романтызмам сьвядомасьць і ўяўленьне Зарэцкага маглі сабе дазволіць такія gui pro guo з правільнымі думкамі іншых людзей.

З пункту гледжаньня дыялектычнага матэрыялізму, актыўныя адносіны пролетарскага пісьменьніка да рэчаіснасьці, яго ўменьне сваёй любоўю да новага і ненавісьцю да старога захапляць чытача, толькі тады будзе каштоўным для нашай літаратуры, калі ён здолее правільна рэалістычна бачыць і новае і старое. Нам патрэбен такі актыўны „романтызм" пролетарскага пісьменьніка, які быў-бы тэхнічным спосабам зьвязаны з самым цьвярозым рэалізмам, зрываючым усе і ўсякія маскі.

Зарэцкі, цытуючы Горкага, аказаўся-б проста ў становішчы чалавека, які павінен з вельмі каштоўных і карысных слоў Горкага зрабіць зусім няправільны няслушны вывад аб неабходнасьці школы позытыўнага романтызму толькі ўсяго таму, што ён абсолютна не разумее дыялектычных узаемаадносін момантаў „рэалізму" і „романтызму" (ці больш правільней узаемаадносін правільнага адлюстраваньня і пазнаньня рэчаіснасьці чыннымі адносінамі да яе пролетарскага пісьменьніка), якія выключна могуць быць пакладзены ў аснову новага мастацкага мэтоду і стылю пролетарской літаратуры.

Зарэцкі не разумее таксама і таго, што толькі з пункту гледжаньня клясавага пролетарскага об'ектывізму і рэалізму можна правільна адлюстроўваць, пазнаваць і разумець рэчаіснасьць, бо пролетарскі рэалізм дае магчымасьць выкрываць усякія ілюзіі, ашуканства і скажэньне, і бяз гэтага немагчыма ні пролетарская навука, ні літаратура.

Гэтага Зарэцкі абсолютна не разумее, таксама як ён не разумее і таго, што род актыўнасьці, гэроізму, энтузіязму пролетарскага пісьменьніка *вызначаецца* ня тым гэроізмам, які мы адшукаем у буржуазнай романтычнай літаратуры, гэта зн. ён вызначаецца не *агульнасьцю* парываньняў і імкненьняў рэволюцыйнай калісьці буржуазіі (прычым *заўсёды* не пасьлядоўна-рэволюцыйнай) і рэволюцыйнага пролетарыяту.

Наадварот, рэволюцыйныя імкненьні, энтузіязм, гэроіку, любоў і ненавісьць пролетарскі пісьменьнік можа чэрпаць з разуменьня і адчуваньня ўсёй спэцыфічнасьці і конкрэтнасьці нашае эпохі будаўніцтва соцыялізму, эпохі, дзе будаўніцтва новага жыцьця адбываецца ў жорсткай вострай барацьбе з усімі старымі капіталістычнымі рэштками.

Разглядаючы гэтае пытаньне, патрэбна разумець, што романтызм, гэроіка буржуазнай літаратуры, заўсёды была ў большай ці меншай ступені ідэалістычная і нават заражана містыцызмам (напр., Мережкоўскі). Буржуазныя романтыкі выходзілі таксама ў сувязі з агульнай ідэалістычнай сваёй канцэпцыі не разрыву паміж ідэаламі і рэчаіснасьцю (Шыльлер), апявалі моцную нязвычайную індывідуальнасьць, якая супроцьстаіць шэраму натоўпу і масе.

Гэроіка-ж, патос і сіла пролетарскай літаратуры можа расьці якраз з зусім іншых крыніц. Не ў ідэалістычным і містычным адыходзе ад нашай рэчаіснасьці знойдзе натхненьне пролетарскі пісьменьнік, а якраз у максымальным збліжэньні, паказе і актыўным удзеле ў самой творчасьці нашага жыцьця. Не адрыў ідэалу ад рэчаіснасьці, а рэальнае ажыцьцяўленьне соцыялістычных ідэалаў стварае нябачны да гэтага часу і вялічэзны патос пролетарскай літаратуры. Ня дужы звыш чалавек, які процістаіць масе,—колектыўная творчасьць мільёнаў, у якой яскравей, вальней і паўней, чым калі-б то ні было будуць расьці і разьвівацца творчыя магчымасьці і здольнасьці кожнага чалавека,—вось крыніца „романтычных“ натхненьняў пролетарскага пісьменьніка.

Наколькі сьляпы палітычна ці чужы пролетарыяту чалавек, які ня можа бачыць тае грандыёзнае, нябачнае і нячуванае нідзе ў сьвеце рознастайнасьці працоўных, бытавых і ідэолёгічных і іншых форм жыцьця, якія выростаюць з самой творчай ініцыятывы мас (соцыялістычнае спаборніцтва, бесьперапынны працоўны тыдзень, ударныя брыгады і г. д.), што ў агульным струмені і прадстаўляе сабою процэс соцыялістычнай пераробкі ўсіх грамадзкіх адносін і самых людзей.

І ці ня сьмешна і ня дзіка пры такім багацьці элемэнтаў *зусім новага жыцьця*, падобнага якому нідзе і ніколі не існавала, бо мы будуем фундамант пазаклясавага грамадзтва,—шукаць для пролетарскай літаратуры выйсьцёвых пунктаў і натхненьня ў старым романтызьме.

Нельга, праўда, забывацца, што ў нас рост новага жыцьця і новага чалавека, рост супярэчнасьцяй адбываюцца пры адначасным, яшчэ значным захаваньні рэшткаў коснай старыны, прывычак, забабонаў. Гэты

рост адбываецца таму ў жорсткай барацьбе з усім цьвілым і аджываючым, але як і ўсё паміраючае, моцна яшчэ трымаецца за жыцьцё.

Нельга забываць пролетарскаму пісьменьніку слоў Леніна, што сіла прывычкі мільёнаў ёсьць страшная сіла. Таму энтузіязм і патос актыўнага будаўніка соцыялізму павінен спалучацца з уменьнем уважліва сачыць і бічаваць усё старое і гнілое, якое цэпка хватаецца за новыя парасткі жыцьця.

У гэтай задачы пролетарскаму пісьменьніку могуць дапамагчы вялікія поэты і пісьменьнікі капіталістычнага грамадзтва. Геніяльнасьць і веліч мастака і пісьменьніка ў клясавым грамадзтве праяўляецца і ў тым факце, што сілай свайго таленту і мастацкай выразнасьцю сваіх вобразаў ён бязьлітасна бічуе эксплёатацыю, гнуснасьць, зло, парочнасьць, уласьцівую ўсякаму клясаваму грамадзтву, у якім меншасьць уціскае большасьць. Праўда, трэба дадаць, што нават геніяльнейшыя пісьменьнікі не маглі выскачыць з абмежаваных гістарычна клясавых межаў свайго грамадзтва і ў сваёй крытыцы былі вельмі непасьлядоўныя, бічуючыя адзін від зла, ня бачылі альбо замазвалі другі від зла. Але з пункту гледжаньня пролетарыяту галоўная каштоўнасьць ранейшых вялікіх мастакоў слова (незалежна ад таго, рэалістыя гэта ці романтыкі) заключаецца іменна ў тым, што яны ў высока мастацкай форме крытыкавалі і бічавалі гнуснасьці нямінуча спараджаемыя клясавым уціскам.

Ня толькі навуковае разуменьне няўхільнасьці пагібелі капіталістычнага грамадзтва, але і ў поэтычным слове выражаная крытыка клясавага грамадзтва, можа і заражае пролетарыят для барацьбы з капіталістычным сьветам і ўзмацняе яго веру і энтузіязм у будаўніцтва новага жыцьця.

Ленін у сваёй ацэнцы творчасьці Талстога дае найлепшы ўзор таго, як пролетарыят павінен падыходзіць і скарыстоўваць геніяльную творчасьць мастакоў ранейшых клясаў.

„Талстой,—кажа Ленін,—*адбіў набалеўшую ненавісьць, насьпеўшае імкненьне да лепшага, жаданьне пазбавіцца ад мінулага* (падкрэсьлена мною.—*Я. С.*), нясьпеласьць лятуценьняў, палітычнай нявыхаванасьці і рэволюцыйнай мягкацеласьці“ (Ленін том XI, частка 1-я), і далей „Талстой здолеў з асабліваю сілай перадаць настроі шырокіх мас, прыгнечаных сучасным парадкам, абрысаваць іх становішча, *выразіць іх стыхійнае пачуцьцё протэсту* і *абурэньня*“.

Ленін паказвае таксама, што Талстому быў уласьцівы бурны протэст *супроць усякага клясавага панаваньня*.

Ленін падкрэсьлівае ў творах Талстога яго вялізарную каштоўнасьць для пролетарыяту, як гарачага выкрывальніка і крытыка капіталістычнай экс плёатацыі, і наогул усякага клясавага ўціску, разам з тым падкрэсьлівае і супярэчлівасьць і непасьлядоўнасьць творчасьці Талстога.

„Але гарачы протэстант, палкі выкрывальнік, вялікі крытык,—выявіў разам з тым у сваіх творах такое неразуменьне прычын крызісу і срод-

каў выхаду з крызісу, што насуваўся на Расію, якое ўласьціва толькі патрыярхальнаму наіўнаму сялянству“ (Ленін, т. XI, ч. II-я, стар. 117).

У сваёй ацэнцы творчасьці Талстога Ленін паказвае, што Талстой з усёй сілай мастацкай выразнасьці свайго генія выразіў протэст *супроць усякага ўціску і эксплёатацыі*, і, з другога боку, са сваёй філёзофіяй непраціўленьня злу ўпаў у супярэчнасьці з сабой, як вялікім мастаком.

Апрача таго, Ленін заяўляе, што ўсё вялікае і бязумоўна каштоўнае ў Талстога можа быць зразумелым толькі пролетарыятам, але побач толькі з *жорсткай крытыкай чужой пролетарыяту філёзофіі Талстога*. Інакш кажучы, сама мастацкая каштоўнасьць Талстога можа быць правільна ацэнена толькі *з пункту гледжаньня пролетарскай ідэолёгіі*, і задач пролетарыяту, як змаганьніка за соцыялізм.

„Супярэчнасьці ў поглядах Талстога,—кажа Ленін—не супярэчнасьці яго толькі асабістай думкі, а адбітак тых у вышэйшай ступені важных, супярэчных умоў соцыяльнага ўплыву, гістарычных традыцый, якія вызначалі псыхолёгію розных клясаў і розных пластоў рускага грамадзтва ў парэформенную дарэволюцыйную эпоху“.

І таму, *правільная ацэнка Талстога магчыма толькі з пункту гледжаньня тэй клясы, якая сваёй палітычнай роляю і сваёй барацьбой, пад час першай разьвязкі гэтых супярэчнасьцяй падчас рэволюцыі, давяла сваё прызваньне быць правадыром у барацьбе за волю народу і за вызваленьне мас ад эксплёатацыі*“ (падкрэсьлена мною.—*Я. С*).

У спадчыне (Талстога—Я. С.) ёсьць тое, што не адышло ў мінулае, што належыць *будучаму*, гэтую спадчыну бярэ і над гэтай спадчынай працуе расійскі пролетарыят. Ён растлумачыць масам працоўных і эксплёатуемых *значэньне талстоўскай крытыкі дзяржавы, царквы прыватнай пазямельнай уласнасьці не для таго*, каб масы абмяжоўваліся самаўдасканаленьнем і ўздыханьнем аб цяжкім жыцьці, а для таго, каб яны ўзьняліся для нанясеньня новага ўдару царскай монархіі і памешчыцкаму зямляўладаньню“ (т. XI, ч. II-я, стар. 114).

Зьвяртаючыся да Зарэцкага, трэба было-б адзначыць, што Зарэцкаму, перш, чымся брацца за выпрацоўку „тэорый“ стылю позытыўнага романтызму, не пашкодзіла-б хоць крыху павучыцца марксызму і ў прыватнасьці, паспрабаваць усвоіць ленінскую ацэнку Талстога. Тады Зарэцкі зразумеў-бы, што выйсьцёвыя пункты для стылю пролетарскай літаратуры трэба шукаць ня ў мінулым романтызьме, а ў рэволюцыйных задачах і ідэолёгіі самога пролетарыяту.

Таксама, як уся вялікая і мастацка-каштоўная творчасьць Талстога можа быць зразумелай і стаць спадчынай пролетарыяту, толькі побач з жорсткай і выразнай крытыкай слабасьці і супярэчнасьці поглядаў і філёзофіі Талстога з пункту гледжаньня ідэолёгіі пролетарыяту, таксама ў стварэньні стылю пролетарскай літаратуры ранейшыя стылі могуць выйсьці пры асабліва крытычным усваеньні іх з пролетарскага пункту гледжаньня.

Усякая палітыка зрабіць стары рэалізм ці рамантызм (хоць-бы і ня цалкам) выйсьцёвым пунктам пролетарскай літаратуры даводзіць, па-першае, поўнае неразуменьне асобных *палітычных* задач, што стаяць перад пролетарыятам у адзнаку ад усіх ранейшых клясаў, і, па-другое, такая спроба азначае мэханічнае і мэтафізычнае ўяўленьне аб скарыстаньні пролетарыятам спадчыны ранейшай літаратуры і мэханічнае разуменьне гістарычнай прыемлемасьці пролетарскай літаратуры.

У рамантычнай „тэорыі" Зарэцкага з усёй яскравасьцю сказаліся гэтыя два асноўных віды памылак, зусім непролетарскага, не марксыцкага і не дыялектычнага характару, таму гэтую тэорыю трэба цалкам і поўнасьцю адкінуць, як ня маючую нічога агульнага ні з пролетарыятам, ні з пролетарскай ідэолёгіяй.

* * *

Шкоднасьць і поўная варожасьць пролетарыяту рамантычнай тэорыі Зарэцкага яшчэ больш становіцца яскравай, калі мы разгледзім яе ў адзінстве тэорыі і літаратурнай практыкі Зарэцкага. Праўда, Зарэцкі і ў сваім артыкуле і ў сваім выступленьні на дыспуце агаварваўся, што яго тэорыя зусім не зьяўляецца апраўданьнем яго практыкі, і нават з ёю ня зьвязана. Аднак, мы ня былі-б марксыстымі, каб паверылі на слова Зарэцкаму і забыліся на адну з асноўных ісьцін марксызму, што практыка зьяўляецца крытэрыем—праверкай тэорыі.

У даным выпадку вельмі падходзяць для Зарэцкага наступныя словы Маркса:

„У той час, як у звычайным жыцьці ўсякі крамнік дакладна ўмее адрозьніваць паміж тым, за што выдае сябе хто-небудзь, і тым, чым ён зьяўляецца ў сапраўднасьці, наша гісторыяграфія яшчэ не дашла і да гэтых банальных ведаў. Яна верыць на слова кожнай эпосе ў тым, што яна гаворыць аб сабе, і што яна ўяўляе аб сабе" (архіў, т. I, стар. 233).

І вось, мы дазволім сабе не паверыць на слова Зарэцкаму, а яго „тэорыю" праверым яго літаратурнай практыкай і, як убачыць Зарэцкі у далейшым вынікі будуць забойчымі як для яго тэорыі, так і для яго практыкі.

У сваім выступленьні на дыспуце і ў сваіх „тэорэтычных" заўвагах пра стыль пролетарскай літаратуры Зарэцкі, ідучы сьледам за рэволюцыйнай фразэолёгіяй, якая прыводзілася ўжо намі, угрунтоўвае неабходнасьць стылю пазытыўнага рамантызму.

„Праз эмоцыянальны ўплыў на чытача мастацкая літаратура павінна распальваць у рабочым і яго саюзьніках ненавісьць да клясавых ворагаў, загартоўваць волю, імкненьне да працы і барацьбы, падтрымліваць энтузіязм і веру ў перамогу, у шчасьлівую будучыню, у магутную тытанічную моц чалавека".

Гэтыя словы зьяўляюцца фразэолёгіяй, па-першае, таму, што з усяго гэтага набору фраз зусім невядома, што зьяўляецца асноўным, ненавісьць да ворагаў, ці вера ў шчасьлівую будучыню, ці вера ў магутную моц чалавека: усё пераблытана і скідана ў адну кучу; па-другое,—усё гэта толькі фразэолёгія ў вуснах Зарэцкага і таму, што ў сваіх літаратурных творах Зарэцкі эмоцыянальна ўзьдзейнічае на чытача ня ў сэнсе выхаваньня яго ў дусе ненавісьці да клясавых ворагаў, ня ў сэнсе веры ў будаўніцтва соцыялізму, а, наадварот, асноўны лейт-мотыў усіх твораў Зарэцкага гэта—апяваньне фаталістычна магутных, нават звыш-натуральных сіл, пакладзеных у прыродзе чалавека і ў самой рэчаіснасьці, больш моцных і магутных, чымся клясавыя інтарэсы, чымся соцыяльныя інтарэсы пролетарыяту. Гэтыя магутныя сілы, як любіць вельмі часта гаварыць Зарэцкі, а праўдзівей, фаталістычныя сілы, асноўны рухавік такcама і пролетарскай рэволюцыі і ўсяго жыцьця людзей. Яны трагічныя, бо адзіна сапраўды непераможныя, але разам з тым у іх, у гэтых сілах, асноўны сэнс і харaство жыцьця. Такім спосабам, у творчасьці Зарэцкага, бязумоўна, ёсьць романтызм і „тэорыя" позытыўнага романтызму зьяўляецца не выпадковым зьявішчам, а самым неабходным і шчыльнейшым чынам зьвязана з яго творчай практыкай. Але романтызм Зарэцкага ня мае нічога агульнага з энтузіязмам і з верай пролетарыяту, бо гэта романтызм падсьвядомых, сьляпых, фаталістычных сіл прыроды, што пануюць над грамадзтвам. Гэты рэакцыйны, недыялектычны, праўдзівей, фаталістычны характар чужога пролетарыяту романтызму Зарэцкага мы спрабуем зараз паказаць на прыкладах твораў Зарэцкага для таго, каб канчаткова выкрыць усю відзімасьць якой-бы то ні было рэволюцыйнай каштоўнасьці „тэорыі" Зарэцкага для пролетарскай літаратуры.

Мы ня ставім тут сваёй задачай разглядаць усе асноўныя рысы творчасьці Зарэцкага, але толькі той бок яго творчасьці, які даводзіць, што романтызм у „тэорыі" Зарэцкага мае свае глыбокія карэньні ў романтызьме на практыцы, у творах Зарэцкага, зьяўляючыся актыўна чужым і пролетарыяту і яго ідэолёгіі.

У сваім найбольш значным творы „Сьцежкі-Дарожкі" ў Зарэцкага сужэт роману разгортваецца ў пэрыод Лютаўскай і Кастрычнікаўскай рэволюцыі. Як-жа адносіцца Зарэцкі да рэволюцыі і ў прыватнасьці да пролетарскае рэволюцыі?

Вельмі часта Зарэцкі вуснамі сваіх гэрояў кажа, што „рэволюцыя—гэта агульнае сьвята", г. зн. банальныя словы мешчаніна, які бачыць у рэволюцыі „ўсеагульнае сьвята" ці страшную незразумелую сілу, што мы і сустракаем у Зарэцкага.

Мы знаходзім у Зарэцкага і такія філістэрскія словы аб рэволюцыі: „Было шмат сходаў, былі дэмонстрацыі. Усюды гаварылі ўрачыста і прыгожа, і прывык сам думаць, аб *вялікім прыгожым*, аб *рэволюцыі*, вызваленьні, аб *шчасьці* народу, аб шчасьці ўсяго чалавецтва, прывык

адчуваць сьвята, захапляцца ім да сьлёз, да шчымлівага болю ў сэрцы" (стар. 35).

І вось, Зарэцкі бачыць у рэволюцыі, з аднаго боку, „сьвята захапленьня, прыгожасьць хараства" і, з другога боку, ён кажа наступнае:

„Спачатку было ўсё пераблытаўшыся *ў магутна-імпэтнай віхуры,*— у хмарах чорнага пылу, ішло першае, найбольш заўзятае і найбольш стыхійнае руйнаваньне. Пад *безладна напорным рухам стыхіі* былі сьцерліся межы і станы, ня было акрэсьленых лягераў, браліся ворагі адзін з адным ў рукапашку, адчайна барокаліся ў крывавым сьвятле пажару". (Усюды падкрэсьлена намі—*Я. С*).

Гэтымі словамі аб рэволюцыі выказвае адначасова сваё захапленьне і жах (у залежнасьці ад акалічнасьцяй) дробнага буржуа перад рэволюцыяй, які бачыць у ёй незразумелыя страшныя сілы: страшныя альбо прыгожыя.

Але магчыма, што так Зарэцкі адносіцца толькі ўсяго да Лютаўскай рэволюцыі, магчыма, што ў Кастрычнікавай рэволюцыі ён бачыць і разумее што-небудзь іншае. Паглядзімо.

Галоўны гэрой роману „Сьцежкі-Дарожкі" Лясьніцкі, наступным чынам успрыймае набліжэньне Кастрычнікавай рэволюцыі.

„Прайшла гэта зіма для Лясьніцкага ў глухім мітушэньні на месцы, бо сьціснуты быў ён у чатырох сьценах роднай хаты, замураваны ў склепе цяжкой адзінотай—звонку напірала цёмная варожасьць вёскі, праз якую праходзіла ў *фантастычна-заблытаных* формах тое *невядомае, новае,* што бушавала наўкола, было незразумела і страшна" (стар. 244).

Усякая рэволюцыя для Зарэцкага, у тым ліку і пролетарская, гэта перш за ўсё *„невядомая, незразумелая, страшная сіла"*.

Другі гэрой Зарэцкага, рабочы-комуністы Андрэй, прыблізна такімжа чынам успрымае пролетарскую рэволюцыю.

Вось што кажа Андрэй:

„Гэта-ж, хлопцы, наша пайшла. Гэта-ж пажар, Васіль, разумееш. *Вось яно падышло, пачалося тое страшное*, нямінучае, аб чым помніш мы з табой гаварылі.... (стар. 222) і комуністы Андрэй, сам актыўна робячы рэволюцыю, нічога іншага ў ёй ня бачыць, апрача „страшной, нямінучай сілы".

І паінтэлігенцку расхлябаны і рэфлектуючы Лясьніцкі і комуністы Андрэй аднолькава ў Зарэцкага ўспрымаюць рэволюцыю, як: то прыгожа, то жорстка страшную сілу.

Усюды, дзе толькі Андрэй гаворыць аб рэволюцыі, ён бачыць у ёй фаталістычную сілу і апрача таго тыпова паінтэлігенцку аб ёй разважае:

„А сапраўды, агонь яшчэ будзе, ён выбухне разам і гэтыя іскрачкі растануць у ім, увальюцца ў яго, ён ідзе гэты агонь, набліжаецца. Гэты *агонь будзе страшны*—у ім будуць стогны і кроў, у ім будзе *чорная сьмерць*, у ім будзе вялікае *руйнаваньне*" (стар. 174).

Бачачы ў рэволюцыі, галоўным чынам, незразумелую дзікую стыхію (а не стыхію сьвядомай клясавай барацьбы пролетарыяту), стыхію, якая вырастае з незразумелых сіл прыроды, а не грамадзтва—Зарэцкі стыхійна выражае і ўспрыймае гэтую стыхію. Назіраючы пажар абшарніцкага маёнтку і натоўп сялян, якія яго падпалілі, Лясьніцкі перажывае такія пачуцьці:

„Але скрозь навалу і страх вырывалася *аднекуль з падсьвядомай глыбіні* другое пачуцьцё—вострае, сьмелае пачуцьцё жывога чалавечага протесту супроць *дзікай стыхіі, супроць зьвярынае жорсткасьці*" (стар. 166).

Як і сама рэволюцыйная стыхія, так і пачуцьцё протэсту супроць яе, усё гэта вырастае з незразумелых сіл, з падсьвядомай глыбіні. Калі ў *стыхійнасьці* пролетарской рэволюцыі Зарэцкі ня бачыць абсолютна *сьвядомай* клясавай барацьбы пролетарыяту, калі ўсе дзеяньні і пачуцьці яго гэрояў чэрпаюць сваю крыніцу з падсьвядомай глыбіні, то ці гэтакі падсьвядомы, стыхійны романтызм патрэбен пролетарыяту, і ці гэта мае што-небудзь агульнага з пролетарыятам, *найбольш сьвядомым* з усіх ранейшых клясаў, які адносіцца да рэчаіснасьці і найбольш сьвядома, паводле пляну, соцыялістычна перарабляе гэтую рэчаіснасьць.

У матросах, у гэтых самаадданых, але зусім ня страшных барацьбітох за справу пролетарскай рэволюцыі, мешчаніна Зарэцкага зьдзіўляе перш за ўсё іх жудасьць: „ад іх сапраўды веяла *жудасьцю*, чулася ў іх жалезна-злучанай масе вялікая бязьлітаснасьць паўстаньня, бязьмежна грозны замах на ўсё адвыклае для людзей умоўнасьці".

Ясна, што таксама як у пашыраных зрэнках мешчаніна сама рэволюцыя ўстае як страшная незразумелая сіла, таксама і людзі, якія яе робяць, ператвараюцца ў такую-ж фантастычную, „жудасную, бязьлітасную сілу".

Гэта філістэрскі-абывательскае ўспрыняцьце рэволюцыі з пашыранымі зрэнкамі, як штосьці страшнае, нямінучае, Зарэцкі яскравей за ўсё выразіў у лісьце Лясьніцкага да Славіна.

„Чую *нешта* ідзе, набліжаецца, *нешта страшнае*, дрыжу, баюся, гатоў як той стравус зарыцца ў адчаі галавой куды-небудзь, каб нічога ня чуць, ня бачыць" (стар. 178).

Набліжэньне Кастрычнікавай рэволюцыі ўсюды ў дзесятках мясцоў, самымі рознымі гэроямі ўспрыймаецца толькі як *фатальная стыхійная сіла*.

„Але ў гэтым росьце сіл, у *набліжэньні нечага нямінуча магутнага* ня бачыў Лясьніцкі яснасьці, і самае страшнае—ня бачыў сабе месца" (стар. 155).

Ды і як-жа гэрoі Зарэцкага маглі знайсьці сабе месца ў рэволюцыі, калі яна для іх „нешта страшнае, нямінуча-магутнае, незразумелае". Калі выпадкова падсьвядомыя глыбіні чалавека (Халіма, Лясьніцкі, Андрэй) прыводзілі яго гэрояў да прыняцьця пролетарскай рэволюцыі,

то яны ішлі да яе, калі гэтыя глыбіні супраціўляліся рэволюцыі (Халіма), яны бунтавалі супроць яе, адыходзілі. Прыход ці адыход тых ці іншых гэрояў ад рэволюцыі і нават сталая быццам сьвядомая сувязь з ёй (як у Андрэя), усё гэта знаходзіць сваё тлумачэньне, ці праўдзівей, зацямненьне ў Зарэцкага ў магутных, падсьвядомых сілах і глыбіні як самога чалавека, так і незразумелай стыхійнай сілы рэволюцыі.

„А ці ведаеш ты, Васіль,—кажа Андрэй,—што значыць анархія? Ці ведаеш ты, што *анархія—гэта і ёсьць рэволюцыя!*" (стар. 118).

А калі цяпер разглядзець асноўны лейт-мотыў усіх пачуцьцяў, размышленьняў гэрояў Зарэцкага, то ўсе яны як радасныя, так і горасныя, як ненавісьць, так і любоў,—усё зводзіцца да двух момантаў, па-першае: да стыхійнага *захапленьня* чым-небудзь, або як-небудзь (нават само слова захапленьне найбольш часта з любоўю манатонна без канца ўжываецца Зарэцкім па некалькі разоў на аднэй старонцы), да захапленьня, сіла якога ў забываньні ўсіх і ўсяго, у адрыве ад рэчаіснасьці, і, па-другое, у думках і пачуцьцях, сутнасьць і сіла якіх у тым, што яны *нямінучыя і незразумелыя*, у тым, што яны таксама стыхійныя, нявытлумачальныя, непераможныя.

„З Андрэем пасьля таго Лясьніцкі стараўся ня бачыцца, бо чуў да яго нейкую *незразумелую, тупую* варожасьць" (стар. 18) і далей:

„Але злосьць зараз праходзіла, сьціралася пачуцьцём урачыстай *таемнасьці, чаканьня нечага надзвычайна важнага* (стар. 20).

„Нешта балюча сьціскала сэрца, нешта гняло тупым навіслым цяжарам".

Нават тады, калі Лясьніцкі прыняў рэволюцыю, нават тады, калі ён з радасьцю думае аб змаганьні, аб перамозе пролетарскай рэволюцыі, яго радасныя пачуцьці ня могуць абыйсьціся бяз *страшнага і незразумелага.*

„Часамі яму здавалася (ён амаль што фізычна адчуваў гэта), што бурлівае народнае абурэньне ўзносіць яго на сваіх хвалях некуды высока-высока, на *страшное і прыгожае* ўзвышша—там бліскавіцы, ветры парыўныя, злосныя, там сьціскаецца сэрца ад наплыву *дзіка-імпэтнага* парываньня і ў грудзёх узьнімаецца новая непераможная сіла—жалезная сіла колектыву, і штурхае, нясе ў барацьбу—да перамогі, да вызваленьня..." (стар. 379).

*Ніякіх сьвядомых мэт*, ніякага яснага разуменьня самой барацьбы супроць капіталістычнага грамадзтва за соцыялізм, паводле Зарэцкага, няма ў тых, хто вядзе гэтую барацьбу і яе няма ў пролетарыяту, а толькі „страшныя прыгожыя сілы, дзікія імпэтныя, парывальныя". Аснова клясавай барацьбы, аснова рэволюцыі ў гэтых парываньнях, у падсьвядомых сілах. Для Зарэцкага ня сіла парываньня, захапленьня барацьбой, ненавісьць да клясавага ворага вызначаюцца і вырастаюць з самой гістарычнай ролі пролетарыяту, з усьведамленьня мэтавых задач, што стаяць перад пролетарыятам, як барацьбітом за соцыялістычнае гра-

мадзтва, а, наадварот, само змаганьне пролетарыяту, рэволюцыя, яе задачы, мэты, вызначаюцца, падпарадкаваюцца і вырастаюць з магутных незразумелых стыхійных сіл. Як мы бачым, і ў гэтых уяўленьнях аб рэволюцыі ўсё пастаўлена на галаву.

Бязумоўна, што ў гэтым апяваньні магутных, незразумелых, то радасных, то жудасных сіл, ёсьць сваясаблівы романтызм, прытым фаталістычнага гатунку, аднак з усёй рашучасьцю трэба сказаць, што ён ня мае нічога супольнага ні з пролетарыятам, ні з пролетарскай ідэолёгіяй, ні з пролетарскай літаратурай.

Трэба адзначыць, што гэты фаталістычны романтызм не выпадковае зьявішча ў творчасьці Зарэцкага—ён чырвонай ніткай праходзіць праз усе яго творы, часам да немагчымасьці монотонна і аднастайна, толькі з нязначнымі варыяцыямі паўтараючыся і расьцягваючыся ад маленькага апавяданьня, аж да вялікага роману.

Вось перад намі зборнік дробных апавяданьняў Зарэцкага „Пад сонцам". Бярэм першае з іх „Кветка пажоўклая".

У чым асноўны сэнс і сужэт гэтага апавяданьня.

Комуністка Гарнова, якая працуе ў дзіцячым доме, канчае жыцьцё самазабойствам таму, што, працуючы ў свой час у Надзвычайнай Камісіі, падпісала сьмяротны прысуд свайму брату—контр-рэволюцыянэру ўнутраная барацьба, згрызота сумленьня і пачуцьцё крэўнасьці аказаліся вышэйшай *падсьвядомай сілай*, чым сьвядомасьць комуністкі, выканаўшай свой абавязак перад рабочай клясай, расстрэльваючы брата контррэволюцыянэра. Пасьля расстрэлу брата, бацька абшарнік прысылае праклён дачцы комуністцы: „З гэтага часу будзь ты праклята. Няхай табе жыцьцё будзе горкай доляй. Бацькава пракляцьце спасьцігне цябе на тваім ганебным шляху". Праклён бацькі, як страшная фатальная сіла (як і ўсе сілы ў Зарэцкага) зрабіў сваю справу.

„Тады вось і параслаў мне бацька гэту пісульку. І, ведаеш, цяжка мне стала, як я прачытала яе. *Быццам нешта навалілася на мяне, прыдавіла страшным, жудасным цяжарам.* Я пачала часам задумвацца, часам сумаваць. І наогул, як ліпучай павуцінай пачынае абвязваць мяне *страшэнная змора.* А разам—раджалася пачуцьцё адзіноты, нездавальненьня..."

Гарнова, якая прышла да рэволюцыі пад уплывам каханьня, захапленьня страшнымі бурлівымі сіламі рэволюцыі, адыходзіць таксама ад рэволюцыі пад уплывам другой, падсьвядомай страшэннай сілы. Яна адходзіць яшчэ і таму, што „апала навальніца бурлівая, жыцьцё пачало ўкладвацца ў сталыя рамкі, пачалася другая работа, рухлівая, нудная".

Вось што кажа Гарнова пра сходкі:

„Калісьці было многа такіх пекных хвілінак. Цяпер ня тое, цяпер неяк шэрае ўсё, нудна часам".

Рэволюцыянэры і комуністыя Зарэцкага прыходзяць да рэволюцыі не таму, што іх да гэтага штырхае абурэньне клясавым уціскам, які па-

раджае ўбоства, злом, агіднасьцю, распуствам клясавага капіталістычнага грамадзтва. Гэтыя мотывы альбо ня граюць ніякае ролі, альбо вельмі другарадную ролю (гл. апавяданьні „Пажоўклая кветка“, „Сьмерць“), а таму, што да гэтага штырхае іх *знадворная* для справы рэволюцыі сіла, як любоў, ненавісьць і помста, на грунце каханьня, рызыка, захапленьне і г. д.

Таксама як і сама рэволюцыя для Зарэцкага—гэта страшэнная магутная стыхійная сіла, так і тыя сілы, якія выпадкова штырхаюць і адкідваюць людзей да рэволюцыі і ад рэволюцыі,—гэта страшэнныя падсьвядомыя, фатальныя сілы.

Ня ў клясавай барацьбе, не ў супярэчнасьцях капіталістычнага грамадзтва (што было-б адзіна правільна) бачыць Зарэцкі сілы, якія штырхаюць пролетарыят і працоўныя масы на барацьбу з капіталізмам, а ў страшэнных, незразумелых сілах.

І ці ня ясна, што тое эмоцыянальнае заражэньне, якое хоча зрабіць Зарэцкі сваімі страшэннымі, стыхійнымі незразумелымі сіламі, абсолютна чужыя пролетарыяту, бо пролетарыят у сто раз лепш, ясьней, бяз усякіх ідэалістычных акуляраў *ведае*, якая сіла штырхае яго на барацьбу з капіталізмам, больш таго, ён ня стыхійна, а сьвядома будуе ў Савецкім Саюзе новае нябячнае да гэтага часу соцыялістычнае грамадзтва.

Сваясаблівая пропаганда капіталістычнай стыхійнасьці пад маскай „тэорыі позытыўнага романтызму“, абсолютна не патрэбна пролетарыяту і пролетарскай літаратуры, і Зарэцкаму ні пад якім выглядам, і ні пад якой формай ня ўдасца працягнуць гэту „тэорыю“ ў пролетарскую літаратуру і заразіць ёю наш пролетарскі літаратурны маладняк.

Усякага роду стыхійныя захапленьні, адарваныя ад жыцьця, галоўным чынам, захапленьні ў каханьні, у якіх Зарэцкі, відавочна, бачыць сапраўдны сэнс жыцьця, не захапляюць аднак і не захопяць ні пролетарскага пісьменьніка, ні чытача.

Бачыць вышэйшую асалоду, шчасьце, сэнс жыцьця ў найбольшым адыходзе ад рэальнага жыцьця, у самазабываньні, у захапленьні і, галоўным чынам, у любоўным захапленьні—уласьціва перш за ўсё зыходзячым, гібеючым клясам, якім цяжка шукаць сэнс у рэальнай рэчаіснасьці, бо сама рэчаіснасьць усё больш адыходзіць ад іх. Такое разуменьне асалоды і шчасьця, якое пропагандуе Зарэцкі, уласьціва буржуазіі ў цэлым, бо характарнай рысай усяго буржуазнага сьветапогляду і зьяўляецца іменна падваеньне паміж патустароньнім быццам ідэалам і пагэтастароннай рэчаіснасьцю.

Найлепшую крытыку ўсіх ранейшых клясавых відаў і разуменьня асалоды дае Маркс:

„Асалоды ўсіх ранейшых станаў і клясаў павінны былі быць наогул дзіцячымі, зморнымі ці грубымі, бо *яны заўсёды былі адарваны* ад усякай *жыцьцёвай дзейнасьці*, ад уласнага зьместу жыцьця індывідаў і зводзіліся больш ці менш да таго, што якой-небудзь бязгрунтоўнай чын-

насьці надаваўся ілюзорны зьмест... Сувязь асалод кожнай эпохі з клясавымі адносінамі і выклікаючымі іх умовамі вытворчасьці і зносін, у якіх жывуць людзі, абмежаванасьць мінулых форм асалоды, *якія ажыцьцяўляюцца па-за зьместам сапраўднага жыцьця індывідаў і стаячых у супярэчнасьці з ёй,* сутнасьць кожнай філёзофіі асалоды, з маючай у наяўнасьці сапраўднай формай асалоды і двудушша падобнай філёзофіі, якая ўтвараецца бесстаронна да ўсіх індывідаў,—усё гэта, зразумела, магло быць ускрыта толькі тады, калі можна было прыступіць да крытыкі ўмоў вытворчасьці і зносін існуючага ладу, гэта значыць, калі супярэчнасьці паміж буржуазіяй і пролетарыятам парадзілі комуністычныя і соцыялістычныя погляды. Гэтым была зганьбена ўсякая мораль—як мораль аскетызму, так і мораль асалоды“. (Архіў, т. IV, стар. 284).

Гэта Марксава крытыка буржуазных уяўленьняў пра асалоду, пра шчасьце, ня ў брыво, а ў вока пападае Зарэцкаму.

На працягу ўсіх сваіх твораў Зарэцкі ў цеснай сувязі з усім сваім фаталістычным романтызмам, прапаведуе асалоду і захапленьне самазабываньнем у любоўных асалодах, у забыцьці, у магчымасьці забыцца, адыходзячы ад жыцьця.

Найбольш яскравая роля стыхійных, падсьвядомых, нават зьвярыных, а не грамадзкіх сіл, выпуклена Зарэцкім у яго аднэй з апошніх аповесьцяй „Голы Зьвер“.

У гэтай-жа аповесьці наўмысьля падкрэсьлена праводзіцца ідэя пра асалоду жыцьцём у захапленьні, у забываньні, у любоўным чадзе. Усё сьвядомае, лепшае адступае прэч у чалавека перад стыхійнымі зьвярынымі сіламі, і ў прыватнасьці, перад сілай любоўнага захапленьня.

Вось што кажа Зарэцкі пра свайго гэроя, „Чалавека-зьвера“ Яроцкага:

„Ён мастацкі расказваў. Ён умеў захапіць чалавека, умеў да болю напінаць струны яго пачуцьця і граць на іх сьмела, рашуча, як віртуоз. Ён адразу знаходзіў *унутры чалавека зьвярыныя інстынкты, успарваў іх, узьбіваў у бурна шалёную пену, каб захлынула яна ўсё нутро, каб захапіла чалавечае*“.

Зьвярыныя інстынкты і наогул усякага роду падсьвядомыя староны—аснова жыцьця, аснова дзеяньня чалавека. Нішто чалавечае ня мае над імі ўлады. Але розьніца ў гэтых сілах заключаецца толькі ў тым, што ў Яроцкіх яны праяўляюцца з усёй магутнасьцю і энэргіяй чалавека-зьвера, у Шчупакоў—у бясьсільлі і бязвольлі, у Лідачак—у падпарадкаваньні сьляпой стыхіі каханьня. Розьніца толькі ўсяго ў форме праяўленьня гэтай сьляпой стыхіі,—сутнасьць застаецца адна.

Гэроі Зарэцкага шукаюць каханьня, як сродку забыцца аб усім і пра ўсё, г.-зн. як сродку на хвалях любоўнай стыхіі адыйсьці ад рэальнага жыцьця.

„Як прыемна, як радасна плысьці ў гэтым ружовым тумане, што затуляе розум, прыемнасьць, што абмывае нутро такімі пякучымі хва-

лямі, як прыемна, як радасна чуць мне гэтую жаркую блізкасьць, гэту сьмелую сілу, што цягне да сябе, прымушае забыцца на ўсё, на ўсё—чыста і глядзець бясконца ў дзіўна глыбокія чорныя вочы". („Голы Зьвер", стар. 24).

І ў гэтым іменна заключаецца сэнс жыцьця. Лідачка, каханка Яроцкага, каротка выражае яго сваёй сяброўцы: „Цяпер галоўнае—гэта пажыць. Так пажыць, каб было што ўспомніць". А пажыць—гэта значыць захапіцца і забыцца на рэальнае жыцьцё.

Лідачка даведалася, што яе каханак самы звычайны дробны прайдзісьвет і машэньнік, але гэта нікольні не паслабляе яе каханьня да яго. Стыхійная голая сіла каханьня аказалася вышэй усяго сьвядомага, усіх лепшых чалавечых пачуцьцяў.

„Хацелася бегчы ад яго, уцячы далёка-далёка, каб ня бачыць вялікіх вачэй, каб ня чуць сухога расшчэпленага голасу, каб забыцца зусім, выкінуць з уяўленьня яго страшэнны вобраз. І *разам з тым, нейкая сіла цягнула да яго, прымушала стаяць і глядзець, піць вачмі харство яго дзіўнае.* Бо прыгожы ён быў, ярка прыгожы—гэты зьвер-чалавек". (Стар. 77).

Ня гледзячы на тое, што Яроцкі яе адкідвае, Лідачка просіць аб каханьні, просіць літасьці.

„Тады ня стрывала ўжо Лідачка, пачуцьцё захлынула палкай хваляй—панясло ў вір, у прорву бязвольля, адданасьці. Няпрытомная кінулася яна да яго, плакала, сьмяялася, стала перад ім на калені, цалавала рукі яго".

Усюды толькі align рознастайныя формы аднэй і тэй-жа стыхіі, узьнімаючай у чалавеку ўсё лепшае і ўсе грамадзкія інстынкты.

Чытач магчыма запярэчыць нам, што Зарэцкі сьвядома хацеў паказаць адмоўны тып чалавека-зьвера і што ён сам адмоўна да яго адносіцца. Але гэта будзе ня верна, па-першае, таму, што, ня гледзячы на адмоўныя адносіны да Яроцкага, Зарэцкі нічога другога ня можа яму процістравіць, апрача бязвольнай стыхіі Шчупака і сьляпога каханьня Лідачкі. Па-другое, голы зьвер зьяўляецца законамерным этапам у разьвіцьці самога Зарэцкага і яго творчасьці.

З самага пачатку свае творчасьці, стаўшы на пункт гледжаньня процістаўленьня грамадзкім сілам стыхійных, сьляпых, няўхільных сіл прыроды і сіл самога чалавека і разьвіваючы гэтую ідэю ў розностайных варыянтах ва ўсіх сваіх творах—Зарэцкі ў поўнай меры законамерна і пасьлядоўна павінен быў прыйсьці да голага зьвера—да практычнай квінт-эсэнцыі сваёй рамантычнай „тэорыі".

У гэтых магутных страшэнных сілах Зарэцкі бачыць фатальны лёс, але разам з тым у іх толькі, у захапленьні, чалавек можа знайсьці хоць-бы мішурнае, пераходзячае, але шчасьце і асалоду. Ясна таксама, што ў Зарэцкага ўсякага роду захапленьні, якія выплываюць з магутных страшэнных сіл, процістаяць грамадзкай дзейнасьці, грамадзкім інстынктам чалавека.

Адсюль пасьлядоўна ўзьнікае лёзунг чалавека-зьвера і аб'ектыўны лёзунг самога Зарэцкага, выплываючы з усёй яго творчасьці, як-бы суб'ектыўна Зарэцкі не паўставаў супроць яго:

„Задушыць грамадзкія пачуцьці, што тысячагодзьдзямі ўзгадаваліся ў організьме чалавека, скінуць культуру і стаць голым зьверам, які перагрызае горла такому-ж як ён, каб адабраць кавалак сьвежага крывавага мяса". („Голы Зьвер", стар. 71).

Вось кароткі сэнс усёй філёзофіі Зарэцкага, не патрабуючай ніякіх комэнтараў, вось голая практыка напыжанай рэволюцыйнымі фразамі „тэорыі" позытыўнага романтызму.

Трэба растучай беларускай пролетарскай літаратуры павесьці рашучую і жорсткую барацьбу супроць літаратурных „тэорый" і літаратурнай практыкі Зарэцкага і ўсякіх магчымых і рэальных і маленькіх Зарэцкіх. Асноўная шкоднасьць тэорыі і практыкі Зарэцкага заключаецца ў тым, што пад выглядам барацьбы за новы стыль пролетарскай літаратуры, праводзяцца абсолютна чужыя пролетарыяту ідэі. Мастацкая-ж каштоўнасьць вобразнага выражэньня гэтых ідэй у Зарэцкага зьяўляецца толькі слабым водбліскам Дастаеўскага, Пшыбышэўскага і ўсякага роду сучасных рознавіднасьцяй дастаеўшчыны ў асобе Стэфана Цвэйга і інш.

Падсумоўваючы вынікі, трэба сказаць, што „тэорыя" позытыўнага романтызму невыпадковая ў Зарэцкага, але законамерным чынам зьвязана і адбівае яго літаратурную практыку і як той, так і другой не па шляху з магутным, але ня стыхійным, а сьвядома тварымым струменем новай пролетарскай літаратуры.

# АБ ЯЎРЭЙСКАЙ ПРОЛЕТАРСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ Ў СССР

Х. Дунец

I

Пасьлякастрычнікавая яўрэйская літаратура пачала сваё існаваньне, як літаратура рэволюцыйная. Гэта яшчэ ня значыць, што пасьлякастрычнікавая яўрэйская літаратура не зьмяшчала ў сабе тыя ці іншыя элемэнты дробнабуржуазных і буржуазных настрояў, якімі была пранізана дарэволюцыйная *яўрэйская літаратура*. Наадварот, на паасобных узорах яўрэйскай пасьлякастрычнікавай літаратуры можна паказаць, што яна ў пэўнай меры і па гэты дзень перагружана нацыяналістычнымі элемэнтамі: соцыяльныя пласты, з якіх вынікалі гэтыя настроі, яшчэ ня сыйшлі з арэны грамадзкага жыцьця...

Няма нічога дзіўнага ў тым, што яўрэйская літаратура ў дарэволюцыйным мінулым спажывала сокі з дробна-буржуазнай нацыяналістычнай глебы, часам з гандлёва-буржуазнай крыніцы. Новая яўрэйская літаратура, якая пачала сваё жыцьцё з дня ажыцьцяўленьня пролетарскай дыктатуры, павінна была скінуць з сябе цяжар мінулага, нерэволюцыйнага, узоры якога, як формальныя, гэтак і тэматычныя—служылі мярэжам дзеля новага пісьменьніка.

Апрача таго, трэба мець на ўвазе, што маладая яўрэйская, савецкая літаратура ў першыя часы выхоўвалася ў асяродзьдзі тых пісьменьнікаў і той інтэлігенцыі, якія былі далёка ад бальшавізму і рабочае клясы, якія, праўда, часамі падыходзілі больш-менш блізка да рэволюцыйнага руху, але якія ніколі ня зьліваліся з бальшавіцкім рухам і не разумелі існасьці задач пролетарыяту ў соцыялістычнай рэволюцыі. Гэта асяродзьдзе ў лепшым выпадку, у яго найменш апалітычнай частцы прасякалася ідэолёгіяй „бунда“, „эсэс“, „поалей-цыён“, а часамі і сыянізмам. Гэта асяродзьдзе часам ішло на компромісы нават у галіне мовы, адносячыся прымірліва да стара-гэбрайскай мовы.

Такім чынам, нават лепшыя прадстаўнікі гэтага дарэволюцыйнага пакаленьня яўрэйскіх пісьменнікаў і яўрэйскай інтэлігенцыі нічога са свайго мінулага не маглі прынесьці ў скарбніцу рэволюцыйнай культуры пролетарыяту. А жывыя прадстаўнікі гэтай „старой“ літаратуры—Бэргельсон, Ністэр і іншыя—вельмі мала на першым этапе маглі дапамагчы стварэньню рэволюцыйнай літаратуры, наадварот, яны павінны былі паслужыць і паслужылі ў пэўнай меры консэрватыўным элемэнтам у справе

будаваньня яўрэйскай рэволюцыйнай літаратуры і культуры. Гэтыя пісьменьнікі рабілі спробы давесьці немагчымасьць існаваньня рэволюцыйнай і пролетарскай літаратуры, немагчымасьць адлюстраваньня тых вялікіх соцыяльных зьяў, якія выкліканы Кастрычнікавай рэволюцыяй. Гэтыя пісьменьнікі таксама і „дэ-факто“ паказалі сваю няўстойлівасьць і сваю капітуляцыю тым, што яны ў самы цяжкі момант нашай рэволыцыі, у часы голаду і грамадзянскай вайны, пацягнуліся за межы, за амэрыканскім долярам...

Аб гэтай групе пісьменьнікаў, якія выхаваліся, галоўным чынам, у атмосфэры рэакцыі і ўпадку эпохі пасьля пятага году, якія ўнесьлі ў яўрэйскую літаратуру ўпадніцкія формы літаратурнай творчасьці—сымболізм (Ністэр) і імпрэсыянізм (Бэргельсон),—аб гэтай групе ня прыходзіцца гаварыць, як аб засноўцах новай рэволюцыйнай літаратуры, хоць Кастрычнікавая рэволюцыя была імі спаткана ва ўсякім выпадку няворажна. Тут выявіліся рознастайныя моманты нацыянальнага, соцыяльнага і псыхолёгічнага характару, аб якіх тут ня месца распаўсюджвацца. Ва ўсякім выпадку, ясна, што гэта група пісьменнікаў не магла зьяўляцца ядром для растка новай пролетарскай літаратуры. Наадварот, яны абцяжарылі рэволюцыйную літаратуру.

Адбілася на нашай літаратуры „спадчына“ ня толькі гэтых пісьменьнікаў, што жылі і тварылі, адбілася і спадчына, якую пакінулі яўрэйскія клясыкі: Абрамовіч (Мэндэле Мойхэр-сфорым), Шолом-Алэйхэм, Пэрэц, наступнае за ім пакаленьне—Аш, Нонбэрг і іншыя—усе гэтыя „кіты“ яўрэйскай дарэволюцыйнай літаратуры стварылі такі вялікі пласт культуры, які нямінуча павінен быў палажыць свой адбітак на кадр новых пісьменьнікаў, пісьменьнікаў, якія толькі ў малой сваёй частцы вышлі з працоўнага, беднага асяродзьдзя. Яўрэйскай савецкай літаратуры ў першыя часы было вельмі цяжка вызваліцца ад гэтае спадчыны, перамагчы яе сілу супраціўленьня, асіліць яе дзеля таго, каб аўладаць яе-ж каштоўнеўшымі элемэнтамі, пасвойму „утылізуючы“ іх на карысьць рэволюцыйнай і пролетарскай літаратуры.

З чаго складалася гэта спадчына? Шмат гаварыць аб гэтым ня прыходзіцца. Даволі сказаць, што ў асяродку творчасьці яўрэйскай клясычнай літаратуры стаяла проблема яўрэйскага „нацыянальнага гора, „тэматыка абмяжоўвалася мястэчкам; тэматыка і зьмест гэтае літаратуры амаль ня выходзілі з межаў „яўрэйскага гетто“, амаль ня было не яўрэйскага пэрсонажу. Ды і „яўрэйскае асяродзьдзе“ ня было ўзята ў яго цэлым, ва ўсёй рознастайнасьці яго соцыяльных груповак, узаемаадносін і сутычак. Старая літаратура малявала ў асноўным законсэрваваны, патрыярхальны, рэлігійны лад яўрэйскага жыцьця; яна ў лепшым выпадку біла на лепшыя пачуцьці або гаварыла спачувальна пра беднату. Адгэтуль ясна, што гэта літаратура, выконваючы „соцыяльны заказ“ яўрэйскай дробнай буржуазіі, лібэральнічаючай буржуазіі і нацыяналістычнай, у лепшым выпадку „прасьветніцкай“ інтэлігенцыі, — гэта

літаратура прайшла міма соцыяльна-дыфэрэнцыяваных процэсаў і соцыяльных конфліктаў у яўрэйскім асяродзьдзі. Зусім невыпадкова тая акалічнасьць, што роман Шолам-Алэйхэма „Патоп“ (Мабул), у якім малюецца пэрыод рэволюцыі 1905 году, і які зьявіўся рэфлексам пісьменьніка на падзеі гэтага героічнага часу, дае крывое люстра гэтай рэволюцыі і выяўляе бездапаможнасьць гэтага вялікага гумарыстага ахапіць асноўныя рысы перажываных соцыяльных выбухаў. Тое самае здарылася з гэтым самым пісьменьнікам, калі ён у сваіх славутых новэлях пад агульнай назвай „Тэвье Малочнік“ паспрабаваў намаляваць портрэт рэволюцыянэра. Гэткім самым мастацкім і ідэолёгічным паражэньнем можна лічыць кнігу Ш. Аша „Мэры“, якая фальшыва і салонна малюе рэволюцыйнае асяродзьдзе пэрыоду першай расійскай рэволюцыі: якаясьці карыкатура на рэволюцыю, крывое адбіцьцё ўсяго таго, чым была поўная гэта эпоха золаку расійскай рэволюцыі. Гэтыя „доказы ад супраціўнага“ пацьвярджаюць выказанае палажэньне, што дакастрычнікавая і ранейшая клясычная яўрэйская літаратура абсолютна ня ведала зьместу і тэматыкі адабражэньня жыцьця эксплёатуемых пластоў і іх змаганьня за соцыяльную перабудову чалавечага грамадзтва [1]. А ў асноўным-жа нашыя пісьменьніцкія кадры, выхаваныя напярэдадні Кастрычнікавай рэволюцыі, чарпалі свой „першапачатковы капітал“ іменна з гэтае консэрватыўнае напаўсярэднявяковае крыніцы. Нядарам,—скажам у дужках,— і зараз яшчэ нам прыходзіцца адзначаць налічча рудымэнтаў гэтага сярэднявяковага мінулага ў нашых сучасных пісьменьнікаў,—аб гэтым мы скажам ніжэй. А пакуль што мы яшчэ раз падкрэсьлім, што нават тыя старыя яўрэйскія пісьменьнікі, якія пасвойму былі рэволюцыйнымі пераварыцелямі зьместу і формы яўрэйскае літаратуры,—а гэткім мы можам лічыць Пэрэца, бо ён перанёс у яўрэйскую літаратуру новыя эўропэйскія формы пісьма, новыя сьвецкія мотывы поэзіі і т. п.—нават гэткія пісьменьнікі, як Пэрэц, выконваючы ў асновным „заказ“ буржуазных і рэакцыйных яўрэйскіх пластоў, павінны былі ўрэшце загутарыць на мове сваёй клясы. Дзеля гэтага, напрыклад, у Пэрэца тыпаж і тэматыка з працоўнага жыцьця займалі нікчэмнае месца і зьяўляюцца нанесеным. Сапраўднымі-ж шэдэўрамі яго літаратурнай творчасьці трэба лічыць—містычныя хасідзкія байкі і сымболічна-напаўрэлігійныя драматычныя творы...

Вось на якой „добра ўгноенай“ глебе павінна была вырастаць новая яўрэйская савецкая літаратура. Тут дзеля гэтага з самага пачатку было вельмі шмат падрыўной працы для рэволюцыйнага пісьменьніка. Неабходна было адкрыць жорсткую вайну перажыткам мінулага.

[1]) Гэтага нельга сказаць аб расійскай літаратуры, якая мела Някрасава, Усьпенскага, Горкага і інш., хоць і яўрэйская літаратура мела свайго Бовшовэра, Вінчэўскага, Розэнфэльда і Рэйзіна. Гэтыя апошнія хоць і зьяўляюцца засноўцамі яўрэйскай рэволюцыйнай і пролетарскай літаратуры, але па сіле свайго соцыяльнага рэзонансу ня могуць быць параўнаны з расійскімі пісьменьнікамі гэтага парадку.

Маладыя сілы, якія прышлі ў першыя гады рэволюцыі ў яўрэйскую літаратуру, павінны былі „рынуцца ў бой“, павінны былі адчуць сябе органічнай часткай рэволюцыйнага флянгу ўсёй літаратуры Савецкага Саюзу, г. зн. павінны былі зламаць тую шматвяковую і пакаленьнямі асьвячоную „мяжу“, якая абмежавала яўрэйскую масу ад неяўрэйскіх мас.

Першыя кадры яўрэйскай савецкай літаратуры прышлі не ад пролетарыяту, а з працоўнай дробнай буржуазіі, якой, як вядома, уласьцівы анархізм. Гэты рэволюцыйны анархізм і заліхвацкі разгон яскрава выявіліся ў творчасьці П. Маркіша. Ён рынуўся ў бойку з буржуазнай Эўропай, апрануўшы цыліндры на ногі і з чырвонаармейскай зоркай на лобе...

Першы пэрыод яўрэйскай рэволюцыйнай літаратуры адзначаецца імёнамі Шварцмана, Гофштэйна, Маркіша, Квітко. Шварцман увасабляе сабою змаганьніка за Кастрычнікавую рэволюцыю і за новую культуру, якая зараджалася. Шварцман пайшоў добраахвотна ў Чырвоную армію і паў у бойцы супроць пятлюраўшчыны. Ён напісаў мала, яго поэтычныя радкі ў асноўным прасякнуты пачуцьцём оптымізму і парываньнем да змаганьня. Шварцман тыпічны прадстаўнік маладой рэволюцыйнай літаратуры, ня гледзячы на тое, што ў яго творах маюцца элемэнты пацыфізму, ня гледзячы на тое, што яго вобразы ў пераважнай сваёй частцы ўзяты са стара-гэбрайскага арсэналю. На яго яшчэ часткова ўплывае нацыяналістычная ідэолёгія. Але яго вершы яскрава гавораць пра тое, што яўрэйская поэзія вызваляецца з абцугоў мінулага, што поэзія ўжо расьце пад іншымі „шыротамі“. Бязвыходнае гора зьмяняецца парываньнем да барацьбы і прадчуваньнем будучага шчасьця:

„З хацінак бедных, ад запыленых варштатаў,
З вандроўных ночаў і галодных дзён,
Прышлі вы, дарагія мае брацьці,
Каб паказаць
Цану маўклівай зморы,
І боль вашага цела,
І выкрык пакаленьняў і часоў—
А кроў бурліць ад мукаў маіх брацьцяў,
Рука ў руку і галава да галавы парэзаны
На полі бойкі круглае зямлі“.

Настаў пэрыод рашучых боек, і поэта далучаецца да змагароў:

„Са стрэльбай у руцэ,
З крывёй гарачай ў сэрцы—
Таюся я цяпер,—
За ворагам сачу.

Мы маем перад сабою поэту-грамадзяніна, які разумее, што значыць грамадзкі абавязак. І ён заклікае:

„Скарэй, на коні,
Руку спрунжынь!
Наш сьцяг сягоньня—
Мячы, нажы,—
Бо вораг у варот!“

Гофштэйн—гэта ўжо поэта зусім іншай формацыі. Ён перагружаны нацыяналістычным мінулым, над ім навісла дыяспора, трагэдыя „вечнага яўрэя" ў яго яшчэ займае вялікае месца. Гофштэйн не адносіцца варажна да Савецкае ўлады, ён яе прымае, ён нават піша сваю вядомую оду Савецкай уладзе, пад назвай „Кастрычнік". Але Гофштэйн уяўляе сабой тыпа хістаючагася папутніка, амплітуда хістаньня якога мяжуецца з нацыяналізмам, з аднаго боку, і з нацыянал-бальшавізмам, з другога боку. Яму цяжка вызначыць сваё месца ў савецкай рачаіснасьці. Ён адчувае сябе самотным і закінутым:

„У зімнім зьмярканьні, між белай лагчыны,
Дзе болей самотным яшчэ быць магчыма?..
Скрыпучыя сані і конік старэнькі,
Асьнежная сьцежка, а я ў задуменьні...

. . . . . . . . . . . . . . . .

І цесны куток мой, маленькае кола:
Разок у два тыдні з мястэчка ў пасёлак,
Маўклівасьць і смутак дарогі і сьцежак,
Завеяных сьнегам, палеткаў бязьмежных".

Вось які абмежаваны „мирок" поэты, вось яго адносіны да „русских просторов", у якіх ён сябе адчувае самотным.

Анты-грамадзкія выхадкі гэтага поэты, якія мелі месца (хадайнічаньне за сыяніцкія стара-гэбрайскія ўстановы, падарож у Палестыну і да г. п.) не выпадковыя і выцякаюць з яго агульнай концэпцыі сьветагляду.

Пра Маркіша. У вершах гэтага поэты шмат рэволюцыйнага пафосу, тэмпэраманту, дынамікі, рознастайнасьці рытму. Ён даў за апошні час вялікую эпопэю-поэму, якая малюе грамадзянскую вайну, пад назвай „Браты". У гэтай кнізе адлюстравана ўся грамадзянская вайна з пачатку да канца, з усімі яе спляценьнямі, з усімі перамогамі і нягодамі; на гэтым асноўным фоне выводзяцца два браты, яўрэйскія рабочыя з саматужніцкае сям'і, якія ўвайшлі ў рэволюцыю і аддалі сваё жыцьцё за яе. У гэтай кнізе шмат бліскучых мясьцін, якія не забываюцца, гэта кніга разгортвае ўсе вобразы падзей, паказвае зьліцьцё працоўных усіх народнасьцяй у змаганьні за Кастрычнік, змаганьні з клясавым ворагам на франтох і ўнутры краіны, паказвае падпольную працу бальшавікоў, дае бліскучыя вобразы паходу чырвоных войск на Варшаву і г. д. Але Маркішу і ў гэтай кнізе не ўдаецца праламаць свой сьвет вобразаў праз прызму пролетарскай ідэолёгіі. Для Маркіша рух наогул, ход Чырвоных натоўпаў, сутычкі мас і г. д. зьяўляецца самамэтай. Асноўнае для яго гэта—рух, парываньне, дынамізм падзей, разладаваньне энэргіі,—словам,—рух—усё, а рэволюцыйнай мэты няма, яе амаль ня відаць. Вось гэтая адсутнасьць мэтаімкненнасьці, гэтае захапленьне абстрактным рэволюцыянізмам, гэтая абстрактная романтыка змаганьня, ідэалізацыя грамадзянскай вайны, якая праглядвае з дастатковай яснасьцю ў Маркіша, і некаторы смутак аб гэтым жыцьці—усё гэта гаворыць аб ідэалістыч-

най устаноўцы поэты. Усё гэта адносіць Маркіша да папутнікаў у нашай літаратуры.

Некалькі слоў аб Квітко. Ён таксама прышоў у савецкую літаратуру ў першыя гады рэволюцыі і ўнёс у яе элемэнты рэволюцыйнай настраёвасьці, часамі мотывы з працоўнага жыцьця. Ідэолёгія і тэматыка Квітко ідуць з пласта рамесьнікаў, саматужніцкімі настроямі прасякнуты яго творы. Гэты пісьменьнік усё болей набліжаўся да пролетарскага флянгу яўрэйскай літаратуры. Але яго выхадка за апошні час (аб гэтым—ніжэй)—надрукаваньне шэрагу карыкатур, якія компромэтуюць партыйнае кіраўніцтва яўрэйскай літаратуры—адкінула яго назад ад пролетарскай, літаратурнай грамадзкасьці.

* * *

Мы пачалі з гэтай групы яўрэйскіх пісьменьнікаў, бо яны хронолёгічна зьяўляюцца пачынальнікамі яўрэйскай савецкай літаратуры. Але вызначэньне „пачынальнікі“ тут прыходзіцца тлумачыць умоўна. Яўрэйская савецкая літаратура ўжо ў першыя гады рэволюцыі мела таксама сваіх *пролетарскіх* прадстаўнікоў на Беларусі і іншых мясцох Саюзу. Ужо ў 1919-20 годзе рабіліся спробы стварэньня літ. часопісі (Віцебск, „Хвалес“—„Хвам“) для концэнтрацыі пролет. сіл у літаратуры; у друку зьявіліся творы маладых пролетарскіх пісьменьнікаў. Мы тут аб гэтым ня можам шмат гаварыць. Назавем аўтараў дасьледваньняў па гэтаму пытаньню: т.т. Аршанскі і Бронштэйн, якія зараз публікуюць працы, прысьвечаныя пытаньням зараджэньня яўрэйскай пролет. літаратуры.

## II

Другі разьдзел яўрэйскай савецкай літаратуры пачынае група маскоўскіх яўрэйскіх пісьменьнікаў. У Маскве гуртуецца група яўрэйскіх пісьменьнікаў. Частка з іх організуе літ. часопісь „Штром“ (Струмень). Вакол часопісі ў асноўным гуртуюцца пісьменьнікі-эстэты, хоць і савецкі настроеныя. Часопісь пачынае друкаваць творы гэтых пісьменьнікаў, яна тужыцца зрабіцца літаратурным асяродкам. Але з-за сваёй акадэмічнасьці і слоўнай эквэлібрыстыкі, якімі поўны яе старонкі, з-за сваёй адарванасьці ад мас,—з-за ўсяго гэтага яна ўжо з самага пачатку была асуджана на бясплоднасьць і празябаньне. Часопісь „Штром“ праіснавала нядоўга. Яе лепшыя сілы адыходзяць. Гэтыя апошнія ўрэшце гуртуюцца з найбольш рэволюцыйнымі яўр. пісьменьнікамі Масквы і ствараюць яўрэйскую сэкцыю „МАПП‘а“. Гэтая „сэкцыя“ была першай ячэйкай яўрэйскіх пролетарскіх пісьменьнікаў. Яўсэкцыя „МАПП‘а“ нядаўна адсьвяткавала пяцігодку свайго існаваньня. Але ў 1925 годзе яна была „першай ластаўкай“ пролетарскай „вясны“ ў яўрэйскай літаратуры.

Побач з Маскоўскай сэкцыяй „МАПП‘а“ цяпер існуе Яўсэкцыя „Бел. АПП‘а“ і яўсэкцыя „ВУСПП‘у“,—організацыйная барацьба за стварэньне

літаратурнага асяродку, барацьба за лёзунгі і ўстаноўку ў літаратуры, закончылася стварэньнем арганізацыйнага ядра пролет. пісьменьнікаў і дапамагла дэфэрэнцыяваць і выявіць клясавы твар груп і паасобных асоб у асяродзішчы яўрэйскіх пісьменьнікаў. Выданьне ў 1926 годзе зборайальманахаў „Кастрычнік“ і „Най Эрд“ (Новая зямля) зьявіліся вянком гэтае барацьбы ўжо ня толькі ў сэнсе арганізацыйным, а і ў галіне формальна-мастацкай, бо зьмест гэтых альманахаў паказваў, што спаборніцтва паміж правым і левым флянгамі ў літаратуры праходзіць з посьпехам для апошняга ня толькі па лініі арганізацыйнай і ідэолёгічнай, але што гэтае спаборніцтва з гэткім-жа посьпехам праходзіць і па лініі мастацкі-творчай. З гэтага часу формальна і афіцыйна існуе яўрэйская пролетарская літаратура ў Савецкім Саюзе.

Як-бы ў адказ на стварэньне яўсэкцыі „МАПП'а“ ў Маскве, таварышы ў Менску стварылі літгрупу „Юнгер Арбэтэр“ (Малады рабочы), аналёгічную Беларускаму „Маладняку“, якая згуртавала яўрэйскі пісьменьніцкі маладняк, у большасьці сваёй рабочую моладзь. Гэтым быў пакладзены пачатак стварэньня яўрэйскай пролетарскай літаратуры ў БССР, гэтым таксама быццам было сказана, што ў дапамогу галоўнаму атраду яўрэйскай пролетарскай літаратуры ідзе „лёгкая кавалерыя“ Савецкай Беларусі...

Мы вылучылі асобна гэты момант, які носіць нібы чыста арганізацыйна-палітычны характар, зусім сьвядома. Мы лічым неабходным падкрэсьліць, што разгорнутая ў той пэрыод барацьба мела агромністае значэньне, бо яна была першым „баявым хрышчэньнем“ і разьвязала рукі пролетарскім пісьменьнікам, дала ім адчуць свае ўласныя сілы, штурхнула іх на творчую работу, прымусіла, з другога боку, некаторых часам нават супроць уласнага жаданьня, прызнаць *існаваньне* яўрэйскай пролетарскай літаратуры. Гэта, бязумоўна, стымулявала таксама высоўваньню цэлага шэрагу пролетарскіх па паходжаньні і ідэолёгіі пісьменьнікаў і працаўнікоў у галіне літаратуры. Настаў новы пэрыод у разьвіцьці яўрэйскай літаратуры ў СССР, ускладніліся процэсы разьвіцьця гэтае літаратуры, больш рэльефна пачалі выпукляцца моманты дыфэрэнцыяцыі,—роўналежна з ростам сіл пролетарскіх пісьменьнікаў, роўналежна з ростам—колькасным і якасным—продукцыі яўрэйскай рэволюцыйнай і пролетарскай літаратуры.

## III

Поэзія займала пераважнае месца ў яўрэйскай літаратуры першага рэволюцыйнага дзесяцігодзьдзя. Проза-ж адставала, і толькі ў пачатку другога пяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі яна прынесла свае першыя ўзоры яўрэйскаму чытачу. Але віднае месца, першае, займала поэзія.

Пасьля грамадзянскай вайны выплываюць наповерх гэткія поэты, як І. Фэфэр і Ізі Харык. Фэфэр у 1926 годзе выдае сваю кніжку вершаў „Пра сябе і пра гэткіх самых, як я“. Гэтая кніжка па навізьне сваіх мо-

тываў, па ўсяму свайму духу, па сваёй установцы, адразу-ж выдзелілася з агульнае струмені літаратуры. У гэтай кніжцы поэта гаварыў „пра сябе“ зусім не ў такім духу, у якім прызвычаіліся бачыць зазвычай хныкаючых інтэлігентаў-індывідуалістых, якія ўзводзяць сябе ў „венец мира“, якія позіруюць накшталт Байранаўскіх герояў. Фэфэр вясёлы і бадзёры, ён не аплаквае свой „лёс“. Наадварот, яму радасна і сьветла, яму весела, бо ён органічна ўростае ў новую здаровую, пролетарскую клясу, яму нават добра ад таго, што ён нарадзіўся ў беднасьці, бо гэта выбаўляе ад мук пeратварэньня сябе, гэта адразу ставіць яго ў шэрагі працоўных пластоў, і, значыць, з барацьбітамі за новае соцыялістычнае жыцьцё.

І. Фэфэр паходзіць з беднаты і свой жыцьцёвы шлях ён з маладых гадоў зьвязвае са змаганьнем працоўных. Фэфэр—поэта—змагар, ён прайшоў грамадзянскую вайну, пабыў на франтох, працаваў у профэсыянальным руху, зьяўляецца сябрам партыі, вядзе грамадзка-політычную літаратурную працу. Грамадзянская вайна займае значнае месца ў творчасьці Фэфэра, пераплятаючыся з мотывамі яўрэйскага мястэчка.

Прывядзем асобныя ўзоры з творчасьці Фэфэра.

У вышэйпамянутай кніжцы „Пра сябе і пра гэткіх самых, як я“, у асобных частках, якія маюць аўтобіографічны характар, Фэфэр у гульлівым тоне гаворыць аб сваім зьяўленьні на сьвет „божы“:

„Удзень, у звычайны—бяз дзіва,
На ложку, паркальнай наўлечцы,
Матуля мяне нарадзіла,
Як іншых маленькіх, бясспрэчна“.

Проста і якраз „як іншыя“ поэта прышоў на сьвет „божы“. Поэта ёсьць раней за ўсё чалавек. Гэткая заява гучэла ў лепшай меры дзіўна ў вушох поэтаў-эстэтаў і ласай на экзотыку публікі. Але поэта выбірае сваім шляхам „прастату і яснасьць“—шлях, па якому, валодаючы поэтычным талентам, можна прысьці да шырокіх працоўных мас:

„Я знаю. кожны радок
Сьпявачкі яшчэ патрабуе,
А слоў нашых цяжкі паток
Яшчэ неабходна абгладзіць.

Таму я заўсёды гатоў
Словы свае фільтраваці,
Але ад простых слоў
Ня хочацца мне аддаляцца“.

Фэфэр—поэта патрэбнага і неабходнага для рэволюцыйнае справы слова. Яму ўласьціва ўпэўненасьць, ён адчувае свае сілы, а сілы ён чэрпае ў пролетарыяту:

„Будзе наша песьня яшчэ больш магутнай,
І гучней зазвоняць нашы словы-тоны,
Бо радочак кожны—востры нож сягоньня,
Бо сьвяжыцца радасьць, нашы чары поўніць...
Бо прысьці павінны Пушкін або Гэйнэ
Ды з маленькай вёскі ці майстэрні дымнай...“.

Поэта ідзе цьвёрдым крокам, у рэволюцыі ён чэрпае ўпэўненасьць і бадзёрасьць. Гэтым самым настроем прасякнуты яго вершы пра грамадзянскую вайну:

„Зазьвінелі дарогі шрапнэляй,
Мёрзлы шлях—як бясконцая ніць...
Нічога пад рускай шынэляй
Ніколі й нідзе не баліць".

„Руская шынэль"—самы лепшы ахоўнік ад смутку і журбы, тым больш—змаганьне і вызваленая, соцыялістычная праца:

„Сібір,
Урал,
Калуга і Трыполя
Цьвітуць агнём у сэрцы, паляць кроў—
Я ўсюды ёсьць
Гарачы комсамолец—
Зьвініць, пяе
Юнацкі, цьвёрды крок.
У полі, вёсцы, шахце і віхуры,
Дзе кожны час гатовы шчасьце сустракаць—
Гарачы са штыхом у бойках бурных,
Гарачы на заводзе ў варстака.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
І нам адным, бялявым хлопцам, босым,—
Старое расстраляць прышлося".

Грамадзянская вайна і рэволюцыя—гэта родныя стыхіі поэты. Зразумела, гэта ня значыць, што ён зусім забывае пра местачковае, цяжкае жыцьцё:

„Мне цяжка забыць пра мястэчка у пыле—
Стаіць прад вачыма, спавітае дымам;
Я знаю, віхуры на вулках круцілі
І гналі пылінкі магутным уздымам".

Буралом прайшоўся па мястэчках—поласы бандытызму і пагромаў. Але поэта ня прыходзіць у роспач—ён бачыць пэрспэктыву соц. будаўніцтва. І тут мы пераходзім да апошняга пэрыоду творчасьці Фэфэра.

Апошні пэрыод творчай дзейнасьці Фэфэра вызначаецца поэмай „Днепрабуд", якая характэрна тым, што яна адбівае настроі поэты на фоне будаваньня Дняпроўскага волата. Поэма ў асноўным прасякнута ідэяй, што індустрыялізацыя зьяўляецца шляхам да сапраўднага зьнішчэньня прорвы між горадам і вёскай і мястэчкам. У гэтай поэме ў Фэфэра таксама надзіва ясна падкрэсьлена агульнасьць інтарэсаў працоўных украінскай вёскі і местачковых яўрэйскіх мас. Фэфэр бачыць, што консэрватызм вёскі і спусташэньне мястэчка могуць быць ліквідаваны толькі з дапамогай жыватворчай сілы індустрыялізацыі, кіраўніком якое зьяўляецца гарадзкі пролетарыят. Фэфэр бачыць першыя адзнакі гэтага агромністага пералому ў гушчах мас, ён лірычна ўвасобіў у сваёй поэме балючасьць гэтага пералому і смагу „сухіх рук" да працы, да жыцьця.

Поэта бачыць, як паток Дняпра ўрываецца ў вёску і залівае сотні двароў, ён бачыць, як гэтым Дняпром зьнішчаныя, наседжаныя сялянскія гнёзды зьмяняюцца ў рабочы гарадок і дзеля гэтага яму радасна ад гэтай „другой“ рэволюцыі. Ажывае старое мястэчка:

„Стаю на пляцу учарайшае хаты,
І мне усьміхаюцца дошкі, каменьні.
З аднаго боку молат, з другога піла,
І ясны мне выхад, і ясны мне шлях.
. . . . . . . . . . . . . .
Вось дошкі чакаюць, вось гліну вязуць,
Вось сталі ўжо сьцены агульнае хаты.
. . . . . . . . . . . . . .
Я п'яны ад вас, о, цьвярозыя дні“.

Гэта—новае мястэчка. Што датычыцца вёскі, дык і яна перастае быць тым, чым яна ёсьць цяпер:

„Эх, і калі хвалі, хвалі разьбягуцца,
Дык яны затопяць тысяч тры двароў...
. . . . . . . . . . . . . .
Ніхто не загалосіць, не засьпяваюць пеўні,
Калі хвалі буйныя хлынуць ды на іх.
. . . . . . . . . . . . . .
Дзесяць тысяч дзесяцін размые, распалошча,
Ніхто не засмуткуе, ніхто не загалосіць.
. . . . . . . . . . . . . .
Бо на тых узгорках сьвятлей і вышэй,
Вырастуць будынкі з бліскучымі дахамі.
. . . . . . . . . . . . . .
Тры тысячы двароў вышлі тапіцца,
Аніхто не заплача, аніхто не загалосіць.

Вось які зьмест гэтай першай поэмы аб індустрыялізацыі, напісанай пролетарскім поэтам.

Побач з Фэфэрам па сваёй ідэолёгічнай устаноўцы стаіць поэта І. Харык. Пачаў сваю поэтычную дзейнасьць т. Харык прыблізна ў 1924 г і ўвайшоў у літаратуру сваёй поэмай „Менскія балоты“. Гэтая поэма характэрная тым, што яна адлюстроўвае настроі рэволюцыйных яўрэйскіх працоўных і бядняцкіх мас у часе Кастрычнікавага перавароту. У гэтай поэме адлюстравана прага працоўных мас, якія жывуць у загарадох, да барацьбы з багатымі клясамі.

Харык працягвае свой шлях рэволюцыйнага пісьменьніка, пераходзячы ад мотываў грамадзянскай вайны да мотываў мірнага будаўніцтва і культурнай рэволюцыі. Сваю ўвагу Харык у асноўным аддае мястэчку. Мястэчка на першы час яго творчасьці малюецца яму ў чорных фарбах, ён дзеля гэтага гатоў „рэволюцыйным шляхам“ узарваць гэтае мястэчка. „Зьнікні, мястэчка“, выклікае Харык у сваіх вершах „Мястэчка“. Гэты выхад ёсьць выхад ад роспачы, ад беспрасьветнасьці. Але настроі поэты ўроўнаважваюцца, пэрспэктыва прасьвятляецца тады, калі процэс гас-

падарчага будаўніцтва ў краіне разгортваецца, калі ён захапляе таксама шырокія пласты яўрэйскіх працоўных, калі больш яскрава вызначаецца шлях да аздараўленьня местачковых мас. Гэты настрой адлюстраваны ў яго поэме „Зямля“, якая прысьвечана зямляўпарадкаваньню яўрэйскіх мас і адлюстроўвае пераход местачковай беднаты на землясробства. Гэтае перасяленьне яўрэйскіх працоўных мас на здаровую глебу таксама аздараўляе настрой поэты.

Харык ідзе далей, ён паглыбляецца ў проблему мястэчак і ў выніку далейшых дум і перажываньняў творыць сваю новую поэму „Душой і целам“. Гэты твор сапраўды заслугоўвае назвы поэмы, бо ў ім адбіваюцца ня толькі *падзеі:* тут для поэты існуе ня толькі тэма,—поэма мае *фабулу* і *сюжэт*. У гэтым сэнсе гэты твор Харыка больш суцэльны ва ўсёй яўрэйскай поэзіі. Асноўную ідэю гэтай поэмы Харык выразіў у сваім эпіграфе да поэмы:

... „Адзець цябе ў камень і сталь,
Маё ты мястэчка, я-б жадаў“...

Не „ўзарваць“, а перарабіць, „адзець у камень і сталь“—вось новая формула поэты ў адносінах да мястэчка. Праўда, і ў гэтай поэме Харык малюе цёмныя бакі мястэчка, усю яе дзікую адсталасьць і консэрватыўнасьць, адсутнасьць матэрыяльнага базісу ў насельніцтва і бязвыходнасьць становішча моладзі. Але на гэтым фоне ўжо паказваюцца „аганькі“,—„аганькі“ новай соцыялістычнай культуры, у васобе маладой савецкай настаўніцы, якая гуртуе вакол сябе перадавую групу саматужнікаў, моладзь і піонэрскую дзятву; „аганькі“ матэрыяльных пэрспэктыў—колгас на акраіне мястэчка, моладзь на вытворчасьці, романтычная, але па сутнасьці рэалістычна-практычная, лятуценьні пра наступнае, пра індустрыялізацыю мястэчка:

„З багны,
З глебавых глыб,
З балот“

прывязуць сюды цэлыя горы торфу.

„І разрасьцецца жыцьцё тут багата
У пары... У дыме...
І жыцьцё па дроце,
Як цёплая кроў, пацячэ да вёскі...“

Гэта ўжо не лятуценьні, хоць для мястэчка гэта пакуль што лятуценьні. Моладзь, якая выехала ў іншыя гарады, ужо забылася пра местачковы смутак, бо яна бачыць перад сабою „сэліфактор“—машыну, якая прадзе і працуе. „Мая машына... яна ўжо можа дазволіць сабе працаваць за тысячу шпаркіх рук“... Так піша моладзь з гарадоў сваім местачковым братом па нястачы. Так стваряюцца сьветлыя пэрспэктывы для бядняцкіх мас.

Глыбокім драматызмам прасякнута гэта поэма тав. Харыка. Поэта лірычна як-бы ўвасобіў у ёй усю журбу местачковай бязысходнасьці. Асабліва—цяжкую журбу моладзі:

„Моладзь, моладзь, сонечная моладзь,
Весела хадзіць з табою разам.
Жыве ў мястэчку тут так многа моладзі.
Ходзіць яна і б'ецца галавой аб сьценку.
Дык што рабіць?
Куды дзявацца?
Так шмат юнацкіх і здаровых рук.
І ў змроку—
Разганяюцца ветры
І галосяць над местачковымі сьценамі".

Але... „аганькі" набліжаюцца. Старое мястэчка бурыцца. Бурыцца яе закасьцянелы быт, „хлопцы ў сінім" ставяць крыж над старым, праклятым мястэчкам:

„Хлопцы прыходзяць, адзетыя ў сіняе,
З сякерамі, молатам, ломамі моцнымі.
— Гэй, вулкі, малыя, крывыя, вузкія,
Трах! Мы прыносім вам радасьці казкі,
Трах!—рассыпаюцца спарахнелыя хаты,
А маленькія вулачкі—запылена-спуджаныя.
Вырастае высокі асілак каменны.—
Высокая фабрыка на мураваных колёнадах.
І іскры, і гарачка, і полымя, і сьляпіца.
І іскры, і гарачка—сьцяны камяніцы".

Нараджаецца, расьце новае жыцьцё на руінах старога мястэчка. Гэта робіцца рукамі „хлопцаў", рукамі пролетарыяту.

---

Творчасьць Фэфэра і Харыка, прасякнутая духам нашай сучаснасьці, закранае проблемы індустрыялізацыі нашай краіны, кладзе фудамант пролетарскай поэзіі ў яўрэйскай савецкай літаратуры.

Тое, што яўрэйская поэзія ў СССР у першыя гады рэволюцыі пераважала над іншымі жанрамі літаратуры, мабыць і паслужыла таму становішчу, што якраз яна—поэзія—дала першыя ўзоры яўрэйскай пролетарскай літаратуры, дала першую пролетарскую тэматыку. Праўда, у гэтых творах яшчэ не фігуруе „гаспадар становішча"—няма пролетара, адсутнічае кіраўнік індустрыялізацыі, адсутнічае сапраўды пролетарскі і комуністычны *тыпаж*, але—як нам прыдзецца ў далейшым зазначаць—гэтага перадавіка яшчэ наогул амаль няма ў нашай яўрэйскай літаратуры.

---

У гэтым разьдзеле нам хацелася-б яшчэ адзначыць творчы шлях поэты Кушнірова. Кушніроў прарабіў агромністую працу над сабой. Ад вершаў, якія аплаквалі „нацыянальнае гора" яўрэйства, ён перайшоў да

рэволюцыйных вершаў. Даем вынятку з найбольш популярнага ся род яўрэйскага чытача вершу поэты „Расія“:

„Гэй, Расія ланцужная і гнойная,
Цябе не замялі
Запыленыя венікі сьвету
Цябе не замялі, толькі цьвёрдыя розачкі
Расьцёрліся і разьвеяліся ў жаданьні зрабіць табе зло.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Хай сьвет 'шчэ ўпіраецца
Хай сьвет сабе ня лічыцца
Ні з тваімі праўдамі,
Ні з тваім цярпеньнем,
Дымна, але сонечна, гараць бочкі смольныя,
Што ты запаліла на сваім вялікім шляху“.

Так поэта выказаў сваё захапленьне вялікай Кастрычнікавай рэволюцыяй у сваёй мініятурнай поэме „Расія“. Пасьля поэта ўзяўся за больш шырокія тэмы і нядаўна напісаў сваю драматычную, гістарычную поэму „Лекерт“ (была пастаўлена ў яўр. Белдзяржтэатры).

Кушніроў выбраў сваёй тэмай эпоху рэволюцыі 1905 г. і яе паражэньне, паставіў у асяродку фігуру яўрэйскага рабочага, які выступіў са зброяй у руках супроць прыгнёту капіталізму і зьдзекаў царскіх катаў. Цяжкую задачу аналізу клясавых суадносін і партыйных адценьняў таго пэрыоду Кушніроў вырашыў з посьпехам. „Бунд“ у яго прадстаўлены ў сваім сапраўдным дробна-буржуазным і нацыяналістычным выглядзе, без усялякай ідэалізацыі. Такім чынам, гэта поэма, хоць яна і трактуе гістарычную тэму і ідзе ў баку актуальнага жыцьця, зьяўляецца сугубасучаснай, бо яна адлюстроўвае куток вялікага рэволюцыйнага ўздыму, і галоўнае—гэта адлюстраваньне ў асноўным не грашыць супроць пролетарскага разуменьня.

Вось гэтыя тры творы трох поэтаў— „Днепрабуд“—Фэфэра, „Душой і целам“—Харыка і „Лекерт“—Кушнірова—разгортваюць паласу пролетарскай творчасьці ў яўрэйскай поэзіі. Мы тут, зразумела, ня спыняемся на больш дробных рэчах паасобных поэтаў.

## IV

Як мы паказалі вышэй, другая пацігодка нашай рэволюцыі дала першыя ўзоры яўрэйскай савецкай прозы. Першымі ў гэтай галіне выдрукавалі свае творы Годынэр і Меердвіч (Даніэль). Гэтыя першыя савецкія пісьменьнікі чэрпалі сваю тэматыку і тыпаж з эпохі грамадзянскай вайны. Годынэр сам прайшоў праз армію, адбіў развал старой арміі ў праламленьні рэволюцыйнага пацыфістага. Другая кніга Годынэра, „Чалавек са стрэльбай“, ужо шырэй разгортвае малюнак развалу старой арміі, дае штрыхі перараджэньня царскай арміі ў рэволюцыйную армію, дае сымболічныя фігуры паміраючага старога сьвету і новага

чалавека, які прыходзіць у жыцьцё. Гэта другая кніга розьніцца ад першай некаторым праясьненьнем рэволюцыйных імкненьняў пісьменьніка, хоць і тут пацыфізм праглядвае даволі моцна. Сымболізм пачынае патроху зьнікаць у Годынэра толькі тады, калі ён бярэцца за конкрэтны матэрыял з нашай рачаіснасьці. Гэта можна прасачыць па яго творах, выдрукаваных за апошні час,—„Масква знадворку“ і „Памры хутчэй“.

Мы назвалі Меєровіча (Даніэля). Гэты прозаік пачаў з кіно-роману „У гэткі час“, які ў выглядзе кіно-ленты малюе эпізоды-ўрыўкі з грамадзянскай вайны. Гэта была першая спроба пяра пісьменьніка. Другі значны твор Меєровіча ўяўляе сабою больш закончаную рэч, мы гаворым пра аповесьць „Пакінутыя асабнякі“ (маецца ў расійскім перакладзе). Тут даецца эпізод грамадзянскай вайны, момант пераходу гораду з рук адных войск у рукі другіх. Гэта кніга мае вельмі шмат яскравых мясьцін і ў нашай літаратуры каштоўная тым, што дае больш-менш яскрава намалёваныя чалавечыя фігуры і напісана ня так схэматычна, як іншыя творы.

Апрача гэтых двух прадстаўнікоў яўрэйскай савецкай прозы, трэба для першага пэрыоду назваць імёны таварышоў Аршанскага, Доўгапольскага і некаторых іншых. Аршанскі выдаў першую частку роману пад назвай „На хвалях“, які малюе жыцьцё люмпэн-пролетара, які пераўтвараецца ў рэволюцыянэра; Доўгапольскі напісаў роман „Пры расчыненых варотах“, які малюе галоўным чынам побыт яўрэйскага павятовага гарадка ў першым пэрыодзе грамадзянскай вайны. Выдаў сваю кнігу „Жытні хлеб“ Пэрсаў, пачаў друкаваць свае апавяданьні Ю. Іофэ...

Яўрэйская проза першых гадоў рэволюцыі таксама багата экспэрымэнтамі над формай і яе рэволюцыйнасьць, апрача зьместу і тэматыкі, выяўляецца таксама ў тым, што яна не баялася парушаць старыя каноны. Гэта быў пэрыод усебаковага „першапачатковага накапленьня“ і быў багаты як перамогамі, так і паражэньнямі.

## V

Яўрэйская проза ўзбагацілася галоўным чынам ў апошнія гады. Зьявіўся цэлы шэраг новых імён. За апошнія гады поэзія знаходзіцца у стане „стабілізацыі“ і падвядзеньня падсумаваньняў. З другога боку, ідзе вялікі рост прозаічнай літаратуры. Зьявіліся кнігі Тайча, Абчука, Альбэртона, А. Кагана, Гільдзіна, Кіпніса, Орланда, Кушнірова, Пэрсава і інш. Зьявілася проза рознастайная па сваёй тэматыцы. Адышла на задні плян тэматыка пагромаў, тэматыка „вузка яўрэйская“, зьявіліся кнігі, якія органічна ўвязваюць жыцьцё яўрэйскіх мас з жыцьцём працоўных мас усяго Саюзу. Зьявіліся новыя, вялікія кнігі, шырокія палотны з эпохі грамадзянскай вайны. Зноў усплылі наповерх для таго, каб наблізіцца да рэволюцыйнай літаратуры, гэткія вялікія пісьменьнікі старога пакаленьня, як Бэргельсон. Кніга апошняга „Па закону“

па сваёй тэматыцы зьяўляецца творам рэволюцыйным, хоць і ідэолёгічна яна ня вытрымана. Ад рэакцыйна-нацыяналістычных адчуваньняў, якімі прасякнута кніга Кіпніса „Месяцы і дні“, яўрэйская проза робіць вялікія крокі наперад, страсае з сябе „пыл вякоў“ і пачынае гаварыць мовай, сугучнай нашай эпосе.

Пералічым некалькі ўзораў гэтай новай прозы. Бярэм кнігу Абчука „Гірш Шамай“. Гірш Шамай—цэнтральная фігура кнігі—стары рабочы, з вялікім вытворчым стажам, які прайшоў цяжкую школу жыцьця ў майстэрнях і невялікіх заводзіках саматужнага тыпу. Гірш Шамай зараз працуе на савецкім прадпрыемстве, якое ўвесь час рацыяналізуецца, пераходзіць на новую тэхніку, пераходзіць ад мускульнае працы да аўтаматаў-машын. Але Гірш Шамай прышоў ад саматужнага варштату і прынёс адтуль усе забабоны абмежаванага, блізказорага, індывідуалістычна настроенага рамесьніка-рабочага. Ён—кандыдат партыі, апошнія гады яго штурхнулі бліжэй да авангарду пролетарыяту, але ён ня вытрымлівае самага малога напору дробнай буржуазіі—троцкісцкая опозыцыя, як і ўсякая іншая опозыцыя, робіць на яго свой уплыў. Дробна-буржуазныя настроі, нацыянальная абмежаванасьць, антыколектывістычныя выхадкі,—вось, што характарызуе гэтага рабочага. Але,—так паказвае нам пісьменьнік,—адсталы, але маючы за сабой вялікі стаж, яўрэйскі рабочы, ня гледзячы на ўсе яго адмоўныя бакі, таксама ўцягваецца ў агульны ход соцыялістычнага будаўніцтва, ён перараджаецца, ня гледзячы на супраціўленьне, якое ён аказвае, як об'ект гэтага перараджэньня. Гірш Шамай ня можа пакуль дагнаць тэмпу нашага разьвіцьця на-хаду. Гэта яму цяжка. Але за яго дзейнічае абстаноўка. Яго апрацоўвае пролетарскі колектыў.

Такі ўвогуле зьмест названай кнігі Абчука. Яна, бязумоўна, зьяўляецца каштоўным укладам у нашай пролетарскай літаратуры, ня гледзячы на яе паасабныя ідэолёгічныя дэфэкты. Тыпаж кнігі —саматужнік-рабочы, які робіцца пролетарам соц. фабрыкі—яўрэйскі рабочы наогул і яшчэ да апошняга часу не аўладаў розумам і пачуцьцём нашага пісьменьніка.

Вось другі ўзор, гэта кніга Орланда „Грэбля“. Гэта кніга мае ў сваім полі зроку яўрэйскую местачковую беднату, якая пераходзіць на новую базу—на базу працоўнага жыцьця. Орланд паказвае, як яўрэйскія бядняцкія і былыя дробна-гандлёвыя элементы з мястэчак уцягваюцца ў зямельныя работы на вялікім мэліорацыйным вучастку. Яны прыходзяць сотнямі з мястэчак, організуюць арцелі рабочых, жывуць у лесе і ў балотах, адрываюцца ад прывычнага местачковага жыцьця, прывучаюцца да працы, і асноўная маса гэтых былых непрацоўных элементаў у процэсе фізычнае працы перараджаецца—у канцы летніх работ частка з іх уліваецца ў організоўваемыя на мэліорацыйных вучастках колектывы, а частка ідзе працаваць на бліжэйшы парцэлянавы завод...

Трэцяя кніга, пра якую тут неабходна ўспомніць, гэта—твор пісьменьніка Альбэртона „Біро-Біджан“. Гэты пісьменьнік эрабіў падарож у далёкі Прыморскі Біро-Біджан—раён, выдзелены ўладай для засяленьня яўрэйскімі працоўнымі. Калі ў Біро-Біджан была адпраўлена першая партыя перасяленцаў, тав. Альбэртон паехаў разам з імі, прабыў там з перасяленцамі першы час, удзельнічаў у арганізацыі гаспадарак і комун, жыў разам з перасяленцамі. І на аснове сваіх назіраньняў у дарозе і на месцы перасяленьня напісаў вялікую кнігу мастацкіх нарысаў, нарысаў, якія маюць адну агульную вось, гэта—перабудоўка на працоўнай аснове яўрэйскай беднаты. Гэта кніга ёсьць працяг кнігі Орланда, бо калі Орланд дае „падрыхтоўку“ яўрэйскай беднаты да працоўнага жыцьця, дык Альбертон працягвае і фіксуе моманты непасрэднага ўпарадкаваньня гэтых элемэнтаў.

Названыя тры кнігі па сутнасьці як-бы папаўняюць адна адну, яны разам складаюць вялікі малюнак процэсаў соцыялістычнага будаўніцтва сярод яўрэйскіх пролетарскіх і поўпролетарскіх мас. Дапаўняе іх частка апавяданьняў, якія надрукаваны у вялікім зборы Гільдэіна „Студні“, асобна зьмешчанае ў гэтай кнізе вялікае апавяданьне „На новыя рэйкі“, у асяродку якога зноў-ткі пастаўлена проблема рацыяналізацыі соцыялістычнае вытворчасьці.

Названыя тут кнігі зьяўляюцца цэнтральнымі творамі нашай прозы за апошнія гады. Яны вызначаюць шлях далейшага разьвіцьця нашай літаратуры. Яны гавораць нам аб тым, што яўрэйская пролетарская літаратура сур‘ёзна працуе над пытаньнямі соц. рэконструкцыі. Яны зьяўляюцца жывымі сьведкамі вялізарнага росту яўрэйскай пролетарскай літаратуры. Яны таксама зьяўляюцца доказам усёй неабгрунтаванасьці той думкі, якая некаторы час мела месца ў яўрэйскай літаратуры, штобо пісаць можна толькі пра падзеі і людзей, якія адышлі ў гісторыю, якія знаходзяцца „ў пэўнай адлегласьці“ ад пісьменьніка, гэта думка фактычна была маскай для тых пісьменьнікаў, якія не хацелі, а часам і не маглі ўспрымаць рэволюцыю. Названыя-ж кнігі зьяўляюцца доказам банкруцтва той думкі, доказам таго, што наша літаратура *можа* быць уключана ў агульны струмень соцыялістычнага будаўніцтва, выконваючы „соцыяльны заказ эпохі“ соцыялістычнай рэконструкцыі і ліквідацыі буржуазных кляс, што толькі гэтым шляхам яна апраўдвае сваё існаваньне.

## VI

Абгостраная клясавая барацьба ў краіне нямінуча павінна была адбіцца ва ўсіх галінах грамадзкага жыцьця. Літаратура зьяўляецца часткай грамадзкай ідэолёгіі, і ў ёй нямінуча адлюстроўваюцца, хоць і своеасабліва, процэсы клясавае барацьбы. Нашая літаратура, як мы бачылі, ў пэўнай меры ўжо мае на сабе адбітак узмоцненага наступленьня соцыялізму на капіталістычныя элемэнты, на рэшткі буржуазнага і дробна-

буржуазнага быту, ідэолёгіі, культуры і т. п. Але, з другога боку, мы маем зьявы, якія сыгналізуюць аб тым, што ў літаратуру часам прарываюцца клясава варожыя сілы, якія імкнуцца на *гэтым вучастку* завербаваць сабе прыхільнікаў. За прыкладамі тут далёка хадзіць ня трэба. У расійскай літаратуры мы маем шэраг фактаў, якія гавораць аб прарывах кулацкага і нацыяналістычна-ўстралаўскага парадку (Пільняк, Замяцін, творы Клычкова і іншых). У беларускай літаратуры мы мелі цэлы шэраг выступленьняў нацыянал-дэмократычнага і кулацкага парадку, мы мелі такія прарывы ў ўкраінскай і іншых нацыянальных літаратурах. Усё гэта не магло, зразумела, прамінуць таксама і яўрэйскую літаратуру.

Яскравым узорам выступленьня правага флянгу ў літаратуры супроць партыйнага кіраўніцтва зьяўляецца факт надрукаваньня пісьменьнікам Квітко ў сваім апошнім зборніку вершаў разьдзелу „шаржаў“ пад назвай „Між намі гаворачы“. Гэтыя шаржы маюць об'ектыўна сваёй мэтай—компромэтаваць партыйнае кіраўніцтва яўрэйскай літаратурай і пролетарскую літаратуру, як гэткую. Там партыйнае кіраўніцтва пададзена ў выглядзе „сьмярдзючай птушкі“, якая труціць атмосфэру пісьменьніка і да таго яшчэ знаходзіцца дзесь высока, яна недасяжная, ад яе немагчыма выбавіцца. А пролетарская літаратура ўвасоблена ў буфэтчыка за прылаўкам, які разьлівае квас направа і налева, што называецца, „па жаданьню публікі“, што каму захочацца... Вось „узорчык“ гэтае творчасьці:

„У апошнюю ноч, штоноч
Прылятае на наш дах сьмярдзючая птушка.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
„Нам здаецца, нам здаецца—яна стаіць на даху
І выцягвае сваю глюгу, дастае,
У хаце пачынае сьмярдзець.
Дык вельмі крыўдна, вельмі балюча:
Мы ня можам з ложка дастаць
Даху хаты, каб злавіць там
Сьмярдзючую птушку,
З даху, з яго высокага месца“.

Гэта ўночы, а днём, прыходзячы на працу, поэту зноў цяжка.

...„Тут, таксама і тут, адчувае наш нос,
Была сьмярдзючая птушка і тут распусьціла
Свой пах...“

„Шарж“, „прысьвечаны“ яўрэйскай пролетарскай літаратуры, ідзе пад загалоўкам „Буфэтчык“. Вось портрэт пролетарскага поэты:

„Калісь трымаў-бы ён буфэт,
Ірысы прадаваў-бы па капейцы штуку
Нарыфмаваў-бы пакупцоў дасыта.
І сельцерскай вадой іх частаваў-бы,
Цяпер-жа ён поэта“.

Гэтая вылазка Квітко атрымала адпор з боку ўсёй яўрэйскай савецкай грамадзкасьці. У друку быў выкрыты зьмест гэтых шаржаў. Квітко быў зьняты з працы ў рэдакцыі яўрэйскай літаратурнай часопісі „Ройтэ вэльт“ (Чырвоны сьвет).

Трэба сказаць, што ў яўрэйскай літаратуры за апошні час таксама мелі месца вылазкі нацыянал-дэмократычнага характару. У мінулым годзе меў месца выпадак, калі малады пачынаючы пісьменьнік, нейкі Гордон, студэнт Маскоўскага Дз. У. паслаў свае вершы ў жоўтую нацыяналістычную, варшаўскую часопісь „Літаратурныя старонкі“ (Літэрарышэ Блэтэр). У „препроводительной“ да вершаў, гэты малады чалавек скардзіўся перад рэдактарам названай часопісі на „цяжкія ўмовы“ літаратуры і культуры ў Савецкім Саюзе. Рэдактар гэтае часопісі ўвайшоў у „перапіску“ з „маладым савецкім поэтам“ і стварыў з гэтай перапіскі прэцэдэнт на карысьць яўрэйскай замежнай буржуазнай грамадзкасьці, пацьвярджаючы зваротам „савецкага маладога поэты“ да яго ўсю нясталасьць яўрэйскай літаратуры ў Савецкім Саюзе. Грамадзкасьць Савецкага Саюзу, у першую чаргу літаратурная грамадзкасьць, ацаніла гэты факт, як варожую вылазку. Ды іначай і нельга разглядаць гэткую зьяву. Гэта была спроба стварыць сувязь з контр-рэволюцыйным яўрэйскім буржуазным замежжам, гэта быў зародак пільнякоўшчыны ў яўрэйскай літаратуры. Праўда, была спроба ў яўрэйскім друку гэты факт змазаць і тлумачыць яго, як „нелітаратурную зьяву“, але ясна кожнаму, што гэта была шкодная спроба, бо яна об'ектыўна мела тэндэнцыю змазаць увесь сэнс гэтай зьявы.

І нарэшце—факт з групай яўрэйскіх пісьменьнікаў у Амэрыцы, людзей, якія адзін час зьвязалі сваю дзейнасьць з комуністычным органам на яўрэйскай мове, з газэтай „Фрайгайт“ (Свабода). Гэтыя пісьменьнікі пабывалі ў Савецкім Саюзе, трымалі сувязь з нашымі пісьменьнікамі і лічылі сябе амаль комуністычнымі людзьмі. Але выявілася, што першая хваля абгостранай клясавай барацьбы ў яўрэйскім асяродзьдзі паставіла гэтых пісьменьнікаў на той бок барыкад—у лягеры ворагаў пролетарыяту і комунізму. Даволі было разыграцца падзеям у Палестыне, даволі было, каб у змаганьні арабаў-сялян за вызваленьне ад прыгнёту ангельскага імпэрыялізму і сыяніцкага фашызму пацярпелі яўрэйскія кулакі,—гэтага было даволі, каб „рэволюцыйныя“ пісьменьнікі адмовіліся ад сваёй рэволюцыйнасьці і вышлі з комуністычнага друку. Назаўтра-ж, пасьля выхаду з „Фрайгайт“ гэтыя „рэволюцыянэры“ адкрылі свой уласны орган „Тыдзень“, цалкам прысьвечаны антыкомуністычнай і антысавецкай, шовіністычна-сыяніцкай пропагандзе. Гэтыя эстэты і аполітічныя „священнослужители“ літаратуры абярнуліся ў самых ярых політыканаў, калі гэта ім патрэбна было для абароны інтарэсаў тых соцыяльных пластоў, якім яны на справе прыслужваюць. Гэтая зьява таксама гаворыць нам аб тым, што нацыянал-дэмократызм мае свой уплыў у асяродзішчы тых пісьменьнікаў, якія лічаць

сябе блізкімі да савецкага ладу і да комуністычнага руху. Тут мы, бязумоўна, маем адлюстраваньні тых процэсаў правай небясьпекі, якія маюць месца ў нашым Саюзе і ў сусьветным рэволюцыйным руху.

Адным з самых сур'ёзных сымптомаў правай небясьпекі ў нашай яўрэйскай літаратуры зьяўляецца—актывізацыя сымболізму, ажыўленьне містыцызму і ваяўнічага шовінізму. За апошні год-паўтара кніжны рынак атрымаў шэраг твораў гэтага гатунку. Характэрна адзначыць, што выданая нядаўна кніга сымболістага-містыка Ністэра, пад назвай „Тое, што здаецца", вышла з прадмовай крытыка І. Нісунава. Нісунаў у сваім уводным артыкуле замазвае рэакцыйны твар гэтага пісьменьніка і амаль ня ўзводзіць яго ў сан рэволюцыйнага пісьменьніка, зусім змазвае рэакцыйны, а часам і анты-савецкі зьмест апавяданьняў і казак гэтага пісьменьніка. Зьмест кнігі і наогул творчасьці гэтага пісьменьніка можна коратка ахарактарызаваць так: містычна-кабалістычная балбатня, у соты раз пержаваныя „філёзофічныя разважаньні" аб адноснасьці матэрыяльнага і абсолютнасьці ідэальнага, ніцшыянства, у дадатак да гэтага—падазроныя алегорычныя разважаньні наконт Кастрычнікавай рэволюцыі. Вось пералік тых, з дазволу сказаць, проблем, якія вар'ююцца на рознастайны лад у творах Ністэра. Ясна, чым пахне гэткага гатунку літаратура.

Сымболізм, стара-гэбрайскі-кабалістычная спадчына, абстрактная поэзія—вось адна з найбольш небясьпечных зьяў у яўрэйскай літаратуры на цяперашняй стадыі. З дапамогай гэтых формаў і ідэолёгіі клясавы вораг пралязае да нас. Праз сымболізм і „нацыянальныя настроі" варожая ідэолёгія робіць сваю справу. Зразумела, усё гэта часта прыкрываецца савецкай пазалотай, часам нават „вытлумачваецца" такім чынам, што хоць ты вазьмі ды і стаў гэта ў прыклад пролетарскай літаратуры.

Прыклад ярка выражанага ваяўнічага шовінізму і анты-савецкасьці мы маем у нядаўна выданай кнізе вершаў поэты Галкіна „Смутак і Бадзёрасьць". Аб шовіністычна-рэакцыйным характары гэтых вершаў скажа хоць-бы наступная вытрымка з поэмы „Расія". Мы там чытаем:

„Расія, каб я так глыбока ня верыў ў цябе,  
Іншай мовай загаварыў-бы: з табою.  
Магчыма, сказаў-бы: ты нас падвяла,  
Засьляпіла ты нас, цыган маладых.  
*Кожны ўзмах тваіх рук—дарагі нам,*  
*Але вытрымаць яго—нясьцерпна балюча.*  
І як-бы вялікія зараз ні былі ўдар і ганьба  
Да цябе мы прыходзім з мальбой:  
Куды імкліваць зараз воды?  
Куды, да якіх краін?  
*Расійскія вуліцы шчасьлівыя,*  
*На вашым бруку будзе нам канец.*  
*Ня суджана было вам да гэтага часу*  
*Пры дзікай спадчыне нашую агонію ўгледзець.*

*А цяпер мы, як прыпрэжаныя, крочым*
*І гінем ад вашых пацалункаў.*

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Усяго жаху згубы—ніхто яшчэ не дасяг,
Ніхто ня бачыць, як трасецца ў гарачцы вясёлка шматфарбная.
О, хоць-бы са мною адным цуд здарыўся,
Над часам ракавым птушкай пранесьціся.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Расія, па мне, калі-б толькі мая галава
Я табе падараваў-бы яе.
Усе, хто зараз кідаюць твой парог,
Зажурацца па табе сьмяротнай журбой.
Якое шчасьце, якое гора—толькі гэтым уладаеш.
Гора мне, гора, забыць цябе,
Але пужаюць мяне твае крывыя закавулкі,
Поўныя воем жаху.
*У каго зямлі, хоць прыгаршчы адны,*
*Ён дрэва пасадзіць і пладоў будзе чакаць...*
*А нам—пасьля доўгіх гадоў кашмарных,*
*Нам—новыя землі шукаць* [1]).

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Характэрна, што гэты пясьняр гінучай, але актыўнай перад сваім сконам яўрэйскай буржуазіі, знайшоў свайго абаронцу ў асобе яўрэйскага крытыка М. Літвакова, які, каб угрунтаваць сваю абарону, выдумаў цэлы шэраг яўна-неправідловых поглядаў на гінучыя клясы і на „папутнікаў“, накшталт Галкіна...

Перад пролетарскай літаратурай стаіць задача змаганьня з гэтымі зьявамі. Асабліва паўстае задача консолідацыі сіл яўрэйскай марксыцкай крытыкі. Аб тым, якія задачы зараз сталі перад крытыкай наогул, даволі падрабязна сказана ў прамове Фрычэ, якую ён казаў у комуністычнай акадэміі 6-га сьнежня 1928 году. Гаворачы „аб буржуазных тэндэнцыях у сучаснай літаратуры і ролі крытыкі“ [2]), Фрычэ заяўляе:

> „Што-ж рабіць крытыцы тварам да твару са зьявамі нашай літаратуры апошніх дзён. Крытык, як вядома,—featured рознавіднасьць літаратуразнаўцы, перад якім стаіць пэўная задача, а іменна—асьвятліць творчасьць пісьменьніка або пісьменьніцкае групоўкі, як соцыолёгічна абумоўлены мастацкі організм, г. зн. асьвятліць творчасьць пісьменьніка, як прадстаўніка клясы, або грамадзкай групы ў іх дынаміцы. У такую эпоху, як наша, калі абгастраецца змаганьне клясаў і ў жыцьці і ў літаратуры, комуністычная і пролетарская крытыка гэткіх задач, уласна літаратуразнаўчых, ставіць перад сабой ня можа. У гэткую эпоху—крытык не дасьледчык-вучоны, а раней за ўсё барацьбіт“...

[1]) Падкрэсьлена мною—*Х. Д.*

[2]) „Буржуазные тенденции современной литературы“. Даклады ў Ком. Акадэміі. Выданьні Ком. Акадэміі. Масква, 1930 год.

А што тычыцца нашых патрабаваньняў да ўласнай літаратуры, дык аб гэтым зноў-такі Фрычэ правілова гаворыць:

„Тое, што нам бязумоўна патрэбна, гэта наяўнасьць вялікіх кадраў сапраўдных пісьменьнікаў, органічна зьвязаных з асноўнымі нашымі клясамі, прасякнутых нашай ідэолёгіяй, якія час-ад-часу, ня так ужо часта, дарылі-б сваіх чытачоў творамі, якія іх-бы цалкам захаплялі, якія ўзбуджалі-б іх да цяжкай працы па перабудове сваёй псыхікі і ня менш цяжкай працы па перабудове ўсяго нашага жыцьця на новых пачатках, такія творы, якія будуць уплываць ня толькі на нашага чытача, але і на рабочых Заходняй Эўропы і Амэрыкі, так, каб наша літаратура магла выканаць свае міжнародныя функцыі ў справе міжнароднай рэволюцыі. Зразумела, такую групу сапраўдных выяўнікоў, настаўнікаў і прасьветнікаў нашых асноўных кляс трэба было-б паставіць у гэткае становішча, каб яны маглі настойна, сур'ёзна і ўважна працаваць над сабою і над сваімі творамі. Нашым лёзунгам павінен зрабіцца прынцып: змаганьне з мастацкай рэпродукцыяй, якая больш характэрна для літаратуры капіталістычнага грамадзтва, у крайнім выпадку, калі трэба, скарачэньні колькасьці вялікіх часопісяй і скарачэньні колькасьці паперы, якая ідзе на бэлетрыстыку, якую нашы рабочыя і сяляне ўсе роўна ня чытаюць, і, урэшце, вызначаная і рашучая орыентыроўка на ўзрошчываньні нешматлікіх, але кваліфікаваных кадраў сапраўдных комуністычных, пролетарска-сялянскіх і савецкіх мастакоў слова".

Нам нічога ня прыходзіцца дадаваць да таго, што сказана ў Фрычэ: Мы лічым, што гэтыя думкі крытыка-барацьбіта павінны быць пакладзены ў аснову яўрэйскай літаратурнай крытыкі, дапасавальна да ўмоў яўрэйскай літаратуры, каб змагацца з буржуазнай ідэолёгіяй, стымуляваць пролетарскую літаратуру і дапамагаць сапраўды блізкаму папутніку.

* * *

Мы тут спыніліся на тыпічных зьявах яўрэйскай літаратуры СССР і на разьвіцьці яе пролетарскай часткі. Мы абышлі цэлы шэраг пытаньняў, якія маюць вялікае значэньне пры разглядзе пытаньняў літаратуры. Мы зусім не гаварылі аб формальных кірунках, аб змаганьні стыляў; мы абышлі пытаньні організацыйнага парадку, якія маюць вялізарнае значэньне ў барацьбе за пролетарскую літаратуру. Мы амаль зусім не гаварылі пра поэтаў і пісьменьнікаў яўрэйскай сэкцыі Бел. АПП'у і наогул тых, якія жывуць і працуюць у БССР; мы зусім прапусьцілі пытаньне аб стане літ. крытыкі. Нам важна было тут асяродкавацца, хоць-бы бегла, наколькі гэта дазваляе артыкул, на асноўным, для таго, каб даць беларускаму чытачу хоць якое-небудзь уяўленьне аб яўрэйскай

пролет. літаратуры ў СССР. Усе вышэй успомненыя паасобныя пытаньні павінны падрабязна разглядвацца; яны павінны цікавіць беларускую савецкую чытацкую аўдыторыю, бо яўрэйская літаратура таксама ў сэнсе формальным мае цэлы шэраг пунктаў сутыканьня з астатнімі літаратурамі Савецкага Саюзу, у прыватнасьці, з беларускай літаратурай (гэта адносіцца асабліва да такіх поэтаў і пісьменьнікаў выхадцаў з Беларусі, як Аксэльрод, Кульбак, Харык, Доўгапольскі, Тайч і іншыя).

Я сьвядома прапусьціў яўрэйскую літаратуру БССР, бо аб ёй нам-бы не хацелася гаварыць мімаходзь: яна ўжо заслугоўвае таго, каб аб ёй гаварыць больш грунтоўна...

# КАТАЛЁНСКАЯ ЛІТАРАТУРА

**Р. Кальтофэн**

Не зважаючы на стогадовае цэнтралістычнае кіраваньне, усё-ткі ж захаваліся ўсюды ў гішпанскіх провінцыях самастойныя культуры: у баскаў, галісійцаў, у каталёнцаў і кастыльцаў. Калі адбылося ў 1469 годзе аб'яднаньне Кастылі з Арагоніяй, цэнтр сам сабою мімаволі перанёсься ў Кастылію. Узмоцнена было гэтае разьвіцьцё заваяваньнем Гранады, якое вызваліла Гішпанію ад маўраў. Такім чынам Кастылія зрабілася географічным цэнтрам паўвострава, тымчасам як Каталёнія зьнізілася да ролі ўскраіннае провінцыі.

Адкрыцьцё Амэрыкі і морскага шляху ў Ост-Індыю перамясьціла і гаспадарчыя цэнтры ў кірунку да партоў Атлянтыцкага акіяну, тымчасам як каталёнскі порт Барсэлёна згубіў сваё ранейшае значэньне. Гэты гаспадарчы заняпад абумовіў сабою і паралюш культурнага жыцьця ў Каталёніі на працягу бліжэйшых стагодзьдзяў. Праўныя абмежаваньні ў адносінах да гандлю з кастыльскімі гарадамі ўзмацнілі гэты рэгрэс Каталёніі.

Толькі тады, калі — прыблізна ў канцы 18-га стагодзьдзя — хваля эўропэйскага індустрыяльнага разьвіцьця ўдарыла па Гішпаніі і праўныя абмежаваньні гандлёвых зносін былі скасаваны,—зноў абудзілася Барсэлёна дый уся Каталёнія для новага жыцьця. Барсэлёна зрабілася асяродкам шаўковае і тэкстыльнае прамысловасьці. Яе насельніцтва шпарка павялічвалася. У сувязі з гэтым росквітам разьвівалася таксама і новае культурнае жыцьцё. Раней ужо думалі былі, быццам каталёнская мова зьлілася з кастыльскаю на працягу мінулых стагодзьдзяў цэнтралістычнага панаваньня. Раптам выявілася, што народ захаваў быў сваю мову ды іншыя культурныя набыткі.

Думкі аб асьвеце ахапілі розныя пласты інтэлігенцыі. Заняліся сваёю моваю. Дагэтуль пад уплывам Кастыліі цураліся каталёнскае мовы, як грубае, мужычае і няздольнае выразіць ніякі больш-менш тонкі душэўны рух. Але вось у 1814 г.—Бальлет-і-Торрэр пасьля цэлых гадоў працы апублікаваў свой досьлед: „Gramatika y apologia de la langua catalana“ („Граматыка і абарона каталёнскае мовы“). Аднак на яго заклік ніхто не адгукаўся, хоць ён ужо і паказаў, наколькі гібкаю зьяўляецца таксама і каталёнская мова. Толькі ў 1836-м годзе гэты рух пайшоў шы-

рокім рэчышчам, калі ў Мадрыдзе з-пад пяра Торрэса Амата зьявіўся напісаны яшчэ ў кастыльскай мове „Слоўнік каталёнскіх пісьменьнікаў з найстарэйшых часоў і да новае эпохі". Гэткім чынам лёд быў разьбіты,—тады і твор Бальлет-і-Торрэра знайшоў сабе правамоцнае прызнаньне. Ужо ў 1837-м годзе апублікаваў Піфэрэр, таксама ў кастыльскай мове, свае „Resurdes y bellezas de Espana" („Успаміні і прыгожасьці Гішпаніі"). Дзякуючы свайму романсу „Don Ioan y don Ramon" (Дон Хуан і дон Рамон), надрукаванаму ў часопісі „La Palma" (Mallerea) у 1840-м годзе,—Квадрадо зацікавіў людзей скарбамі народнае поэзіі. На шлях ад клясыцызму да романтызму ў Каталёніі, на той шлях, у сувязі з якім і разьвіналася адраджэньне,—ступіў Міля-і-Фонтанальс і такім чынам зрабіўся інтэлектуальным правадыром. Міля-і-Фонтанальс разьвінаў сваю дзейнасьць, як профэсар літаратуры ў Барсэлёне. У яго творах адбіваюцца эўропэйскія і космаполітычныя ідэі романтызму.

У 1853-м годзе зьяўляюцца „Romancerille" („Сьпеўнічкі"), напісаныя яшчэ ў клясычным стылі. Прадмова зьяўляецца найлепшым разглядам народнае поэзіі, напісаным у гішпанскай мове. У 1864-м годзе вышла з друку Rensenya historica i critica dels antichs poetas catalans („Гістарычныя і крытычныя зьвесткі аб старажытных каталёнскіх поэтах"). Нямецкі пераклад гэтае працы быў зьмешчан у гэтым-жа самым годзе ў „Штогодніку романскае і ангельскае літаратуры" („Iahrbuch für romanische und englische Literatur").

У самой Каталёніі з гэтага часу запанаваў у літаратуры романтызм. Толькі на вастравох (Балеарскіх) моцна трымаецца і надалей клясыцызм у выніку іх адрэзанага, адасобненага палажэньня. Найбольш вядомы пісьменьнік гэтых вастравоў—памёрлы ўсяго толькі за некалькі год да цяперашняга моманту Альковэр. У самай Каталёніі ідэі клясыцызму выступаюць толькі спорадычна, напрыклад, у Кароля Рыба (Carles Riba), дасканалага перакладчыка амаль што ўсіх чыста клясыкаў. Апроч таго—яго пяру належаць пераклады твораў ангельскіх, францускіх і нямецкіх пісьменьнікаў, напрыклад, Готфрыда Кельлера. Сьледам за Міля-і-Фонтанальс'ам пайшоў Х. Вэрдагэр (І. Verdeguer). Яго творы: „Atlantida" 1877 г. і „Canigó" 1886 г., якія зьяўляюцца моцна містычнымі, сформавалі стылістычныя асаблівасьці каталёнскае мовы, хоць цяпер і ня маюць ужо, апроч гэтага, ніякага іншага ўплыву. У такім-жа самым кірунку ішла і творчасьць Мэстрэса, які шмат у чым нагадвае Ляфонтэна (вядомы і яго пераклад Гэйнавых твораў)—а таксама і другога пісьменьніка—Моссэн-Коста-і-Слебэр'ы.

У гэты-ж час разьвінаўся таксама і Каталёнскі тэатр. Тымчасам, як Пітарра выяўляе яшчэ пэўныя водгукі гішпанскіх узораў,—яго наступнікі: Гімэр'а, Русынэль і Іглесыяс цалком ужо вызваліліся ад гэтага ўплыву. У іх адчуваецца відавочны ўплыў збоку Ўсходу і Поўначы (Ібсэн, Стрындбэрг, Гауптман, Талстой).

Пітарра ў Барсэлёне выпусьціў у сьвет у 1866—твор: „La Ioyas de la Rosa“ („Уцехі ружы“) і стварыў такім чынам каталёнскі тэатр. Моцна імпровізаваныя звароты ў ходзе падзеяў, псыхолёгічныя дэфэкты, нядбайная форма—паказваюць на ўплыў збоку гішпанскіх узораў. Пітарраву работу працягваў далей Гімэр‘а першапачаткова—яшчэ ў романтычным дусе. У сваім творы „Mar i Cel“ („Мора і неба“) 1886 г. ён дае довады пэўнасьці свайго густу, добра выбірае эфэкты і дакладна распрацоўвае характары. Яго галоўны твор „Нізіны“ („Terra baixa“) 1897 г.—дзякуючы сваёй пабудове—прадстаўляе сабою тып сучаснае драмы. У „Terra baixa“ адчуваецца ўплыў збоку натуралізму; зноў чалавек больш выступае на пярэдні плян. На эўропэйскіх сцэнах „Terra baixa“ ішла ў музычнай апрацоўцы д‘Альбэра, як „Нізіны“ (Tiefland).

Русынэль—прыяцель і перакладчык Леона Додэ, калісьці найбольш улюбёны драматург, цяпер ня мае ніякага ўплыву на маладое пакаленьне. Яго драмы, напрыклад, „Маці“ ды іншыя—адзначаюцца багацьцем поэзіі і фантастыкі, хоць ён сваім войстрым зрокам і добра нагледае дэталі і часам малюе іх з акрутным сатырычным талентам.

Натуралізм, які толькі пракладае, цярэбіць сабе шлях пры дапамозе твораў Гімэр‘ы, узмацняе сваё афармленьне ў Ігнася Іглесыяса (паколькі ўжо ідзе пытаньне аб тэатры). У галіне прозы гэты пераход адзначаюць сабою творы Нарцыса Ольлера і Марагальля.

Сын беднага чыгуначніка—Іглесыяс з дзяцінства зазнаў нэндзы і бядоты рабочага жыцьця. Усе гэтыя жыцьцёвыя ўражаньні адбіваюцца ў яго драмах.

Ён ніколі ня губляў сувязі з шырокімі масамі. А рабочыя адчувалі, што тут нехта з іхняга асяродзьдзя вобразна выяўляе іх пакуту і іх надзею. Таму і пайшлі рабочыя масы гораду Барсэлёны за яго труною, калі ён памёр (з таго часу прайшлі два гады).

У яго творах, дзе заўважаецца анархізм з лёгкай павалакаю романтызму,—ужо мігцяць першыя праблескі соцыяльнага тэатру.

Ён выступае на барацьбу, дамагаючыся забясьпекі для рабочых на выпадак старасьці і няшчасных здарэньняў—у сваёй драме „Els Vells“ („Старыя“). Зьместам гэтае драмы зьяўляецца лёс тых рабочых, што састарэліся, і таму выкідаюцца з фабрык. Усюды выводзіць ён на сцэну рабочага, эксплёатаванага чалавека. Сваё заданьне бачыў ён у тым, каб імкнуцца да перамогі гуманнасьці і справядлівасьці і выступаць супроць перадузятасьці поглядаў і розных несправядлівасьцяў.

Марагальль (памёр у 1911-м годзе) выяўляе ў сваіх вершах моцна рэалістычныя рысы. Ён яшчэ і цяпер лічыцца за найлепшага каталёнскага поэта. У 1898-м годзе зьявіліся яго „Poesias“, у 1900-м годзе „Visions i Cants“ („Здані і песьні“), у 1906-м годзе „Enlla“. Апроч гэтага, яму належаць яшчэ пераклады з Гётэ (яго ўплыву Марагальль падлягаў у значнай меры), з Ніцшэ і Новаліса.

У апавядальнай літаратуры натуралізм здабывае сабе ўплыў, дзякуючы Нарцысу Ольлеру. Паміж іншым, трэба зазначыць на тое, што ў Каталёніі пераважае новэля. Яна мае сьвежасьць і орыгінальнасьць, матар'ял для яе ў большасьці выпадкаў дае сялянскае або дробнамяшчанскае жыцьцё ў Каталёніі. Роман мала яшчэ разьвінуты.

Нарцыс Ольлер, якому цяпер ужо значна больш як 70 год,—быў прыяцелем Эміля Золя, чые ідэі таксама мелі на яго ўплыў. Ольлер зрабіўся вядомым у Францыі, дзякуючы сваім дзьвюм новэлям „Le Baylet del Pa“ і „Trasplantat“. Яго нарысы малююць людзей, што зрабіліся ахвярамі свае дабраты і прастэчы. У творы „L'escanza pobres“ мы маем маляўнічы нарыс з жыцьця Олягэра, яго ўзвышэньня і яго жаласнай сьмерці (бо жонка ня выкупіла яго, калі яго ўзялі ў няволю бандыты).

Пэўнасьцю правядзеньня вызначанае лініі зварачаюць на сябе мімавольную ўвагу романы аднае жанчыны, якая піша пад псэўданімам: „Віктар Катал'я. Найлепшы яе твор „Solitud“ (Адзінота). З рэалізмам, што застаецца непадкупным і праўдзівым, малюе яна вясковае жыцьцё, малюе гэтую рэзкую і жорсткую пароду людзей, у якой пануюць помста і акрутнасьць, але побач з імі сустракаюцца зноў-жа і пробляскі пяшчотных вобразаў каханьня і самаахвярнасьці.

Ад малярства перайшоў да заняткаў літаратураю—Прудэнсы Бэртрама. Ён абапіраўся на французскія і расійскія ўзоры. Прайшло ўжо 20 год з таго часу, як зьявіўся яго першы роман „Josefat“. Апошні Бэртрамаў роман—„Ja“. Гэта—гісторыя яго прыяцеля—лекара, чыя жонка—красуня, але бяздушная. Усе чыста прыяцелі любяць ужо толькі яе маску—таму ён умела штучнымі спосабамі руйнуе прыгожасьць гэтае маскі. Цяпер усе прызнаюць, як мала вартасьці мае гэтая жанчына, якой дасюль мы пакланяліся з гэткай пашанай.

Выдатным стылем піша Х. Руйра свае апавяданьні з матроскага, сялянскага і рабочага жыцьця—„Marines i Boscatyes“. Перш за ўсё сваёй публіцыстычнай дзейнасьцю, у вялікай штодзённай газэце „Publizist“—зрабіўся вядомым Х. Карнэр (J. Carner). Сярод самых маладых пісьменьнікаў шмат чаго добрага абяцаюць Раўвэльль (Rauvell) і Эскалясанс (Escalasans). Абодва выступілі з сваімі творамі ў сярэдзіне 20-х гадоў. Эскалясанс выступае на пярэдні плян больш сваімі крытычнымі працамі; у Раўвэльля зьявілася ўжо ў друку нямала драмаў і новэляў, напрыклад, „Сыны“ ды інш.

З кола натуралістых паходзіць таксама і Пуіг-і-Фэррэтэр, але яго творы шмат разоў выяўляюць ужо нешта вышэйшае, чымся адно толькі чыста літаратурнае мастацтва. Тут чуюцца водгукі соцыялістычных ідэяў у іх пасьлядоўным ходзе. Але пэўна-ж няма клясавага падыходу. Гэта—дэфэкт, які тлумачыцца адсутнасьцю буйнае індустрыі і тых пролетарскіх масаў, што каля яе знаходзяць сабе месца.

Потым Пуіг-і-Фэррэтэр, атрымаўшы перш настаўніцкую, а пасьля ўжо і аптэкарскую адукацыю, ідзе раптам у вандроўку. Гэтыя гады бадзяньня ішлі адзін за адным і даставілі яму матар'ял для яго першага апавяданьня „Els camins an Francia“ („Пуціны па Францыі“). Гэтыя гады зрабілі для яго магчымаю далейшую літаратурную дзейнасьць. Яго драмы заваявалі каталёнскія сцэны. Трэба толькі ўспомніць: „Вясёлую даму“, „Школу заручаных“ ды іншыя. Яны выяўляюць у сабе шмат падабенства да Пірандэльлявых твораў. Палітычная сытуацыя змусіла яго тады раптам змоўкнуць. Ён заняўся чарнавою работаю—эскізамі раманаў і зрабіў нанова крытычную праверку свае ранейшае творчасьці. Пладом гэтае працы быў яго роман „Vida interior de un escritor“ („Нутраное жыцьцё аднаго пісьменьніка“). Гэты твор выявіў поступ у яго разьвіцьці—у сэнсе стылістыкі і вобразнасьці. Гэтая споведзь за цэлае жыцьцё, і канчальны ясны разрахунак з усімі тымі літаратурнымі проблемамі, што сьціскалі яго ў вузкіх рамках,—цяпер далі яму нутраную свабоду, патрэбную для новай творчасьці. Прывядзем тут толькі некаторыя сказы, выхапленыя наўдалую з гэтага твору. „Я прылажыў сваю сілу да гэтае працы... каб уцяміць рэчы ў такім выглядзе, у якім яны сапраўды існуюць, падаць іх у моцных і дакладных вобразах. Маё жаданьне было наступнае: дасягнуць упэўненасьці і няпрымушанасьці і поруч з гэтым—жвавае пульсацыі... Стыль павінен быць дапасован да руху работы, да яе жыцьця... Якім стылем пісаў Шэксьпір? Ён пісаў усякімі стылямі. Таму ён і ідэал пісьменьніка. Ня мець ніякага зафіксаванага стылю, каб мець магчымасьці зварачацца ў кожны даны момант да кожнага тыпу стыля, адпаведна таму, чаго вымагае работа... Ня гнацца за посьпехам, за воплескамі. Жаданьне ўзбуджаць агульную да сябе ўвагу—зьяўляецца мастаку першаю адзнакаю яго нязначнае вартасьці. Змагацца! Вось у чым самая сутнасьць дысцыпліны... Калі ты пачнеш кожнаму падабацца, дык у хуткім часе можна згубіць свой уласны твар. Шукай іншага шляху... Будзь аднолькава маладым і ў сваіх надзеях і ў маладушшы і ў сумненьні...“ з „Нутранога жыцьця аднаго пісьменьніка“ „Vida interior de un escritor“).

Хутка адзін за адным зьявіліся потым „Els tres allucinata“ і „El cerele magie“. У першым з гэтых твораў пісьменьнік малюе гісторыю аднаго чалавека, які хацеў-бы даць людзкасьці бязрупатнае шчасьце, які стараецца ажыцьцёвіць гэта ў сваім маленькім коле—і ўсё-ткі ж не знаходзіць ніякага супакою ў сваёй нутраной істоце. Воблік гэтага лятуценьніка, які ўрэшце сам у сябе адбірае жыцьцё з роспачы, што ён ня можа зразумець гэтае жыцьцё,—псыхолёгічна добра распрацован.

У заключэньне трэба яшчэ назваць юнака Санчэса Хуана, найлепшага з футурыстых; ён сваім адшліхаваным і пэўным стылем выразна нагадвае Алемана.

Дрэздэн, лістапад, 29 г.

# КНІГАПІС

**Янка Купала. Сборник стихов.** Вступительная статья Л. Клейнборта. *Гос. Издательство. Москва—Ленинград. 1930. Тираж 2000 экз. 184 стр. Цена 2 руб.*

Гэты зборнік дасьць магчымасьць больш-менш шырокім колам расійскіх чытачоў азнаёміцца хоць у агульных рысах з поэзіяй нашага народнага поэты. Дагэтуль на расійскай мове быў выдадзены толькі невялічкі зборнік выбраных вершаў Янкі Купалы (Масква 1919 г.) ды часам сустракаліся пераклады паасобных яго вершаў у альманахах і часопісах.

У зборніку пададзена больш за сотню пераважна лірычных Купалавых вершаў і поэма „Безназоўнае“. Пераклад рабілі вядомыя расійскія поэты і перакладчыкі—Арэшын, Багрыцкі, В. Брусаў, Сьвятлоў, Ус. Раждзесьцьвенскі, Міх. Галодны, Гарадзецкі, Іван Белаусаў ды інш. У вогуле пераклады зроблены здавальняюча, хаця мастацкасьцю і поэтычнасьцю вызначаюцца толькі пераклады В. Брусава, Арэшына, Багрыцкага, ды часткова Сьвятлова і Ус. Раждзесьцьвенскага. Сьвятлоў і Гарадзецкі досыць часта ня могуць управіцца з адпаведна-дакладнай перадачай Купалавых думак і стылю, а пераклады Міх. Галоднага кульгаюць на прозаізмы, рытмычныя перабоі, а часам і ляпсусы, як, напр., у вершы „Грай-жа музыка!“ стар. 98 там, дзе ў аўтэнтыку: *„рэж... так, як там рэжа асьлепленых кат“* ён пераклаў—*„режь, как резник ослепленых телят“* (sic!). Праўда, падобныя ляпсусы сустракаюцца рэдка, але ўсё-ж т. Галоднаму трэба працаваць больш старанна і ўважліва.

Вершы зьмешчаны паводле прынцыпу тэматычных цыкляў. Яны закранаюць Купалаву творчасьць ад „Жалейкі“ да „Безназоўнага“ і выбраны даволі ўдала. Шкода толькі, што пачаўшы, напр., вершам „Я не поэта“ не далі ў зборніку, як антытэзу гэтага вершу „Мая навука“ (з „Спадчыны“), дзе Купала ўжо ўсьвядоміў, што

> Цяпер маймі скарбамі думкі-саколы,
> Цяпер беларускай я песьні ўладар.

Таксама, падаючы „Дзьве сястры“, трэба было даць і „Сватаную“; зьмяшчаючы вершы пра каханьне, трэ' было даць і верш „Ня цурайся, дзяўчынка-галубка, мяне“ цікавы тым, што ў ім з мотывамі каханьня пераплятаюцца грамадзкія мотывы; падаючы „Маю песьню“, трэба было даць і „Песьняй толькі“ і г. д. Але гэтыя прабелы, нарэшце, можна падараваць.

Бязумоўна, гэты зборнік ня дасьць расійскім чытачом поўнага ўяўленьня аб Купалавай творчасьці, асабліва, калі прыняць пад увагу яго шырокі творчы дыапазон. Купалаў эпос, поэмы і драма застануцца, як і раней, невядомымі расійскім чытачом. Праўда, некаторую раду ў гэтай справе мог-бы даць уступны артыкул аб Купалавай творчасьці, калі-б... калі-б ён ня быў напісаны Л. Клейнбортам. Бо гэты Клейнбортаў артыкул такі-ж тандэтны і няпісьменны, як і добра вядомая нашым чытачом яго „Молодая Белоруссия“. Даводзіць гэтую сваю заўвагу прыкладамі пасьля „Молодой Белоруссии“ я лічу непатрэбным.

Але за выключэньнем гэтага ўступнага артыкулу, зборнік пакідае прыемнае ўражаньне. Гэта-ж амаль што першая кніжка з беларускай поэзіі ў расійскім перакладзе. Яна ня толькі ўзбагаціць расійскую перакладную літаратуру, але адыграе таксама і пэўную ролю ў справе культурнага зьліжэньньня розных народаў Савецкага Саюзу.

**А. Лясны.**

**Ян. Скрыган. Затока ў бурах.** *Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва. Менск, 1929. Тыраж 3000 экз. 172 стар. Цана 1 руб.*

Гэтую першую кніжку маладога пісьменьніка Скрыгана трэба разглядаць, як вучнёўска-экспэрымэнтальную. Гэта першыя крокі аўтара ў галіне мастацкае прозы. У большасьці гэта невялічкія абразкі характару апавядальнае імпрэсіі. Адзіным выключэньнем зьяўляецца толькі аповесьць (хаця, як для аповесьці, гэты твор можа задужа малы) „Затока ў бурах", а ў іншых выпадках аўтар проста пераказвае фабулю ці ад першае асобы („Таіса", „Поэма пра Анюту", „Невядомы чалавек") ці ад трэцяе („Зарубчык").

Вайна і каханьне—вось два асноўныя стрыжні Скрыгановай тэматыкі, вакол якіх сканцэнтраваны яго творы. Праўда, гэтыя тэмы закрануты даволі шырока, асабліва першая. Мы сустракаем у гэтай кніжцы ўспаміны з пачатку імпэрыялістычнае вайны, рэволюцыю на вёсцы, змаганьне з бандытызмам („Затока ў бурах"), зьбежанства („Шорсткая дарога"), адступленьне палякаў („Памятнае") і г. д. Асобна стаяць у гэтых адносінах апошнія два творыкі „Невядомы чалавек" і „Начлег", але іх злучае затое з усімі іншымі той агульны колёрыт, што чырвонай істужкай праходзіць праз усю кніжку. Гэта моцны нахіл аўтара да романтыкі.

Скрыган застаецца ў яе палоне ня толькі там, дзе стары дзед апавядае тысячу раз трактаваную ўжо ў літаратуры гісторыю аб нешчасьлівым каханьні паненкі з парабкам („Зарубчык"), або ў падобнай гісторыі аб каханьні паўстанца з Таісай, але і ў самым блізкім да рэалістычнага сваім творы „Затока ў бурах". Аб гэтым яскрава сьведчыць хаця-б вобраз Алесі—маладое ўдавы—салдаткі „Начальніцы" атраду, які ловіць бандытаў.

У адным месцы аўтар прагаварыўся, што яго цікавіць тое, „у чым можа быць захавана трагэдыя чалавечага жыцьця" („Зарубчык", стар. 131), у другім паставіў характэрны эпіграф:—„Кажуць, што пад Зарэцкага". І сапраўды, шмат якія з яго твораў напісаны пад моцным уплывам Зарэцкага. Але вось гэтае захапленьне романтыкай, Зарэцкім, „трагічным" (а апошняе ў Скрыгана часта даходзіць да эксцэнтрычнасьці) перашкаджае аўтару стаць у перадавыя шэрагі маладых беларускіх прозаікаў.

Праўда, яго творы з эпохі імпэрыялістычнае і грамадзянскае вайны заслугоўваюць увагі таму, што гэтая тэма мала распрацавана ў нашай літаратуры, але ўсё-ж ён застаецца толькі дылетантам, толькі летапісцам нядаўнага ці далёкага мінулага. Тое, што сёньня жыве, змагаецца і расьце, праходзіць пакуль што міма аўтаравае ўвагі. Аб гэтым яму варта сур'ёзна падумаць, тым больш, што гэтая першая кніжка яго сьведчыць, што аўтар мае для гэтага пэўныя дадзеныя. Ён добра ўладае мастацтвам асьвятленьня тых зьяў і прадметаў, якія ён хоча паказаць чытачу, яму ўдаецца компактная, сконцэнтраваная фабуля і часам, хаця, праўда, не заўсёды, удаюцца орыгінальныя, сьмелыя вобразы і нарэшце, ён выпрацаваў свой прыгожы—жывы і выразны—стыль, часамі авеяны цёплым лірызмам (апошняе мы ня будзем лічыць заганай). Дык ці-ж варта пісьменьніку, маючы такія зусім нядрэнныя творчыя сродкі, займацца насьледаваньнямі „пад Зарэцкага" і тысячны раз перапяваць старыя гісторыі пра нешчасьлівае каханьне.

**А. Лясны.**

**Аркадзь Любчанка. Пастух.** *З украінскай мовы пераклаў Янка Купала. Белдзяржвыдавецтва 1929 г.*

Бязумоўна, што Любчанка далёка не другарадны пісьменьнік на Украіне. Такія апавяданьні, як „Зяма", „Ціхі хутар", „Дні юнацтва", сьведчаць аб сьпеласьці яго пісьменьніцкіх магчымасьцяй. І магчымасьці гэтыя значныя. Асабліва ў апавяданьнях, дзе малюецца вёска, дзе малюецца барацьба ў ёй (апошняя з названых вышэй апавяданьняў).

Аркадзь Любчанка лашчыць форму. Яго апавяданьні дынамічны і align="">рознафарбны. У легендзе „Пастух" (лепшы пераклад у рэцэнзуемым зборнічку) пяюць радкі, пяюць словы: адчуваеш магутнага і прывабнага Вара. Новэлі Любчанкі на значнай вышыні, і ў першую чаргу—формальна. У іх ёсьць інтрыгуючая чытача нечаканасьць, улюбёны аўтарам прыём антытэзы. Гэта асабліва яскрава відаць па апавяданьні „Ціхі хутар".

Янка Купала зрабіў пераклад трох яго твораў. Апроч таго беларускаму чытачу вядома і апавяданьне „Зяма". У гэтых апавяданьнях Любчанка цалкам са сваімі здольнасьцямі. Соцыяльны эквівалент іх досыць важкі. Карніенка прышоў к „ціхаму хутару": бытавому балотцу. Карніенка — цікавы і орыгінальны тыпаж у літаратуры. Карніенка жыве інакшым, адышоўшым. Вось чаму ён ухіляецца ад сустрэчы з баявым таварышом. Варушыцца „ціхі хутар". Варушыцца, каб зноў задрамаць. Карніенка ня здольны выкараскацца з балота. Ня здольны па сваёй індыфэрэнтнасьці.

Слабей апавяданьне № 2002. Любчанку мала толькі адных бытавых дробязяй. Яму трэба романтыка дынамікі, романтыка рэволюцыйная. Таму так віртуёзна напісана легенда пра Вара. І Вар паўстае сапраўдным героем, героем усяе творчасьці Любчанкі.

Нам здаецца, што неабходна перакласьці і іншыя апавяданні Любчанкі, апавяданьні пра вёску („Дні юнацтва"), якія маюць большую політычную вартасьць.

Дрэнна, што да кніжачкі не далучана крытычнай нататкі пра аўтара, гэта дапамагло-б чытачу. Агулам-жа трэба сказаць, што выдавецтву варта паклапаціцца аб часьцейшым перакладзе з украінскіх пісьменьнікаў. Трэба наладзіць нешта накшталт сэрыі Дзяржвыдату РСФСР—„Творчество народов СССР".

**Барыс М.**

# БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* Аршанская філія БелАПП разгарнула працу па правядзеньню трохмесячніка пролетарскай культуры. Сябры Аршанскай філіі БелАПП'у—т.т. Гаўрук і Аляксееў правялі ў Воршы два масавых літаратурных вечары, якія прайшлі з посьпехам.

* У Горках (БССР) і Воршы працуюць літаратурныя групы БелАПП'у пры газэце Беларускай Дзяржаўнай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі—„За пролетарскія кадры". Рэгулярна пры ёй штотыдня выходзіць літаратурная старонка.

* Ю. Гаўрук скончыў сваю аповесьць „Поэма дальніх дарог"—з часоў окупацыі Беларусі белапалякамі.

* Менская філія ў апошнія часы правяла цэлы шэраг літаратурных вечароў як у Менску, гэтак і ў іншых акруговых гарадох БССР. Былі зроблены выезды ў Воршу, Бабруйск, Полацак і Віцебск.

* У Доме Пісьменьніка Менская філія БелАПП правяла і праводзіць шэраг літаратурных чацьвяргоў. Ужо чыталі свае новыя творы т.т.—Баранаў, Барашка, Галавач, Гольдбэрг, Звонак, Каваль, Скрыган, Хведаровіч, Шушкевіч. Прысутнічала, галоўным чынам, рабочая і студэнцкая моладзь.

* М. Гольдбэрг заключыў умову з БДзВ на выданьне сваёй кнігі „Энтузіясты". Кніга прадстаўляе збор нарысаў пра соцыялістычнае спаборніцтва і колектывізацыю.

* У Воршы мяркуецца організаваць літаратурныя гурткі пачынаючых пісьменьнікаў і прымацаваць іх да літаратурных організацый.

* Паводле ініцыятывы комсамольскай ячэйкі Працасьветы, у Доме Асьветы быў наладжаны вечар спатканьня беларускіх пісьменьнікаў з бібліотэчнымі работнікамі. Галоўная ўвага была зьвернута на прасоўваньне беларускае літаратуры ў масы і на якасьць літаратурнае продукцыі. Зачытваліся творы пісьменьнікаў і тут-жа, на вечары, давалася ім ацэнка. Вырашылі часьцей наладжваць такія спатканьні з чытачамі, а таксама папоўніць бібліотэкі беларускай літаратурай і літаратурай нацменшасьцяй.

* 7 лютага ў Доме Пісьменьніка поэта Андрэй Александровіч прачытаў новую (скончаную) поэму „Цені на сонцы". Чытка прыцягнула да сябе вялікі лік слухачоў. Цэлы шэраг выступаўшых таварышоў зазначалі аб поэме, як аб дасягненьні пролетарскай літаратуры.

* У сувязі з правядзеньнем 3-месячніка беларускай пролетарскай культуры, у Менск прыехала група яўрэйскіх пролетарскіх пісьменьнікаў Украіны т.т. Сіто, Янкелевіч і Шэхтман.

У Менску будуць наладжаны літаратурныя вечары, на якіх гэтыя пісьменьнікі выступяць.

* У бліжэйшы час выйдзе з друку ў акадэмічным выданьні „Матчын дар" Алеся Гаруна.

Акадэмічнае выданьне ўсіх твораў Гаруна зараз друкуецца і выйдзе прыблізна праз тры месяцы.

* Народны поэта БССР Якуб Колас перадаў на карысьць Менскага беларускага дзіцячага дому

ганарар у суме 2.500 руб. за кніжку „Сымон Музыка".

* Колектыў супрацоўнікаў І БДТ адгукнуўся на заклік — абслужыць раёны колектывізацыі, дапамагчы правесьці вясеньнюю пасеўную кампанію.

Тав. Міровіч напісаў п'есу, якая мае характар палітычнага водэвілю. Тэма п'есы—задача ліквідацыі кулацтва як клясы. Колектыў працаўнікоў тэатру рыхтуе гэту п'есу і ў дзесятых лічбах гэтага месяцу тэатр выяжджае з гэтай п'есай на месцы.

Да вясны тав. Міровіч мяркуе напісаць яшчэ адну п'есу на тэму аб колектывізацыі. Працаўнікі тэатру вырашылі організаваць вэлёсыпэдную перасовачную групу, якая ў час летняга адпачынку зробіць аб'езд найбольш глухіх месц БССР.

10 лютага ўдарна-концэртная брыгада артыстых БДТ-І выяжджае ў Лоеўскі раён суцэльнае колектывізацыі.

Рэжысэр Сьмяянаў ставіць зараз п'есу Яноўскага „Ярасьць". Усьлед за гэтай пастаноўкай пачынаецца праца над п'есай Гр. Лахматага „Гута".

* Вышла з друку выданьнем ГІЗ'а РСФСР у перакладзе на расійскую мову кніжка выбраных вершаў Янкі Купалы.

* Вышла з друку выданьнем ГІЗ'а РСФСР кніга прозы Якуба Коласа „На прасторах жыцьця"—у перакладзе на расійскую мову.

* У чэскім тыднёвіку „Сіп" 23.1. 1930 г. дадзены агляд сучаснай беларускай літаратуры і зьмешчаны фотографіі поэтаў — Янкі Купалы і Міхася Чарота.

* У „Зьвязьдзе", „Савецкай Беларусі" і „Рабочем" за 3-га лютага г. г. выдрукавана пастанова літаратурна-мастацкага згуртаваньня „Узвышша" аб шэрагу палітычных памылак, зробленых згуртаваньнем за тры з паловаю гады свайго існаваньня.

Пералічыўшы найбольш шкодныя памылкі сваіх сяброў, згуртаваньне піша:

„Узвышша", прааналізаваўшы свой шлях і выявіўшы з дапамогаю пролетарскай крытыкі свае памылкі і іх карэньні, рашуча асуджае зробленыя памылкі і аддасьць усе сілы каб узмацніць шэрагі барацьбітоў за пролетарскую літаратуру, дапамагаючы сваёй зброяй мастацкага слова справе соцыялістычнага будаўніцтва, справе наступленьня соцыялістычных элёмэнтаў на ўсім фронце гэтага будаўніцтва, а разам з тым, і справе барацьбы за гегемонію пролетарскай літаратуры пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі".

* БДТ-І нядаўна ў Гомелі наладзіў вечар, прысьвечаны 3-месячніку беларускае пролетарскае культуры і культуры нацменшасьцяй. Дырэктар БТД-І Сэлях зрабіў даклад. Была дана пастаноўка.

* М. Ільлінскі напісаў п'есу „Рунь вясновая", якая друкуецца і хутка выйдзе з друку ў выданьні БДВ. П'еса прысьвечана пытаньням колектывізацыі.

* У хуткім часе ў Ленінград выяжджаюць прадстаўнікі Беларускай і Украінскай Акадэміі Навук для канчатковага заключэньня і падпісаньня дагавору аб соцспаборніцтве паміж Акадэміямі Навук СССР, Беларускай і Украінскай.

* Камісія па ўкладаньню біо-бібліографічнага слоўніка (пры БАН) беларускіх пісьменьнікаў зьвярнулася да краязнаўчых організацый з просьбай дапамагчы ў зьбіраньні матэрыялаў аб беларускіх пісьменьніках і разаслала з гэтай мэтаю спэцыяльныя анкеты,—адказы на якія пачалі ўжо дасылацца.

* У сувязі з колектывізацыяй на вёсцы катэдра беларускай літаратуры (БАН) рыхтуе невялікія хрыстаматыі мастацкіх твораў, прысьвечаных тэмам клясавае барацьбы і соцыялістычнага будаўніцтва.

* На адчыненых сходах катэдры беларускае літаратуры БАН за лістапад—сьнежань м. г. былі прачытаны наступныя даклады: проф. Піотуховіча — „Мастацкая проза

Мурашкі“; праф. Барычэўскага—„Параўнаньне ў літаратурным творы“; праф. Замоціна—„Літаратурная спадчына Петрашкевіча“; В. Т. Мачульскага — „Старажытная украінская драма“ і Ул. Чаржынскага—„Грамадзкая накіраванасьць літаратурнае дзейнасьці Марцінкевіча“.

І ў студзені г. г. былі прачытаны даклады: проф. Піотуховіча—„Плеханаў і вывучэньне фольклёру“; і праф. Барычэўскага — „Француская спроба дыялектыкі літаратурных жанраў“.

* Катэдра гісторыі беларускае літаратуры БАН мае на мэце зараз паставіць на прадпрыемствах і ў рабочых клюбах наступныя даклады аб сучаснай беларускай пролетарскай літаратуры: „Шляхі разьвіцьця сучаснае беларускае літаратуры“. (М. М. Піотуховіч), „Сучасная беларуская пролетарская літаратура“ (Ул. Чаржынскі), „Аб сучаснай беларускай пролетарскай літаратуры“ (В. М. Мачульскі), „Мэтодычная пастаноўка школьнага выкладаньня пролетарскае літаратуры“ (І. І. Замоцін), „Проблемы поэтыкі ў школьным выкладаньні“ (А. І. Барычэйскі). Супрацоўнікі катэдры будуць кансультаваць і інструктаваць літаратурныя гурткі пры рабочых клюбах і дапамагаць у іх практычнай рабоце.

* Калегія НКА згадзілася з паездкай Дзяржаўнага яўрэйскага тэатру на гастролі ў Маскву і Ленінград. Тав. Некрашэвічу даручана дагаварыцца і вырашыць пытаньне аб паездцы 1-га Белдзяржтэатру на гастролі ў Украіну.

* Калегія НКА вырашыла адчыненьне IV Усебеларускай мастацкай выстаўкі прыстасаваць да 10-годзьдзя вызваленьня Беларусі ад белапалякаў. Тэматыка IV Усебеларускай мастацкай выстаўкі—соцыялістычнае будаўніцтва БССР.

* Калегія НКА лічыць неабходным, каб група мастакоў выехала на час веснавой пасеўнай кампаніі ў вёску для зарысоўкі колгаснага жыцьця і будаўніцтва.

* Наркамасьветы БССР лічыць неабходным рабіць пэрыодычныя выезды адказных працаўнікоў партыйных, савецкіх і гаспадарчых організацый БССР у Маскоўскі Беларускі клюб і Ленінградзкі дом Асьветы. Гэта меркаваньне будзе ўнесена на зацьверджаньне СНК.

У другой палове лютага ў зьвязку з трохмесячнікам беларускай і нацменаўскай культуры Наркамасьветы вырашыў правесьці беларускі культурны тыдзень у Маскве і Ленінградзе, куды мяркуецца наладзіць выезд групы пісьменьнікаў, поэтаў, артыстых, сьпевакоў і музыкаў.

Белдзяржвыдавецтву даручана даслаць Маскоўскаму і Ленінградзкаму беларускім клюбам свае выданьні і наладзіць у клюбах кіёскі для продажу літаратуры і збору падпіскі на выданьні БДВ.

Белдзяржкіно даручана абавязаць Ленінградзкую беларускую кіно-фабрыку ўсе кіно-фільмы сваёй вытворчасьці даваць на прагляд у Ленінградзкі Дом Асьветы.

* Заключаны між Бел. дзярж. яўр. тэатрам і БДТ-2 соцдагавор ахапляе 22 пункты. Апрача такіх пунктаў, як узмацненьне працдысцыпліны, сувязі з рабочым гледачом, прыняцьця шэфства над Чырвонай арміяй і адным з колгасаў, падняцьця культполітычнага ўзроўню работнікаў тэатру, у соцдагаворы ёсьць пункты аб павялічэньні работы тэатраў шляхам уключэньня ў рэпэртуар бягучага году чацьвертай пастаноўкі замест трох, вызначаных вытворчым плянам тэатраў, павялічэньня ліку спэктакляў на 10 проц., узмацненьне работы мастацка-політычных саветаў і наладжваньне сувязі з пролетарскімі пісьменьніцкімі організацыямі. Паводле соцдагавору, тэатры павінны рашуча змагацца з усякімі праявамі нацыянал-дэмократызму, шовінізму, антысэмітызму і інш. Першачарговай задачай павінна быць пастаўлена падрыхтоўка новых тэатральных кадраў-

## УКРАІНСКАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

* Вядомую драму Міраслава Ірчана—„Родина щиткарів“ пераклаў на чэскую мову Радзім Фоўстка і яе прыняў Народны тэатр у Празе Міхлі да пастаноўкі, як прэм'еру.

Гэту драму ўзяло для выданьня асобнаю кніжкаю „Робітниче тэатральне видавництво в Чехословаччині“.

Драма гэта перакладзена яшчэ на расійскую мову, яўрэйскую і нямецкую.

* Перакладзена на грузінскую мову п'еса Ів. Мікітэнкі „Дыктатура“. П'еса прынята ў рэпэртуар Тыфлiскага Дзяржаўнага Тэатру.

* Мастацкага кіраўніка тэатру ім. Франке, заслужонага артыстага рэспублікі Ігната Юру запрашаюць у Нью-Ёрк, дзе ён мае паставіць у яўрэйскім рабочым тэатры „Прыгоды бравага салдата Швэйка“.

* Багата рукапісаў з гісторыі старадаўняй і новай украінскай літаратуры зьберагаецца ў Ленінградзкай дзяржаўнай публічнай бібліотэцы, у бібліотэцы Акадэміі Навук СССР, дзяржаўным архіве, Пушкінскім будынку і іншых мясцох.

У гэтых бібліотэках ёсьць шмат дакумантаў з палітычнай і эканомічнай гісторыі Украіны і між імі большая частка „Румянцаўскага апісаньня“ Украіны XVIII стагодзьдзя. Матэрыялы з бытавой этнографіі украінцаў сабраў калісь для расійскага музэю украінскі вучоны Ф. К. Воўк.

У Эрмітажы і Расійскім музэі зьберагаецца цікавы матэрыял з гісторыі украінскага мастацтва. У Акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры ёсьць багата рэчаў, якія стасуюцца да археолёгіі старой Украіны.

У 1921 годзе група вучоных утварыла ў Ленінградзе таварыства спрыяньня украінскай гісторыі, літаратуры і мовы, каб па магчымасьці апрацоўваць ленінградзкія матэрыялы з украіназнаўства. У 1923 годзе Украінская Акадэмія Навук далучыла гэта таварыства да сваіх устаноў. Цяпер таварыства налічвае каля 50 чалавек і праводзіць вялікую навукова-дасьледчую працу ў галіне археолёгіі, гісторыі Украіны, гісторыі украінскай драмы і тэатру, фольклёру, украінскай мовы і этнографіі.

* Інстытут ім. Шэўчэнка прыдбаў больш 100 надзвычайна каштоўных дакумантаў, што засталіся пасьля сьмерці поэты. Сярод дакумантаў—чарнавікі твораў Шэўчэнкі, лісты і інш., а таксама вялікі аўтопортрэт Шэўчэнка.

* У сьнежні м-цы м. г. часопісь „Зоря“ (Дняпропятроўская) адсьвяткавала свой пяцігадовы юбілей.

* З жніўня м-ца м. г. пачала выходзіць новая часопісь „Радянський книгар“—орган Усеукраінскай Рады зьездаў выдавецтваў і кнігагандлёвых организацый.

* Плян Укрнавукі на 1929-30 г. мяркуе организаваць 26 вялікіх навуковых экспэдыцый. Ухваліў далей дасьледваць Ольбію, тэрыторыю Днепрэльстану, вастравоў Бэрэзані і інш. З новых найцікавейшыя дасьледваньні нацменшасьцяй УССР, археолёгічныя дасьледваньні ў Донбасе, вывучэньне стану украінцаў у СССР, дасьледваньне эпохі перасяленьня народаў.

* Пэдагогічная сэкцыя Адэскага навуковага таварыства пры УАН выпусьціла ў сьвет працу М. Гардзіеўскага „Агляд літаратуры з гісторыі пэдагогікі за 10 гадоў“.

* Таварыства сучасных архітэктараў Украіны наладжвае ў Кіеве выстаўку. Выстаўка будзе мець такія аддзелы: „Даеш тэмп“ (з пададдзеламі: будаўнічая пяцігодка, даеш індустрыялізацыю будаўніцтва); новая архітэктура—новы быт (з пададдзеламі: новы быт, новае жыльлё, даеш грамадзкае выхаваньне новага чалавека, даеш культурны адпачынак, даеш колектывізацыю чалавецтва, практыка нашага жылбудаўніцтва); агляд прац (практычныя працы членаў т-ва, установачна-ідэолёгічныя работы); „пожалуйте бриться“ (эклектыкі працуюць, нацыяналістычны ўхіл у архітэктуры); „Пад агонь самакрытыкі“.

* Дзень сьмерці М. Блакітнага (4 сьнежня 1925 г.) шырока адзначыў Інстытут Тараса Шэўчэнка і Будынак літаратуры яго імя, наладзіўшы выстаўку і організаваўшы шэраг дакладаў на прадпрыемствах, клюбах і інш., каб азнаёміць працоўных Украіны з імем і творчасьцю Блакітнага.

* За апошні час літаратурная організацыя украінскіх конструктывістых—сьпіралістых „Авангард“ загрузла ў порнографіі і мяшчанскім, нават контр-рэволюцыйным брудзе. Гэта з асаблівым зухвальствам організацыя прадэмонстравала ў сваёй часопісі „Авангард“ № 3.

Літаратурная грамадзкасьць і прэса гостра асудзілі выступленьне „Авангарду“.

У „Комунісьце“ была надрукована заява правадыра організацыі „Авангард“ і рэдактара гэтай часопісі В. Палішчука, дзе ён прызнаў і асудзіў памылкі і ўхілы, якія дапусьціла організацыя.

* „Закордбюро“ ДВУ пашырае асортымэнт экспартаванай украінскай кнігі. Яно мае вялікія заказы на мастацкую літаратуру сучасных пісьменьнікаў і завязала гандлёвыя адносіны з Нью-Ёркам, Канадай, Аргентынай. У апошні час удалося пракласьці шлях у Уругвай і наладзіць сувязь з аб'яднаньнем ім. Т. Шэўчэнка ў Монтэвідэе.

* Увосень мінулага году музэй украінскіх дзеячоў навукі і мастацтва выправіў у навуковае падарожжа на Белацаркоўшчыну сваіх супрацоўнікаў. У заданьні падарожжа было—фотографаваць і замалёўваць мясцовасьці і тыпаў, зьвязаных з імем Нечуя-Левіцкага. Падарожжа ішло пад дэвізам „Шляхом життя і творчости Нечуя-Левіцького“.

Найцікавейшым момантам падарожжа было наведваньне мясцовасьцяй, якія маюць сувязь з творчасьцю пісьменьніка. Тутака сфотографавана шмат краявідаў, будынкаў, цэркваў, якія могуць стаць ілюстрацыяй да твораў Ів. Нечуя-Левіцкага.

* У краявую камісію па справе аховы помнікаў матэрыяльнай культуры паступіла некалькі костак пячорных жывёл, знойдзеных у адэскіх катакомбах. Знаходка гэта мае вялікую навуковую цікавасьць.

Сярод пададзеных костак ёсьць косткі даўно памершых пячорных мядзьведзяў, гіены і лева.

* Навакол Днепрэльстану вырашана пабудаваць у працягу пяці год горад. Да 1933 году горад гэты будзе мець 230 тысяч насельніцтва. Пры пабудове гораду будуць выкарыстаны найноўшыя дасягненьні тэхнікі. Пабудова пачнецца ў гэтым годзе. Горад будзе называцца—Запарожжа.

* „Prager Presse“ (Праская прэса) ад 20 жніўня м. г. прысьвяціла заметку навінам украінскай літаратуры. У ёй названы зборнікі поэзіі М. Варанога і У. Сасюры, зборнік новэль Ар. Любчэнка—„Вока“, „Роман Міжгір'я“ Івана Ле. Да гэтага дададзены кароценькія характарыстыкі творчасьці гэтых пісьменьнікаў.

* Газэта „Пшэдсьвіт“ (Польшча) зьмясьціла допіс пра стан украінскай

прэсы ў Польшчы. У допісе зазначаецца, што ў 1918 годзе пасьля Заходня-украінскай рэволюцыі — было 277 пэрыодычных выданьняў. Цяпер лік выданьняў зьменшыўся да 122. Аўтар допісу не гаворыць пра тое, што прывяло да гэткага стану украінскую прэсу, бо іначай давялося-б гаварыць пра тэрор і рэпрэсіі польскай улады.

* Нямецкае таварыства вывучэньня народаў усходу разам з Украінскім таварыствам культурнай сувязі з закардонам, наладзілі ў Бэрліне вялікую выстаўку украінскага мастацтва. У часе выстаўкі будзе організаваны тыдзень украінскай музыкі з удзелам украінскіх сіл, якія спэцыяльна для гэтага пасылаюцца ў Бэрлін.

* На Холмшчыне (Польшча) перастала выходзіць адзіная украінская газэта „Наше життя". Усе яе рэдактары заарыштаваны і знаходзяцца ў турме за тое, што пісалі праўду пра польскі рэжым.

* Часопісь „Свобода" за 29-IX м. г. паведамляе, што чэская ўлада, помстуючыся за ўдачны зьезд украінскай моладзі, высылае з закардоннай Украіны поэта Сьпірыдона Чэркасенка і звальняе з працы ў гімназіі поэта Васіля Пачоўскага.

* У Буэнос-Айрэс (Аргентына) прыяжджае вядомы украінскі дырыжэр Мікола Малько, які доўгі час працаваў на Украіне. Мікола Малько ў працягу гэтага зімовага сэзону дырыгавацьме сымфонічным оркестрам у Буэнос-Айрэсе.

* Сербскі фашысцкі ўрад у апошнія часы цяжка прыгнечвае украінцаў, якія жывуць у Босьніі (12 тыс.). Сурова забараняецца падпісвацца на украінскія часопісі і кніжкі.

# КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА РСФСР

* У Маскве пры клюбе пісьменьнікаў адчыняецца кіногабінэт, які ставіць сваёй задачай орыентаваць пісьменьніка ў пытаньнях кінематографіі. Да ўдзелу ў працы кіногабінэту прыцягваюцца працаўнікі Савкіно, сцэнарная сэкцыя МОДПИК, АРКК і іншыя організацыі.

У плян работы габінэту ўваходзіць вывучэньне тэорыі сцэнарыя, як літаратурнага жанру, цыкль інформацыйных гутарак відных спэцыялістых па кінематографіі, вытворчая праца над сцэнарыем (тэорыя і практыка) і г. д.

Для пісьменьнікаў організоўваюцца экскурсіі на маскоўскія кінофабрыкі. Савкіно мяркуе організаваць у клюбе пісьменьнікаў даклады аб сваёй дзейнасьці з шырокім абгаварэньнем выпускаемай продукцыі.

У клюбе пісьменьнікаў Савкіно організоўвае два разы ў месяц агляды сваіх новых фільмаў. Кіногабінэт кожныя пяць дзён будзе праводзіць для актыву габінэту чытку кіносцэнарыяў і прагляды фільмаў.

* На днях ЦБВ быў праведзены ў клюбе Наркамзему вялікі творчы вечар „Кузніцы“. Перад чыткаю літаратурных твораў быў зроблен т. Іоселем даклад аб пісьменьніках—кавалях. Гэты даклад, разам з характарыстыкамі асобных пісьменьнікаў, даў яркае ўяўленьне аб разыходжаньнях „Кузніцы“ з іншымі пісьменьніцкімі групоўкамі.

* Нядаўна адбыўся зьезд УУАРП (Усеўдмурцкая асоцыяцыя пролетарскіх пісьменьнікаў, якія ўваходзяць у РАПП). На зьезьдзе прысутнічалі амаль усе значныя сілы Удмурціі акрамя самых правых, якіх даўно ўжо вычысьцілі з сваіх шэрагаў УУАРП. Зьезд цягнуўся цэлы тыдзень і зьяўляўся ня толькі парадам сіл для нізавых пластоў УУАРП, але і сваясаблівым сэмінарыям для нізавых пластоў пісьменьнікаў Удмурціі, што прыехалі з глыбокіх сёл краіны.

Актыў удмурцкай літаратуры налічвае яшчэ пакуль толькі некалькі імён, але палкае жаданьне тварыць, ведаць, будаваць новае жыцьцё адчувалася ўва ўсіх выступленьнях на зьезьдзе.

* На сходзе актыву раённых гурткоў МАПП, 26 студзеня, т. А. Фадзееў зрабіў надзвычайна цікавы даклад „аб рабоце пісьменьніка над запісной кніжкай“. Такі вопыт выноскі пісьменьніцкай лябораторнай працы ў шырокую аўдыторыю (акрамя друку) зьяўляецца першым. Гэты бок першапачатковага накапленьня літаратурных матэрыялаў нават у старых майстраў (Талстога, Чэхава) недастаткова асьветлены, што-ж датычыцца сучасных аўтараў, дык тут справа абмяжоўваецца некалькімі артыкульчыкамі ў пэрыодычным друку аб дзейнасьці некаторых толькі аўтараў (Маякоўскага, Фурманава, Леонава і інш.).

* Выканбюро ФОСП даручыла сакратарыяту ФОСП дагаварыцца з буйнейшымі выдавецтвамі і рэдакцыямі літаратурна-мастацкіх часопісяй аб стварэньні камісіі для конкрэтнай прапрацоўкі пытаньняў па організацыі адзінай літконсультацыі пры ФОСП.

* Нядаўна праведзена перарэгістрацыя членаў ленінградзкага аддзяленьня ВОКП, у выніку якой засталося ў організацыі 46 чалавек. Выключана за творчую пасыўнасьць і мэханічна выбыла 17 чалавек.

* ВОСП, організоўваючы ў канцы лютага месяца выстаўку „Писатели и социалистическое строительство", зьвярнуўся да ўсіх літаратуных аб'яднаньняў, літгурткоў пры рабочых клюбах і колгасах, мастацкіх таварыстваў, профэсыянальных організацый і асобных таварышоў як у Маскве, гэтак і ў іншых гарадох, з просьбай прыслаць адпаведныя матэрыялы: рукапісаў, кніг, дакумантаў, фотоздымкаў, асобных нумароў пэрыодычнага друку, плякатаў, якія-б характыразавалі актыўны ўдзел літаратурных груп і асобных пісьменьнікаў у соцыялістычным будаўніцтве.

* Г. Нікіфараў і Іс. Клейнер скончылі новую п'есу пад назваю „Женщина".

* Л. М. Празароўскі—сааўтар п'есы „Сигнал"—напісаў новую п'есу на тэму аб антысэмітызьме—„Мгла". П'еса напісана ў стылі соцыяльнай мэлёдрамы.

* Ів. Лебедзеў скончыў бытавую п'есу „Половодье" з эпохі рэволюцыйнага руху ў вёсцы ў 1905 годзе.

* М. Бэрэсьцінскі і Д. Фібіх закончылі новую п'есу „Пепел". Сюжэт пабудаваны на генэральнай лініі партыі ў вёсцы.

* А. Папоўскі інсцэніраваў свой роман „Анна Калымова".

* Н. Вінаградаў і Як. Окунеў скончылі драму „Отрыв", якая паказвае інтэлігенцыю ў рэконструкцыйны пэрыод.

* Тэатр аўтара ім. Максіма Горкага прыняў да пастаноўкі п'есу Н. І. Фалеева „Командные высоты".

* Нікалай Нікіцін скончыў п'есу „Азия", напісаную ў пляне романтычнай комэдыі. Яе тэма—будаўніцтва, як няспынная барацьба новай соцыялістычнай культуры з цемрай бытавых і эканомічных звычак і традыцый.

* К. Ліпскераў скончыў новую комэдыю „Волшебные сапоги"—аб гарасных і забаўных прыгодах прыгоннага хлапца і дзяўчыны. Дзея разгортваецца на гістарычным фоне апошніх гадоў панаваньня Мікалая І.

* Найбольш буйныя маскоўскія тэатры, у тым ліку Тэатр ім. Мейерхольда, Камерны, Тэатр Рэволюцыі, Тэатр ім. МОСПС, Тэатр ім. Станіслаўскага і Неміровіча-Данчэнка і інш.—выдзелілі агітацыйна-мастацкія брыгады для абслугоўваньня веснавой пасеўнай кампаніі. Тэатральныя брыгады выедуць на месцы зараз-жа пасьля атрыманьня маршрутаў ад цэнтральнага штабу па мастацкаму абслугоўваньню пасеўнага фронту

* Маскоўскі Мастацкі Тэатр І паказаў 30 студзеня ў першы раз новую савецкую сцэнічную інтэрпрэтацыю роману Л. Талстога „Воскресение", у пераробцы Ф. Ф. Раскольнікава. Рэжысэр спэктаклю І. Судакоў. Кіраўнік—В. І. Неміровіч-Данчэнко.

* Драмсэкцыя Драмсаюзу вынесла шэраг пастаноў, якія маюць за мэту набліжэньне яе працы да шырокай савецкай грамадзкасьці. Акрамя адкрытых чытак новых п'ес, драмсэкцыя організавала ўдарную брыгаду драматургаў, якая будзе зачытваць свае творы на фабрыках і заводах. Намечана організацыя паездак аўтараў у колгасы і ў раёны суцэльнай колектывізацыі. У бліжэйшы час пачнецца праверка складу сэкцыі для ачысткі яе ад асоб, якія згубілі сувязь з драматургіяй.

* Бюро дапамогі пачынаючым драматургам, організаванае Саюзам Рэволюцыйных Драматургаў, атрымала для водзыву, за час—верасень-сьнежань мінулага году 54 п'есы пачынаючых аўтараў—у большасьці сялян, рабочых, сельскіх настаўнікаў і студэнтаў. Аб кожнай п'есе дадзена ў сярэднім па дзьве рэцэнзіі.

Саюз Рэволюцыйных Драматургаў вызначыў чатырох пачынаючых аўтараў, п'есы якіх былі ўхвалены, т. т. Пэрэднічанка, Дзедзюхіна, Горыча і Савіна, з якімі наладжана непасрэдная сувязь.

* 3 лютага адбыўся сход ініцыятыўнай групы па стварэньню Маскоўскай асоцыяцыі работнікаў рэволюцыйнай музыкі.

* Фабрыка культурфільмы Савкіно прыняла сцэнарый рэжысэра Б. Кантора „Посевная компания", які дае асноўныя лёзунгі да надыходзячай пасеўнай кампаніі.

* У студзені м-цы ў Доме ім. Герцэна адбыўся грамадзкі паказ лялькавага тэатру, якім кіруе т. Шалімаў. Рэпэртуар гэтага тэатру сатырычны і самі лялькі зьяўляюцца злымі карыкатурамі на тых, каго яны паказваюць.

* Выд-тва „Работник просвещения" прыступіла да выпуску сэрыі літаратурна-мастацкіх твораў, якія малююць тыпы асьветнікаў (профэсары, настаўнікі, хатнікі і г. д.). Да ўдзелу ў сэрыі прыцягнуты: Н. Огнеў, А. Якаўлеў, Д. Стонаў, С. Ужгін, Г. Нікіфараў і інш. Адказны рэдактар сэрыі — М. Ольшэвец.

* Габінэт па вывучэньні працы і быту пісьменьніка пры клюбе ФОСП наладзіў пад старшынствам А. С. Якаўлева гутарку, прысьвечаную абгаварэньню артыкулу Л. Капыловай (зьм. у час. „Октябрь", кн. 10, 1929 г.) Выступленьні шэрагу таварышоў паказалі, што тэма дыспуту зьяўляецца вельмі цікавай для пісьменьнікаў і літаратуразнаўцаў. Тутака адзначалася каштоўнасьць пастаноўкі Л. Капыловай амаль нераспрацаваных пытаньняў псыхолёгіі творчасьці пісьменьніка і, у прыватнасьці, проблемы творчага натхненьня.

* Прэзыдыум РАНИОН, у сыстэму інстытутаў якой увайшла і ГАХН, праводзіць поўную рэорганізацыю акадэміі і яе асабовага складу. Прэзыдыум РАНИОН аднавіў склад прэзыдыуму ГАХН, які цяпер ужо зацьверджан Наркамасьветы.

* У канцы мінулага году адбылася чарговая сэсія Акадэміі Навук СССР. На парадку дню стаяў шэраг важных пытаньняў: абгаварэньне проэкту новай структуры і новага статуту Акадэміі Навук, організацыя інстытуту асьпірантаў, пытаньне пра каштарыс і штаты, даклад камісіі аб праверцы апарату, організацыя дэмографічнага інстытуту і інш. РСФСР на сэсіі была прадстаўлена акадэмікамі: Н. Бухарыным, Г. Кржыжаноўскім, М. Пакроўскім, Д. Разанавым і А. Бах; Украіна — М. Грушэўскім, В. Бузэскулам.

* 19 студзеня г. г. памёр поэт і перакладчык Леонід Іванавіч Андрусон. Нябожчык нарадзіўся 5 жніўня 1875 году. Вучыўся ў Норвэскай гімназіі, але з восьмай клясы быў выключаны за тое, што чытаў нелегальную літаратуру. У 1897 годзе быў арыштаваны. Літаратурная дзейнасьць Андрусона пачалася ў 1899 г. перакладамі Гайнэ і Баумбаха. Популярнасьцю карыстаюцца яго пераклады Бэрнса. Андрусон супрацоўнічаў у пэрыодычных выданьнях, і імя яго, як поэты, у дарэволюцыйныя гады было вельмі популярным. Як поэт, Андрусон належыць да лірыкаў фофанаўскага толку. Асобнымі выданьнямі ў Андрусона вышлі дзьве кнігі „Сказка любви" (1908) і „Стихи" (1921). Пахавалі Андрусона 23 студзеня на літаратарскіх масткох Волкавых могілках.

* Пры ленінградзкім Доме друку адчыняецца першы рабочы літаратурны унівэрсытэт, організаваны Домам друку разам з Фэдэрацыяй савецкіх пісьменьнікаў і Краев. політасьветам.

* У сувязі з гадавінай Чырвонай арміі 15 лютага пачаўся „Тыдзень вайсковай кнігі". Усюды ў часьцях Чырвонай арміі будуць праведзены конкурсы „Лепшага чытача вайсковай кнігі" і організаваны спэцыяльныя выстаўкі. У бібліатэках будзе праведзен шэраг лекцый, гутарак і дакладаў.

# ХРОНІКА КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЬЦЯ ЗСФСР

* Т-ва мастакоў Грузіі організавала ў Тыфлісе чарговую выстаўку малярства і скульптуры. У выстаўцы бяруць удзел каля 40 мастакоў. Дасягненьні ў параўнаньні з мінулым годам значныя, але адчуваецца адставаньне ад вымаганьняў сучаснасьці.

З мастакоў, якія маюць ужо пэўнае аблічча і імя, выгодна выдзяляюцца працамі—Ладо Гудзіашвілі „Парыская комуна" і Арсен Джорджыашвілі „Перад заслонаю" і інш. З скульптуры—Я. Ніколадзе—„Ленін", „Філіп Махарадзе" і інш.

* Пры Дзяржвыдаце Грузіі ўтворана спэцыяльная сэкцыя ў справе выданьня клясыкаў—грузінскіх і чужаземных на грузінскай мове. Да гэтай справы ўцягнуты лепшыя навуковыя і літаратурныя сілы.

* У лютым м-цы г. г. вышаў першы том твораў Карла Маркса на грузінскай мове.

* У лістападзе м. г. адбыўся пленум Праўленьня асоцыяцыі пролетпісьменьнікаў Грузіі.

* Профэсар Дзяржаўнага Тыфліскага Унівэрсытэту Ахвэндзіяні Г. С. заканчвае вялікую організацыйную працу па выданьні украіна-грузінскага слоўніка.

* Нядаўна выйшла ў выд-ве „Закніга" праца Б. Буачыдзе—„Шляхі сучаснай грузінскай літаратуры".

* „Гракан Дыркерум" орган Армянскай АПП вызначаецца багацьцем і featured разнастайнасьцю матэрыялаў.

* Першая група Арменкіно закончыла натурныя здымкі фільму „Сыгнал ля вадаспада"—гэта антырэлігійная карціна, якая дэмонструе эксплёатацыю працоўнага сялянства духавенствам.

* На 1929-30 год у выдавецкі плян Азэрбайджанскага дзяржаўнага выдавецтва ўключана 100 друкаваных аркушаў твораў пролетарскіх пісьменьнікаў. З 1 студзеня 1930 году выйшла з друку шэсьць зборнікаў твораў пролетпісьменьнікаў.

* З сьнежня м-ца м. г. пачала выходзіць штомесячная літаратурна-мастацкая часопісь. Часопісь зьяўляецца органам Азэрбайджанскай асоцыяцыі пролетарскіх пісьменьнікаў і друкуе выключна творы пролетарскіх пісьменьнікаў.

## КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА ТУРК. ССР

* Па-за чарговая сэсія Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту ўхваліла цалкам вылучыць з ужытку арабскі альфабэт.

31-га кастрычніка м. г. раней тэрміну, вызначанага пастановаю ўраду ТССР усё туркменскае пісьменства— школа, прэса і справаводзтва—пераведзена на новы туркменскі лацінізаваны альфабэт.

* Дзяржаўнай бібліотэцы ў Турк. ССР у свой час былі наданы функцыі кніжнай палаты. Цяпер, згодна пастановы СНК Турк. ССР, кніжную палату вылучылі з бібліотэкі і рэорганізавалі ў самастойную, цэнтральна-кнігазнаўчую і навукова-дасьледчую ўстанову Туркменіі.

* У горадзе Ашхабадзе ў 29-30 г. пачаў стала функцыянаваць першы Туркменскі нацыянальны тэатр. У склад яго трупы ўваходзяць вучні колектыву туркменскай студыі.

Асноўную сваю работу нацыянальная трупа разгортвае ў аулах.

## ЗАМЕЖНАЯ КУЛЬТУРНАЯ ХРОНІКА

### Амэрыка

* Цікавую антолёгію з літаратурных твораў пад назваю „Пяць поэтаў“ выдрукавала выдавецтва Гарысон. Гэта творы пяці таленавітых маладых прадстаўнікоў сучаснае амэрыканскае лірыкі: Эліт Майрык, Норман Мэк-Леод, Бэнджэмэн Мэссэр, Джуэль Мільлер і Ізабэль Стон. З іх Эліт Майрык і Норман Мэк-Леод, між іншым, найбольш выдатныя мастакі, блізка стаяць да сучаснае пролетарскае амэрыканскае поэзіі.

* З маладых амэрыканскіх пісьменьнікаў вылучыўся апошнім часам Джон Ідваль, пісьменьнік з пэўным соцыяльным ухілам у сваіх творах. Апошні яго роман, „Крыцэвы стружкі“, выклікаў надзвычайна правільную ацэнку Уптона Сынклера. Матэрыял для свайго роману Ідваль узяў з уласных уражаньняў у часе чатырохгадовай сваёй працы на аднэй вялікай амэрыканскай фабрыцы.

* Рэволюцыйна вытрыманы і адначасна высока-мастацкі соцыяльнабытавы роман дала пісьменьніца Агнэс Смэдлі ў кнізе „Дачка зямлі“. Зьмест яго—жыцьцё амэрыканскіх фэрмэраў-беднякоў. Крытыка параўноўвае яго з найлепшымі творамі Джэка Лёндона.

* З кніжак мастацкай літаратуры апошніх месяцаў зьвярнулі на сябе ўвагу два творы пісьменьніка Альсідэс Грэка. Першы—роман-хроніка провінцыяльнага аргентынскага жыцьця. Фонам служаць палітычныя падзеі і паўстаньні індыйцаў. Назва гэтага твору „Viento Norte“ (Паўночны вецер). Другі твор—апісаньне ўражаньняў ад падарожжа па Аргентыне, Чылі, Перу, Болівіі і Уругваю, напісаны жвава і мастацка.

### Гішпанія

* У Гішпаніі існуе камітэт з найвядомейшых пісьменьнікаў, які штомесяц вызначае адну найлепшую кнігу з гішпанскай літаратуры і рэкомэндуе для чытаньня лепшыя кнігі як з гішпанскай, гэтак і перакладзеныя з чужаземнай літаратуры. За кастрычнік найлепшай кнігай вызначаны твор Фэдэрыко Гарыа Санхоз—„EL. Wiaje a Espana“. З перакладных рэкомэндавана „Маё жыцьцё“ Айсэдоры Дункан і „Тры майстры“—Стэфана Цвайга.

* Вялікую ўвагу зьвярнуў на сябе новы роман Іокіма Ардэрыуса, аднаго з таленавітых перадавых пісьменьнікаў Гішпаніі, які належыць да малодшай генэрацыі. Роман называецца: „Las principes ignales“. Гэта малюнкі напоўфантастычнага нязвычайнага жыцьця двух прадстаўнікоў старой арыстократыі ў старым палацы. Надзвычайны гумар, сіла сатыры, выразнасьць вобразаў, мастацкасьць стылю—вось асноўныя рысы кнігі Ардэрыуса.

### Італія

* Часопісь „Salaria“ прысьвяціла вялікі нумар памяці пісьменьніка Італо Свэво, які трагічна памёр у мінулым годзе. Адначасна ў выд-ве Морэале ў Мілане выйшаў том твораў пісьменьніка, які зьмяшчае багата ненадрукаваных яшчэ новэль. Кніга

мае назву аднаго апавяданьня „Гісторыя пра добрага старога і добрую дзяўчыну“. Думаюць, што гэта апавяданьне мусіла быць сканчэньнем вялікага роману „Стары“, над якім Свэво працаваў перад сьмерцю і пакінуў нясконченым.

У Трыесьце выйшла кніга Фэдэрыко Шэрнбэрга, прысьвечаная досьледу творчасьці Італо Свэво. Шэрнбэрг вялікі прыхільнік пісьменьніка і ставіць яго нават вышэй за Джомса Джойса і Марсэля Прута.

* Італьянская крытыка адзначае новы роман Альфрэда Паньціні „La vadi Gavour“ (Жыцьцё Кавура). Роман цікавы з боку гісторыка-біографічнага, але хібіць у майстэрстве выкананьня. Рымская часопісь L'Italia Letararia“ (Літаратурная Італія) друкуе на сваіх старонках урыўкі з гэтага роману.

* Сонэты выдатнага рымскага поэты мінулага стагодзьзя Бэльлі, які адлюстроўваў у сваёй творчасьці быт роднага яму беднага люду Рыму, нядаўна выдаў у Катаніі Гвайтоміні. Кніжка выйшла з прадмоваю Райя і складаецца з 316 выбраных сонэтаў.

* Энрыко Пічэні выпускае штогод том сваіх крытычных артыкулаў пад назваю „Lo bancarolla delle novita“. Гэтыя зборы карыстаюцца вялікім посьпехам, аднэю з прычын якога зьяўляецца надзвычайна лёгкі жвавы стыль Пічэні. У гэтым годзе томік „La bancarolla“ зьмяшчае дужа цікавы матэрыял. Тут ёсьць некалькі портрэтаў маладых сучасных гумарыстых Італіі: Кампанілэ, Фраціні, Буціні, орыгінальны артыкул пра Джардзіні, аднаго з вядомых пісьменьнікаў з філёзофскім напрамкам. Глыбіня ацэнкі, дасьціпнасьць выражэньняў, орыгінальнасьць у стаўленьні да літататурных зьявішч, а разам з тым жвавасьць, лёгкасьць стылю, уменьне зацікавіць простага чытача—робіць з Енрыко Пічэні аднаго з найпопулярнейшых крытыкаў Італіі.

**Нямеччына**

* У канцы кастрычніка м. г. памёр поэта, піонэр натуралістычнага напрамку ў нямецкай поэзіі—Арно Гольц. Ён не пакінуў пасьля сябе багата твораў. Першая яго кніга „Кніга сучаснасьці“, выдадзена ў 1865 годзе. Але яна прайшла незаметна. Ня прынесьлі славы аўтару і іншыя яго творы таго ж напрамку, але значэньне іх для нямецкай літаратуры вялікае. Арно Гольц усётакі застаўся піонэрам таго літаратурнага руху, што перамог нямецкі романтызм.

* Новая кніга Стэфана Цвайга носіць назву „Ioseph Fonche“. Падзагаловак яе „Постаць політычнага дзеяча“. Цвайгу ўдалося з вялікаю мастацкасьцю намаляваць важную для характарыстыкі фігуру таго „Хамелеона“ ў політыцы і стварыць соцыяльны вобраз. Акрамя таго моцныя месцы кнігі—сцэны барацьбы Фрушэ і Робэсп'ера.

* Леонар Франк напісаў роман „Брат і сястра“ з дужа складаным сюжэтам. Крытыка зазначае, што пісьменьнік справіўся з сваім заданьнем, і кажа, што гэта яго твор вялікі крок наперад.

* У сьнежні м-цы Суполка пролетарскіх пісьменьнікаў організавала вулічны продаж літаратуры. Калі пролетарскі пісьменьнік Курт Пэтэрсон зьвярнуўся з прамоваю да публікі, якая сабралася каля кніжнага кіоску, поліцыя арыштавала яго. Прысутныя рабочыя гэтак былі абураны арыштам Пэтэрсона, што сілаю адбілі яго ў поліцыі і прымусілі яе ўцячы.

Спэцыяльны поліцэйскі атрад заарыштаваў Іоганэса Бэхэра і шэраг іншых выдатных поэтаў і пісьменьнікаў. Арыштаваных трымалі ў поліцэй-прэзыдыуме амаль цэлы дзень.

**Португалія**

* „Эміграныты“ маладога новэлістага Фэрэйра дэ Кастра, не зважаючы на жвавую полеміку, якую яны выклікалі ў Бразыліі, слабейшая рэч

за папярэднія творы гэтага пісьменьніка. Занадта вузкія нацыянальныя погляды, з якімі ён выступае пры трактаваньні эміграцыі ў Бразылію, робяць нядобрае ўражаньне.

* Гаспар Суза Дэіас выпусьціў некалькі хронік пад назваю „Лісты з Анголы“. Гэта адна з найцікавейшых кніг з колёніяльнай літаратуры Португаліі.

**Вэнгрыя** (Угоршчына)

* Александр Жоржэлі напісаў новы роман пад назваю „Szu“ тэма яго — малюнак жыцьця маленькага ўгорскага мястэчка, пададзена з вялікай мастацкасьцю. Гэта адна з найвыдатнейшых рэчаў пасьляваеннай літаратуры угоршчыны.

* Выдатным зьявішчам для угорскай літаратуры ў апошні час было зьяўленьне зборніка поэм Эдмонда Міхалача „Я чакаю гарліцу“. Аўтар гэтага зборніку нядаўна паў ахвяраю аўтомобільнай катастрофы. Угоршчына страціла ў яго асобе аднаго з сваіх найлепшых поэтаў.

**Францыя**

* Апошні твор Мішэля Мэрлея „Успаміны лютых дзён“, які друкаваўся дагэтуль урыўкамі ў часопісах „Эўроп“ і „Юманітэ“ („Europe“ і „Humanite“), зьяўляецца дзеньнікам францускага салдата, які змагаўся ў 1915—18 гг. сьпярша на нямецкім, а потым на Салоніцкім фронце. У кароткіх, жывых і таленавітых зарысоўках фронтавага жыцьця аўтар з вялікай мастацкай пераконанасьцю акумулюе няўхільнае нарастаньне ў салдацкіх масах протэсту супроць імпэрыялістычнай бойні.

Выпуск гэтага твору ў расійскім перакладзе мяркуецца ў 1930 г.

У няроўных клясавых суадносінах у літаратуры Францыі Мішэль Мэрлей—незнаёмае дагэтуль савецкаму чытачу імя—салдат пролетарскай рэволюцыі.

* Надзвычайна добрую кнігу з дзіцячага жыцьця падала пісьменьніца Жанна Гальзі. Кніга называецца: „L'initia trice auf mains vides“. Каштоўнасьць яе ў глыбокім знаньні дзіцячай псыхолёгіі, адсутнасьці банальных месц у трактаваньні дзіцячых перажываньняў.

**Баўгарыя**

* Нядаўна ў Софіі пачала выходзіць новая літаратурная газэта „РЛФ“ (Рабочы літаратурны фронт). Першы нумар газэты быў конфіскаваны, а рэдактар адданы суду, на падставе фашысцкага закону аб ахове дзяржавы.

У сваёй адозьве да супрацоўнікаў РЛФ, рэдакцыя заяўляе, што газэта зьяўляецца дзіцем эпохі ўздыму рабочай клясы Баўгарыі і будзе імкнуцца стаць усебаковым выказьнікам яго ў галіне культуры, і падкрэсьлівае, што ня будзе зьмяшчаць творы тых аўтараў, якія будуць супрацоўнічаць у буржуазных выданьнях і ня ідуць у ногу з прынятай рабочымі організацыямі клясавай тактыкай, нават у тым выпадку, калі гэтыя творы выдатныя.

У спэцыяльнай рубрыцы аб культурным будаўніцтве ў СССР газэта паведамляе аб адчыненьні радыёстанцыі ВЦСПС.

У другім нумары РЛФ зьмешчаны сьпіс (32 чал.) рэдактароў розных пролетарскіх выданьняў у Баўгарыі, пасаджаных у турмы па тым-жа фашысцкім законе аб ахове дзяржавы. З гэтага відаць, што ў панстве белага тэрору крывавых Цанкова-Ляпчава, кожная праява клясава-пролетарскай думкі зьнішчаецца бязьлітасна.

*Рэдакцыйная колегія:* **А. Менскі, Я. Купала, А. Некрашэвіч, М. Чарот, І. Шыпіла.**

*Выдавец:* **Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва.**

## ЗЬМЕСТ

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ на 1930 г.

НА ШТОМЕСЯЧНУЮ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКУЮ,
ГРАМАДЗКА-ПОЛІТЫЧНУЮ
ЧАСОПІСЬ

# „МАЛАДНЯК“

8-мы ГОД ВЫДАНЬНЯ

Орган Беларускай Асоцыяцыі Пролетарскіх Пісьменьнікаў

**ПАТРАБУЙЦЕ**

ва ўсіх кнігарнях Белдзяржвыдавецтва, у коопэрацыйн. крамах Белкоопсаюзу, ва ўсіх газэтных кіёсках

**І ЧЫТАЙЦЕ**

**„МАЛАДНЯК“**

Цана асобн. нумару **40** кап.

„МАЛАДНЯК“ зьяўляецца баявой часопісьсю ў барацьбе за пролетарскую літаратуру.

„МАЛАДНЯК“ на сваіх старонках будзе і надалей рашуча праводзіць цьвёрдую пролетарскую лінію ў галіне літаратуры, рашуча змагацца са ўсялякімі хістаньнямі і ўхіламі, са шкоднымі тэндэнцыямі і варожымі праявамі ў літаратуры.

„МАЛАДНЯК“ у 1930 годзе дасьць сваім падпісчыкам лепшыя ўзоры пролетарскай літаратуры (романы, аповесьці, апавяданьні, поэмы, вершы, драматычныя творы).

„МАЛАДНЯК“ у 1930 годзе зьмяшчае шэраг артыкулаў па пытаньнях пролетарскага мастацтва і творчых дасягненьнях беларускай пролетарскай літаратуры, а таксама літаратуры братніх рэспублік.

„МАЛАДНЯК“ будзе даваць аддзел сатыры і гумару (шаржы, пародыі, літаратурныя гумарэскі і фэльетоны).

У „МАЛАДНЯКУ“ будзе давацца багаты аддзел бібліографіі і хронікі культурнага жыцьця як БССР, гэтак і іншых рэспублік.

**У ЧАСОПІСІ БЯРУЦЬ УДЗЕЛ ЛЕПШЫЯ СІЛЫ ПРОЛЕТАРСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ І МАРКСЫЦКАЙ КРЫТЫКІ**

## У 1930 ГОДЗЕ Ў СКЛАД СУПРАЦОЎНІКАЎ УВАХОДЗЯЦЬ:

Александровіч А., Аляхновіч М., Астапенка З., Аршанскі Б., Бандарына З., Барашка Іл., Баранаў С., Бобрык Я., Броўка П., Будзінскі С., Бузук П. проф., Бухаркін У., Бядуля З., Быкавец М. (Харкаў), Бэндэ Л., Вазёрны Я., Вансоўскі, Вечар А., Васілевіч Я., Васілеўскі Д., Вішнеўская Н., Галавач П., Гародня А., Гарэцкі М., Гаўрук Ю., Губарэвіч К., Гурло А., Гурскі І., Дунец, Друскоўскі, Дыла Я., Ефімаў Н. проф. (Смаленск), Жылуновіч З. (Ц. Гартны), Замбржыцкі С., Звонак Ал., Івашын Я. Ігнатоўскі Ў. проф., Каваль В., Канакоцін О., Карак Ул. (Харкаў), Касьяровіч М., Каваленко Б. (Кіеў), Колас Я., Кулік І. (Харкаў), Купала Я., Кучар Ал., Ліманоўскі Я., Ліхадзіеўскі С., Лынькоў М., Лявонны Ю., Мазуркевіч Я., Маракоў В., Масэнко Т. (Харкаў), Мікітэнка І. (Харкаў), Мікуліч Б., Моркаўка А., Мурашка Р., Некрашэвіч Ал., Нікановіч М., Нёманскі Я., Плаўнік І., Пракунас А. Бр. (Масква), Прыбыткоўскі Ў., Пфляўмбаум Е., Салагуб А., Селівановскі А. (Масква), Скрыган (Відук Я.), Сутырын В. (Масква), Сташэўскі В., Сянькевіч А., Сякерская Я., Таўбін Ю., Траецкі А., Туміловіч Я., Усэнка П. (Харкаў), Фамін С., Хадыка Ул., Хадкевіч Т., Харык І., Хведаровіч М., Хурсік С., Чарот М., Чарвякоў Ал., Шушкевіч С., Шчакаціхін М. ды інш.

**Кожная партыйная і комсамольская ячэйка, клюбная бібліотэка, чырвоны куток фабрыкі і заводу, нардом, хата-чытальня, школа, літгуртон—павінны выпісаць час. „МАЛАДНЯК“.**

**Рабочы, селянін, настаўнік, студэнт, кожны, хто цікавіцца пытаньнямі літаратуры і мастацтва, выпісвайце і чытайце час. „МАЛАДНЯК“.**

**У 1930 годзе часопісь будзе выходзіць рэгулярна кожны месяц на 10 аркушах.**

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| на год | на 6 м. | на 3 м. | на 1 м. |
|---|---|---|---|
| 3 руб. | 1 р. 60 к. | 90 кап. | 30 кап. |

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, агенцтвах, ва ўсіх кнігарнях Белдзяржвыдавецтва, усімі аддзяленьнямі „Правда“ і спэцыяльнымі ўпаўнаважан. Выд. „Чырвоная Зьмена“

Падпіску можна пасылаць у Выд-ва „Чырвоная Зьмена“ па адрасу: Менск, Комсамольская, 25, альбо непасрэдна на адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68, „Дом Пісьменьніка“, рэдакцыі „Маладняк“—тэл. № 877.